ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# КОМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАННЕ

ОРГАН
НАРКАМАСВЕТЫ
І ЦП САЮЗА
ПРАЦАСВЕТЫ
БССР






СТУДЗЕНЬ-ЛЮТЫ

№ 1-2

1934

ДЗЯРЖАЎНАЕ
ВЫДАВЕЦТВА
БЕЛАРУСІ

*І. В. Сталін*

# Адчот ЦК XVII з'езду ВКП(б)

## I

## Прадаўжаючыйся крызіс сусветнага капіталізма і знешняе становішча Совецкага саюза

Таварышы! З часа XVI з'езда прайшло больш трох год. Перыяд не вельмі вялікі. Але ён больш, чым які-небудзь другі перыяд, насычан зместам. Я думаю, што не адзін з перыядаў апошняга дзесяцігоддзя не быў так багаты падзеямі, як гэты перыяд.

У вобласці **эканамічнай** гэтыя гады былі гадамі прадаўжаючагася сусветнага эканамічнага крызіса. Крызіс ахапіў не толькі прамысловасць, але і сельскую гаспадарку ў цэлым. Крызіс бушаваў не толькі ў сферы вытворчасці і гандлю. Ён перанёсся таксама ў сферу крэдыта і грашовага абарачэння, перавярнуўшы ўверх дном крэдытныя і валютныя адносіны, якія ўстанавіліся паміж краінамі. Калі раней яшчэ спрачаліся дзе-ні-дзе—ёсць сусветны эканамічны крызіс, ці няма яго, то цяпер ужо не спрачаюцца аб гэтым, бо надта ясныя наяўнасць крызіса і яго спусташальныя дзеянні. Цяпер спрачаюцца ўжо аб другім—ці можна выйсці з крызіса ці няма выхада, а калі ёсць выхад,—то якім чынам ажыццявіць яго.

У вобласці **палітычнай** гэтыя гады былі гадамі далейшага абвастрэння адносін як паміж капіталістычнымі краінамі, так і ўнутры гэтых краін. Вайна Японіі з Кітаем і акупацыя Маньчжурыі, абвастрыўшыя адносіны на Далёкім Усходзе; перамога фашызма ў Германіі і таржаство ідэі рэванша, абвастрыўшыя адносіны ў Еўропе; выхад Японіі і Германіі з Лігі нацый, які даў новы штуршок росту ўзбраенняў і падрыхтоўцы да імперыялісцкай вайны; паражэнне фашызма ў Іспаніі, лішні раз указваючае на тое, што рэвалюцыйны крызіс наспявае і фашызм далёка нядоўгавечны,—такавы важнейшыя факты адчотнага перыяда. Не дзіўна, што буржуазны пацыфізм дыхае на ладан, а разбройныя тэндэнцыі адкрыта і прама змяняюцца тэндэнцыямі ўзбраення і даўзбраення.

Сярод гэтых бушуючых хвалей эканамiчных патрасенняў i ваенна-палiтычных катастроф СССР стаiць асобна, як уцёс, прадаўжаючы сваю справу соцыялiстычнага будаўнiцтва i барацьбы за захаванне мiра. Калi там, у капiталiстычных краiнах, усё яшчэ бушуе эканамiчны крызiс, то ў СССР прадаўжаецца ўздым як у вобласцi прамысловасцi, так i ў вобласцi сельскай гаспадаркi. Калi там, у капiталiстычных краiнах, iдзе лiхаманкавая падрыхтоўка да новай вайны для новага перадзелу свету i сфер уплыву, то СССР прадаўжае сiстэматычную ўпорную барацьбу супроць пагрозы вайны i за мiр, пры чым нельга сказаць, каб намаганнi СССР у гэтай вобласцi не мелi нiякага поспеху.

Такава агульная карцiна мiжнароднага становiшча ў даны момант.

Пяройдзем да разгляду асноўных даных аб эканамiчным i палiтычным становiшчы капiталiстычных краiн.

### эканамiчнага крызiса ў капiталiстычных краiнах

Цяперашнi эканамiчны крызiс у капiталiстычных краiнах адрознiваецца ад усiх аналагiчных крызiсаў памiж iншым тым, што ён з'яўляецца найбольш працяглым i зацяжным. Калi раней крызiсы вычэрпвалiся ў 1—2 гады, то цяперашнi крызiс прадаўжаецца вось ужо пяты год, спусташаючы год за годам гаспадарку капiталiстычных краiн i высасваючы з яе тлушч, нагоплены ў папярэднiя гады. Не дзiўна, што гэты крызiс з'яўляецца найбольш цяжкiм з усiх крызiсаў.

Чым аб'ясніць гэты небывалы зацяжны характар сучаснага прамысловага крызiса?

Аб'ясняецца гэта перш за ўсё тым, што прамысловы крызiс захвацiў усе без выключэння капiталiстычныя краiны, затруднiўшы манеўраванне адных краiн за кошт другiх.

Аб'ясняецца гэта, па-другое, тым, што крызiс прамысловы пераплёўся з крызiсам аграрным, ахапiўшым усе без выключэння аграрныя i поўаграрныя краiны, што не магло не ўскладнiць i паглыбiць крызiс прамысловы.

Аб'ясняецца гэта, па-трэцяе, тым, што аграрны крызiс узмацнiўся за гэты час i ахапiў усе галiны сельскай гаспадаркi, у тым лiку жывёлагадоўлю, давёўшы яе да дэградацыi, да пераходу ад машын к ручной працы, да замены трактара канём, да рэзкага скарачэння, а часам i поўнага адмаўлення ад прымянення штучных угнаенняў, што яшчэ больш зацягнула прамысловы крызiс.

Аб'ясняецца гэта, па чацвертае, тым, што пануючыя ў прамысловасцi манапольныя картэлi стараюцца захаваць высокiя цэны на тавары,—акалiчнасць, якая робiць крызiс асаблiва хваравiтым i перашкаджае рассасванню таварных запасаў.

Аб'ясняецца гэта, нарэшце,—i гэта галоўнае—тым, што прамысловы крызiс разыграўся ва ўмовах **агульнага** крызiса капiта-

лізма, калі капіталізм не мае ўжо і не можа мець ні ў асноўных дзяржавах, ні ў калоніях і залежных краінах той сілы і трываласці, якія ён меў да вайны і Кастрычніцкай рэволюцыі, калі прамысловасць капіталістычных краін атрымала ў спадчыну ад імперыялісцкай вайны хранічную недагрузку прадпрыемстваў і мільённыя арміі беспрацоўных, ад якіх яна не ў сілах больш вызваліцца.

Такавы акалічнасці, вызначыўшыя глыбока зацяжны характар цяперашняга прамысловага крызіса.

Гэтымі-ж акалічнасцямі аб'ясняецца і той факт, што крызіс не абмежаваўся сферай вытворчасці і гандлю і захваціў таксама крэдытную сістэму, валюту, сферу даўгавых абавязацельстваў і т. д., разбіўшы традыцыйна ўстанавіўшыяся адносіны як паміж паасобнымі краінамі, так і паміж соцыяльнымі групамі ў паасобных краінах.

Вялікую ролю адыграла тут падзенне цэн на тавары. Не гледзячы на супраціўленне манапольных картэляў, падзенне цэн расло са стыхійнай сілай, прычым падалі цэны перш за ўсё і больш за ўсё на тавары неарганізаваных тавараўладальнікаў,— сялян, рамеснікаў, дробных капіталістаў, і толькі паступова і ў меншай ступені тавараўладальнікаў арганізаваных,—аб'яднаных у картэлі капіталістаў. Падзенне цэн зрабіла становішча даўжнікоў (прамыслоўцы, рамеснікі, сяляне і т. д.) нязносным і наадварот становішча крэдытораў—нячувана прывілеяваным. Такое становішча павінна было прывесці і сапраўды прывяло да каласальнага банкруцтва фірм і паасобных прадпрыемцаў. На працягу апошніх трох год на гэтай глебе загінулі дзесяткі тысяч акцыянерных таварыстваў у ПАЗШ, у Германіі, у Англіі, у Францыі. За банкруцтвамі акцыянерных таварыстваў пайшло абесцаненне валют, некалькі аблягчыўшае становішча даўжнікоў. За абесцаненнем валют—легалізаваная дзяржавай няўплата даўгоў як знешніх, так і ўнутраных. Крах такіх банкаў як Дармштадскі і Дрэздзенскі банкі ў Германіі Крэдыт-Анштальт у Аўстрыі, і такіх канцэрнаў, як канцэрн Крэйгера ў Швецыі, Інсул-Канцэрн у ПАЗШ і т. д.—усім вядомы.

Зразумела, што за гэтымі з'явамі, расхістаўшымі асновы крэдытнай сістэмы, павінны былі пайсці і сапраўды пайшлі спыненне плацяжоў па крэдытах і іншакраінных пазыках, спыненне плацяжоў па міжсаюзніцкіх даўгах, спыненне экспарта капітала, новае скарачэнне знешняга гандлю, новае скарачэнне экспарта тавараў, узмацненне барацьбы за знешнія рынкі, гандлёвая вайна паміж краінамі і—дэмпінг. Так, таварышы, дэмпінг. Я гавару не аб совецкім мнімым дэмпінгу, аб якім яшчэ зусім нядаўна да хрыпаты крычалі некаторыя благародныя дэпутаты благародных парламентаў Еўропы і Амерыкі. Я гавару аб сапраўдным дэмпінгу, практыкуемым цяпер амаль усімі „цывілізаванымі“ дзяржавамі, аб чым благаразумна захоўваюць маўчанне гэтыя храбрыя і благародныя дэпутаты.

Зразумела таксама, што гэтыя спадарожныя прамысловаму крызісу разбуральныя з'явы, якія разыграліся па-за сферай вытворчасці, не маглі ў сваю чаргу не зрабіць уплыву на ход прамысловага крызіса ў сэнсе яго ўсугублення і ўскладнення.

Такава агульная карціна руху прамысловага крызіса.

Вось некаторыя цыфры з афіцыяльных матэрыялаў, ілюструючыя рух прамысловага крызіса за адчотны перыяд.

**Аб'ём прамысловай прадукцыі ў процантах к 1929 г.**

| | 1929 г. | 1930 г. | 1931 г. | 1932 г. | 1933 г. |
|---|---|---|---|---|---|
| СССР . . . . | 100,0 | 129,7 | 161,9 | 184,7 | 201,6 |
| ПАЗШ . . . . | 100,0 | 80,7 | 68,1 | 53,8 | 64,9 |
| Англія . . . . | 100,0 | 92,4 | 83,8 | 83,8 | 86,1 |
| Германія . . . . | 100,0 | 88,3 | 71,7 | 59,8 | 66,8 |
| Францыя . . . . | 100,0 | 100,7 | 89,2 | 69,1 | 77,4 |

Гэтая табліца, як бачыце, сама гаворыць за сябе.

У той час як прамысловасць асноўных капіталістычных краін падала з года ў год у параўнанні з узроўнем 1929 г. і толькі ў 1933 г. стала трошкі апраўляцца, далёка яшчэ не дасягнуўшы, аднак, узроўню 1929 г., прамысловасць СССР расла з года ў год, перажываючы працэс няспыннага ўздыму.

У той час як прамысловасць асноўных капіталістычных краін паказвае ў сярэднім скарачэнне аб'ёму сваёй прадукцыі к канцу 1933 г. у параўнанні з узроўнем 1929 г. на 25 проц. і больш, прамысловасць СССР вырасла за гэты час больш чым удвая, г. зн. больш чым на 100 проц. (**Апладысменты**).

Можа паказацца, судзячы па гэтай табліцы, што з чатырох капіталістычных краін Англія знаходзіцца ў найбольш спрыяючым становішчы. Але гэта не зусім верна. Калі ўзяць прамысловасць гэтых краін і параўнаць яе з даваенным узроўнем, то карціна атрымліваецца некалькі іншая.

Вось адпаведная табліца.

**Аб'ём прамысловай прадукцыі ў процантах к даваеннаму ўзроўню.**

| | 1913 г. | 1929 г. | 1930 г. | 1931 г. | 1932 г. | 1933 г. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| СССР . . . . . | 100,0 | 194,3 | 252,1 | 314,7 | 359,0 | 391,9 |
| ПАЗШ . . . . . | 100,0 | 170,2 | 137,3 | 115,9 | 91,4 | 110,2 |
| Англія . . . . . | 100,0 | 99,1 | 91,5 | 83,0 | 82,5 | 85,2 |
| Германія . . . . . | 100,0 | 113,0 | 99,8 | 81,0 | 67,6 | 75,4 |
| Францыя . . . . . | 100,0 | 139,0 | 140,0 | 124,0 | 96,1 | 107,6 |

Як бачыце, прамысловасць Англії і Германії ўсё яшчэ не дасягнула даваеннага ўзроўню, тады як ПАЗШ і Францыя перавысілі яго на некалькі процантаў, а СССР падняў—павялічыў сваю прамысловую прадукцыю за гэты перыяд у параўнанні з даваенным узроўнем больш чым на 290 проц. (**апладысменты**).

Але з гэтых табліц вынікае яшчэ адзін вывад.

У той час як прамысловасць асноўных капіталістычных краін увесь час падала, пачынаючы з 1930 г. і асабліва з 1931 г., дайшоўшы ў 1932 г. да пункту найбольшага заняпаду,—у 1933 г. яна стала некалькі апраўляцца і паднімацца. Калі ўзяць месячныя даныя па 1932 і 1933 гг., то яны яшчэ больш пацвярджаюць гэты вывад, бо яны гавораць аб тым, што прамысловасць гэтых краін, не гледзячы на хістанні яе прадукцыі на працягу 1933 г., не выявіла тэндэнцыі давесці хістанні ўніз да ўзроўню найбольшага заняпаду, меўшага месца летам 1932 г.

Што гэта значыць?

Гэта значыць, што прамысловасць асноўных капіталістычных краін, відаць, ужо прайшла пункт найбольшага заняпаду, да якога яна больш не варочалася на працягу 1933 г.

Некаторыя схільны прыпісаць гэтую з'яву ўплыву выключна штучных фактараў накшталт ваенна-інфляцыйнай кан'юнктуры. Не можа быць сумнення, што ваенна-інфляцыйная кан'юнктура іграе тут не малую ролю. Гэта асабліва верна ў адносінах Японіі, дзе гэты штучны фактар з'яўляецца галоўнай і рашаючай сілай некаторага ажыўлення некаторых, галоўным чынам, ваенных галін прамысловасці. Але было-б грубай памылкай аб'ясняць усё ваенна-інфляцыйнай кан'юнктурай. Такое аб'ясненне няправільна хоць-бы таму, што ахарактарызаваныя мною некаторыя зрухі ў прамысловасці назіраюцца не ў паасобных і выпадковых раёнах, а ва ўсіх або амаль ва ўсіх, прамысловых краінах, у тым ліку ў краінах з цвёрдай валютай. Відавочна, што побач з ваенна-інфляцыйнай кан'юнктурай тут мае месца таксама дзеянне ўнутраных эканамічных сіл капіталізма.

Капіталізму ўдалося некалькі аблегчыць становішча прамысловасці **за кошт рабочых**—шляхам паглыблення іх эксплаатацыі праз узмацненне інтэнсіўнасці іх працы, **за кошт фермераў**—шляхам правядзення палітыкі найбольш нізкіх цэн на прадукты іх працы, на харчовыя прадукты і часткова на сыравіну, **за кошт сялян калоній і эканамічна слабых краін**—шляхам яшчэ большага зніжэння цэн на прадукты іх працы' галоўным чынам, на сыравіну і затым на харчовыя прадукты.

Ці значыць гэта, што мы маем справу з пераходам ад крызіса да звычайнай дэпрэсіі, цягнучай за сабой новы ўздым і росквіт прамысловасці? Не, не значыць. Ва ўсякім выпадку ў цяперашні час не існуе такіх даных, прамых або ўскосных, якія-б гаварылі аб наступаючым уздыме прамысловасці ў капіталістычных краінах. Больш таго,—судзячы па ўсяму, такіх даных і не можа быць, па крайняй меры ў бліжэйшы час. Не можа быць,

бо прадаўжаюць дзейнічаць усе тыя неспрыяючыя ўмовы, якія не даюць прамысловасці капіталістычных краін падняцца колькі-небудзь сур'ёзна ўверх. Гутарка ідзе аб прадаўжаючымся **агульным** крызісе капіталізма, у абстаноўцы якога працякае **эканамічны** крызіс, аб хранічнай недагрузцы прадпрыемстваў, аб хранічным масавым беспрацоўі, аб перапляценні прамысловага крызіса з сельска-гаспадарчым, аб адсутнасці тэндэнцыі да колькі-небудзь сур'ёзнага абнаўлення асноўнага капітала, прадвяшчаючага звычайна наступленне ўздыму і т. д. і т. п.

Відавочна, што мы маем справу з пераходам ад пункту найбольшага заняпаду прамысловасці, ад пункту найбольшай глыбіні прамысловага крызіса—да дэпрэсіі, але да дэпрэсіі не звычайнай, а да дэпрэсіі асобага роду, якая не вядзе да новага ўздыму і росквіту прамысловасці, але і не варочае яе да пункту найбольшага заняпаду.

## 2. Абвастрэнне палітычнага становішча ў капіталістычных краінах

Рэзультатам зацяжнага эканамічнага крызіса з'явілася небывалае дасюль абвастрэнне палітычнага становішча капіталістычных краін, як унутры гэтых краін, так і паміж імі.

Узмацненне барацьбы за знешнія рынкі, зніштажэнне апошніх астаткаў свабоднага гандлю, забаронныя таможаныя пошліны, гандлёвая вайна, вайна валют, дэмпінг і многія іншыя аналагічныя мерапрыемствы, дэманструючыя крайні **нацыяналізм** у эканамічнай палітыцы, абвастрылі да крайнасці адносіны паміж краінамі, стварылі глебу для ваенных сутычак і паставілі на чаргу вайну, як сродак новага перадзела свету і сфер уплыву ў карысць больш сільных дзяржаў.

Вайна Японіі з Кітаем, акупацыя Манчжурыі, выхад Японіі з Лігі нацый і прасоўванне ў Паўночны Кітай—яшчэ больш абвастрылі становішча. Узмацненне барацьбы за Вялікі акіян і рост ваенна-морскіх узбраенняў у Японіі, ПАЗШ, Англіі, Францыі прадстаўляюць рэзультат гэтага абвастрэння.

Выхад Германіі з Лігі нацый і здань рэванша далі новы штуршок к абвастрэнню становішча і росту ўзбраенняў у Еўропе.

Не дзіўна, што буржуазны пацыфізм цягне цяпер жалкае існаванне, а балбатня аб раззбраенні змяняецца „дзелавымі" размовамі аб узбраенні і даўзбраенні.

Зноў як і ў 1914 г. на першы план высоўваюцца партыі ваяўнічага імперыялізма, партыі вайны і рэванша.

Справа яўным чынам ідзе да новай вайны.

Яшчэ больш абвастраецца, з прычыны дзеяння тых-жа фактараў, унутранае становішча капіталістычных краін. Чатыры гады прамысловага крызіса знясілілі і давялі да адчаяння рабочы клас. Чатыры гады сельскагаспадарчага крызіса разарылі ўшчэнт немаёмныя слаі сялянства не толькі ў асноўных капіталістычных

краінах, але і—асабліва—ў залежных і каланіяльных краінах. Гэта факт, што не гледзячы на ўсякія статыстычныя ўхітрэнні, маючыя сваёй мэтай пераўмяншэнне ліку беспрацоўных, колькасць беспрацоўных па афіцыяльных даных буржуазных установ дахадзіць у Англіі да 3 млн., у Германіі—да 5 млн., у ПАЗШ—да 10 млн., не гаворачы ўжо аб іншых краінах Еўропы. Дабаўце да гэтага часткова беспрацоўных, колькасць якіх перавышае дзесятак мільёнаў, дабаўце мільённыя масы разарыўшыхся сялян,—і вы атрымаеце прыблізную карціну нужды і адчаяння працоўных мас. Народныя масы не дайшлі яшчэ да таго, каб пайсці на штурм капіталізма, але што ідэя штурму спее ў сазнанні мас,—у гэтым наўрад ці можа быць сумненне. Аб гэтым красамоўна гавораць хоць-бы такія факты, як Іспанская рэвалюцыя, звергнуўшая рэжым фашызма, і рост совецкіх раёнаў у Кітаі, які не ў сілах спыніць злучаная контррэволюцыя кітайскай і іншакраіннай буржуазіі.

Гэтым, уласна, і аб'ясняецца той факт, што пануючыя класы капіталістычных краін старанна зніштажаюць або зводзяць нанішто апошнія астаткі парламентарызма і буржуазнай дэмакратыі, якія могуць быць скарыстаны рабочым класам у яго барацьбе супроць прыгнятальнікаў, заганяюць у падполле комуністычныя партыі і пераходзяць да адкрыта тэрарыстычных метадаў захавання сваёй дыктатуры.

Шавінізм і падрыхтоўка вайны, як асноўныя элементы знешняй палітыкі, абвузданне рабочага класа і тэрор у вобласці ўнутранай палітыкі, як неабходны сродак для ўмацавання тылу будучых ваенных франтоў,—вось што асабліва займае цяпер сучасных імперыялісцкіх палітыкаў.

Не дзіўна, што фашызм стаў цяпер найбольш модным таварам сярод ваяўнічых буржуазных палітыкаў. Я гавару не толькі аб фашызме наогул, але перш за ўсё аб фашызме германскага тыпу, які няправільна называецца нацыянал-соцыялізмам, бо пры самым старанным разглядзе немагчыма выявіць у ім нават атама соцыялізма.

У гэтай сувязі перамогу фашызма ў Германіі трэба разглядаць не толькі як прызнак слабасці рабочага класа і рэзультат здрад соцыял-дэмакратыі рабочаму класу, расчысціўшай дарогу фашызму. Яе трэба разглядаць таксама, як прызнак слабасці буржуазіі, як прызнак таго, што буржуазія ўжо не ў сілах уладарыць старымі метадамі парламентарызма і буржуазнай дэмакратыі, з прычыны чаго яна вымушана звярнуцца ва ўнутранай палітыцы да тэрарыстычных метадаў кіравання,—як прызнак таго, што яна не ў сілах больш знайсці выхад з цяперашняга становішча на базе мірнай знешняй палітыкі, з прычыны чаго яна вымушана звярнуцца да палітыкі вайны.

Такаво становішча.

Як бачыце, справа ідзе к новай імперыялісцкай вайне, як к выхаду з цяперашняга становішча.

Зразумела, няма падставы прадпалагаць, што вайна можа даць сапраўдны выхад. Наадварот, яна павінна яшчэ больш заблытаць становішча. Больш таго, яна напэўна развяжа рэволюцыю і паставіць пад пытанне само існаванне капіталізма ў радзе краін, як гэта мела месца ў ходзе першай імперыялісцкай вайны. І калі, не гледзячы на вопыт першай імперыялісцкай вайны, буржуазныя палітыкі ўсё-ж хватаюцца за вайну, як тонучы за саломінку, то гэта значыць, што яны канчаткова заблыталіся, папалі ў тупік і гатовы ляцець стрымглаў у бяздонне.

Не шкодзіць таму разгледзець коратка тыя планы арганізацыі вайны, якія выношваюцца цяпер у кругах буржуазных палітыкаў.

Адны думаюць, што вайну трэба арганізаваць супроць адной з вялікіх дзяржаў. Яны думаюць нанесці ёй зніштажаючае паражэнне і паправіць свае справы за яе кошт. Дапусцім, што яны арганізавалі такую вайну. Што з гэтага можа атрымацца? Як вядома, у часе першай імперыялісцкай вайны таксама хацелі зніштожыць адну з вялікіх дзяржаў—Германію і пажывіцца за яе кошт. А што з гэтага вышла? Германію яны не зніштожылі, але пасеялі ў Германіі такую нянавісць да пераможцаў і стварылі такую багатую глебу для рэванша, што да гэтага часу яшчэ не могуць, ды, бадай, не хутка яшчэ змогуць расхлябаць тую агідную кашу, якую самі-ж заварылі. Але затое яны атрымалі разгром капіталізма ў Расіі, перамогу пролетарскай рэволюцыі ў Расіі і—ясная справа—Савецкі саюз. Дзе гарантыя, што другая імперыялісцкая вайна дасць ім „лепшыя“ рэзультаты, чым першая? Ці не вярней будзе прадпалажыць адваротнае?

Другія думаюць, што вайну трэба арганізаваць супроць адной з слабых у ваенных адносінах, але абшырных у сэнсе рынка краін, напрыклад—супроць Кітая, які, аказваецца, нельга назваць к таму-ж дзяржавай ва ўласным сэнсе слова, а прадстаўляе толькі „неарганізаваную тэрыторыю“, якая адчувае патрэбу ў тым, каб яе захвацілі сільныя дзяржавы. Яны хочуць, відавочна, канчаткова яго падзяліць і паправіць свае справы за яго кошт. Дапусцім, што яны арганізавалі такую вайну. Што з гэтага можа атрымацца? Вядома, што ў пачатку XIX века якраз таксама глядзелі на Італію і Германію, як глядзяць цяпер на Кітай, г. зн. лічылі іх „неарганізаванымі тэрыторыямі“, а не дзяржавамі, і парабашчалі іх. А што з гэтага атрымалася? З гэтага атрымалася, як вядома, вайна Германіі і Італіі за незалежнасць і аб'яднанне гэтых краін у самастойныя дзяржавы. З гэтага атрымалася ўзмацненне нянавісці да парабашчальнікаў у сэрцах народаў гэтых краін, рэзультаты якой да гэтага часу яшчэ не ліквідаваны і, бадай, не хутка яшчэ будуць ліквідаваны. Устае пытанне: дзе гарантыя, што тое-ж самае не атрымаецца ў рэзультаце вайны імперыялістаў супроць Кітая?

Трэція думаюць, што вайну павінна арганізаваць „вышэйшая раса“, скажам германская „раса“, супроць „ніжэйшай расы“, перш за ўсё—супроць славян, што толькі такая вайна можа даць выхад са становішча, бо „вышэйшая раса“ заклікана апладатвараць „ніжэйшую“ і ўладарыць над ёю. Дапусцім, што гэтую дзіўную[1] тэорыю, якая таксама далёка ад навукі, як неба ад зямлі,—дапусцім, што гэтую дзіўную тэорыю перавялі на практыку. Што з гэтага можа атрымацца? Вядома, што стары Рым якраз таксама глядзеў на продкаў цяперашніх германцаў і французаў, як глядзяць цяпер прадстаўнікі „вышэйшай расы“ на славянскія плямёны. Вядома, што стары Рым трэтыраваў іх „ніжэйшай расай“, „варварамі“, закліканымі быць у вечным падчыненні „вышэйшай расе“, „вялікаму Рыму“, прычым,—паміж намі будзь сказана,—стары Рым меў для гэтага некаторую падставу, чаго нельга сказаць аб прадстаўніках цяперашняй „вышэйшай расы“ (**гром апладысментаў**). А што з гэтага вышла? Вышла тое, што не-рымляне, г. зн. усе „варвары“ аб'ядналіся супроць агульнага ворага і з громам перавярнулі Рым. Устае пытанне: дзе гарантыя, што прэтэнзіі прадстаўнікоў цяперашняй „вышэйшай расы“ не прывядуць да тых-жа плачэўных рэзультатаў? Дзе гарантыя, што фашысцка-літаратурным палітыкам у Берліне пашчасліўціца больш, чым старым і выпрабаваным заваявальнікам у Рыме? Ці не вярней будзе прадпалажыць адваротнае?

Нарэшце, чацвертыя думаюць, што вайну трэба арганізаваць супроць СССР. Яны думаюць разбіць СССР, падзяліць яго тэрыторыю і пажывіцца за яго кошт. Памылкова было-б лічыць, што так думаюць толькі некаторыя ваенныя кругі ў Японіі. Нам вядома, што такія-ж планы выношваюцца ў кругах палітычных кіраўнікоў некаторых дзяржаў Еўропы. Дапусцім, што гэтыя паны перайшлі ад слоў да справы. Што з гэтага можа атрымацца? Наўрад ці можна сумнявацца, што гэтая вайна будзе самай небяспечнай для буржуазіі вайной. Яна будзе самай небяспечнай не толькі таму, што народы СССР будуць біцца насмерць за заваяванне рэвалюцыі. Яна будзе самай небяспечнай для буржуазіі яшчэ таму, што вайна будзе адбывацца не толькі на франтах, але і ў тылу ў праціўніка. Буржуазія можа не сумнявацца, што шматлікія прыяцелі рабочага класа СССР у Еўропе і Азіі пастараюцца ўдарыць у тыл сваім прыгнятальнікам, якія зацеялі злачынную вайну супроць бацькаўшчыны рабочага класа ўсіх краін. І няхай не наракаюць на нас паны буржуа, калі яны на другі дзень пасля такой вайны недалічацца некаторых блізкіх ім урадаў, цяпер шчасліва царствуючых „міласцю боскай“ (**гром апладысментаў**). Адна такая вайна супроць СССР ужо была, калі ўспомніце, пятнаццать год таму назад. Як вядома, усімі паважаны Чэрчыль надаў тады гэтай вайне паэтычную формулу—„пашэсце чатырнаццаці дзяржаў“. Вы памятаеце,

[1]—странную *Рэд. пераклада*

вядома, што гэтая вайна згуртавала ўсіх працоўных нашай краіны ў адзіны лагер самаадданых байцоў, грудзьмі абараняўшых сваю рабоча-сялянскую радзіму ад знешніх ворагаў. Вы ведаеце, чым яна скончылася. Яна скончылася выгнаннем інтэрвентаў з нашай краіны і стварэннем рэволюцыйных „камітэтаў дзеяння“ ў Еўропе. Наўрад ці можна сумнявацца, што другая вайна супроць СССР прывядзе да поўнага паражэння нападаючых, да рэволюцыі ў радзе краін Еўропы і Азіі і разгрому буржуазна-памешчыцкіх урадаў гэтых краін.

Такавы ваенныя планы заблытаўшыхся буржуазных палітыкаў.

Як бачыце, яны не блешчуць ні розумам, ні адвагай (**апладысменты**).

Але калі буржуазія выбірае шлях вайны, то рабочы клас капіталістычных краін, даведзены да адчаяння чатырохгадовым крызісам і беспрацоўем, становіцца на шлях рэволюцыі. Гэта значыць, што спее і будзе наспяваць рэволюцыйны крызіс. І рэволюцыйны крызіс будзе нарастаць тым хутчэй, чым больш будзе заблытвацца буржуазія ў сваіх ваенных камбінацыях, чым часцей будзе яна ўжываць тэрарыстычныя метады барацьбы супроць рабочага класа і працоўных сялян.

Некаторыя таварышы думаюць, што раз ёсць рэволюцыйны крызіс, буржуазія павінна папасці ў безвыходнае становішча, што яе канец, стала быць, ужо прадвызначан, што перамога рэволюцыі тым самым ужо забяспечана і што ім застаецца толькі чакаць падзення буржуазіі і пісаць пераможныя рэзалюцыі. Гэта глыбокая памылка. Перамога рэволюцыі ніколі не прыходзіць сама. Яе трэба падрыхтаваць і заваяваць. А падрыхтаваць і заваяваць яе можа толькі сільная пролетарская рэволюцыйная партыя. Бываюць моманты калі становішча—рэволюцыйнае, улада буржуазіі хістаецца да самай асновы, а перамога рэволюцыі ўсё-ж не прыходзіць, бо няма ў наяўнасці рэволюцыйнай партыі пролетарыята, дастаткова сільнай і аўтарытэтнай для таго, каб павесці за сабой масы і ўзяць уладу ў свае рукі.

Было-б неразумна думаць, што падобныя „выпадкі“ не могуць мець месца.

Не шкодзіла-б у сувязі з гэтым успомніць вешчыя словы Леніна аб рэволюцыйным крызісе, сказаныя ім на II кангрэсе Комінтэрна:

> „... Мы падышлі цяпер да пытання аб рэволюцыйным крызісе, як аснове нашага рэволюцыйнага дзеяння. І тут трэба, перш за ўсе, адзначыць дзве пашыраныя памылкі. З аднаго боку, буржуазныя эканамісты паказваюць гэты крызіс як просты „непакой“, па прыгожаму выразу англічан. З другога боку, часам рэволюцыянеры стараюцца даказаць, што крызіс абсалютна безвыходны. Гэта памылка. Абсалютна безвыходных становішч не бывае. Буржуазія вядзе сябе, як абнаглеўшы і страціўшы галаву драпежнік, яна робіць глупства за глупствам, абвастраючы становішча,

паскараючы сваю пагібель. Усё гэта так. Але нельга „даказаць", што няма абсалютна ніякай магчымасці, каб яна не ўсыпіла такую-то меншасць эксплаатуемых такімі-то ўступачкамі, каб яна не падавіла такі-то рух або паўстанне такой-то часткі прыгнечаных і эксплаатуемых. Прабаваць „даказваць" наперад „абсалютную" безвыходнасць было-б пустым педанствам або гульнёй у паняцці і ў славечкі. Сапраўдным „доказам" у гэтым і падобных пытаннях можа быць толькі практыка. Буржуазны лад ва ўсім свеце перажывае велізарнейшы рэволюцыйны крызіс. Трэба „даказаць" цяпер практыкай революцыйных партый, што ў іх дастаткова свядомасці, арганізаванасці, сувязі з эксплаатуемымі масамі, рашучасці, умення, каб выкарыстаць гэты крызіс для паспяховай, для пераможнай рэволюцыі" (Ленін, 1920 г., т. XXV, стар. 340—341).

### 3. Адносіны паміж СССР і капіталістычнымі дзяржавамі

Лёгка зразумець да чаго трудна было СССР праводзіць сваю мірную палітыку ў гэтай, атручанай міазмамі ваенных камбінацый, атмасферы.

У абстаноўцы гэтай прадваеннай свістапляскі, ахапіўшай цэлы рад краін, СССР прадаўжаў стаяць за гэтыя гады цвёрда і непахісна на сваіх мірных пазіцыях, змагаючыся з пагрозай вайны, змагаючыся за захаванне міру, ідучы насустрач тым краінам, якія стаяць так або інакш за захаванне міру, выкрываючы і зрываючы маску з тых, хто падрыхтоўвае, правацыруе вайну.

На што разлічваў СССР у гэтай труднай і складанай барацьбе за мір?

а) На сваю растучую гаспадарчую і палітычную магутнасць.

б) На маральнае падтрыманне мільёных мас рабочага класа ўсіх краін, кроўна зацікаўленага ў захаванні міру.

в) На благаразумнасць тых краін, якія не зацікаўлены па тых або іншых матывах у нарушэнні міру і якія хочуць развіць гандлёвыя адносіны з такім спраўным контрагентам, як СССР.

г) Нарэшце—на нашу слаўную армію, гатовую абараняць краіну ад наскокаў звонку.

На гэтай базе ўзнікла наша кампанія за заключэнне пакта аб ненападзенні і пакта аб вызначэнні нападаючай стараны з суседнімі дзяржавамі. Вы ведаеце, што гэтая кампанія мела поспех. Як вядома, пакт аб ненападзенні заключан не толькі з большасцю нашых суседніх дзяржаў на Захадзе і Поўдні, у тым ліку з Фінляндыяй і Польшчай, але і з такімі краінамі, як Францыя, Італія, а пакт аб вызначэнні нападаючай стараны—з тымі-ж суседнімі дзяржавамі, уключаючы сюды і Малую Антанту.

На гэтай-жа базе ўмацавалася дружба паміж СССР і Турцыяй, палепшыліся адносіны і сталі бясспрэчна здавальняючымі паміж СССР і Італіяй, палепшыліся адносіны з Францыяй, Поль-

шчай і іншымі Балтыйскімі дзяржавамі, адноўлены адносіны з ПАЗШ, з Кітаем і т. д.

З раду фактаў, адлюстроўваючых поспехі мірнай палітыкі СССР, трэба адзначыць і выдзеліць два факты, якія маюць бясспрэчна сур'ёзнае значэнне.

1) Я маю на ўвазе, па-першае, той пералом да лепшага ў адносінах паміж СССР і Польшчай, паміж СССР і Францыяй, якія адбыўся ў апошні час. У мінулым, як вядома, з Польшчай былі ў нас няважныя адносіны. У Польшчы забівалі прадстаўнікоў нашай дзяржавы. Польша лічыла сябе бар'ерам заходніх дзяржаў супроць СССР. На Польшчу разлічвалі ўсе і ўсякія імперыялісты, як на перадавы атрад, у выпадку ваеннага нападзення на СССР. Не лепш абстаяла справа з адносінамі паміж СССР і Францыяй. Дастаткова ўспомніць факты з гісторыі суда над шкодніцкай групай Рамзіна ў Маскве, каб аднавіць у памяці карціну ўзаемаадносін паміж СССР і Францыяй. І вось гэтыя непажаданыя адносіны пачынаюць паступова знікаць. Яны замяняюцца другімі адносінамі, якія нельга назваць інакш, як адносінамі зближэння. Справа не толькі ў тым, што мы падпісалі пакт аб ненападзенні з гэтымі краінамі, хоць сам па сабе пакт мае сур'ёзнейшае значэнне. Справа перш за ўсё ў тым, што атмасфера, заражоная ўзаемным недавер'ем, пачынае рассейвацца. Гэта не значыць, вядома, што працэс зближэння, які намеціўся, можна разглядаць, як дастаткова трывалы, забяспечваючы канчатковы поспех справы. Нечаканасці і зігзагі палітыкі, напрыклад у Польшчы, дзе антысовецкія настроі яшчэ моцны, далёка яшчэ нельга лічыць выключанымі. Але пералом да лепшага ў нашых адносінах, незалежна ад яго рэзультатаў у будучым,—ёсць факт, які заслугоўвае таго, каб адзначыць і выставіць яго ўперад, як фактар палепшання справы міру.

Дзе прычыны гэтага пераломy, чым ён стымуліруецца?

Перш за ўсё ростам сілы і магутнасці СССР.

У наш час са слабымі не прынята лічыцца,—лічацца толькі з сільнымі. А затым—некаторымі змяненнямі ў палітыцы Германіі, адлюстроўваючымі рост рэваншысцкіх і імперыялістычных настрояў у Германіі.

Некаторыя германскія палітыкі гавораць з гэтага повада, што СССР арыентуецца цяпер на Францыю і Польшчу, што з праціўніка Версальскага дагавору ён стаў яго староннікам, што гэтая перамена аб'ясняецца ўстанаўленнем фашысцкага рэжыму ў Германіі. Гэта не верна. Вядома мы далёкі ад таго, каб захапляцца фашысцкім рэжымам у Германіі. Але справа тут не ў фашызме, хоць-бы таму, што фашызм напрыклад у Італіі не перашкодзіў СССР устанавіць найлепшыя адносіны з гэтай краінай. Справа таксама не ў мнімых змяненнях у нашых адносінах да Версальскага дагавора. Не нам, перанесшым ганьбу Брэсцкага міру, васпяваць Версальскі дагавор. Мы не згодны толькі з тым, каб з-за гэтага дагавору свет быў увергнут у вір

новай вайны. Тое-ж самае трэба сказаць аб мнімай пераарыентацыі СССР. У нас не было арыентацыі на Германію, таксама, як у нас няма арыентацыі на Польшчу і Францыю. Мы арыентаваліся ў мінулым і арыентуемся ў цяперашнім на СССР і толькі на СССР (**бурныя апладысменты**). І калі інтарэсы СССР патрабуюць збліжэння з тымі або іншымі краінамі, не зацікаўленымі ў нарушэнні міру, мы ідзем на гэту справу без хістанняў.

Не, не ў тым справа. Справа ў змяненні палітыкі Германіі. Справа ў тым, што яшчэ перад прыходам да ўлады цяперашніх германскіх палітыкаў, асабліва-ж пасля іх прыходу, у Германіі пачалася барацьба паміж двума палітычнымі лініямі, паміж палітыкай старой, атрымаўшай адлюстраванне ў вядомых дагаварах СССР з Германіяй, і палітыкай „новай", напамінаючай у асноўным палітыку быўшага германскага кайзера, які акупіраваў адзін час Украіну і прадпрыняў паход супроць Ленінграда, ператварыўшы Прыбалтыйскія краіны ў плацдарм для такога паходу, прычым „новая" палітыка яўным чынам бярэ верх над старой. Нельга лічыць выпадковасцю, што людзі „новай" палітыкі бяруць ва ўсім перавагу, а староннікі старой палітыкі аказаліся ў апале. Невыпадкова таксама вядомае выступленне Гугенберга ў Лондане, таксама як невыпадковы не менш вядомыя дэкларацыі Розенберга, кіраўніка знешняй палітыкі кіруючай партыі Германіі. Вось у чым справа, таварышы.

2) Я маю на ўвазе, па-другое, аднаўленне нармальных адносін паміж СССР і Злучанымі Штатамі Паўночнай Амерыкі. Не можа быць сумнення, што гэты акт мае сур'ёзнейшае значэнне ва ўсёй сістэме міжнародных адносін. Справа не толькі ў тым, што ён падымае шансы справы захавання міру, паляпшае адносіны паміж абодвума краінамі, умацоўвае гандлёвыя сувязі паміж імі і стварае базу для ўзаемнага супрацоўніцтва. Справа ў тым, што ён кладзе веху паміж старым, калі ПАЗШ лічыліся ў розных краінах аплотам для ўсякіх антысавецкіх тэндэнцый, і новым, калі гэты аплот дабравольна зняты з дарогі к узаемнай выгадзе абодвух краін.

Такавы два асноўныя факты, адлюстроўваючыя поспехі савецкай палітыкі міру.

Было-б, аднак, няправільна думаць, што за адчотны перыяд усё ішло ў нас гладка. Не, далёка не ўсё ішло ў нас гладка.

Успомніце хоць-бы націск са стараны Англіі, эмбарго, накладзенае на наш экспарт, спробу ўмяшацца ў нашы ўнутраныя справы і прашчупаць нас на гэтым,—выпрабаваць сілу нашага супраціўлення. Праўда, з гэтай спробы нічога не вышла, і эмбарго было знята потым, але непрыемны асадак ад гэтых наскокаў усё яшчэ дае адчуваць сябе ва ўсім, што датычыць адносін паміж Англіяй і СССР, у тым ліку ў перагаворах аб

гандлёвым дагаворы. А наскокі гэтыя на СССР нельга лічыць выпадковасцю. Вядома, што адна частка англійскіх кансерватараў не можа жыць без такіх наскокаў. І іменна таму, што яны невыпадковы, мы павінны ўлічваць, што будуць і ў далейшым наскокваць на СССР, ствараць пагрозу ўсякага роду, наносіць яму шкоду і т. п.

Нельга не мець таксама на ўвазе адносіны паміж СССР і Японіяй, якія патрабуюць сур'ёзнага палепшання. Адмова Японіі ад падпісання пакта аб ненападзенні, у якім Японія адчувае патрэбу не менш, чым СССР, лішні раз падкрэслівае, што ў вобласці нашых адносін не ўсё абстаіць добра. Тое самае трэба сказаць наконт перарыва перагавораў аб КУЧ, які адбыўся не па віне СССР, а таксама наконт таго, што японскія агенты твораць недапушчальныя рэчы на КУЧ, незаконна арыштоўваюць савецкіх служачых на КУЧ і т. п. Я ўжо не гавару аб тым, што адна частка ваенных людзей у Японіі адкрыта прапаведуе ў друку неабходнасць вайны з СССР і захвата Прымор'я пры яўным адабрэнні другой часткі ваенных, а ўрад Японіі замест таго, каб заклікаць к парадку падпальшчыкаў вайны, робіць выгляд, што гэта яго не датычыць. Не трудна зразумець, што падобныя акалічнасці не могуць не ствараць атмасферу непакою і няўпэўненасці. Зразумела, мы будзем і ў далейшым настойліва праводзіць палітыку міру і дабівацца палепшання адносін з Японіяй, бо мы хочам палепшання гэтых адносін. Але не ўсё тут залежыць ад нас. Таму мы павінны разам з тым прыняць усе меры да таго, каб аградзіць нашу краіну ад нечаканасцей і быць гатовымі да яе абароны ад нападзення. **(Бурныя апладысменты).**

Як бачыце, побач з поспехамі нашай мірнай палітыкі мы маем і рад адмоўных з'яў.

Такаво знешняе становішча СССР.

Наша знешняя палітыка ясна. Яна ёсць палітыка захавання міру і ўзмацнення гандлёвых адносін з усімі краінамі. СССР не думае пагражаць каму-б то ні было і—тым больш—напасці на каго-б то ні было. Мы стаім за мір і адстойваем справу міру. Але мы не баімся пагроз і гатовы адказаць ударам на ўдар падпальшчыкаў вайны. **(Бурныя апладысменты).** Хто хоча міру і дабіваецца дзелавых сувязей з намі, той заўсёды знойдзе ў нас падтрыманне. А тыя, якія папрабуюць напасці на нашу краіну,— атрымаюць сакрушальны адпор, каб надалей не павадна было ім соваць сваё свіное рыла ў наш савецкі гарод. **(Гром апладысментаў).**

Такава наша знешняя палітыка. **(Гром апладысментаў).**

Задача састаіць у тым, каб праводзіць ў жыццё і ў далейшым гэтую палітыку з усёй настойлівасцю і паслядоўнасцю.

## II

## Прадаўжаючыйся ўздым народнай гаспадаркі і ўнутранае становішча СССР

Пераходжу да пытання аб унутраным становішчы СССР.

З пункту гледжання ўнутранага становішча СССР адчотны перыяд прадстаўляе карціну ўсё больш разгортваючагася ўздыму як у вобласці народнай гаспадаркі, так і ў вобласці культуры.

Уздым гэты быў не толькі простым колькасным накапленнем сіл. Уздым гэты выдатны тым, што ён унёс прынцыповыя змяненні ў структуру СССР і карэнным чынам змяніў твар краіны.

СССР за гэты перыяд ператварыўся ў корані, скінуўшы з сябе аблічча адсталасці і сярэдневякоўя. З краіны аграрнай ён стаў краінай індустрыяльнай. З краіны дробнай аднаасобнай сельскай гаспадаркі ён стаў краінай калектыўнай буйной механізаванай сельскай гаспадаркі. З краіны цёмнай, непісьменнай і некультурнай ён стаў—вярней, становіцца—краінай пісьменнай і культурнай, пакрытай грамаднай сеткай вышэйшых, сярэдніх і ніжэйшых школ, дзейнічаючых на мовах нацыянальнасцей СССР.

Створаны новыя галіны вытворчасці: станкабудаўніцтва, аўтамабільная прамысловасць, трактарная прамысловасць, хімічная прамысловасць, маторабудаўніцтва, самалётабудаўніцтва, камбайнабудаўніцтва, вытворчасць магутных турбін і генератараў, якасных сталей, феррасплаваў, сінтэтычнага каучука, азота, штучнага валакна і т. д. і т. п. (**працяглыя апладысменты.**)

Пабудаваны і пушчаны ў ход за гэты перыяд тысячы новых упаўне сучасных прамысловых прадпрыемстваў. Пабудаваны гіганты накшталт Днепрабуда, Магнітабуда, Кузнецкбуда, Чэляббуда, Бобрыкаў, Уралмашбуда, Краммашбуда. Рэканструяваны на базе новай тэхнікі тысячы старых прадпрыемстваў. Пабудаваны новыя прадпрыемствы і створаны ачагі прамысловасці ў нацыянальных рэспубліках і на акраінах СССР: у Беларусі, на Украіне, на Паўночным Каўказе, у Закаўказзі, у Сярэдняй Азіі. у Казакстане, у Бурата-Манголіі, у Татарыі, у Башкірыі, на Урале, ва Усходняй і Заходняй Сібіры, на Далёкім Усходзе і т. д.

Створана звыш 200 тыс. калгасаў і 5 тыс. соўгасаў з новымі раённымі цэнтрамі і прамысловымі пунктамі для іх.

Выраслі амаль на пустым месцы новыя вялікія гарады з вялікай колькасцю насельніцтва. Каласальна разрасліся старыя гарады і прамысловыя пункты.

Закладзены асновы Урала-Кузнецкага камбіната—злучэння Кузнецкага каксуючагася вугаля із уральскай жалезнай рудой.



Новую металургічную базу на Ўсходзе можна лічыць такім чынам ператворанай з мары ў рэчаіснасць.

Закладзены асновы новай магутнай нафтавай базы ў раёнах заходняга і паўднёвага схілаў Уральскага хрыбта—па Уральскай вобласці, Башкірыі, Казакстану.

Відавочна, што грамадныя капітальныя ўкладанні дзяржавы ва ўсе галіны народнай гаспадаркі, саставіўшыя за адчотны перыяд больш 60 мільярдаў рублёў,—не прайшлі дарэмна і пачынаюць ужо даваць свае рэзультаты.

У рэзультаце гэтых дасягненняў народны даход СССР вырас з 29 млрд. руб. у 1929 г. да 50 млрд. у 1933 г. пры грамадным падзенні народнага даходу за той-жа перыяд ва ўсіх без выключэння капіталістычных краінах.

Зразумела, што ўсе гэтыя дасягненні і ўвесь гэты ўздым павінны былі прывесці—і сапраўды прывялі—да далейшага ўмацавання ўнутранага становішча СССР.

Як маглі адбыцца гэтыя каласальныя змяненні ў якія-небудзь 3—4 гады на тэрыторыі грамаднай дзяржавы з яе адсталай тэхнікай, з яе адсталай культурай? Ці не чуда гэта? Гэта было-б чудам, калі-б развіццё ішло на базе капіталізма і аднаасобнай дробнай гаспадаркі. Але гэта не можа быць названа чудам, калі мець на ўвазе, што развіццё ішло ў нас на аснове разгортвання соцыялістычнага будаўніцтва.

Зразумела, што гэты гіганцкі ўздым мог разгарнуцца толькі на базе паспяховага будаўніцтва соцыялізма, на базе грамадскай працы дзесяткаў мільёнаў людзей, на базе пераваг соцыялістычнай сістэмы гаспадаркі перад сістэмай капіталістычнай і аднаасобна-сялянскай.

Не дзіўна таму, што каласальны ўздым эканомікі і культуры СССР за адчотны перыяд азначаў разам з тым ліквідацыю капіталістычных элементаў і адцясненне на задні план аднаасобнай сялянскай гаспадаркі. Гэта факт, што ўдзельная вага соцыялістычнай сістэмы гаспадаркі ў вобласці прамысловасці састаўляе цяпер 99 проц., а ў сельскай гаспадарцы, калі мець на ўвазе пасеўныя плошчы зерневых культур—84,5 проц., тады як на долю аднаасобнай сялянскай гаспадаркі прыпадае ўсяго 15,5 проц.

Выходзіць, што капіталістычная гаспадарка ў СССР ужо ліквідавана, а аднаасобна-сялянскі сектар у вёсцы адцяснён на другарадныя пазіцыі.

Ленін гаварыў пры ўвядзенні НЭПа, што ў нашай краіне ёсць элементы 5 грамадска-эканамічных укладаў: 1) патрыярхальная гаспадарка (у значнай ступені натуральная гаспадарка), 2) дробна-таварная вытворчасць (большасць сялян з тых, хто прадае хлеб), 3) прыватна-гаспадарчы капіталізм, 4) дзяржаўны капіталізм, 5) соцыялізм. Ленін лічыў, што з усіх гэтых укладаў павінен у канцы канцоў узяць верх соцыялістычны ўклад. Мы можам цяпер сказаць, што першы, трэці і чацверты грамадска-

эканамічныя ўклады ўжо не існуюць, другі грамадска-эканамічны ўклад адцяснён на другарадныя пазіцыі, а пяты грамадска-эканамічны ўклад—соцыялістычны ўклад з'яўляецца безраздзельна пануючай і адзіна камандуючай сілай ва ўсёй народнай гаспадарцы. (**Бурныя працяглыя апладысменты**).

Такоў ітог.

У гэтым ітогу—аснова трываласці ўнутранага становішча СССР, аснова стойкасці яго перадавых і тылавых пазіцый у абстаноўцы капіталістычнага акружэння.

Пяройдзем да разгляду канкрэтных матэрыялаў па асобных пытаннях эканамічнага і палітычнага становішча Совецкага Саюза.

## I. Уздым прамысловасці

З усіх галін народнай гаспадаркі найбольш быстра расла ў нас прамысловасць. За адчотны перыяд, г. зн. пачынаючы з 1930 г., прамысловасць вырасла ў нас больш, чым удвая, а іменна на 101,6 проц., а ў параўнанні з даваенным узроўнем яна вырасла амаль у чэцвера, а іменна на 291,9 проц.

Гэта значыць, што індустрыялізацыя ішла у нас на ўсіх парах.

Быстры рост індустрыялізацыі прывёў да таго, што ў валавой прадукцыі ўсёй народнай гаспадаркі прадукцыя прамысловасці заняла главенствуючае месца.

Вось адпаведная табліца.

**Удзельная вага прамысловасці ў валавой прадукцыі народнай гаспадаркі ў процантах (у цэнах 1926-27 г.):**

| | 1913 г. | 1929 г. | 1930 г. | 1931 г. | 1932 г. | 1933 г. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Прамысловасць . | 42,1 | 54,5 | 61,6 | 66,7 | 70,7 | 70,4 |
| Сельская гаспадарка . | 57,9 | 45,5 | 38,4 | 33,3 | 29,3 | 29,6 |
| Усяго | 100,0 | 100,0 | 100,0 | 100,0 | 100,0 | 100,0 |

Гэта значыць, што краіна наша стала трывала і канчаткова—індустрыяльнай краінай.

Рашаючае значэнне ў справе індустрыялізацыі мае рост вытворчасці прылад і сродкаў вытворчасці ў агульным аб'ёме развіцця прамысловасці. Даныя за адчотны перыяд паказваюць

што ўдзельная вага гэтай галіны ў агульным аб'ёме прамысловасці заняла пераважаючае месца.

Вось адпаведная табліца.

**Удзельная вага прадукцыі двух асноўных груп галін буйнай прамысловасці у цэнах 1926-27 г.:**

| | Валавая прадукцыя (у млрд. руб.) | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | 1929 г. | 1930 г. | 1931 г. | 1932 г. | 1933 г. |
| Уся буйная прамысловасць . . . . | 21,0 | 27,5 | 33,9 | 38,5 | 41,9 |
| У тым ліку: | | | | | |
| Група „А“ Прылады і сродкі вытворчасці . . | 10,2 | 14,5 | 18,8 | 22,0 | 24,3 |
| Група „Б“ Прадметы спажывання . . . | 10,8 | 13,0 | 15,1 | 16,5 | 17,6 |
| Удзельная вага ў проц: | | | | | |
| Група „А“ Прылады і сродкі вытворчасці. . | 48,5 | 52,6 | 55,4 | 57,0 | 58,0 |
| Група „Б“ Прадметы спажывання . . . | 51,5 | 47,4 | 44,6 | 43,0 | 42,0 |
| Усяго | 100,0 | 100,0 | 100,0 | 100,0 | 100.0 |

Табліца, як бачыце, не мае патрэбы ў раз'ясненнях.

У нашай усё яшчэ маладой у тэхнічных адносінах краіне прамысловасць мае асобую задачу. Яна павінна рэканструяваць на новай тэхнічнай базе не толькі сябе самую, не толькі ўсе галіны прамысловасці, у тым ліку лёгкую, харчовую, лясную прамысловасць. Яна павінна яшчэ рэканструяваць усе віды транспарта і ўсе галіны сельскай гаспадаркі. Але яна можа выканаць гэтую задачу толькі ў тым выпадку, калі машынабудаўніцтва—асноўны рычаг рэканструкцыі народнай гаспадаркі—займе ў ёй пераважнае месца. Даныя адчотнага перыяду паказваюць, што машынабудаўніцтва заваявала ў нас у агульным аб'ёме прамысловасці вядучую ролю.

Вось адпаведная табліца.

**Удзельная вага паасобных галін прамысловасці ў процантах к ітогу па валавой прадукцыі:**

| | СССР | | | |
|---|---|---|---|---|
| | 1913 г. | 1929 г. | 1932 г. | 1933 г. |
| Каменавугальная | 2,9 | 2,1 | 1,7 | 2,0 |
| Коксавая | 0,8 | 0,4 | 0,5 | 0,6 |
| Нафтаздабываючая | 1,9 | 1,8 | 1,5 | 1,4 |
| Нафтаапрацоўваючая | 2,3 | 2,5 | 2,9 | 2,6 |
| Чорная металургія | няма вестак | 4,5 | 3,7 | 4,0 |
| Каляровая металургія | „ | 1,5 | 1,3 | 1,2 |
| Машынабудаўніцтва | 11,0 | 14,8 | 25,0 | 26,1 |
| Асноўная хімія | 0,8 | 0,6 | 0,8 | 0,9 |
| Бавоўнянапапяровая | 18,3 | 15,2 | 7,6 | 7,3 |
| Шарсцяная | 3,1 | 3,1 | 1,9 | 1,8 |

Гэта значыць, што прамысловасць наша развіваецца на здаровай аснове, а ключ рэканструкцыі — машынабудаўніцтва — цалкам у нашых руках. Неабходна толькі, каб ён быў скарыстан умела, рацыянальна.

Цікавую карціну адкрывае развіццё прамысловасці за адчотны перыяд па соцыяльных сектарах.

Вось адпаведная табліца.

**Валавая прадукцыя буйнай прамысловасці па соцыяльных сектарах (у цэнах 1926—27 г.):**

| | Валавая прадукцыя ў млн. руб. | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | 1929 г. | 1930 г. | 1931 г. | 1932 г. | 1933 г. |
| Уся прадукцыя | 21025 | 27477 | 33903 | 38464 | 41968 |
| У тым ліку: | | | | | |
| I. Аграмаджаная прамысловасць | 20391 | 27402 | вестак няма | 38436 | 41940 |
| У тым ліку: | | | | | |
| а) дзяржаўная прамысловасць | 19143 | 24989 | „ | 35587 | 38932 |
| б) кааператыўная прамысловасць | 1748 | 2413 | „ | 2849 | 3008 |
| II. Прыватная прамысловасць | 134 | 75 | „ | 28 | 28 |

| | У процантах | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | 1929 г. | 1930 г. | 1931 г. | 1932 г. | 1933 г. |
| Уся прадукцыя . . . | 100,0 | 100,0 | 100,0 | 100,0 | 100,0 |
| У тым ліку: | | | | | |
| I. Аграмаджаная прамысловасць . . . . | 99,4 | 99,7 | вест няма | 99,93 | 99,93 |
| У тым ліку: | | | | | |
| а) дзяржаўная прамысловасць . . . . | 91,1 | 90,9 | „ | 92,52 | 92,76 |
| б) кааперацыйная прамысловасць . . . | 8,3 | 8,8 | „ | 7,41 | 7,17 |
| II. Прыватная прамысловасць . . . . | 0,6 | 0,3 | „ | 0,07 | 0,07 |

З гэтай табліцы відаць, што з капіталістычнымі элементамі ў прамысловасці ўжо скончана, а соцыялістычная сістэма гаспадаркі з'яўляецца цяпер адзінай і манапольнай сістэмай у нашай прамысловасці (**апладысменты**).

Але з усіх дасягненняў прамысловасці, заваяваных ёю за адчотны перыяд, самым важным дасягненнем трэба лічыць той факт, што яна здолела за гэты час выхаваць і выкаваць тысячы новых людзей і новых кіраўнікоў прамысловасці, цэлыя слаі новых інжынераў і тэхнікаў, сотні тысяч маладых кваліфікаваных рабочых, асвоіўшых новую тэхніку і рушыўшых уперад нашу соцыялістычную прамысловасць. Не можа быць сумнення, што без гэтых людзей прамысловасць не магла-б мець тых поспехаў, якія мае цяпер і якімі яна ў праве гардзіцца. Даныя гавораць, што за адчотны перыяд прамысловасць выпусціла на вытворчасць з школ фабрычна-заводскага вучнёўства каля 800 тысяч больш ці менш кваліфікаваных рабочых, а з ВТНУ, ВНУ і тэхнікумаў—больш 580 тысяч інжынераў і тэхнікаў. Калі верна, што праблема кадраў з'яўляецца сур'ёзнейшай праблемай нашага развіцця, то трэба прызнаць, што наша прамысловасць пачынае сур'ёзна авалодваць гэтай праблемай.

Такавы асноўныя дасягненні нашай прамысловасці.

Было-б, аднак, няправільна думаць, што прамысловасць мела толькі адны поспехі. Не, у яе ёсць і свае недахопы. Галоўныя з іх:

а) Прадаўжаючаеся адставанне **чорнай металургіі;**

б) Неўпарадкаванасць справы **каляровай металургіі;**

в) Недаацэнка сур'ёзнейшага значэння развіцця здабычы **мясцовых вугаляў** у агульным паліўным балансе краіны (Падмаскоўны раён, Каўказ, Урал, Караганда, Сярэдняя Азія, Сібір, Далёкі Ўсход, Паўночны край і т. д.);

г) Адсутнасць належнай увагі да пытання арганізацыі новай **нафтавай базы** у раёнах Урала, Башкірыі, Эмбы;

д) Адсутнасць сур'ёзнага клопату аб разгортванні вытворчасці тавараў **шырокага спажывання** як па лёгкай і харчовай прамысловасці, так і па лясной прамысловасці;

е) Адсутнасць належнай увагі да пытання разгортвання **мясцовай прамысловасці;**

ж) Зусім недапушчальныя адносіны да пытання аб палепшанні **якасці прадукцыі;**

з) Прадаўжаючаеся адставанне ў справе ўздыму **прадукцыйнасці працы,** зніжэння **сабекошту,** унядрэння **гаспадарчага разліку;**

і) Усё яшчэ неліквідаваная дрэнная арганізацыя працы і зарплаты, абязлічка ў рабоце, ураўнілаўка ў сістэме зарплаты;

к) Далёка яшчэ не ліквідаваны **канцылярска-бюракратычны** метад кіраўніцтва ў гаспадарчых наркаматах і іх органах, у тым ліку ў наркаматах лёгкай і харчовай прамысловасці.

Наўрад ці патрэбна яшчэ раз'ясняць абсалютную неабходнасць тэрміновай ліквідацыі гэтых недахопаў. Чорная і каляровая металургіі, як вядома, не выканалі свайго плана на працягу першай пяцігодкі. Яны не выканалі яго таксама за першы год другой пяцігодкі. Калі яны будуць і ў далейшым адставаць, яны могуць ператварыцца ў тормаз для прамысловасці і ў прычыну яе прарываў. Што датычыць стварэння новых баз вугальнай і нафтавай прамысловасці, то не трудна зразумець, што без выканання гэтай неадкладнай задачы мы можам пасадзіць на мель і прамысловасць і транспарт. Пытанне аб шырспажыве і развіцці мясцовай прамысловасці, таксама як і пытанне аб палепшанні якасці прадукцыі, уздыме прадукцыйнасці працы, зніжэнні сабекошту і ўнядрэнні гаспадарчага разліку—таксама не маюць патрэбы ў раз'ясненні. Што датычыць дрэннай арганізацыі працы і зарплаты і канцылярска-бюракратычнага метаду кіраўніцтва, то як паказала гісторыя з Данбасам, таксама як з прадпрыемствамі лёгкай і харчовай прамысловасці, гэтая небяспечная хвароба гняздзіцца ва ўсіх галінах прамысловасці, тармозячы іх развіццё. Калі яна не будзе ліквідавана, прамысловасць будзе кульгаць на абедзве нагі.

Чарговыя задачы:

1) Захаваць за машынабудаўніцтвам яго цяперашнюю вядучую ролю ў сістэме прамысловасці.

2) Ліквідаваць адставанне чорнай металургіі.

3) Упарадкаваць справу каляровай металургіі.

4) Разгарнуць ва-ўсю здабычу мясцовых вугаляў ва ўсіх вядомых ужо раёнах, арганізаваць новыя раёны вуглездабычы

(напрыклад, у Бурэйскім раёне Далёкага Ўсхода), ператварыць Кузбас у другі Данбас **(працяглыя апладысменты)**.

5) Узяцца сур'ёзна за арганізацыю нафтазай базы ў раёнах заходніх і паўднёвых схілаў Уральскага хрыбта.

6) Разгарнуць вытворчасць тавараў шырокага спажывання па ўсіх гаспадарчых наркаматах.

7) Развязаць мясцовую совецкую прамысловасць, даць ёй магчымасць праявіць ініцыятыву ў справе вытворчасці тавараў шырспажыва і аказаць ёй магчымую дапамогу сыравінай і сродкамі.

8) Палепшыць якасць выпускаемых тавараў, спыніць выпуск некамплектнай прадукцыі і караць усіх тых таварышоў, не глядзячы на асобы, якія нарушаюць або абыходзяць законы Совецкай улады аб якасці і камплектнасці прадукцыі.

9) Дабіцца сістэматычнага росту прадукцыйнасці працы, зніжэння сабекошту і ўкаранення гаспадарчага разліку.

10) Дабіць абязлічку ў рабоце і ўраўнілаўку ў сістэме зарплаты.

11) Ліквідаваць канцылярска-бюракратычны метад кіраўніцтва ва ўсіх звеннях гаспадарчых наркаматаў, сістэматычна правяраючы выкананне рашэнняў і ўказанняў кіруючых цэнтраў ніжэйстаячымі органамі.

### 2. Уздым сельскай гаспадаркі.

Некалькі па-іншаму пайшло развіццё ў вобласці сельскай гаспадаркі. У многа раз павольней, чым у прамысловасці, але ўсё-ж быстрэй, чым у перыяд перавагі аднаасобнай гаспадаркі, нарастаў за адчотны перыяд уздым асноўных галін сельскай гаспадаркі. А па жывёлагадоўчай галіне мы мелі нават адваротны працэс,—падзенне пагалоўя жывёлы, і толькі ў 1933 г. і то ў адной толькі свінагадоўчай галіне намеціліся прызнакі ўздыму.

Відавочна, што грамадныя труднасці аб'яднання разрозненых дробных сялянскіх гаспадарак у калгасы, трудная справа стварэння амаль на пустым месцы вялікай колькасці буйных зерневых і жывёлагадоўчых гаспадарак і, наогул, **рэарганізацыйны** перыяд перабудовы і пераводу аднаасобнай сельскай гаспадаркі на новыя калгасныя рэльсы, які патрабуе многа часу і вялікіх выдаткаў,—усе гэтыя фактары немінуча прадрашылі як павольныя тэмпы ўздыму сельскай гаспадаркі, так і параўнальна доўгі перыяд заняпаду ў развіцці пагалоўя жывёлы.

Па сутнасці справы адчотны перыяд быў для сельскай гаспадаркі не столькі перыядам быстрага ўздыму і магутнага разбегу, колькі перыядам стварэння прэдпасылак для такога ўздыму і такога разбегу ў бліжэйшым будучым.

Калі ўзяць даныя аб росце пасеўных плошчаў усіх культур, а затым асобна—тэхнічных культур, то развіццё сельскай гаспадаркі за адчотны перыяд рысуецца ў наступным выглядзе.

Пасеўныя плошчы ўсіх культур па СССР:

| | У мільёнах гектараў | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1913 г. | 1929 г. | 1930 г. | 1931 г. | 1932 г. | 1933 г. |
| Уся пасеўная плошча . . | 100,5 | 118,0 | 127,2 | 136,3 | 134,4 | 129,7 |
| У тым ліку: . . . . . | | | | | | |
| а) Зерневыя . . . . . | 94,4 | 96,0 | 101,8 | 104,4 | 99,7 | 101,5 |
| б) Тэхнічныя . . . . . | 4.5 | 8,8 | 10,5 | 14,0 | 14,9 | 12,0 |
| в) Гародна-бахчавыя . . . | 3,8 | 7,6 | 8,0 | 9,1 | 9,2 | 8,6 |
| Кармавыя . . . . . . | 2,1 | 5,0 | 6,5 | 8,8 | 10,6 | 7,3 |

Пасеўныя плошчы тэхнічных культур па СССР:

| | У мільёнах гектараў | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1913 г. | 1929 г. | 1930 г. | 1931 г. | 1932 г. | 1933 г. |
| Бавоўна . . . . . . . | 0,69 | 1,06 | 1,58 | 2,14 | 2,17 | 2,05 |
| Лён (даўгунец) . . . . | 1,02 | 1,63 | 1,75 | 2,39 | 2,51 | 2,40 |
| Цукровыя буракі . . . . | 0,65 | 0,77 | 1,04 | 1,39 | 1,54 | 1,21 |
| Маслічныя . . . . . . | 2,00 | 5,20 | 5,22 | 7,55 | 7,98 | 5,79 |

Гэтыя табліцы адлюстроўваюць дзве асноўныя лініі ў сельскай гаспадарцы:

1) Лінію на ўсямернае расшырэнне пасеўных плошчаў у перыяд разгару рэарганізацыі сельскай гаспадаркі, калі калгасы ствараліся дзесяткамі тысяч, калі яны зганялі кулакоў з зямлі, захватвалі вызваліўшыяся землі і прыбіралі іх да рук;

2) Лінію на адмову ад агульнага расшырэння пасеўных плошчаў, лінію на пераход ад агульнага расшырэння плошчаў да палепшання апрацоўкі зямлі, да ўнядрэння правільнага севаабароту і папару, да падняцця ўраджайнасці і, калі гэта запатрабуе практыка,—да часовага скарачэння існуючых пасеўных плошчаў.

Як вядома, другая лінія,—адзіна правільная лінія ў сельскай гаспадарцы,—была абвешчана ў 1932 г., калі рэарганізацыйны перыяд у сельскай гаспадарцы падыходзіў да канца і пытанне

аб падняцці ўраджайнасці стала адным з асноўных пытанняў уздыму сельскай гаспадаркі.

Але даныя аб росце пасеўных плошчаў нельга лічыць упаўне дастатковымі паказальнікамі развіцця сельскай гаспадаркі. Бывае, што плошчы растуць, а прадукцыя не расце або нават—падае з прычыны таго, што апрацоўка зямлі пагоршылася і ураджайнасць на адзінку плошчы—пала. З прычыны гэтага даныя аб плошчах неабходна дапоўніць данымі аб валавой прадукцыі.

Вось адпаведная табліца.

**Валавая прадукцыя зерневых і тэхнічных культур па СССР:**

| | У мільёнах цэнтнераў | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1913 г. | 1929 г. | 1930 г. | 1931 г. | 1932 г. | 1933 г. |
| Зерневыя . . . | 801,0 | 717,4 | 835,4 | 694,8 | 698,7 | 898,0 |
| Бавоўна (сырэц) . | 7,4 | 8,6 | 11,1 | 12,9 | 12,7 | 13,2 |
| Лён (валакно) . . | 3,3 | 3,6 | 4,4 | 5,5 | 5,0 | 5,6 |
| Цукровыя буракі . | 109,0 | 62,5 | 140,2 | 120,5 | 65,6 | 90,0 |
| Маслічныя . . . | 21,5 | 35,8 | 36,2 | 51,0 | 45,5 | 46,0 |

З гэтай табліцы відаць, што гады найбольшага разгару рэарганізацыі сельскай гаспадаркі—1931 і 1932 гг.—былі гадамі найбольшага змяншэння прадукцыі зерневых культур.

З гэтай табліцы вынікае, далей, што лён і бавоўна, у раёнах якіх рэарганізацыя сельскай гаспадаркі ішла менш быстрымі тэмпамі, амаль не пацярпелі зусім і ішлі на ўздым больш ці менш роўна і няўхільна, захоўваючы высокі ўзровень свайго развіцця.

З гэтай табліцы вынікае, па-трэцяе, што ў той час, як маслічныя культуры мелі толькі некаторае хістанне, захоўваючы высокі ўзровень свайго развіцця ў параўнанні з даваенным узроўнем, цукравыя буракі, у раёнах якіх назіраліся найбольш высокія тэмпы рэарганізацыі сельскай гаспадаркі і якія апошнімі ўступілі ў рэарганізацыйны перыяд,—мелі найбольшы занепад у апошні год рэарганізацыі, у 1932 г., знізіўшы прадукцыю ніжэй даваеннага ўзроўню.

З гэтай табліцы вынікае нарэшце, што 1933 г.—першы год пасля скančэння рэарганізацыйнага перыяду—з'яўляецца пераломным годам у развіцці зерневых і тэхнічных культур. Гэта значыць, што зерневыя культуры перш за ўсё, а за імі—тэхнічныя культуры ад гэтага часу будуць ісці да магутнага ўздыму цвёрда і ўпэўнена.

Найбольш хваравіта перанесла рэарганізацыйны перыяд жывёлагадоўчая галіна сельскай гаспадаркі.

Вось адпаведная табліца.

Пагалоўе жывёлы па СССР:

| | У мільёнах галоў | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1916 г. | 1929 г. | 1930 г. | 1931 г. | 1932 г. | 1933 г. |
| а) Коні . . . . . . . . | 35,1 | 34,0 | 30,2 | 26,2 | 19,6 | 16,6 |
| б) Буйная рагатая жывёла. | 58,9 | 68,1 | 52,5 | 47,9 | 40,7 | 38,6 |
| в) Авечкі і козы . . . . | 115,2 | 147,2 | 108,8 | 77,7 | 52,1 | 50,6 |
| г) Свінні . . . . . . | 20,3 | 20,9 | 13,6 | 14,4 | 11,6 | 12,2 |

З гэтай табліцы відаць, што па пагалоўю жывёлы мы маем за адчотны перыяд не ўздым, а ўсё яшчэ прадаўжаючыйся заняпад у параўнанні з даваенным узроўнем. Відавочна, што найбольшая насычанасць жывёлагадоўчых галін сельскай гаспадаркі буйна-кулацкімі элементамі, з аднаго боку, і ўзмоцненая кулацкая агітацыя за ўбой жывёлы, меўшая спрыяючую глебу ў гады рэарганізацыі, з другога боку,—знайшлі сваё адлюстраванне ў гэтай табліцы.

З гэтай табліцы вынікае, далей, што заняпад пагалоўя пачаўся з першага-ж года рэарганізацыі (1930 г.) і прадаўжаецца аж да 1933 г., прычым заняпад дасягнуў найбольшых размераў у першыя тры гады, а ў 1933 г., у першы год пасля скачэння рэарганізацыйнага перыяду, калі зерневыя культуры пайшлі на ўздым, размеры заняпаду пагалоўя дайшлі да мінімуму.

З гэтай табліцы вынікае, нарэшце, што па свінагадоўлі ўжо пачаўся адваротны працэс, і ў 1933 г. ужо намеціліся прызнакі прамога ўздыму.

Гэта значыць, што 1934 год павінен і можа стаць годам пералому к уздыму ва ўсёй жывёлагадоўчай гаспадарцы.

Як развівалася ў нас калектывізацыя сялянскіх гаспадарак за адчотны перыяд?

Вось адпаведная табліца.

Калектывізацыя.

| | 1929 г. | 1930 г. | 1931 г. | 1932 г. | 1933 г. |
|---|---|---|---|---|---|
| Лік калгасаў (у тысяча . | 57,0 | 85,9 | 211,1 | 211,05 | 224,5 |
| Лік гаспадарак у калгасах (у мільёнах) . . . . | 1,0 | 6,0 | 13,0 | 14,9 | 15,2 |
| Процант калектывізацыі сялянскіх гаспадарак . . | 3,9 | 23,6 | 52,7 | 61,5 | 65,0 |

А як ішоў рух зерневых пасеўных плошчаў па сектарах? Вось адпаведная табліца.

**Пасеўныя плошчы зерневых па сектарах:**

| Сектары | Пасевы зерневых (у мільёнах гектараў) | | | | | У проц. да плошчы 1933 г. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1929 г. | 1930 г. | 1931 г. | 1932 г. | 1933 г. | |
| 1. Соўгасы . . . . | 1,5 | 2,9 | 8,1 | 9,3 | 10,8 | 10,6 |
| 2. Калгасы . . . . | 3.4 | 29,7 | 61,0 | 69,1 | 75,0 | 73,9 |
| 3. Аднаасобнікі. . . | 91,1 | 69,2 | 35,3 | 21,3 | 15,7 | 15,5 |
| Увесь пасеў зерневых па СССР | 96,0 | 101,8 | 104,4 | 99,7 | 101,5 | 100,0 |

Аб чым гавораць гэтыя табліцы?

Яны гавораць аб тым, што рэарганізацыйны перыяд сельскай гаспадаркі, калі колькасць калгасаў і лік іх членаў раслі бурнымі тэмпамі, ужо закончан, закончан яшчэ ў 1932 г.

Значыцца, далейшы працэс калектывізацыі прадстаўляе працэс паступовага ўсасвання і перавыхавання астаткаў індывідуальных сялянскіх гаспадарак калгасамі.

Гэта значыць, што калгасы перамаглі канчаткова і беспаваротна. **(Бурныя, працяглыя апладысменты).**

Яны гавораць, далей, аб тым, што соўгасы і калгасы разам уладаюць 84,5 проц. усіх зерневых плошчаў па СССР.

Гэта значыць, што калгасы і соўгасы разам сталі такой сілай, якая рашае лёс усёй сельскай гаспадаркі і ўсіх яе галін.

Яны гавораць, далей, аб тым, што 65 проц. аб'яднаных у калгасы сялянскіх гаспадарак уладаюць 73,9 проц. усіх зерневых пасеўных плошчаў, тады як уся астатняя маса індывідуальных сялянскіх гаспадарак, састаўляючых 35 проц. усяго сялянскага насельніцтва, уладаюць усяго толькі 15,5 проц. усіх зерневых пасеўных плошчаў.

Калі дадаць да гэтага той факт, што калгасы здалі ў 1933 г. дзяржаве па ўсіх відах паступленняў больш мільярда пудоў зерня, а аднаасобныя сяляне, выканаўшыя план на ўсе 100 проц.—здалі ўсяго каля 130 млн. пудоў, тады як у 1929-30 г. аднаасобныя сяляне здалі дзяржаве каля 780 млн. пудоў, а калгасы не больш 120 млн. пудоў,—то стане ясней яснага, што калгасы і аднаасобныя сяляне за адчотны перыяд поўнасцю перамяніліся ролямі, прычым калгасы сталі за гэты час пануючай сілай сельскай гаспадаркі, а аднаасобныя сяляне—другараднай сілай, вымушанай падчыняцца і прыстасоўвацца да калгаснага ладу.

Трэба прызнаць, што працоўнае сялянства, наша совецкае сялянства канчаткова і беспаваротна стала пад чырвоны сцяг социялізма (**працяглыя апладысменты**).

Няхай балбочуць эсэра-меншавіцкія і буржуазна-трацкісцкія кумушкі, што сялянства па прыродзе контррэволюцыйна, што яно заклікана аднавіць у СССР капіталізм, што яно не можа быць саюзнікам рабочага класа ў справе пабудовы социялізма, што ў СССР немагчыма пабудаваць социялізм. Факты гавораць, што гэтыя паны ўзводзяць паклёп і на СССР і на совецкае сялянства. Факты гавораць, што наша совецкае сялянства канчаткова адчаліла ад берагоў капіталізма і пайшло ўперад ў саюзе з рабочым класам—да социялізма. Факты гавораць, што мы ўжо пабудавалі фундамент социялістычнага грамадства ў СССР і нам астаецца толькі ўвянчаць яго надбудовамі,—справа, несумненна, больш лёгкая, чым пабудова фундамента социялістычнага грамадства.

Сіла калгасаў і соўгасаў не вычэрпваецца, аднак, ростам іх пасеўных плошчаў і прадукцыі. Яна адлюстроўваецца таксама і ў росце іх трактарнага парка, у росце іх механізацыі. Несумненна, што ў гэтых адносінах нашы калгасы і соўгасы пайшлі далёка ўперад.

Вось адпаведная табліца.

**Трактарны парк у сельскай гаспадарцы СССР (з улікам амартызацыі):**

| | У тысячах штук | | | | | Магутнасць у тыс. конскіх сіл | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1929 г. | 1930 г. | 1931 г. | 1932 г. | 1933 г. | 1929 г. | 1930 г. | 1931 г. | 1932 г. | 1933 г. |
| Усяго трактараў | 34,9 | 72,1 | 125,3 | 148,5 | 204,1 | 391,4 | 1003,5 | 1850,0 | 2225,0 | 3100,0 |
| У тым ліку: | | | | | | | | | | |
| а) трактараў у МТС . . | 2,4 | 31,1 | 63,3 | 74,8 | 122,3 | 23,9 | 372,5 | 848,0 | 1077,0 | 1782,0 |
| б) трактараў у соўгасах усіх сістэм . . | 9,7 | 27,7 | 51,5 | 64,0 | 81,8 | 123,4 | 483,1 | 892,0 | 1043,0 | 1318,0 |

Стала быць, 204 тыс. трактараў і 3 млн. 100 тыс. конскіх сіл для калгасаў і соўгасаў. Сіла, як бачыце, не малая, здольная выкарчаваць усе і ўсякія карэнні капіталізма ў вёсцы. Сіла, удвая перавышаючая тою колькасць трактараў, аб якой гаварыў у свой час Ленін як аб далёкай перспектыве.

Што датычыць парка сельгасмашын у машынна-трактарных станцыях і ў соўгасах Наркамсоўгасаў, то аб гэтым ёсць даныя ў наступных табліцах.

Па МТС.

| | 1930 г. | 1931 г. | 1932 г. | 1933 г. |
|---|---|---|---|---|
| Камбайнаў (у тыс. штук) . . . | 7 штук | 0,1 | 2,2 | 11,5 |
| Рухавікоў і лакэмабіляў (у тыс. штук) | 0,1 | 4,9 | 6,2 | 17,6 |
| Складаных і поўскладаных малатарань (тыс. штук) . . . . . | 2,9 | 27,8 | 37,0 | 50,0 |
| Электраўстановак для малацьбы . | 168 | 268 | 551 | 1283 |
| Лік рамонтных майстэрань у МТС . | 104 | 770 | 1220 | 1933 |
| Грузавых аўтамабіляў (тыс. штук) . | 0,2 | 1,0 | 6,0 | 13,5 |
| Легкавых аўтамабіляў (штук) . . | 17 | 191 | 245 | 2800 |

Па соўгасах Наркамсоўгасаў:

| | 1930 г. | 1931 г. | 1932 г. | 1933 г. |
|---|---|---|---|---|
| Камбайнаў (тыс. штук) . . . | 1,7 | 6,3 | 11,9 | 13,5 |
| Рухавікоў і лакамабіляў (тыс. штук) | 0,3 | 0,7 | 1,2 | 2,5 |
| Складаных і поўскладаных малатарань (тыс. штук) . . . . . | 1,4 | 4,2 | 7,1 | 8,0 |
| Электраўстановак . . . . | 42 | 112 | 164 | 222 |
| Рамонтных майстэрань: | | | | |
| а) капітальнага рамонта. . . | 72 | 133 | 208 | 302 |
| б) сярэдняга рамонта . . . | 75 | 160 | 215 | 476 |
| в) бягучага рамонта . . . | 205 | 310 | 578 | 1166 |
| Грузавых аўтамабіляў (тыс. штук) . | 2,1 | 3,7 | 6,2 | 10,9 |
| Легкавых аўтамабіляў (штук) . . | 118 | 385 | 625 | 1890 |

Я думаю, што гэтыя даныя не патрабуюць раз'ясненняў.

Не малое значэнне мела для ўздыму сельскай гаспадаркі таксама ўтварэнне палітаддзелаў МТС і соўгасаў і снабжэнне сельскай гаспадаркі кваліфікаванымі работнікамі. Цяпер усе прызнаюць, што работнікі палітаддзелаў адыгралі грамадную ролю ў справе палепшання работы калгасаў і соўгасаў. Вядома, што за адчотны перыяд Цэнтральным Камітэтам партыі накіравана ў вёску для ўмацавання кадраў сельскай гаспадаркі больш 23 тыс. комуністаў, з якіх зямельных работнікаў больш 3 тыс., соўгасных работнікаў больш 2 тыс., работнікаў палітаддзелаў МТС больш 13 тыс. і работнікаў палітаддзелаў соўгасаў звыш 5 тысяч.

Тое-ж самае трэба сказаць аб снабжэнні калгасаў і соўгасаў новымі інжынерна-тэхнічнымі і агранамічнымі сіламі. Вядома, што за адчотны перыяд работнікаў гэтай групы накіравана ў сельскую гаспадарку больш 111 тыс. чалавек.

Трактарыстаў, камбайнераў, штурвальных, шофераў падрыхтавана за адчотны перыяд і накіравана па адной толькі наркамземаўскай сістэме звыш 1 млн. 900 тыс. чалавек.

Падрыхтавана і перападрыхтавана за той-жа перыяд старшынь і членаў праўленняў калгасаў, брыгадзіраў па паляводству, брыгадзіраў па жывёлагадоўлі, рахункаводаў—звыш 1 млн. 600 тыс. чалавек.

Гэтага, вядома, мала для нашай сельскай гаспадаркі. Але гэта ўсё-ж кой-што.

Як бачыце, дзяржава зрабіла ўсё магчымае для таго, каб аблягчыць работу органаў Наркамзема і Наркамсоўгасаў па кіраўніцтву калгасным і соўгасным будаўніцтвам.

Ці можна сказаць, што належным чынам скарыстаны гэтыя магчымасці?

На жаль, нельга гэтага сказаць.

Пачаць з таго, што наркаматы гэтыя заражаны ў большай ступені, чым іншыя наркаматы, хваробай бюракратычна-канцылярскіх адносін да справы. Вырашаюць пытанні, але не думаюць аб тым, каб праверыць выкананне, заклікаць да парадку парушыцеляў указанняў і распараджэнняў кіруючых органаў, высунуць уперад чэсных і добрасумленных выканаўцаў.

Наяўнасць грамаднага парка трактараў і машын абавязвае, здавалася-б, зямельныя органы трымаць гэтыя каштоўныя машыны ў парадку, у час іх рамантаваць, выкарыстоўваць іх на рабоце больш ці менш зносна. Што робіцца імі ў гэтай вобласці? На жаль, вельмі мала. Захоўванне трактараў і машын нездавальняючае. Рамонт таксама нездавальняючы, бо да гэтых пор яшчэ не хочуць зразумець, што аснову рамонта састаўляе бягучы і сярэдні рамонт, а не капітальны. Што датычыць выкарыстання трактараў і машын, то нездавальняючае становішча гэтай справы да таго ясна і агульнавядома, што не патрабуе доказаў.

Адной з чарговых задач сельскай гаспадаркі з'яўляецца ўвядзенне правільных севаабаротаў, расшырэнне чыстых папараў, палепшанне насеннай справы па ўсіх галінах земляробства. Што робіцца ў гэтай вобласці? На жаль, пакуль што—вельмі мала. Насенная справа па зерню і бавоўне так заблытана, што прыдзецца яшчэ доўга разблытваць яе.

Адным з сапраўдных сродкаў падняцця ўраджайнасці тэхнічных культур з'яўляецца снабжэнне іх угнаеннямі. Што робіцца ў гэтай вобласці? Пакуль што—вельмі мала. Угнаенні ёсць, але органы Наркамзема не ўмеюць іх прымаць, а прыняўшы, не праяўляюць клопату аб тым, каб у час даставіць іх на месца і рацыянальна іх скарыстаць.

Наконт соўгасаў трэба сказаць, што яны ўсё яшчэ астаюцца не на вышыні сваіх задач. Я далёк ад таго, каб недааценіць вялікае рэволюцыянізуючае значэнне нашых соўгасаў. Але калі супаставіць грамадныя ўкладанні дзяржавы ў справу соўгасаў з цяперашнімі фактычнымі рэзультатамі работы соўгасаў, то атрымліваецца грамадная неадпаведнасць к нявыгадзе соўгасаў. Галоўнай прычынай гэтай неадпаведнасці з'яўляецца тая акалічнасць, што нашы зерневыя соўгасы надта грамоздкі, дырэктары не спраўляюцца з грамаднымі соўгасамі, самі соўгасы надта спецыялізаваны, не маюць севаабароту і папарнага кліну, не маюць у сваім саставе жывёлагадоўчых элементаў. Неабходна, відавочна, разбуйніць соўгасы і ліквідаваць іх празмерную спецыялізаванасць. Можна падумаць, што Наркамсоўгасаў своечасова паставіў гэтае пытанне і дабіўся яго вырашэння. Але гэта не верна. Пытанне было пастаўлена і вырашана па ініцыятыве людзей, не маючых ніякіх адносін да наркамата соўгасаў.

Нарэшце, пытанне аб жывёлагадоўлі. Я ўжо дакладваў аб цяжкім становішчы жывёлагадоўлі. Можна падумаць, што нашы зямельныя органы праяўляюць ліхаманкавую дзейнасць па ліквідацыі крызіса жывёлагадоўлі, што яны падымаюць трывогу, мабілізуюць работнікаў і бяруць на прыступ праблему жывёлагадоўлі. На жаль, нічога падобнага не адбылося і не адбываецца. Яны не толькі не падымаюць трывогу з поваду цяжкага становішча жывёлагадоўлі, а—наадварот—стараюцца замазаць пытанне, а часам у сваіх дакладах прабуюць нават скрыць ад грамадскай думкі краіны сапраўднае становішча жывёлагадоўлі, што зусім недапушчальна для большэвікоў. Спадзявацца пасля гэтага, што зямельныя органы здолеюць вывесці на дарогу і падняць на належную вышыню жывёлагадоўлю,—значыць будаваць на пяску.

Справу жывёлагадоўлі павінны ўзяць у свае рукі ўся партыя, усе нашы работнікі, партыйныя і беспартыйныя, маючы на ўвазе, што праблема жывёлагадоўлі з'яўляецца цяпер такой-жа першачарговай праблемай, якой была ўчора ўжо вырашаная з поспехам праблема зерневая. Няма чаго і даказваць, што совец-

кія людзі, браўшыя не адну сур'ёзную перашкоду на шляху да мэты, здолеюць узяць і гэтую перашкоду (**гром апладысментаў**).

Такі кароткі і далёка няпоўны пералік недахопаў, якія трэба ліквідаваць, і пералік задач, якія трэба вырашыць у бліжэйшы час.

Але справа не вычэрпваецца гэтымі задачамі. Ёсць яшчэ другія задачы па лініі сельскай гаспадаркі, аб якіх трэба было-б сказаць некалькі слоў.

Трэба, перш за ўсё, мець на ўвазе, што стары падзел нашых абласцей на прамысловыя і аграрныя ўжо зжыў сябе. Няма ў нас больш абласцей выключна аграрных, якія-б снабжалі хлебам, мясам, гароднінай прамысловыя вобласці, таксама як няма ў нас больш выключна прамысловых абласцей, якія-б маглі разлічваць на тое, што атрымаюць усе неабходныя прадукты звонку, з іншых абласцей. Развіццё вядзе да таго, што ўсе вобласці становяцца ў нас больш ці менш прамысловымі, і чым далей, тым больш яны будуць станавіцца прамысловымі. Гэта значыць, што Украіна, Паўночны Каўказ, ЦЧВ і іншыя быўшыя аграрныя раёны не могуць ужо больш адпускаць на старану, у прамысловыя цэнтры столькі прадуктаў, колькі адпускалі яны раней, бо вымушаны карміць свае ўласныя гарады і сваіх уласных рабочых, колькасць якіх будзе расці. Але з гэтага вынікае, што кожная вобласць павінна завесці ў сябе сваю сельскагаспадарчую базу, каб мець сваю гародніну, сваю бульбу, сваё масла, сваё малако і ў той ці іншай ступені—свой хлеб, сваё мяса,—калі яна не хоча папасці ў затрудніцельнае становішча. Вы ведаеце, што гэтая справа ўпаўне ажыццявіма і яна ўжо робіцца цяпер.

Задача састаіць у тым, каб давесці гэтую справу да канца што-б там ні стала.

Трэба далей, звярнуць увагу на тое, што пэўны падзел нашых абласцей на спажывецкія і вытвараючыя таксама пачынае траціць свой выключны характар. Такія „спажывецкія" вобласці, як Маскоўская і Горкаўская, далі ў гэтым гаду дзяржаве каля 80 млн. пудоў хлеба. Гэта, вядома, не дробязь. У так званай спажывецкай паласе ёсць каля 5 млн. гектараў цалінных зямель, пакрытых хмызняком. Вядома, што клімат у гэтай паласе не дрэнны, ападкаў не мала, засухі не бывае. Калі ачысціць гэтыя землі ад хмызняку і правесці рад мерапрыемстваў арганізацыйнага характару, можна будзе атрымаць грамадны раён зерневых культур, які можа даць таварнага зерня пры звычайна вялікай ураджайнасці ў гэтых мясцах—не менш, чым дае цяпер Ніжняя або Сярэдняя Волга. Гэта было-б вялікай падмогай для паўночных прамысловых цэнтраў.

Відавочна, задача састаіць у тым, каб утварыць у раёнах спажывецкай паласы вялікі масіў зерневых культур.

Нарэшце пытанне аб барацьбе з засухай у Заваложжы. Насаджэнне лясоў і лесаахоўных палос ва ўсходніх раёнах Заваложжа мае грамаднае значэнне. Гэта работа, як вядома, ужо





праводзіцца, хоць нельга сказаць, каб яна праводзілася з дастатковай інтэнсіўнасцю. Што датычыць абваднення Заваложжа,—а гэта галоўнае з пункту гледжання барацьбы з засухай,—то нельга дапусціць, каб гэтая справа была адкладзена на доўгі час. Праўда, яна была некалькі затарможана некаторымі знешнімі акалічнасцямі, адцягнуўшымі масу сіл і сродкаў. Але цяпер няма больш падставы адкладваць яе далей. Мы не можам абыйсціся без сур'ёзнай і зусім стабільнай, свабоднай ад выпадковасцей пагоды—базы хлебнай вытворчасці на Волзе, даючай штогодна мільёнаў 200 пудоў таварнага зерня. Гэта зусім неабходна, калі ўлічыць рост гарадоў на Волзе, з аднаго боку, і ўсякія магчымыя ўскладненні ў вобласці міжнародных адносін, з другога.

Задача састаіць у тым, каб прыступіць да сур'ёзнай работы па арганізацыі справы абваднення Заваложжа (**апладысменты**).

### 3. Уздым матэрыяльнага становішча і культуры працоўных

Мы абрысавалі такім чынам становішча нашай прамысловасці і сельскай гаспадаркі, іх развіццё за адчотны перыяд, іх стан у даны момант.

У ітогу мы маем:

а) Магутны ўздым вытворчасці як у вобласці прамысловасці, так і ў вобласці асноўных галін сельскай гаспадаркі.

б) Канчатковую перамогу на аснове гэтага ўздыму соцыялістычнай сістэмы гаспадаркі над сістэмай капіталістычнай як у прамысловасці, так і ў сельскай гаспадарцы, ператварэнне соцыялістычнай сістэмы ў адзіную сістэму ўсёй народнай гаспадаркі, выцясненне капіталістычных элементаў з усіх сфер народнай гаспадаркі.

в) Канчатковы адыход грамаднай большасці аднаасобных сялян ад дробна-таварнай аднаасобнай гаспадаркі, аб'яднанне іх у калектыўныя гаспадаркі на базе калектыўнай працы і калектыўнай уласнасці на сродкі вытворчасці, поўную перамогу калектыўнай гаспадаркі над дробна-таварнай індывідуальнай гаспадаркай.

г) Растучы працэс далейшага расшырэння калгасаў за кошт аднаасобных сялянскіх гаспадарак, колькасць якіх падае, такім чынам, з месяца ў месяц і якія ператвараюцца па сутнасці справы ў падсобную сілу для калгасаў і соўгасаў.

Зразумела, што гэтая гістарычная перамога над эксплаататарамі не магла не прывесці да карэнных паляпшэнняў у матэрыяльным становішчы і ва ўсім быту працоўных.

Ліквідацыя паразітычных класаў прывяла да знікнення эксплаатацыі чалавека чалавекам. Праца рабочага і селяніна вызвалена ад эксплаатацыі. Даходы, выціскаўшыяся эксплаататарамі з народнай працы, астаюцца цяпер у руках працоўных і выкарыстоўваюцца часткаю для расшырэння вытворчасці і

прыцягнення ў вытворчасць новых атр даў працоўных, ча т-каю—для прамога павышэння даходаў рабочых і сялян.

Знікла беспрацоўе—біч рабочага класа. Калі ў буржуазных краінах мільёны беспрацоўных церпяць нужду і пакуты з-за адсутнасці работы, то ў нас няма больш рабочых, якія-б не мелі работы і заработку. Са знікненнем кулацкай кабалы знікла галеча ў вёсцы. Любы селянін, калгаснік або аднаасобнік, мае цяпер магчымасць жыць па-чалавечаму, калі ён толькі хоча працаваць чэсна, а не лодырнічаць, не брадзяжнічаць і не раскрадаць калгаснае дабро.

Зніштажэнне эксплаатацыі, зніштажэнне беспрацоўя ў горадзе, зніштажэнне галечы ў вёсцы—гэта такія гістарычныя дасягненні ў матэрыяльным становішчы працоўных, аб якіх не могуць нават марыць рабочыя і сяляне самых што ні на ёсць „дэмакратычных“ буржуазных краін.

Змянілася аблічча нашых буйных гарадоў і прамысловых цэнтраў. Немінучым прызнакам буйных гарадоў буржуазных краін з'яўляюцца трушчобы, так званыя рабочыя кварталы на акраінах горада, прадстаўляючыя груду цёмных, сырых, большай часткай падвальных, поўразбураных памяшканняў, дзе звычайна туліцца немаёмны люд, капошачыся ў гразі і праклінаючы лёс. Рэволюцыя ў СССР прывяла да таго, што гэтыя трушчобы зніклі ў нас. Яны заменены новаадбудаванымі добрымі і светлымі рабочымі кварталамі, пры чым ў многіх выпадках рабочыя кварталы выглядаюць у нас лепш, чым цэнтры горада.

Яшчэ больш змянілася аблічча вёскі. Старая вёска з яе царквой на самым відным месцы, з яе лепшымі дамамі ўрадніка, папа, кулака на першым плане, з яе поўразваленымі хатамі сялян на заднім плане—пачынае знікаць. На яе месца выступае новая вёска з яе грамадска-гаспадарчымі пабудовамі, з яе клубамі, радыё, кіно, школамі, бібліятэкамі і яслямі, з яе трактарамі, камбайнамі, малатарнямі, аўтамабілямі. Зніклі старыя знатныя фігуры кулака-эксплаататара, ліхвяра-крывасмока, купца-спекулянта, бацюшкі-урадніка. Цяпер знатнымі людзьмі з'яўляюцца дзеячы калгасаў і соўгасаў, школ і клубаў, старшыя трактарысты ды камбайнеры, брыгадзіры па паляводству і жывёлагадоўлі, лепшыя ўдарнікі і ўдарніцы калгасных палёў.

Знікае процілегласць паміж горадам і вёскай. Горад перастае быць у вачах сялян цэнтрам іх эксплаатацыі. Усё мацней становяцца ніці гаспадарчай і культурнай змычкі паміж горадам і вёскай. Ад горада і яго прамысловасці вёска атрымлівае цяпер помач—трактарамі, сельгасмашынамі, аўтамабілямі, людзьмі, сродкамі. Ды і сама вёска мае цяпер сваю прамысловасць у выглядзе машынна-трактарных станцый, рамонтных майстэрань, усякага роду прамысловых прадпрыемстваў калгасаў, невялікіх

электрастанцый і т. п. Культурнае бяздонне паміж горадам і вёскай запаўняецца.

Такавы асноўныя дасягненні працоўных у вобласць палепшання іх матэрыяльнага становішча, быту, культуры.

На аснове гэтых дасягненняў мы маем за адчотны перыяд:

а) Рост народнага даходу з 35 млрд. у 1930 г. да 50 млрд. у 1933 г., прычым, з прычыны таго, што доля капіталістычных элементаў, у тым ліку канцэсіянераў, у народным даходзе састаўляе цяпер менш поўпроцанта, то амаль увесь народны даход размяркоўваецца паміж рабочымі і служачымі, працоўнымі сялянамі, кааперацыяй і дзяржавай.

б) Рост насельніцтва Совецкага Саюза з 160,5 млн. чал. у канцы 1930 г. да 168 млн. у канцы 1933 г.

в) Рост колькасці рабочых і служачых з 14530 тыс. у 1930 г. да 21883 тыс. у 1933 г., прычым колькасць асоб фізічнай працы паднялася за гэты перыяд ад 9 млн. 489 тыс. да 13 млн. 797 тыс. чал., колькасць рабочых буйнай прамысловасці, у тым ліку рабочых транспарта, паднялася ад 5 млн. 79 тыс. да 6 млн. 882 тыс. чал., колькасць сельскагаспадарчых рабочых—ад 1 млн. 426 тыс. да 2 млн. 519 тыс. чал., а колькасць рабочых і служачых у гандлі ад 814 тыс. да 1 млн. 497 тыс. чал.

г) Рост фонда заработнай платы рабочых і служачых з 13 млрд. 597 млн. руб, у 1930 г. да 34 млрд. 280 млн. руб. у 1933 г.

д) Рост сярэдне-гадавой заработнай платы рабочых прамысловасці з 991 руб. у 1930 г. да 1 тыс. 519 руб. у 1933 гаду.

е) Рост фонда соцыяльнага страхавання рабочых і служачых з 1 млрд. 810 млн. руб. у 1930 г. да 4 млрд. 610 млн. руб. у 1933 гаду.

ж) Перавод усёй надземнай прамысловасці на семігадзінны рабочы дзень.

з) Помач дзяржавы сялянам у выглядзе арганізацыі для іх 2 тыс. 860 машынна-трактарных станцый з укладаннем у гэтую справу 2 млрд. рублёў.

і) Помач дзяржавы сялянам у выглядзе крэдыту калгасам у размеры 1 млрд. 600 млн. рублёў.

к) Помач дзяржавы сялянам у выглядзе насеннай і харчовай пазычкі на працягу адчотнага перыяду ў размеры 262 млн. пуд. зерня.

л) Помач дзяржавы маламоцным сялянам у выглядзе ільгот па налогу і страхаванню ў размеры 370 млн. рублёў.

Што датычыць культурнага развіцця краіны, мы маем за адчотны перыяд:

а) Увядзенне па ўсяму СССР усеагульнай абавязковай пачатковай адукацыі і павышэнне процанта пісьменнасці з 67 проц. у канцы 1930 г. да 90 проц. у канцы 1933 г.

б) Рост ліку вучашчыхся ў школах усіх ступеней з 14 млн. 358 тыс. у 1929 г. да 26 млн. 419 тыс. чал. у 1933 г., у тым ліку па **пачатковай** адукацыі—з 11 млн. 697 тыс. да 19 млн. 163 тыс., па **сярэдняй** адукацыі—з 2 млн. 453 тыс. да 6 млн. 674 тыс. чал., па **вышэйшай** адукацыі—з 207 тыс. да 491 тыс. чалавек.

в) Рост ліку дзяцей па дашкольнаму навучанню з 838 тыс. у 1929 г. да 5 млн. 917 тыс. у 1933 гаду.

г) Рост ліку вышэйшых навучальных устаноў, агульных і спецыяльных, з 91 адзінкі ў 1914 г. да 600 адзінак у 1933 гаду.

д) Рост ліку навукова-даследчых інстытутаў з 400 адзінак у 1929 г. да 840 у 1933 г.

е) Рост ліку устаноў клубнага тыпу з 32 тыс. у 1929 г. да 54 тыс. у 1933 гаду.

ж) Рост ліку кіно-тэатраў, кіно-установак у клубах і кіно-перасовак з 9 тыс. 800 адзінак у 1929 г. да 20 тыс. 200 адзінак у 1933 гаду.

з) Рост разавага тыража газет з 12 млн. 500 тыс. у 1929 г. да 36 млн. 500 тыс. у 1933 гаду.

Не шкодзіць, можа быць, адзначыць, што ўдзельная вага рабочых сярод вучашчыхся ў вышэйшых навучальных установах састаўляе ў нас 51,4 проц., а ўдзельная вага працоўных сялян—16,5 проц., тады як у Германіі, напрыклад, удзельная вага рабочых сярод вучашчыхся вышэйшых навучальных установах састаўляла ў 1932-33 навучальным гаду ўсяго 3,2 проц., а ўдзельная вага дробных сялян—усяго 2,4 процанта.

Трэба адзначыць, як прыемны факт і як прызнак росту культурнасці ў вёсцы,—рост актыўнасці жанчын-калгасніц у вобласці грамадска-арганізатарскай работы. Вядома, напрыклад, што жанчын-калгасніц састаіць цяпер старшынямі калгасаў—каля 6 тыс., членамі праўленняў калгасаў—звыш 60 тыс., брыгадзірамі—28 тыс., звенавымі арганізатарамі—100 тыс., загадчыкамі калгаснымі таварнымі фермамі—9 тыс., трактарыстамі—7 тыс. Няма чаго і гаварыць, што гэтыя даныя не з'яўляюцца поўнымі. Але і тое малое, што ёсць у гэтых даных, дастаткова ярка гаворыць аб вялікім росце культурнасці ў вёсцы. Гэтая акалічнасць мае, таварышы, грамаднае значэнне. Яна мае грамаднае значэнне таму, што жанчыны састаўляюць палавіну насельніцтва нашай краіны, яны састаўляюць грамадную армію працы, і яны закліканы захоўваць нашых дзяцей, наша будучае пакаленне, г. зн. нашу будучыню. Вось чаму мы не можам дапусціць, каб гэтая грамадная армія працоўных гібела ў цемры і невуцтве! Вось чаму мы павінны вітаць растучую грамадскую актыўнасць працоўных жанчын і іх вылучэнне на кіруючыя пасты, як несумненны прызнак росту нашай культурнасці (**працяглыя апладысменты**).

Нарэшце, трэба адзначыць яшчэ адзін факт, але ўжо адмоўнага характару. Я маю на ўвазе тую недапушчальную з'яву, што педагагічныя і медыцынскія „факультэты" ўсё яшчэ знаходзяцца ў нас ў загоне. Гэта вялікі недахоп, які мяжуе з нарушэннем інтарэсаў дзяржавы. З гэтым недахопам трэба абавязкова пакончыць. І чым хутчэй будзе зроблена гэта, тым лепш.

## 4. Уздым тавараабароту і транспарт

Мы маем такім чынам:

а) рост прадукцыі прамысловасці, у тым ліку прадукцыі паширспажыву;

б) рост прадукцыі сельскай гаспадаркі;

в) рост патрэбнасцей і попыту на прадукты і вырабы з боку працоўных мас горада і вёскі.

Што яшчэ патрабуецца для таго, каб самкнуць гэтыя ўмовы і забяспечыць усёй масе спажыўцоў атрыманне неабходных тавараў і прадуктаў? Некаторыя таварышы думаюць, што дастаткова наяўнасці гэтых умоў, каб эканамічнае жыццё краіны забіла ключом. Гэта глыбокае заблуджэнне. Можна ўявіць, што ёсць усе гэтыя ўмовы, але калі тавар не даходзіць да спажыўца, эканамічнае жыццё не толькі не можа забіць ключом, а наадварот, —будзе расстроена і дэзарганізавана да асновы. Трэба, нарэшце, зразумець, што тавары вытвараюцца ў канчатковым выніку не для вытворчасці, а для спажывання. У нас бывалі выпадкі, калі тавараў і прадуктаў было не мала, але яны не толькі не даходзілі да спажыўца, а прадаўжалі гадамі гуляць ў бюракратычных закавулках так званай таварправодзячай сеткі—у баку ад спажыўца. Зразумела, што пры гэтых умовах прамысловасць і сельская гаспадарка трацілі ўсякі стымул да расшырэння вытворчасці, таварправодзячая сетка затаварвалася, а рабочыя і сяляне аставаліся без тавараў і прадуктаў. У рэзультаце—расстройства эканамічнага жыцця краіны, не гледзячы на наяўнасць тавараў і прадуктаў. Каб эканамічнае жыццё краіны магло забіць ключом, а прамысловасць і сельская гаспадарка мелі стымул да далейшага росту сваёй прадукцыі, трэба мець яшчэ адну ўмову, а іменна—разгорнуты тавараабарот паміж горадам і вёскай, паміж раёнамі і абласцямі краіны, паміж рознымі галінамі народнай гаспадаркі. Неабходна каб краіна была пакрыта багатай сеткай гандлёвых баз, магазінаў, крам. Неабходна, каб па каналах гэтых баз, магазінаў, крам безупынна цыркулявалі тавары ад месц вытворчасці да спажыўца. Неабходна, каб у гэтую справу былі ўцягнуты і дзяржаўная гандлёвая сетка, і кааператыўная гандлёвая сетка, і мясцовая прамысловасць, і калгасы, і аднаасобныя сяляне.

Гэта і называецца ў нас разгорнутым **совецкім гандлем**, гандлем **без** капіталістаў, гандлем **без** спекулянтаў.

Як бачыце, разгортванне совецкага гандлю з'яўляецца той актуальнейшай задачай, без вырашэння якой немагчыма далей рухацца ўперад.

І ўсё-ж, не глядзячы на поўную відавочнасць гэтай ісціны, партыі прышлося перамагаць за адчотны перыяд цэлы рад перашкод на шляху да разгортвання совецкага гандлю, якія можна было-б фармуляваць для кароткасці, як рэзультат вывіха розуму ў адной часткі комуністаў па пытаннях аб неабходнасці і значэнні совецкага гандлю.

Пачаць з таго, што ў радах адной часткі комуністаў ўсё яшчэ пануюць высокамерныя, пагардлівыя адносіны да гандлю наогул, да совецкага гандлю, у прыватнасці. Гэтыя, з дазволу сказаць, комуністы разглядаюць совецкі гандаль, як другарадную, нявартую справу, а работнікаў гандлю,—як кончаных людзей. Гэтыя людзі, відавочна, не разумеюць, што сваімі высокамернымі адносінамі да совецкага гандлю яны выражаюць не большэвіцкія погляды, а погляды захудалых дваран, маючых вялікую амбіцыю, але пазбаўленых усякай амуніцыі (**апладысменты**). Гэтыя людзі не разумеюць, што совецкі гандаль ёсць наша, родная, большэвіцкая справа, а работнікі гандлю, у тым ліку работнікі прылаўка, калі яны толькі працуюць чэсна,—з'яўляюцца праваднікамі нашай, рэволюцыйнай, большэвіцкай справы (**апладысменты**).

Зразумела, што партыі прышлося злёгку паграміць гэтых, з дазволу сказаць, комуністаў, а іх дваранскія прадрассудкі—кінуць у памыйную яму (**працяглыя апладысменты**).

Прышлося пераадалець, далей, прадрассудкі другога роду. Гутарка ідзе аб лявацкай балбатні, якая мае пашырэнне сярод адной часткі нашых работнікаў, аб тым, што совецкі гандаль з'яўляецца нібы пройдзенай стадыяй, што нам трэба наладзіць прамы прадуктаабмен, што грошы будуць хутка адменены, бо яны ператварыліся нібы ў простыя разліковыя знакі, што непатрэбна развіваць гандаль, калі стукаецца ў дзверы прамы прадуктаабмен. Трэба адзначыць, што гэтая лявацка-дробна-буржуазная балбатня, іграючая на-руку капіталістычным элементам, якія імкнуцца сарваць разгортванне совецкага гандлю, мае пашырэнне не толькі сярод адной часткі чырвоных прафесараў, але і сярод некаторых работнікаў гандлю. Зразумела, смешна і забаўна, што гэтыя людзі, няздольныя наладзіць прасцейшую справу совецкага гандлю, балбочуць аб сваёй гатоўнасці наладзіць больш складаную і трудную справу прамога прадуктаабмену. Але Дон-Кіхоты таму і называюцца Дон-Кіхотамі, што яны пазбаўлены элементарнага чуцця жыцця. Гэтыя людзі, якія таксама далёкі ад марксізма, як неба ад зямлі, відавочна, не разумеюць, што грошы астануцца ў нас яшчэ доўга, аж да завяршэння першай стадыі комунізма,—социялістычнай стадыі развіцця. Яны не разумеюць, што грошы з'яўляюцца тым інструментам буржуазнай эканомікі, які ўзяла ў свае рукі Совецкая ўлада і прыстасавала да інтарэсаў социялізма для таго, каб разгарнуць

ва-ўсю совецкі гандаль і падрыхтаваць тым самым умовы для прамога прадуктаабмену. Яны не разумеюць, што прадуктаабмен можа прыйсці толькі на змену і ў рэзультаце ідэальна наладжанага совецкага гандлю, чаго ў нас няма і ў паміне і што не скора будзе ў нас. Зразумела, што партыя, імкнучыся арганізаваць разгорнуты совецкі гандаль, палічыла неабходным паграміць і гэтых „левых“ уродаў, а іх дробна-буржуазную балбатню—пусціць на вецер.

Прышлося, далей, пераадалець нездаровыя прывычкі гандлёвых работнікаў да механічнага размеркавання тавараў, ліквідаваць пагардлівасць да патрабаванняў асартымента і да патрабаванняў спажыўца, ліквідаваць механічную засылку тавараў, абязлічку ў гандлі. У гэтых мэтах былі адкрыты гандлёвыя базы, абласныя і міжраённыя, адкрыты дзесяткі тысяч новых магазінаў і палатак.

Прышлося ліквідаваць, далей, манапольнае становішча каапераццыі на рынку, у сувязі з чым абавязалі ўсе наркаматы адкрыць гандаль уласнымі таварамі, а Наркамснаб—разгарнуць шырокі камерцыйны гандаль сельскагаспадарчымі прадуктамі, што прывяло, з аднаго боку, у парадку спаборніцтва, да палепшання гандлю ў каапераццыі, а з другога боку—да зніжэння цэн на рынку, да аздараўлення рынка.

Разгарнулі шырокую сетку сталовых з паніжанымі цэнамі на адпускаемы тавар („грамадскае харчаванне“), арганізавалі аддзелы рабочага снабжэння („АРС‘ы“) пры заводах і фабрыках з адмацаваннем ад заводскага снабжэння элементаў, не маючых адносін да завода, прычым па адной толькі сістэме Наркамцяжа прышлося адмацаваць не менш 500 тыс. пастаронніх элементаў.

Наладзілі адзіны цэнтралізаваны банк кароткатэрміновага крэдыту—Дзяржаўны банк з 2 тыс. 200 раённых аддзяленняў на мясцах, здольных фінансаваць гандлёвыя аперацыі.

У рэзультаце гэтых мерапрыемстваў мы маем за адчотны перыяд:

а) рост сеткі магазінаў і гандлёвых палатак з 184 тыс. 662 адзінак у 1930 г. да 277 тыс. 974 у 1933 году;

б) новастворанную сетку абласных гандлёвых баз у колькасці 1 тыс. 11 адзінак і міжраённых гандлёвых баз у колькасці 864 адзінак;

в) новастворанную сетку АРС‘аў у колькасці 1 тыс. 600 адзінак;

г) рост сеткі камерцыйных магазінаў па гандлю хлебам, ахапляючай у цяперашні час 330 гарадоў;

д) рост сеткі сталовых грамадскага харчавання, ахапляючай у цяперашні час 19 млн. 800 тыс. спажыўцоў;

е) рост тавараабароту па дзяржаўнай і кааператыўнай лініі з уключэннем сталовых грамадскага харчавання з 18 млрд. 900 млн. рублёў у 1930 г. да 49 млрд. рублёў у 1933 гаду.

Было-б памылкова думаць, што ўсяго гэтага развароту совецкага гандлю дастаткова, каб задаволіць патрэбнасці нашай

эканомікі. Наадварот, цяпер больш, чым калі-небудзь, становіцца ясным, што цяперашняе становішча тавараабароту не можа задаволіць нашых патрэбнасцей. Таму, задача састаіць у тым, каб разгарнуць далей совецкі гандаль, уцягнуць у гэтую справу мясцовую прамысловасць, узмацніць калгасна-сялянскі гандаль і дабіцца новых рашаючых поспехаў у вобласці ўздыму совецкага гандлю.

Неабходна, аднак, адзначыць, што справа не можа абмежавацца адным толькі разгортваннем совецкага гандлю. Калі развіццё нашай эканомікі ўпіраецца ў развіццё тавараабароту, у развіццё совецкага гандлю, то развіццё совецкага гандлю ў сваю чаргу ўпіраецца ў развіццё нашага транспарта як чыгуначнага і воднага, так і аўтамабільнага. Можа здарыцца, што тавары ёсць, маецца поўная магчымасць разгарнуць тавараабарот, але транспарт не паспявае за развіццём тавараабароту і адмаўляецца везці грузы. Як вядома, яно так і бывае ў нас скрозь і ўсюды. Таму транспарт з'яўляецца тым вузкім месцам, аб якое можа спаткнуцца, ды, бадай, ужо пачынае спатыкацца ўся наша эканоміка і, перш за ўсё, наш тавараабарот.

Праўда, чыгуначны транспарт павялічыў свой грузаабарот з 133,9 млрд. тона-кілометраў у 1930 г. да 172 мрд. тона-кілометраў у 1933 г. Але гэтага мала, надта мала для нас, для нашай эканомікі.

Водны транспарт павялічыў свой грузаабарот з 45,6 млрд. тона-кілометраў у 1930 г. да 59,9 млрд. тона-кілометраў у 1933 г. Але гэтага мала, надта мала для нашай эканомікі. Я ўжо не гавару аб аўтамабільным транспарце, парк якога павялічыўся з 8 тыс. 800 аўтамабіляў (грузавых і легкавых) у 1913 г. да 117 тыс. 800 аўтамабіляў у канцы 1933 г. Гэтага так мала для нашай народнай гаспадаркі, што сорамна нават гаварыць аб гэтым.

Не можа быць сумнення, што ўсе гэтыя віды транспарта маглі-б працаваць многа лепш, калі-б органы транспарта не хварэлі вядомай хваробай, называемай канцылярска-бюракратычным метадам кіраўніцтва. Таму, апрача таго, што трэба памагчы транспарту людзьмі і сродкамі, задача састаіць у тым, каб выкараніць у органах транспарта бюракратычна-канцылярскія адносіны да справы і зрабіць іх больш аператыўнымі.

Таварышы! Мы дабіліся таго, што асноўныя пытанні прамысловасці вырашаны правільна і прамысловасць стаіць цяпер цвёрда на нагах. Мы дабіліся таго, што асноўныя пытанні сельскай гаспадаркі таксама вырашаны правільна, і сельская гаспадарка— мы можам сказаць гэта прама—таксама стаіць цяпер цвёрда на нагах. Але мы можам пазбавіцца гэтых дасягненняў, калі наш тавараабарот пачне кульгаць, і транспарт акажацца ў нас гірай на нагах. Таму задача разгортвання тавараабароту і рашучага палепшання транспарта з'яўляецца той чарговай і актуальнейшай задачай, без вырашэння якой мы не можам рухацца ўперад.

III

## Партыя

Пераходжу да пытання аб партыі.

Цяперашні з'езд праходзіць пад флагам поўнай перамогі ленінізма, пад флагам ліквідацыі астаткаў антыленінскіх груповак.

Разбіта і рассеяна антыленінская група трацкістаў. Яе арганізатары акалачваюцца цяпер за граніцай на задворках буржуазных партый.

Разбіта і рассеяна антыленінская група правых ухілістаў. Яе арганізатары даўно ўжо адракліся ад сваіх поглядаў і цяпер усяляк стараюцца загладзіць свае грахі перад партыяй.

Разбіты і рассеяны нацыянал-ухілісцкія групоўкі. Іх арганізатары або канчаткова спаяліся з інтэрвенцыянісцкай эміграцыяй, або прынеслі павінную. Большасць староннікаў гэтых антырэвалюцыйных груп вымушана была прызнаць правільнасць лініі партыі і капітулявала перад партыяй.

Калі на XV з'ездзе прыходзілася яшчэ даказваць правільнасць лініі партыі і весці барацьбу з вядомымі антыленінскімі групоўкамі, а на XVI з'ездзе—дабіваць апошніх прыхільнікаў гэтых груповак, то на гэтым з'ездзе—і даказваць няма чаго, ды, бадай,— і біць няма каго. Усе бачаць, што лінія партыі перамагла (**гром апладысментаў**).

Перамагла палітыка індустрыялізацыі краіны. Яе рэзультаты для ўсіх цяпер відавочны. Што можна запярэчыць супроць гэтага факту?

Перамагла палітыка ліквідацыі кулацтва і суцэльнай калектывізацыі. Яе рэзультаты таксама відавочны для ўсіх. Што можна запярэчыць супроць гэтага факту?

Даказана на вопыце нашай краіны, што перамога соцыялізма ў адной, паасобна ўзятай краіне—упаўне магчыма. Што можна запярэчыць супроць гэтага факту?

Відавочна, што ўсе гэтыя поспехі і, перш за ўсё, перамога пяцігодкі канчаткова дэмаралізавалі і разбілі ўпрах усе і ўсякія антыленінскія групоўкі.

Трэба прызнаць, што партыя згуртавана цяпер у адно, як ніколі раней (**бурныя, доўга незмаўкаючыя апладысменты**).

### 1. Пытанні ідэйна-палітычнага кіраўніцтва

Ці значыць гэта, аднак, што барацьба скончана і далейшае наступленне соцыялізма адпадае, як лішняя рэч?

Не, не значыць.

Ці значыць гэта, што ў нас усё абстаіць у партыі добра, ніякіх ухілаў не будзе ў ёй больш і—стала быць—можна цяпер спачыць на лаўрах?

Не, не значыць

Ворагаў партыі, апартуністаў усіх масцей, нацыянал-ухілістаў усякага роду—разбілі. Але астаткі іх ідэалогіі жывуць яшчэ ў галовах паасобных членаў партыі і нярэдка даюць аб сабе ведаць. Партыю нельга разглядаць як нешта адарванае ад акружаючых людзей. Яна жыве і падвізаецца ўнутры акружаючага яе асяроддзя. Не дзіўна, што ў партыю пранікаюць нярэдка звонку нездаровыя настроі. А глеба для такіх настрояў несумненна ёсць у нашай краіне, хоць-бы таму, што ў нас яшчэ існуюць некаторыя прамежныя слаі насельніцтва як у горадзе, так і ў вёсцы, прадстаўляючыя пажыўнае асяроддзе для такіх настрояў.

XVII канферэнцыя нашай партыі сказала, што адна з асноўных палітычных задач пры ажыццяўленні другой пяцігодкі састаіць „у пераадаленні перажыткаў капіталізма ў эканоміцы і сазнанні людзей“. Гэта зусім правільная мысль. Але ці можна сказаць, што мы ўжо пераадалелі ўсе перажыткі капіталізма ў эканоміцы? Не, нельга гэтага сказаць. Тым больш нельга сказаць, што мы пераадалелі перажыткі капіталізма ў сазнанні людзей. Нельга гэтага сказаць не толькі таму, што сазнанне людзей у яго развіцці адстае ад іх эканамічнага становішча, але і таму, што ўсё яшчэ існуе капіталістычнае акружэнне, якое стараецца ажыўляць і падтрымліваць перажыткі капіталізма ў эканоміцы і сазнанні людзей у СССР і супроць якога мы, большэвікі,—павінны ўвесь час трымаць порах сухім.

Зразумела, што гэтыя перажыткі не могуць не з'яўляцца спрыяючай глебай для ажыўлення ідэалогіі разбітых антыленінскіх груп у галовах паасобных членаў нашай партыі. Дабаўце да гэтага не вельмі высокі тэарэтычны ўзровень большасці членаў нашай партыі, слабую ідэалагічную работу партыйных органаў, загружанасць нашых партыйных работнікаў чыста практычнай работай, аднімаючую ў іх магчымасць папоўніць свой тэарэтычны багаж,—і вы зразумееце, адкуль бярэцца тая блытаніна па раду пытанняў ленінізма ў галовах паасобных членаў партыі, якая нярэдка пранікае ў наш друк і якая аблягчае справу ажыўлення астаткаў ідэалогіі разбітых антыленінскіх груп.

Вось чаму нельга гаварыць, што барацьба скончана і няма больш неабходнасці ў палітыцы наступлення социялізма.

Можна было-б узяць рад пытанняў ленінізма і прадэманстраваць на іх—наколькі яшчэ жывучы сярод некаторых членаў партыі астаткі ідэалогіі разбітых антыленінскіх груп.

Узяць, напрыклад, пытанне аб пабудове **бяскласавага соцыялістычнага грамадства.** XVII канферэнцыя партыі сказала, што мы ідзем да стварэння бяскласавага, соцыялістычнага грамадства. Зразумела, што бяскласавае грамадства не можа прыйсці ў парадку так сказаць самацёку. Яго трэба завяваць і пабудаваць намаганнямі ўсіх працоўных—шляхам ўзмацнення органаў дыктатуры пролетарыята, шляхам разгортвання класавай барацьбы, шляхам знішчэння класаў, шляхам ліквідацыі астат-

каў капіталістычных класаў, у баях з ворагамі, як унутранымі так і ўнешнімі.

Справа, здаецца, ясная.

А між тым каму не вядома, што аглашэнне гэтага яснага і элементарнага тэзіса ленінізма парадзіла немалую блытаніну ў галовах і нездаровыя настроі сярод адной часткі членаў партыі? Тэзіс аб нашым прасоўванні да бяскласавага грамадства, які дан, як лозунг, яны зразумелі, як стыхійны працэс. І яны прыкідвалі: калі бяскласавае грамадства, то значыць—можна аслабіць класавую барацьбу, можна аслабіць дыктатуру пролетарыята і наогул пакончыць з дзяржавай, якая ўсёроўна павінна адмерці ў бліжэйшы час. І яны прыходзілі ў цялячае захапленне ў чаканні таго, што хутка не будзе ніякіх класаў,—значыць не будзе класавай барацьбы,—значыць не будзе клапот і ўсякіх хваляванняў,—значыць можна скласці зброю і пайсці на бакавую—спаць у чаканні прыходу бяскласавага грамадства (агульны смех усяго зала).

Не можа быць сумнення, што гэтая блытаніна ў галовах і гэтыя настроі, як дзве каплі вады падобны на вядомыя погляды правых ухілістаў, у сілу якіх старое павінна самацёкам урасц ў новае, і ў адзін прыгожы дзень мы незаметна павінны апынуцца ў соцыялістычным грамадстве.

Як бачыце, астаткі ідэалогіі разбітых антыленінскіх груп ўпаўне здольны да ажыўлення і далёка яшчэ не страцілі сваёй жывучасці.

Зразумела, што калі-б гэтая блытаніна ў поглядах і гэтыя небольшэвіцкія настроі аўладалі большасцю нашай партыі, партыя аказалася-б дэмабілізаванай і раззброенай.

Возьмем, далей, пытанне аб сельскагаспадарчай арцелі і сельскагаспадарчай комуне. Цяпер усе прызнаюць, што арцель з'яўляецца пры цяперашніх умовах адзіна правільнай формай калгаснага руху. І гэта ўпаўне зразумела:

а) арцель правільна спалучае асабовыя, бытавыя інтарэсы калгаснікаў з іх грамадскімі інтарэсамі, б) арцель удачна прыстасоўвае асабовыя, бытавыя інтарэсы—да грамадскіх інтарэсаў, аблягчаючы тым самым выхаванне ўчарашніх аднаасобнікаў у духу калектывізацыі.

У адрозненне ад арцелі, дзе аграмаджаны толькі сродкі вытворчасці, у комунах да апошняга часу былі аграмаджаны не толькі сродкі вытворчасці, але быт кожнага члена комуны, г. зн. члены комуны ў адрозненне ад членаў арцелі не мелі ў асабовым уладанні хатнюю птушку, дробную жывёлу, карову, зерне, прысядзібную зямлю. Гэта значыць, што ў комунах асабовыя, бытавыя інтарэсы членаў не столькі ўлічваліся і спалучаліся з інтарэсамі грамадскімі, колькі заглушаліся апошнімі ў інтарэсах дробнабуржуазнай ураўнілаўкі. Зразумела, што гэтая акалічнасць з'яўляецца самай слабай стараной комун. Гэтым уласна і аб'ясняецца, што комуны не маюць вялікага пашырэння і папа-

даюцца толькі адзінкамі і дзесяткамі. Па гэтай-жа прычыне комуны, каб адстаяць сваё існаванне і не разваліцца, аказаліся вымушанымі адмовіцца ад аграмаджання быту, пачынаюць працаваць па працаднях, сталі выдаваць зерне на дом, дапускаюць асабовае ўладанне хатняй птушкай, дробнай жывёлай, каровай і т. д. Але з гэтага вынікае, што комуны фактычна перайшлі на становішча арцелей. І ў гэтым няма нічога дрэннага, бо гэтага патрабуюць інтарэсы здаровага развіцця масавага калгаснага руху.

Гэта не значыць, вядома, што комуна наогул не патрэбна, што яна не з'яўляецца больш вышэйшай формай калгаснага руху. Не, комуна патрэбна і яна, вядома, з'яўляецца вышэйшай формай калгаснага руху, але не цяперашняя комуна, якая ўзнікла на базе няразвітай тэхнікі і недахвату прадуктаў і якая сама пераходзіць на становішча арцелей, а—будучая комуна, якая ўзнікне на базе больш развітай тэхнікі і багацця прадуктаў. Цяперашняя сельскагаспадарчая комуна ўзнікла на аснове маларазвітай тэхнікі і недахвату прадуктаў. Гэтым уласна і аб'ясняецца, што яна практыкавала ўраўнілаўку і мала лічылася з асабовымі, бытавымі інтарэсамі сваіх членаў, з прычыны чаго яна вымушана цяпер перайсці на становішча арцелі, дзе разумна спалучаюцца асабовыя і грамадскія інтарэсы калгаснікаў. Будучая комуна вырасце з развітай і заможнай арцелі. Будучая сельскагаспадарчая комуна ўзнікне тады, калі на палях і ў фермах арцелі будзе багацце зерня, жывёлы, птушкі, гародніны і ўсякіх іншых прадуктаў, калі пры арцелях завядуцца механізаваныя пральні, сучасныя кухні-сталовыя, хлебазаводы і т. д., калі калгаснік убачыць, што яму выгадней атрымліваць мяса і малако з фермы, чым заводзіць сваю карову і дробную жывёлу, калі калгасніца ўбачыць, што ёй выгадней абедаць у сталовай, браць хлеб з хлебазавода і атрымліваць сціраную бялізну з грамадскай пральні, чым самой займацца гэтай справай. Будучая комуна ўзнікне на базе больш развітай тэхнікі і больш развітай арцелі, на базе багацця прадуктаў. Калі гэта будзе? Вядома, не скора. Але гэта будзе. Было-б злачынствам штучна паскараць працэс перарастання арцелі ў будучую комуну. Гэта зблытала-б усе карты і аблягчыла-б справу нашых ворагаў. Працэс перарастання арцелі ў будучую комуну павінен адбывацца паступова, па меры таго, як усе калгаснікі будуць пераконвацца ў неабходнасці такога перарастання.

Так абстаіць справа з пытаннем аб арцелі і комуне.

Справа, здавалася-б, ясная і амаль што элементарная.

А між тым, сярод адной часткі членаў партыі ёсць даволі вялікая блытаніна па гэтаму пытанню. Лічаць, што, аб'явіўшы арцель асноўнай формай калгаснага руху, партыя аддалілася ад соцыялізма, адступіла назад ад комуны, ад вышэйшай формы калгаснага руху—да ніжэйшай. Чаму, устае пытанне? Таму, аказваецца, што ў арцелі няма роўнасці, бо там захоўваецца

розніца ў патрэбнасцях і ў асобовым быту членаў арцелі, тады як у комуне ёсць роўнасць, бо там уроўнены і патрэбнасці і асабовае бытавое становішча яе членаў. Але, па-першае, у нас няма больш такіх комун, дзе-б існавалі параўненне, ураўнілаўка ў вобласці патрэбнасцей і асабовага быту. Практыка паказала, што комуны напэўна загінулі-б, калі-б яны не адмовіліся ад ураўнілаўкі і не перайшлі на справе на становішча арцелі. Стала быць, няма чаго спасылацца на тое, чаго няма ўжо ў прыродзе. Па-другое, усякаму ленінцу вядома, калі ён толькі сапраўдны ленінец, што ўраўнілаўка ў вобласці патрэбнасцей і асабовага быту ёсць рэакцыйная дробнабуржуазная недарэчнасць, дастойная якой-небудзь першабытнай секты аскетаў, але не соцыялістычнага грамадства, арганізаванага па-марксісцку, бо нельга патрабаваць каб ва ўсіх людзей былі аднолькавыя патрэбнасці і густы, каб усе людзі ў сваім асобавым быту жылі па аднаму ўзору. І нарэшце: хіба сярод рабочых не захоўваецца розніца, як у патрэбнасцях, так і ў іх асабовым быту? Ці значыць гэта, што рабочыя стаяць далей ад соцыялізма, чым члены сельскагаспадарчых комун?

Гэтыя людзі відавочна думаюць, што соцыялізм патрабуе ўраўнілаўкі, ураўнання, ніверліроўкі патрэбнасцей і асабовага быту членаў грамадства. Няма чаго і гаварыць, што такое прадпалажэнне не мае нічога агульнага з марксізмам, ленінізмам. Пад роўнасцю марксізм разумее не ўраўнілаўку ў вобласці асабовых патрэбнасцей і быту, а зніштажэнне класаў, г. зн. а) роўнае вызваленне ўсіх працоўных ад эксплаатацыі пасля таго, як капіталісты звергнуты і экспрапрыяваны, б) роўнае скасаванне для ўсіх прыватнай уласнасці на сродкі вытворчасці пасля таго, як яны перададзены ва ўласнасць усяго грамадства, в) роўны абавязак усіх працаваць па сваіх здольнасцях і роўнае права ўсіх працоўных атрымліваць за гэта па іх працы (**соцыялістычнае** грамадства), г) роўны абавязак усіх працаваць па сваіх здольнасцях і роўнае права ўсіх працоўных атрымліваць за гэта па іх патрэбнасцях (**комуністычнае** грамадства). Пры гэтым марксізм выходзіць з таго, што густы і патрэбнасці людзей не бываюць і не могуць быць аднолькавымі і роўнымі па якасці або па колькасці ні ў перыяд соцыялізма, ні ў перыяд комунізма.

Вось вам марксісцкае разуменне роўнасці.

Ніякай другой роўнасці марксізм не прызнаваў і не прызнае.

Рабіць адсюль вывад, што соцыялізм патрабуе ўраўнілаўкі, ураўнання, ніверліроўкі патрэбнасцей членаў грамадства, ніверліроўкі іх густаў і асабовага быту, што па марксізму ўсе павінны хадзіць у аднолькавых касцюмах і есці адны і тыя-ж стравы, у адной і той-жа колькасці,—значыць гаварыць пошласці і ўзводзіць паклёп на марксізм.

Пара ўсвоіць, што марксізм з'яўляецца ворагам ураўнілаўкі. Яшчэ ў „Маніфесце комуністычнай партыі" бічавалі Маркс і Энгельс прымітыўны ўтапічны соцыялізм, называючы яго рэак-

цыйным, за яго пропаведзь „усеагульнага аскетызма і грубай ураўнальнасці“. Энгельс у сваім „Анты-Дзюрынгу“ прысвяціў цэлую главу бічуючай крытыцы „радыкальнага ўраўнальнага соцыялізма“, высунутага Дзюрынгам, як процівагу супроць марксісцкага соцыялізма.

„Рэальны змест пролетарскага патрабавання роўнасці гаварыў Энгельс, зводзіцца да патрабавання знішташэння класаў. Усякае патрабаванне роўнасці, якое ідзе далей гэтага, немінуча прыводзіць да недарэчнасці“.

Тое-ж самае гаворыць Ленін:

„Энгельс быў тысячу раз праў, калі пісаў: паняцце роўнасці паміма знішташэння класаў ёсць глупейшы і бязглузды прадрассудак. Буржуазныя прафесары за паняцце роўнасці прабавалі нас высведчыць*) у тым, быццам мы хочам аднаго чалавека зрабіць роўным другому. У гэтай бяссэнсіцы, якую яны самі прыдумалі, яны прабавалі абвінаваціць соцыялістаў. Але яны не ведалі па свайму невуцтву, што соцыялісты—і іменна аснавальнікі сучаснага навуковага соцыялізма, Маркс і Энгельс—гаварылі: роўнасць ёсць пустая фраза, калі пад роўнасцю не разумець знішташэнне класаў. Класы мы хочам знішчыць, у гэтых адносінах мы стаім за роўнасць. Але прэтэндаваць на тое, што мы зробім усіх людзей роўнымі адзін аднаму, гэта пусцейшая фраза і глупая выдумка інтэлігента“. (Прамова Леніна **„Аб абмане народу лозунгамі свабоды і роўнасці“**).

Здаецца, ясва.

Буржуазныя пісьменнікі ахвотна рысуюць марксісцкі соцыялізм, як старую царскую казарму, дзе ўсё падчынена „прынцыпу“ ўраўнілаўкі. Але марксісты не могуць быць адказнымі за невуцтва і тупасць буржуазных пісьменнікаў.

Не можа быць сумнення, што гэта блытаніна ў поглядах у паасобных членаў партыі наконт марксісцкага соцыялізма і захапленне ўраўнілаўскімі тэндэнцыямі сельскагаспадарчых комун падобны, як дзве каплі вады, на дробнабуржуазныя погляды нашых левацкіх галавацяпаў, у якіх ідэалізацыя сельскагаспадарчых комун даходзіла адзін час да таго, што яны прабавалі насадзіць комуны нават на заводах і фабрыках, дзе кваліфікаваныя і некваліфікаваныя рабочыя, працуючы кожны па сваёй прафесіі, павінны былі аддаваць зарплату ў агульны кацёл і дзяліць яе потым пароўну. Вядома, якую шкоду прычынілі нашай прамысловасці гэтыя ўраўнілаўска-мальчышаскія практыкаванні „левых“ галавацяпаў.

Як бачыце, астаткі ідэалогіі разбітых антыпартыйных груп маюць даволі вялікую жывучасць.

*) Изобличить.—*Рэд.*

Зразумела, што калі-б гэтыя лявацкія погляды перамаглі ў партыі, партыя перастала-б быць марксісцкай, а калгасны рух быў-бы ў канец дэзарганізован.

Або, напрыклад, возьмем пытанне аб лозунгу: „**зрабіць усіх калгаснікаў заможнымі**“. Гэты лозунг датычыць не толькі калгаснікаў. Ён яшчэ больш датычыць рабочых, бо мы хочам зрабіць усіх рабочых заможнымі,—людзьмі, вядучымі заможнае і ўпаўне культурнае жыццё.

Здавалася-б, справа ясная. Нашто было звяргаць капіталізм у кастрычніку 1917 г. і будаваць соцыялізм на працягу раду год, калі не даб'емся таго, каб людзі жылі ў нас у давольстве. Соцыялізм азначае не галечу і лішэнні, а зніштажэнне галечы і лішэнняў, арганізацыю заможнага і культурнага жыцця для ўсіх членаў грамадства.

А між тым, гэты ясны і па сутнасці справы элементарны лозунг выклікаў цэлы рад недаўменняў, блытаніну і неразбярыху сярод адной часткі членаў партыі. Ці не ёсць, гавораць яны, гэты лозунг зварот да старога, адвергнутага партыяй, лозунгу: „абагачайцеся“? Калі ўсе стануць заможнымі, прадаўжаюць яны, і бедната перастане існаваць,—на каго-ж нам, большэвікам, апірацца ў сваёй рабоце, як-жа мы будзем працаваць без беднаты?

Можа быць гэта і смешна, але існаванне такіх наіўных і антыленінскіх поглядаў сярод часткі членаў партыі з'яўляецца несумненным фактам, з якім нельга не лічыцца.

Гэтыя людзі, відавочна, не разумеюць, што паміж лозунгам „абагачайцеся“ і лозунгам „зрабіць усіх калгаснікаў заможнымі“ ляжыць цэлае бяздонне. Па-першае,—абагачацца могуць толькі **аддзельныя** асобы ці групы, тады як лозунг аб заможным жыцці датычыцца не аддзельных асоб ці груп, а ўсіх калгаснікаў. Па-другое, абагачаюцца **аддзельныя** асобы ці групы для таго, каб падчыніць сабе астатніх людзей і **эксплаатаваць** іх, тады як лозунг аб заможным жыцці ўсіх калгаснікаў пры наяўнасці абагамаджання сродкаў вытворчасці ў калгасах **выключае** ўсякую магчымасць эксплаатацыі адных другімі. Па-трэцяе, лозунг „абагачайцеся“ быў дан у перыяд пачатковай стадыі нэпа, калі капіталізм часткова аднаўляўся, калі кулакі былі ў сіле, у краіне пераважала аднаасобная сялянская гаспадарка, а калгасная гаспадарка знаходзілася ў зачатковым стане, тады як лозунг „зрабіць усіх калгаснікаў заможнымі“ дан у апошняй стадыі нэпа, калі капіталістычныя элементы ў прамысловасці зніштожаны, кулакі ў вёсцы разгромлены, індывідуальная сялянская гаспадарка адцясвёна на задні план, а калгасы ператвораны ў пануючую форму сельскай гаспадаркі. Я ўжо не гавару аб тым, што лозунг „зрабіць усіх калгаснікаў заможнымі“ дан не ізалявана, а ў неразрыўнай сувязі з лозунгам „зрабіць калгасы большэвіцкімі“.

Ці не ясна, што лозунг „абагачайцеся“ азначаў па сутнасці справы заклік—**аднавіць** капіталізм, тады як лозунг „зрабіць усіх калгаснікаў заможнымі“ азначае заклік—**дабіць** апошнія

астаткі капіталізма шляхам узмацнення эканамічнай магутнасці калгасаў і ператварэння ўсіх калгаснікаў у заможных працаўнікоў? (**выклікі:** правільна!)

Ці не ясна, што паміж гэтымі лозунгамі няма і не можа быць нічога агульнага? (**выклікі:** правільна!)

Што датычыць таго, што без існавання беднаты нямыслімы, быццам, ні большэвіцкая работа, ні соцыялізм, то гэта такое глупства, аб якім нялоўка нават гаварыць. Ленінцы апіраюцца на беднату, калі ёсць капіталістычныя элементы і ёсць бедната, якую эксплаатуюць капіталісты. Але калі капіталістычныя элементы разгромлены, а бедната вызвалена ад эксплаатацыі, задача ленінцаў састаіць не ў тым, каб замацаваць і захаваць беднасць і беднату, прадпасылкі іcнавання якіх ужо зніштожаны, а ў тым каб зніштожыць беднасць і падняць беднату да заможнага жыцця. Было-б глупа думаць, што соцыялізм можа быць пабудаван на базе галечы і лішэнняў, на базе скарачэння асобовых патрэбнасцей і зніжэння ўзроўню жыцця людзей да ўзроўню жыцця беднаты, якая да таго-ж сама не хоча больш аставацца беднатой і прэ ўверх да заможнага жыцця. Каму патрэбен такі, з дазволу сказаць, соцыялізм? Гэта быў-бы не соцыялізм, а карыкатура на соцыялізм. Соцыялізм можа быць пабудаван толькі на базе бурнага росту прадукцыйных сіл грамадства, на базе багацця прадуктаў і тавараў, на базе заможнага жыцця працоўных, на базе бурнага росту культурнасці. Бо соцыялізм, марксісцкі соцыялізм, азначае не скарачэнне асабовых патрэбнасцей, а ўсямернае іх расшырэнне і росквіт, не абмежаванне або адмову ад задавальнення гэтых патрэбнасцей, а ўсебаковае і поўнае задавальненне ўсіх патрэбнасцей культурна-развітых працоўных людзей.

Не можа быць сумнення, што гэта блытаніна ў поглядах у паасобных членаў партыі наконт беднаты і заможнасці ёсць адлюстраванне поглядаў нашых лявацкіх галавацяпаў, ідэалізуючых беднату, як спрадвечную апору большэвізма пры ўсіх і ўсякіх умовах і разглядаючых калгасы, як арэну лютай класавай барацьбы.

Як бачыце, і тут, у гэтым пытанні, астаткі ідэалогіі разбітых антыпартыйных груп усё яшчэ не трацяць сваёй жывучасці.

Зразумела, што калі-б падобныя галавацяпскія погляды атрымалі перамогу ў нашай партыі, калгасы не мелі-б тых поспехаў, якіх яны дабіліся за апошнія два гады, і яны развалілiся-б у самы кароткі тэрмін.

Або ўзяць, напрыклад, **нацыянальнае пытанне.** І тут таксама, у вобласці нацыянальнага пытання, як і ў вобласці іншых пытанняў, у адной часткі партыі ёсць блытаніна ў поглядах, стварающая пэўную небяспеку. Я гавару аб жывучасці перажыткаў капіталізма. Трэба адзначыць, што перажыткі капіталізма ў сазнанні людзей куды больш жывучы ў вобласці нацыянальнага пытання, чым у любой іншай вобласці. Яны больш жывучы, бо маюць магчымасць добра маскіравацца ў нацыянальным касцюме.

Многія думаюць, што грэхападзенне Скрыпніка ёсць адзіны выпадак, выключэнне з правіла. Гэта не верна. Грэхападзенне Скрыпніка і яго групы на Украіне не ёсць выключэнне. Такія-ж вывіхі назіраюцца ў паасобных таварышоў і ў іншых нацыянальных рэспубліках.

Што значыць ухіл да нацыяналізма,—усёроўна, ці ідзе гутарка аб ухіле да вялікарускага нацыяналізма ці аб ухіле да мясцовага нацыяналізма? Ухіл да нацыяналізма ёсць прыстасаванне інтэрнацыяналісцкай палітыкі рабочага класа да нацыяналісцкай палітыкі буржуазіі. Ухіл да нацыяналізма адлюстроўвае спробы „сваёй“, „нацыянальнай“ буржуазіі падарваць совецкі лад і аднавіць капіталізм. Крыніца ў абодвух ухілаў, як бачыце,—агульная. Гэта—**адыход** ад ленінскага інтэрнацыяналізма. Калі хочаце трымаць пад агнём абодва ўхілы, трэба біць, перш за ўсё, па гэтай крыніцы, па тых, якія адыходзяць ад інтэрнацыяналізма—усёроўна—ці ідзе гутарка аб ухіле да мясцовага нацыяналізма, ці аб ухіле да вялікарускага нацыяналізма (**бурныя апладысменты**).

Спрачаюцца аб тым, які ўхіл прадстаўляе галоўную небяспеку, ухіл да вялікарускага нацыяналізма, ці ўхіл да мясцовага нацыяналізма? Пры сучасных умовах гэта—фармальная і таму пустая спрэчка. Глупа было-б даваць прыгодны для ўсіх часоў і ўмоў гатовы рэцэпт аб галоўнай і негалоўнай небяспецы. Такіх рэцэптаў няма наогул у прыродзе. Галоўную небяспеку прадстаўляе той ухіл, супроць якога перасталі бароцца і якому далі такім чынам разрасціся да дзяржаўнай небяспекі (**працяглыя апладысменты**).

На Украіне яшчэ зусім нядаўна ўхіл да ўкраінскага нацыяналізма не прадстаўляў галоўнай небяспекі, але калі перасталі з ім бароцца і далі яму разрасціся да таго, што ён самкнуўся з інтэрвенцыяністамі, гэты ўхіл стаў галоўнай небяспекай. Пытанне аб галоўнай небяспецы ў вобласці нацыянальнага пытання вырашаецца не пустапарожнімі фармальнымі спрэчкамі, а марксісцкім аналізам становішча спраў у даны момант і вывучэннем тых памылак, якія дапушчаны ў гэтай вобласці.

Тое-ж самае трэба сказаць аб **правым** і **„левым“ ухіле** ў вобласці агульнай палітыкі. І тут, як і ў іншых абласцях, ёсць немалая блытаніна ў поглядах у паасобных членаў нашай партыі. Часам, вядучы барацьбу супроць правага ўхілу, адводзяць руку ад „левага“ ўхілу і аслабляюць барацьбу з ім, лічачы, што ён не небяспечны або мала небяспечны. Гэта сур'ёзная і небяспечная памылка. Гэта ўступка „леваму“ ўхілу, недапушчальная для члена партыі. Гэта тым больш недапушчальна, што ў апошні час „левыя“ канчаткова скаціліся на пазіцыю правых і па сутнасці справы нічым ад іх ужо не адрозніваюцца.

Мы заўсёды заяўлялі, што „левыя“—гэта тыя-ж правыя, маскіруючыя сваю правізну левымі фразамі. Цяпер „левыя“ самі пацвярджаюць гэтую нашу заяву. Вазьміце мінулагодняя нумары трацкісцкага „Бюлетэня“. Чаго патрабуюць і аб чым пі-

шуць там паны трацкісты, у чым выражаецца іх „левая“ праграма? Яны патрабуюць: **роспуску соўгасаў**, як нерэнтабельных, **роспуску большай часткі калгасаў**, як дутых, **адмовы ад палітыкі ліквідацыі кулацтва, звароту да канцэсійнай палітыкі і здачы ў канцэсію цэлага раду нашых прамысловых прадпрыемстваў**, як нерэнтабельных.

Вось вам праграма агідных трусаў і капітулянтаў, контррэволюцыйная праграма аднаўлення капіталізма ў СССР!

Чым яна адрозніваецца ад праграмы крайніх правых? Ясна, што нічым. Выходзіць, што „левыя“ адкрыта далучыліся да контррэволюцыйнай праграмы правых для таго, каб саставіць з імі блок і павесці сумесную барацьбу супроць партыі.

Як можна пасля гэтага гаварыць што „левыя“ не небяспечны або мала небяспечны?! Ці не ясна, што людзі, гаворачыя такую бязглуздзіцу, льюць ваду на млын заклятых ворагаў ленінізма?

Як бачыце, і тут, у вобласці ўхілаў ад лініі партыі,—усёроўна, ці ідзе гутарка аб ухілах па агульнай палітыцы, ці аб ухілах у нацыянальным пытанні,—перажыткі капіталізма ў сазнанні людзей, у тым ліку ў сазнанні паасобных членаў нашай партыі—маюць дастатковую жывучасць.

Вось вам некалькі сур'ёзных і актуальных пытанняў нашай ідэйна-палітычнай работы, па якіх ёсць у паасобных праслойках партыі неяснасць поглядаў, блытаніна, а то і прамое адхіленне ад ленінізма. А гэта-ж не адзіныя пытанні, на якіх можна было-б дэманстраваць блытаніну ў поглядах сярод паасобных членаў партыі.

Ці можна пасля гэтага гаварыць, што ў нас усё абстаіць у партыі добра?

Ясна, што нельга.

Нашы задачы ў вобласці ідэйна-палітычнай работы:

1) Падняць тэарэтычны ўзровень партыі на належную вышыню;

2) Узмацніць ідэалагічную работу ва ўсіх звеннях партыі;

3) Весці нястомную прапаганду ленінізма ў радах партыі;

4) Выхоўваць партарганізацыі і акружаючы іх беспартыйны актыў у духу ленінскага інтэрнацыяналізма;

5) Не замазваць, а крытыкаваць смела адхіленні некаторых таварышоў ад марксізма-ленінізма;

6) Сістэматычна выкрываць ідэалогію і астаткі ідэалогіі варожых ленінізму плыней.

### 2. Пытанні арганізацыйнага кіраўніцтва

Я гаварыў аб нашых поспехах. Гаварыў аб перамозе лініі партыі як у вобласці народнай гаспадаркі і культуры, так і ў вобласці пераадалення антыленінскіх груповак у партыі. Я га-

варыў аб сусветна-гістарычным значэнні нашай перамогі. Гэта не значыць, аднак, што перамога атрымана ўсюды і ва ўсім і ўжо вырашаны ўсе пытанні. Такіх поспехаў і перамог наогул не бывае ў прыродзе. Не вырашаных пытанняў і прарэх усякага роду астаецца ў нас яшчэ не мала. Уперадзе ў нас—куча задач, патрабуючых вырашэння. Але гэта несумненна азначае, што большая частка неадкладных чарговых задач ужо вырашана з поспехам і ў гэтым сэнсе велізарнейшая перамога нашай партыі не падлягае сумненню.

Але вось пытанне: як стваралася гэтая перамога, як яна здабывалася на справе, якой барацьбой, якімі намаганнямі?

Некаторыя думаюць, што дастаткова выпрацаваць правільную лінію партыі, абвясціць яе ўсеагульна, ізлажыць яе ў выглядзе агульных тэзісаў і рэзалюцый і прагаласаваць яе аднагалосна, каб перамога прышла сама сабой, так сказаць, самацёкам. Гэта, зразумела, няверна. Гэта вялікае заблуджэнне. Так могуць думаць толькі непапраўныя бюракраты і канцылярысты. На самой справе, гэтыя поспехі і перамогі былі атрыманы не ў парадку самацёку, а ў парадку зацятай барацьбы за правядзенне лініі партыі. Перамога ніколі не прыходзіць сама,—яе звычайна прыцягваюць. Добрыя рэзалюцыі і дэкларацыі за генеральную лінію партыі—гэта толькі пачатак справы, бо яны азначаюць толькі жаданне перамагчы, але не самую перамогу. Пасля таго, як дана правільная лінія, пасля таго, як дана правільнае рашэнне пытання, поспех справы залежыць ад арганізацыйнай работы, ад арганізацыі барацьбы за правядзенне ў жыццё лініі партыі, ад правільнага падбору людзей, ад праверкі выканання рашэнняў кіруючых органаў. Без гэтага правільная лінія партыі і правільныя рашэнні рыскуюць пацярпець сур'ёзны ўшчэрб. Больш таго: пасля таго, як дана правільная палітычная лінія, арганізацыйная работа вырашае ўсё, у тым ліку і лёс самой палітычнай лініі—яе выкананне, або яе правал.

На самой справе перамога была здабыта і заваявана шляхам сістэматычнай і зацятай барацьбы з усякага роду труднасцямі на шляху да правядзення лініі партыі, шляхам пераадалення гэтых труднасцей, шляхам мабілізацыі партыі і рабочага класа на справу пераадалення труднасцей, шляхам арганізацыі барацьбы за пераадаленне труднасцей, шляхам зняцця нягодных работнікаў і падбору лепшых, здольных павесці барацьбу з труднасцямі.

Што гэта за труднасці і дзе яны гняздзяцца?

Гэтыя труднасці з'яўляюцца труднасцямі нашай арганізацыйнай работы, труднасцямі нашага арганізацыйнага кіраўніцтва.

Яны гняздзяцца ў нас саміх, у нашых кіруючых работніках, у нашых арганізацыях, у апаратах нашых партыйных, савецкіх, гаспадарчых, профсаюзных, комсамольскіх і ўсякіх іншых арганізацый.

Трэба зразумець, што сіла і аўтарытэт нашых партыйна-совецкіх, гаспадарчых і ўсякіх іншых арганізацый і іх кіраўнікоў выраслі да небывалай ступені. Іменна таму, што іх сіла і аўтарытэт выраслі да небывалай ступені,—ад іх работы залежыць цяпер усё або амаль усё. Спасылка на так званыя аб'ектыўныя ўмовы не мае апраўдання. Пасля таго як правільнасць палітычнай лініі партыі пацверджана вопытам раду год, а гатоўнасць рабочых і сялян падтрымаць гэтую лінію не выклікае больш сумненняў,—роля так званых аб'ектыўных умоў звялася да мінімума, тады як роля нашых арганізацый і іх кіраўнікоў стала рашаючай, выключнай. А што гэта значыць? Гэта значыць, што адказнасць за нашы прарывы і недахопы ў рабоце кладзецца ад гэтага часу на дзевяць дзесятых не на „аб'ектыўныя" ўмовы, а на нас саміх, і толькі на нас.

Мы маем у партыі больш двух мільёнаў членаў і кандыдатаў. Мы маем у комсамоле больш чатырох мільёнаў членаў і кандыдатаў. Мы маем звыш трох мільёнаў рабочых і сялянскіх карэспандэнтаў, У Асоавіяхіме ёсць у нас больш 12 мільёнаў членаў. У профсаюзах—звыш 17 мільёнаў членаў. Гэтым арганізацыям абавязаны мы нашымі поспехамі. І калі, не гледзячы на наяўнасць такіх арганізацый і такіх магчымасцей, аблягчаючых дасягненне поспехаў, мы маем не мала недахопаў у рабоце і немалую колькасць прарываў, то вінаваты ў гэтым толькі мы, наша арганізацыйная работа, наша дрэннае арганізацыйнае кіраўніцтва.

Бюракратызм і канцылярщчына апаратаў кіраўніцтва; балбатня аб „кіраўніцтве наогул" замест жывога і канкрэтнага кіраўніцтва; функцыянальная пабудова арганізацыі і адсутнасць асабовай адказнасці; абязлічка ў рабоце і ўраўнілаўка ў сістэме зарплаты; адсутнасць сістэматычнай праверкі выканання; боязнь самакрытыкі,—вось дзе крыніцы нашых труднасцей, вось дзе гняздзяцца цяпер нашы труднасці.

Было-б наіўна думаць, што можна пабароць гэтыя труднасці пры помачы рэзалюцый і пастаноў. Бюракраты і канцылярысты даўно ўжо набілі руку на тым, каб на словах прадэманстраваць вернасць рашэнням партыі і ўрада, а на справе—пакласці іх пад сукно, Каб перамагчы гэтыя труднасці, трэба было ліквідаваць адставанне нашай арганізацыйнай работы ад патрабаванняў палітычнай лініі партыі, трэба было падняць узровень арганізацыйнага кіраўніцтва ва ўсіх сферах народнай гаспадаркі да ўзроўню палітычнага кіраўніцтва, трэба было дабіцца таго, каб наша арганізацыйная работа забяспечвала практычнае правядзенне ў жыццё палітычных лозунгаў і рашэнняў партыі.

Каб перамагчы гэтыя труднасці і дабіцца поспехаў, трэба было **арганізаваць** барацьбу за пераадаленне гэтых труднасцей, трэба было ўцягнуць масы рабочых і сялян у гэтую барацьбу, трэба быле мабілізаваць самую партыю, трэба было ачысціць

партыю і гаспадарчыя арганізацыі ад ненадзейных, няўстойлівых, перарадзіўшыхся элементаў.

Што патрабавалася для гэтага?

Нам трэба было арганізаваць:

1) Разгортванне самакрытыкі і ўскрыццё недахопаў у нашай рабоце;

2) Мабілізацыю партыйных, совецкіх, гаспадарчых, профсаюзных і комсамольскіх арганізацый на барацьбу з труднасцямі;

3) Мабілізацыю рабоча-сялянскіх мас на барацьбу за правядзенне ў жыццё лозунгаў і рашэнняў партыі і ўрада;

4) Разгортванне спаборніцтва і ўдарніцтва сярод працоўных;

5) Шырокую сетку палітаддзелаў МТС і соўгасаў і набліжэнне партыйна-совецкага кіраўніцтва да сяла;

6) Разбуйненне наркаматаў, галоўных кіраўніцтваў і трэстаў і набліжэнне гаспадарчага кіраўніцтва да прадпрыемства;

7) Зніштажэнне абязлічкі ў рабоце і ліквідацыю ўраўнілаўкі ў сістэме зарплаты;

8) Зніштажэнне „функцыяналкі", узмацненне асабовай адказнасці і ўстаноўку на ліквідацыю калегій;

9) Узмацненне праверкі выканання і ўстаноўку на рэарганізацыю ЦКК і РСІ ў духу далейшага ўзмацнення праверкі выканання;

10) Перамяшчэнне кваліфікаваных работнікаў з канцылярыі бліжэй да вытворчасці;

11) Выкрыццё і выгнанне з апаратаў кіраўніцтваў непапраўных бюракратаў і канцылярыстаў;

12) Зняцце з пастоў нарушыцеляў рашэнняў партыі і ўрада, очкаўціраццеляў і балбатуноў і вылучэнне на іх месца новых людзей,—людзей справы, здольных забяспечыць канкрэтнае кіраўніцтва даручанай работай і ўмацаванне партыйна-совецкай дысцыпліны;

13) Чыстку совецка-гаспадарчых арганізацый і скарачэнне іх штатаў;

14) Нарэшце, чыстку партыі ад ненадзейных і перарадзіўшыхся людзей.

Вось у асноўным тыя сродкі, якія павінна была выставіць партыя для таго, каб перамагчы труднасці, падняць узровень нашай арганізацыйнай работы да ўзроўню палітычнага кіраўніцтва і забяспечыць, такім чынам, правядзенне ў жыццё лініі партыі.

Вы ведаеце, што ЦК нашай партыі так іменна і вёў сваю арганізацыйную работу за адчотны перыяд.

ЦК кіраваўся пры гэтым геніяльнай мыслю Леніна аб тым, што галоўнае ў арганізацыйнай рабоце—**падбор людзей і праверка выканання.**

Па частцы падбора людзей і зняцця тых, якія не апраўдалі сябе, я хацеў-бы сказаць некалькі слоў.

Апрача непапраўных бюракратаў і канцылярыстаў, наконт устаранення якіх у нас няма ніякіх рознагалоссяў,—ёсць у нас яшчэ два тыпы работнікаў, якія тармозяць нашу работу, перашкаджаюць нашай рабоце і не даюць нам рухацца ўперад.

Адзін тып работнікаў, гэта людзі з пэўнымі заслугамі ў мінулым, людзі, стаўшыя вяльможамі, людзі, якія лічаць, што партыйныя і совецкія законы пісаны не для іх, а для дурняў. Гэта тыя самыя людзі, якія не лічаць сваім абавязкам выконваць рашэнні партыі і ўрада і якія разбураюць, такім чынам, асновы партыйнай і дзяржаўнай дысцыпліны. На што яны разлічваюць, нарушаючы партыйныя і совецкія законы? Яны спадзяюцца на тое, што Совецкая ўлада не адважыцца крануць іх з-за іх старых заслуг. Гэтыя зазнаўшыяся вяльможы думаюць, што яны незамянімы і што яны могуць бяскарна нарушаць рашэнні кіруючых органаў. Як быць з такімі работнікамі? Іх трэба без хістанняў здымаць з кіруючых пастоў, не гледзячы на іх заслугі ў мінулым (**галасы:** правільна!). Іх трэба знімаць з паніжэннем па пасадзе і апублікоўваць аб гэтым у друку (**галасы:** правільна!).

Гэта неабходна для таго, каб збіць фанабэрыю з гэтых зазнаўшыхся вяльмож-бюракратаў і паставіць іх на месца. Гэта неабходна для таго, каб умацаваць партыйную і совецкую дысцыпліну ва ўсёй нашай рабоце (**галасы:** правільна! **Апладысменты**).

А цяпер аб другім тыпе работнікаў. Я маю на ўвазе тып балбатуноў, я-б сказаў чэсных балбатуноў (**смех**), людзей чэсных, адданых совецкай уладзе, але не здольных кіраваць, не здольных што-небудзь арганізаваць. У мяне ў мінулым гаду была гутарка з адным такім таварышам, вельмі паважаным таварышам, але непапраўным балбатуном, здольным патапіць у балбатні любую жывую справу. Вось яна, гэтая гутарка:

Я: як у вас абстаіць справа з сяўбой?

Ён: з сяўбой, тав. Сталін? Мы мабілізаваліся (**смех**).

Я: ну, і што-ж?

Ён: мы паставілі пытанне рубам (**смех**).

Я: ну, а далей як?

Ён: у нас ёсць пералом, тав. Сталін, хутка будзе пералом (**смех**).

Я: а ўсё-такі?

Ён: у нас намячаюцца зрухі (**смех**).

Я: ну, а ўсё-такі, як у вас з сяўбой?

Ён: з сяўбой у нас пакуль нічога не выходзіць, тав. Сталін (**агульны хохат**).

Вось вам фізіяномія балбатуна. Яны мабілізаваліся, паставілі пытанне рубам, у іх і пералом, і зрухі, а справа не рухаецца з месца.

Зусім таксама, як ахарактарызаваў нядаўна адзін украінскі рабочы становішча адной арганізацыі, калі яго запыталі аб наяўнасці лініі ў гэтай арганізацыі: „Што-ж, лінія... Лінія, зразумела, ёсць, толькі работы не відаць" (**агульны смех**). Відавочна, што гэта арганізацыя таксама мае сваіх чэсных балбатуноў.

І калі знімаюць з пастоў такіх балбатуноў, адсылаючы іх далей ад апаратыўнай работы, яны разводзяць рукамі і недаўмяваюць: „За што-ж нас знімаюць? Хіба мы не зрабілі ўсяго таго, што неабходна для справы, хіба мы не сабралі злёт ударнікаў, хіба мы не абвясцілі на канферэнцыі ўдарнікаў лозунгі партыі і ўрада, хіба мы не выбралі ўвесь састаў палітбюро ЦК у ганаровы прэзідыум (**агульны смех**), хіба не паслалі прывітання тав. Сталіну,—чаго-ж яшчэ хочаце ад нас?" (**агульны хохат**).

Як быць з гэтымі непапраўнымі балбатунамі? Бо калі іх пакінуць на апаратыўнай рабоце, яны здольны патапіць любую жывую справу ў патоку вадзяністых і бясконцых прамоў. Відавочна, што іх трэба знімаць з кіруючых пастоў і ставіць на іншую, не апаратыўную работу. Балбатунам не месца на апаратыўнай рабоце (**галасы**: правільна! **Апладысменты**).

Як накіроўваў ЦК справу падбора людзей у савецкіх і гаспадарчых арганізацыях і як ён вёў справу ўмацавання праверкі выканання,—я ўжо далажыў коратка. Больш падрабязна даложыць вам тав. Кагановіч па трэцяму пункту парадку дня з'езда.

Што датычыць далейшай работы па ўзмацненню праверкі выканання, то аб гэтым я хацеў-бы сказаць некалькі слоў.

Правільная арганізацыя праверкі выканання мае рашаючае значэнне ў справе барацьбы з бюракратызмам і канцыляршчынай. Ці праводзяцца рашэнні кіруючых арганізацый ці кладуцца пад сукно бюракратамі і канцылярыстамі? Ці праводзяцца яны правільна ці скажаюцца? Ці працуе апарат чэсна і па-большэвіцку ці верціцца на халастым ходу,—аб усім гэтым можна даведацца ў час толькі ў рэзультаце добра пастаўленай праверкі выканання. Добра пастаўленая праверка выканання—гэта той пражэктар, які памагае асвятляць становішча работы апарата ў любы час і выводзіць на свет божы бюракратаў і канцылярыстаў. Можна з упэўненасцю сказаць, што $^{9}/_{10}$ нашых прарэх і прарываў аб'ясняецца адсутнасцю правільна пастаўленай праверкі выканання. Не можа быць сумнення, што пры наяўнасці такой праверкі выкананне прарэхі і прарывы былі-б напэўна папярэджаны.

Але, каб праверка выканання дасягнула мэты, неабходны па крайняй меры дзве ўмовы: па-першае,—каб праверка выканання была сістэматычная, а не эпізадычная; па-другое,—каб на чале справы праверкі выканання ва ўсіх звеннях партыйна-савецкіх і гаспадарчых арганізацый стаялі не другарадныя асобы, а дастаткова аўтарытэтныя людзі,—самі кіраўнікі арганізацыі.

Найбольшае значэнне мае правільная арганізацыя праверкі выканання для цэнтральных кіруючых устаноў. РСІ па сваёй арганізацыі не можа задавольваць патрабаванням добра пастаў-

ленай праверкі выканання. Некалькі год таму назад, калі наша гаспадарчая работа была больш простая і менш здавальняючая і калі можна было разлічваць на магчымасць **інспектавання** работы ўсіх наркаматаў і ўсіх гасарганізацый, PCI была на месцы. Але цяпер, калі наша гаспадарчая работа разраслася і стала больш складанай, і калі няма ўжо ні неабходнасці, ні магчымасці **інспектаваць** яе з аднаго цэнтра, PCI павінна перабудавацца. Нам патрэбна цяпер не інспекцыя, а праверка выканання рашэнняў цэнтра,—нам патрэбен цяпер **кантроль** над выкананнем рашэнняў цэнтра. Нам патрэбна цяпер такая арганізацыя, якая, не задаючыся ўніверсальнай мэтай інспектавання ўсіх і ўся, магла-б сканцэнтраваць усю сваю ўвагу на рабоце па кантролю, на рабоце па праверцы выканання рашэнняў цэнтральных устаноў Совецкай улады. Такой арганізацыяй можа быць толькі Камісія Совецкага Кантролю пры СНК Саюза ССР, працуючая па заданнях СНК і маючая на мясцах незалежных ад мясцовых органаў прадстаўнікоў. А каб у яе быў дастатковы аўтарытэт і каб яна магла ў выпадку неабходнасці прыцягнуць да адказнасці любога адказнага работніка,—неабходна, каб кандыдаты ў члены Камісіі Совецкага Кантролю намячаліся з'ездам партыі і зацвярджаліся СНК і ЦВК Саюза ССР. Я думаю, што толькі такая арганізацыя магла-б умацаваць совецкі кантроль і совецкую дысцыпліну.

Што датычыць ЦКК, то, як вядома, яна была створана перш за ўсё і галоўным чынам для папярэджання расколу ў партыі. Вы ведаеце, што небяспека расколу сапраўды існавала ў нас адзін час. Вы ведаеце, што ЦКК і яе арганізацыям удалося папярэдзіць небяспеку расколу. Але цяпер у нас няма больш небяспекі расколу. Але затое ў нас ёсць цяпер настойлівая неабходнасць такой арганізацыі, якая магла-б сканцэнтраваць галоўную сваю ўвагу на рабоце па праверцы выканання рашэнняў партыі і яе Цэнтральнага Камітэта. Такой арганізацыяй можа быць толькі Камісія Партыйнага Кантролю пры ЦК ВКП(б), якая працуе па заданнях партыі і яе ЦК і мае на мясцах незалежных ад мясцовых арганізацый прадстаўнікоў. Зразумела, што такая адказная арганізацыя павінна мець вялікі аўтарытэт. А каб яна мела дастатковы аўтарытэт і каб яна магла прыцягваць да адказнасці любога вінаватага адказнага работніка, у тым ліку і членаў ЦК,—неабходна, каб членаў гэтай камісіі мог выбіраць і знімаць толькі вышэйшы орган партыі—з'езд партыі. Не можа быць сумнення, што такая арганізацыя будзе ўпаўне здольна забяспечыць кантроль над выкананнем рашэнняў цэнтральных органаў партыі і ўмацаваць партыйную дысцыпліну.

Так абстаіць справа з пытаннямі арганізацыйнага кіраўніцтва.

Нашы задачы ў вобласці арганізацыйнай работы:

1) Падганяць і ў далейшым нашу арганізацыйную работу да патрабаванняў палітычнай лініі партыі;

2) Падняць арганізацыйнае кіраўніцтва да ўзроўню палітычнага кіраўніцтва:

3) Дабіцца таго, каб арганізацыйнае кіраўніцтва поўнасцю забяспечвала правядзенне ў жыццё палітычных лозунгаў і рашэнняў партыі.

Я канчаю, таварышы, адчотны даклад. Якія вынікаюць з яго вывады?

Цяпер ужо ўсе прызнаюць, што нашы поспехі вялікія і незвычайныя. Краіна пераведзена ў параўнальна кароткі тэрмін на рэльсы індустрыялізацыі і калектывізацыі. З поспехам ажыццёўлена першая пяцігодка. Гэта нараджае пачуццё гордасці і ўмацоўвае веру ў свае сілы ў нашых работнікаў. Гэта, безумоўна, добра. Але поспехі маюць часам і свой ценявы бок. Яны параджаюць часам некаторыя небяспекі, якія, калі даць ім развіцца,— могуць развінціць усю справу. Ёсць, напрыклад, небяспека, што ў некаторых нашых таварышоў можа закружыцца галава ад такіх поспехаў. Такія выпадкі бывалі ў нас, як вядома. Ёсць небяспека, што сёй-той з нашых таварышоў, ап'янеўшы ад поспехаў, зазнаецца ў канец і пачне ўбаюкваць сябе хвастлівымі песнямі, накшталт таго, што „нам цяпер мора па калена“, што „можам хоць каго, шапкамі закідаць“ і т. п. Гэта зусім не выключана, таварышы. Няма нічога небяспечней, як падобныя настроі, бо яны раззбройваюць партыю і дэмабілізуюць яе рады. Калі такія настроі запануюць у нашай партыі, мы можам аказацца перад пагрозай зрыву ўсіх нашых поспехаў. Вядома, першую пяцігодку выканалі з поспехам. Гэта верна. Але гэтым справа не канчаецца і не можа кончыцца, таварышы. Уперадзе другая пяцігодка, якую таксама трэба выканаць і таксама з поспехам. Вы ведаеце, што планы выконваюцца ў барацьбе з труднасцямі, у ходзе пераадолення труднасцей. Значыць, будуць труднасці, будзе і барацьба з імі.

Тт. Молатаў і Куйбышэў дадожаць вам аб плане другой пяцігодкі. З іх дакладаў вы ўбачыце, якія вялікія труднасці прадстаіць нам пераадалець для ажыццяўлення гэтага грандыёзнага плана. Значыць не ўбаюкваць трэба партыю,—а развіваць у ёй пільнасць, не ўсыпляць яе,—а трымаць у стане баявой гатоўнасці, не раззбройваць, а ўзбройваць, не дэмабілізоўваць,—а трымаць яе ў стане мабілізацыі для ажыццяўлення другой пяцігодкі.

Адсюль першы вывад: **не захапляцца дасягнутымі поспехамі і не зазнавацца.**

Мы дабіліся поспехаў, таму, што мелі правільную кіруючую лінію партыі і здолелі з'арганізаваць масы для правядзення ў жыццё гэтай лініі. Няма чаго і гаварыць, што без гэтых умоў мы не мелі-б тых поспехаў, якія маем цяпер і якімі гардзімся па праву. Але мець правільную лінію і здолець правесці яе ў жыццё—гэта вялікая рэдкасць у жыцці кіруючых партый. Паглядзіце на акружаючыя краіны: ці многа вы знойдзеце кіруючых партый, маючых правільную лінію і праводзячых яе ў жыццё?

Уласна, такіх партый няма цяпер у свеце, бо ўсе яны жывуць без перспектыў, блытаюцца ў хаосе крызіса і не бачаць шляхоў для таго, каб выбрацца з дрыгвы. Толькі наша партыя ведае, куды весці справу, і вядзе яе ўперад з поспехам. Чаму абавязана наша партыяй гэтай сваёй перавагай? Таму, што яна з'яўляецца партыяй марксісцкай, партыяй ленінскай. Яна абавязана таму, што кіруецца ў сваёй рабоце вучэннем Маркса, Энгельса, Леніна. Не можа можа быць сумнення, што пакуль мы астаемся вернымі гэтаму вучэнню, пакуль мы ўладаем гэтым компасам,—будзем мець поспехі ў сваёй рабоце.

Гавораць, што на Захадзе, у некаторых дзяржавах ужо знішчожан марксізм. Гавораць, што яго знішчожыла быццам-бы буржуазна-нацыяналістычная плынь, называемая фашызмам. Гэта, вядома, пусцякі. Так могуць гаварыць толькі людзі, якія не ведаюць гісторыі. Марксізм ёсць навуковае выражэнне карэнных інтарэсаў рабочага класа. Каб знішчожыць марксізм, трэба знішчожыць рабочы клас. А знішчожыць рабочы клас немагчыма. Больш 80 год прайшло з тых пор, як марксізм выступіў на арэну. За гэты час дзесяткі і сотні буржуазных урадаў прабавалі знішчожыць марксізм. І што-ж? Буржуазныя ўрады прыходзілі і ўходзілі, а марксізм аставаўся **(бурныя апладысменты)**.

Больш таго,—марксізм дабіўся таго, што ён атрымаў поўную перамогу ў адной шостай частцы свету, прычым дабіўся перамогі ў той тамай краіне, дзе марксізм лічылі канчаткова знішчожаным **(бурныя апладысменты)**.

Нельга лічыць выпадковасцю, што краіна, дзе марксізм атрымаў поўную перамогу, з'яўляецца цяпер адзінай краінай у свеце, якая не ведае крызісаў і беспрацоўя, тады як ва ўсіх астатніх краінах, у тым ліку і ў краінах фашызма, вось ужо чатыры гады пануюць крызіс і беспрацоўе. Не, таварышы, гэта не выпадковасць **(працяглыя апладысменты)**.

Так, таварышы, мы абавязаны сваімі поспехамі, таму, што працавалі і змагаліся пад сцягам Маркса, Энгельса, Леніна.

Адсюль другі вывад: **быць вернымі да канца вялікаму сцягу Маркса, Энгельса, Леніна (апладысменты)**.

Рабочы клас СССР сільны не толькі тым, што ў яго ёсць выпрабаваная ў баях ленінская партыя. Ён сільны, далей, не толькі тым, што мае падтрыманне мільённых мас працоўных сялян. Ён сільны яшчэ тым, што яго падпірае і яму памагае сусветны пролетарыят. Рабочы клас СССР ёсць частка сусветнага пролетарыята, яго перадавы атрад, а наша рэспубліка—дзецішча сусветнага пролетарыята. Не можа быць сумнення, што калі-б не было ў яго падтрымання з боку рабочага класа капіталістычных краін, ён не ўтрымаў-бы ўлады ў сваіх руках, ён не абяспечыў-бы ўмоў для соцыялістычнага будаўніцтва,—стала быць—у яго не было-б тых поспехаў, якія ён мае цяпер. Інтэрнацыянальная сувязь рабочага класа СССР з рабочымі капіталістычных

краін, брацкі саюз рабочых СССР з рабочымі ўсіх краін,—вось адзін з краевугольных каменняў сілы і магутнасці Рэспублікі Советаў. Рабочыя на Захадзе гавораць, што рабочы клас СССР з'яўляецца ўдарнай брыгадай сусветнага пролетарыята. Гэта вельмі добра. Гэта значыць, што сусветны пролетарыят гатоў і ў далейшым падтрымліваць рабочы клас СССР па меры сіл і магчымасці. Але гэта накладае на нас сур'ёзныя абавязкі. Гэта значыць, што мы павінны апраўдаць сваёй работай пачэснае званне ўдарнай брыгады пролетарыяў усіх краін. Гэта абавязвае нас к таму, каб працаваць лепш і змагацца лепш за канчатковую перамогу соцыялізма ў нашай краіне, за перамогу соцыялізма ва ўсіх краінах.

Адсюль трэці вывад: **быць вернымі да канца справе пролетарскага інтэрнацыяналізма, справе брацкага саюза пролетарыяў усіх краін** (апладысменты).

Такавы вывады.

Няхай жыве вялікі і непераможны сцяг Маркса, Энгельса, Леніна! (**Бурныя, працяглыя апладысменты ўсёй залы. З'езд наладжвае авацыю тав. Сталіну. Спяванне „Інтэрнацыянала". Па выкананні „Інтэрнацыянала" авацыя ўзнаўляецца з новай сілай. Галасы: „Ура Сталіну", „Няхай жыве Сталін", „Няхай жыве ЦК партыі"**).

---

*А. Чарнушэвіч.*

# На ўзровень задач другой пяцігодкі

Рабочы клас і шматмільённыя масы працоўных Савецкага Саюза спаткалі 17-ты гістарычны з'езд Комуністычнай партыі большэвікоў нечуванай хваляй творчага энтузіязма, найвялікшымі перамогамі на ўсіх фронтах соцыялістычнага будаўніцтва. Пролетарыят і працоўныя ўсіх нацыянальнасцей вялікага Саюза прадэманстравалі з нябачанай сілай сваю любоў і адданасць комуністычнай партыі, яе правадыру і арганізатару соцыялістычных перамог—тав. **Сталіну.**

У паход мільённых мас за права рапартаваць сваёй партыі і яе правадыру сваімі вытворчымі перамогамі на соцыялістычных пабудовах, актыўна ўключылася савецкая політэхнічная школа і шырокія масы чырвонасцяжнага настаўніцтва Савецкай Беларусі.

Сотнямі і тысячамі ўдарнікаў-настаўнікаў і вучняў, выкананнем вучэбных планаў і праграм, палепшаннем якасці вучобы, узмацненнем барацьбы з буржуазна-нацыяналістычнымі і іншымі класава-варожымі праявамі,—школа і шырокія масы настаўніцтва адзначылі адкрыццё 17-га з'езда ВКП(б) і выступленне лепшага з ленінцаў—правадыра сусветнага пролетарыята—тав. **Сталіна.**

У выніку пераможнага таржэства ленінскай нацыянальнай палітыкі, у выніку ўпартай барацьбы, пад кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б, усёй пролетарскай грамадскасці БССР за ажыццяўленне гістарычных **сталінскіх** пастаноў ЦК аб школе,—мы маем велізарныя перамогі ў справе будаўніцтва савецкай політэхнічнай школы.

Савецкая Беларусь, пры брацкай дапамозе пролетарыята СССР, першая ў Саюзе ажыццявіла дырэктывы 16-га партыйнага з'езда аб усеагульным абавязковым пачатковым навучанні, усенавуч за сямігодку становіцца фактам. Масавай школай першага і другога канцэнтра ахоплена 937 тысяч дзетвары школьнага ўзроста. У параўнанні толькі з мінулым вучэбным годам колькасць вучняў у школах другога канцэнтру павялічылася з 153 тысяч да 220 тысяч чалавек. У гарадах усенавуч за сямігодку ўжо ажыццяўлён, набліжаецца ажыццяўленне яго і ў

вёсцы. Асабліва важна адзначыць, што дзеці ўсіх нацыянальнасцей БССР навучаюцца на роднай мове. Нанесен сакрушальны ўдар нацдэмаўскім тэндэнцыям на ліквідацыю рускай школы, якая стала хутка расці.

Гістарычныя пастановы ЦК ВКП(б) аб школе з'явіліся баявой большэвіцкай праграмай пабудовы сапраўднай політэхнічнай школы Маркса-Леніна-Сталіна. На шляху ажыццяўлення гэтай праграмы ўжо маюцца значныя дасягненні. Наша школа працуе па стабільных праграмах і падручніках, па цвёрдых раскладах па ўстаноўленаму рэжыму. Усё гэта забяспечвае нашай школе вырашэнне важнейшай і першачарговай задачы—ліквідацыі „карэннага недахопа“ і засваенне дзецьмі „асноў навук“. А гэта з'яўляецца неабходнай прадпасылкай для поўнай ліквідацыі адставання школы ад тых запатрабаванняў, якія прад'яўляюцца ей на сучасным этапе соцыялістычнага будаўніцтва. Гэта ёсць неабходная прадпасылка для падрыхтоўкі ўпаўне пісьменных людзей, свядомых і актыўных будаўнікоў бяскласавага соцыялістычнага грамадства.

Вырашэнне гэтай адказнейшай задачы—ліквідацыі „карэннага недахопа“, было шчыльна ўвязана з рашучай барацьбой за вытрыманае комуністычнае выхаванне, за пролетарскі інтэрнацыяналізм, супроць усякіх спроб прышчапіць дзецям элементы антыпролетарскай ідэалогіі.

Вынікі першага вучэбнага поўгоддзя і арганізаванае правядзенне зімовых канікул у значнай частцы школ з'яўляецца яркім доказам зруху ў гэтых адносінах.

Возьмем Рэчыцкі раён. Калі за першую чверць паспяховасць у сярэднім па ўсіх школах раёна складала 72,6 проц., то за першае поўгоддзе процант паспяховасці ўзняўся па сельскіх школах да 82,8 проц., па гарадскіх 88,5 і па трэцяму канцэнтру—да 92,9 проц.

У Хойніцкім раёне сярэдняя паспяховасць за першую чверць была 80,5 проц., а к канцу поўгоддзя ўзнялася па першаму канцэнтру да 92,2 проц. і па-другому—да 86,3 проц.

У Гомельскім раёне з 82 проц. паспяховасць узнялася да 90,1 проц., у Менскім да 91,5 проц., Можна яшчэ прадаўжыць спіс раёнаў, у якіх маецца значны рост паспяховасці ў параўнанні з першай чвэрцю. Цэлы рад школ, разгортваючы соцспаборніцтва і ўдарніцтва як сярод настаўнікаў, так і вучняў, прышлі да з'езда партыі з яшчэ большымі поспехамі. Гэтыя школы безумоўна знаходзяцца ў першых радах барацьбітоў за рэалізацыю рашэнняў ЦК партыі аб школе. Да такіх школ, бясспрэчна, можна аднесці Гомельскую ФЗД імя Комінтэрна (загадчык Бярозкін), трэцюю Гомельскую чыгуначную ФЗД (загадчык тав. Сержанаў), Крупскую ўзорную ШКМ, Менскую 25-ю ФЗД (загадчык тав. Гуліс), 20-ю Менскую ФЗД (загадчык тав. Сабалеўскі), Негарэльскую ШКМ, Дзяржынскага раёна

(загадчык тав. Тітоў), 6-ю Бабруйскую ФЗС, 50-тую Віцебскую ўзорную ФЗС, Капыльскую яўрэйскую ШКМ і інш.

Несумненны рост паспяховасці вучняў па вядучых дысцыплінах школы. Напрыклад, у Дзяржынскім раёне абследванне Наркамасветы, праведзенае ў кастрычніку мінулага года, выявіла вялікі прарыў у пісьменнасці школьнікаў, а к канцу поўгоддзя сярэдняя паспяховасць па роднай мове дасягнула 91,6 проц., па рускай мове—89,5 проц.; у Ліознянскім раёне паспяховасць па роднай мове вырасла да 92,4 проц. і па рускай да 90,3 проц.

Возмем такі асноўны прадмет, як матэматыка. У Хойніцкім раёне па школах першага канцэнтра паспяховасць за поўгоддзе набліжаецца да 95 проц., у Рэчыцкім раёне па першаму канцэнтру 89,3 проц. і па другому—87,9 проц.

Па грамадазнаўству—у Бярэзінскім раёне паспяховасць вырасла да 91,5 проц., у Капыльскім раёне—да 92,8 проц. і г. д.

Асноўную ролю ў справе ажыццяўлення рашэнняў партыі аб школе адыграў настаўнік і ў першую чаргу ўдарнік, актыў настаўнікаў. Ажыццяўляюцца на справе ўказанні ЦК ВКП(б) аб тым, што настаўнік павінен стаць цэнтральнай фігурай, а ўрок асноўнай формай педагагічнага працэса.

Множацца і растуць рады настаўнікаў-ударнікаў, для якіх работа ў школе стала сапраўды справай гонару, славы, мужнасці і геройства. З іх радоў выраслі і растуць Ізотавы педагагічнага майстэрства, якія сваім энтузіязмам і ўзорнай работай могуць служыць прыкладам для нашага настаўніцтва.

Возьмем тав. Пруднікаву,—настаўніца першай групы Гомельскай школы імя Комінтэрна. Яна, дзякуючы ўпартай барацьбе за ліквідацыю карэннага недахопа і сапраўды ўдарным метадам работы, дамаглася к з'езду партыі 100-процантнай паспяховасці.

Да ліку лепшых з лепшых несумненна можна аднесці настаўнікаў: Павецкую (3-я Гомельская чыгуначная ФЗД), Мазурука (4-ая Гомельская ФЗД), Кобрык (Кармянская ШКМ), Стасенка, Плешчавеню (Лельчыцкі раён), Туркс, Дэмантэнко, Іванова (Ушацкі раён), Ціханава (Віцебск), Гуліс, Слабадзеўскага, Северневу, Якабсон, Папіш (Менск), Шапіра, Заброцкага, Дубровіча (Капыль).

Кожны раён і кожны горад БССР налічвае дзесяткі лепшых ударнікаў, сапраўдных майстроў педагагічнага працэса, сапраўдных цэнтральных фігур яго.

Вялікім недахопам НКА, яго органаў, а таксама профсаюзных арганізацый працасветы з'яўляецца тое, што мы мала ведаем сваіх лепшых ударнікаў, не ўмеем арганізаваць пераняссення іх вопыта ў гушчу настаўніцтва. Мы маем дзесяткі сапраўды перадавых школ, але іх работа не папулярызуецца, не становіцца дасягненнем мес. Тымчасам, перанясенне вопыта перадавікоў-ударнікаў фронта школьнага будаўніцтва, пераня-

сенне вопыта лепшых школ дало-б несумненна вялікі зрух у справе павышэння якасці работы масавай школы.

І гэта-ж факт, што карэнны недахоп намі не ліквідован; паспяховасць у 90-92 проц. мы не можам лічыць дастатковай, тым больш, што ў многіх школах і раёнах гэты процант значна ніжэйшы. Мы не мабілізавалі ў дастатковай ступені свае сілы на рашучую барацьбу па выкрыццю і ачышчэнню школ ад буржуазных, нацыяналістычных і іншых класава-варожых элементаў, мы яшчэ недастаткова разгарнулі барацьбу за асноўныя прынцыпы пролетарскага інтэрнацыяналізма. Далёка не ўсе яшчэ школы могуць пахваліцца дастатковай увагай і дапамогай з боку паасобных партыйных, профсаюзных і совецкіх арганізацый.

1 сакавіка гэтага года ўпершыню ў гісторыі БССР склікаецца ўсебеларускі з'езд лепшых ударнікаў-настаўнікаў. Перад з'ездам стаіць адказнейшая задача—падвесці вынікі поўгадовай работы і барацьбы школы і настаўніка за рэалізацыю рашэнняў партыі аб школе. З'езд павінен будзе падагуліць вопыт лепшых школ і ўдарнага актыва настаўніцтва, каб зрабіць яго дасягненнем самых шырокіх мас асветнікаў. З'езд павінен будзе ў святле аграмаднейшых і адказнейшых задач другой пяцігодкі, пастаўленых вялікім правадыром і настаўнікам тав. Сталіным на 17-м з'ездзе ВКП(б), шырока па-сталінску разгарнуць крытыку і самакрытыку недахопаў і прарываў у рабоце школы і кожнага настаўніка, Наркамасветы і яго органаў і вызначыць канкрэтныя шляхі на аснове рашэнняў 17-га партз'езда для пе ратварэння нашай школы ў сапраўдную політэхнічную школу Маркса-Леніна-Сталіна.

Для такой школы патрэбен шырока адукаваны настаўнік, майстар сваёй справы, прасякнуты энтузіязмам соцыялістычнага будаўніцтва, узброены марксісцка-ленінскай метадалогіяй і дыялектыкай, адданы рабочаму класу і яго партыі.

Задача совецкага настаўніка і ў першую чаргу настаўнікаударніка так працаваць над сабой, каб сапраўды ўзняцца да ролі ўсебакова развітага, культурнага, адукаванага грамадскапалітычнага дзеяча ажыццяўляючага ва ўсёй сваей рабоце бальшэвіцкія прынцыпы партыйнасці ў выкладанні.

Настаўніцтва і асабліва велізарная армія маладняка, якая ўлілася за апошнія гады ў нашы школы, абавязана выканаць патрабаванні вялікага правадыра В. І. Леніна аб тым, каб па сваіх ведах, па свайму кругавіду і ідэйна-палітычнаму ўзроўню, не мець сабе роўных сярод настаўніцтва ўсяго света.

Новы рашучы ўздым якасці работы школы і настаўніка, уздым іх работы да ўзроўню другой пяцігодкі патрабуе ад кожнага з нас засваення сталінскага стыля ў сваёй практычнай рабоце.

У святле ўсіх гэтых задач больш чым відавочна адказная роля з'езда перадавікоў-ударнікаў і шматтысячнай чырвона-

сцяжнай арміі настаўніцтва, адказная работа па падрыхтоўцы да гэтага з'езда ў справе далейшай мабілізацыі асветнікаў, вучняў і пролетарскай грамадскасці вакол работы школ і яе задач. А добрай падрыхтоўкай не могуць пахваліцца многія раёны. Напрыклад Лепель, Клімавічы, Слуцк, Копыль, Смалявічы, Жлобін, Чаусы недаацанілі ўсёй палітычнай важнасці з'езда і падрыхтоўкі да яго. У гэтых раёнах, трэба прама сказаць, падрыхтоўка амаль не разгорнута.

Па тым, як раёны падрыхтуюцца да Ўсебеларускага з'езда настаўнікаў-ударнікаў, па тым, як нізавыя органы Наркамасветы змогуць мабілізаваць вакол з'езда пролетарскую грамадскасць, шырокія масы настаўніцтва і школьнікаў,—можна будзе меркаваць наколькі кіраўніцтва сярэдняга звяна Наркамасветы і профсаюза Працасветы здольна ўзняць арганізацыйна-масавую работу на ўзровень палітычных задач.

А гэтыя задачы заключаюцца ў тым, каб са сталінскай непрымірымасцю, празорлівасцю і паслядоўнасцю змагацца супроць усіх спроб апартуністаў справа і „злева" сказіць генеральную лінію партыі ў школьнай справе, змагацца з беларускім нацыяналізмам, як галоўнай небяспекай на даным этапе ва ўмовах БССР і шавінізмам іншых масцей, мабілізуючы шырокія масы працоўных на актыўную дапамогу школе, дабіцца таго, каб і другая пяцігодка стала пяцігодкай небачаных поспехаў у будаўніцтве політэхнічнай школы.

---

*Ю. Дардак*

# Ленін аб пытаннях народнай асветы

Тав. Сталін даючы класічнае азначэнне ленінізма, як „марксізма эпохі імперыялізма і пролетарскіх рэволюцый“ паказаў сутнасць ленінізма, як новага вышэйшага этапа марксізма. Тав. Сталін паказаў, як Ленін, геніяльны прадаўжацель справы Маркса, адзіны пасля апошняга, развіў Марксава вучэнне і бліскуча прымяніў дыялектычны матэрыялізм к усім актуальным праблемам пролетарскай рэволюцыі і дыктатуры пролетарыята.

Галоўнае ў ленінізме—дыктатура пролетарыята. Адным з бакоў дыктатуры пролетарыята з'яўляецца выхаваўчы, накіраваны на выхаванне і перавыхаванне людзей, ператварэнне іх у свядомых будаўнікоў бяскласавага соцыялістычнага грамадства. У гэтым артыкуле мы спынімся на тым, як Ленін развіў вучэнне Маркса ў вобласці народнай асветы, гэтага важнейшага звяна культурнай рэволюцыі.

Ленін развіў і паказаў шляхі педагогікі, як класавай партыйнай навукі, вядучы ўвесь час барацьбу на два фронты: супроць народнікаў, меншавікоў, бундаўцаў і інш. дробна-буржуазных нацыяналістычных партый, супроць трацкістаў, правых і левых апартуністаў.

Ленін распрацаваў шляхі ажыццяўлення комуністычнага выхавання і пабудовы совецкай політэхнічнай школы ў перыяд дыктатуры пролетарыята.

Ленін распрацаваў і паказаў роль і задачу настаўніка, як цэнтральнай фігуры педагагічнага працэса ў совецкай політэхнічнай школе.

Ленін распрацаваў асноўныя прынцыпы і ўказаў роль падручніка ў совецкай політэхнічнай школе.

Ленін распрацаваў цэлую сістэму поглядаў аб палітасветрабоце ў горадзе і вёсцы, шляхі і метады перавыхавання шырокіх мас працоўных.

Мы застановімся на пытаннях, звязаных з педагогікай, як партыйна-класавай навукай, навукай аб будаўніцтве політэхнічнай школы, пастараемся паказаць, як Ленін на асобных гістарычных этапах ставіў асноўныя задачы перад школай і падпа-

радкоўваў іх задачам класавай барацьбы пролетарыята і яго **дыктатуры.**

## Ленін аб педагогіцы як навуцы і яе задачах

Характарызуючы педагогіку як навуку, неабходна базавацца на тых тэарэтычных палажэннях, якія Ленін высунуў у адносінах да тэорыі. Ужо ў першых сваіх работах (у 90-х гадах) Ленін даказваў, што ўсякая навука з'яўляецца класавай і партыйнай, што няма беспартыйных навук. У сваім артыкуле, напісаным ў 1905 г.—„Соцыялістычныя партыі і беспартыйная рэволюцыйнасць"—Ленін пісаў: „Беспартыйнасць ёсць ідэя буржуазная. Партыйнасць ёсць ідэя соцыялістычная. Гэтае палажэнне ў агульным і цэлым прымяніма да ўсяго буржуазнага грамадства. Канечна, трэба умець прымяняць гэту агульную ісціну к асобным прыватным пытанням і прыватным выпадкам" („Под знам. Марксизма" № 7-8, 1931 г. стар. 19). Гэтае ленінскае палажэнне надзвычай чотка фармулюе праблему партыйнасці навукі.

Ленін даказаў, што толькі матэрыяліст, г. зн. той, хто стаіць на пазіцыях дыялектычнага матэрыялізма—з'яўляецца сапраўды аб'ектыўным. Ленін высоўвае для кожнай навукі пры вучоце яе спецыфікі, неабходнасць **партыйнага аб'ектывізма**, г. зн., што пры ацэнцы якой-небудзь з'явы неабходна аналізаваць даныя гістарычныя абставіны, канкрэтнай эпохі, канкрэтныя формы класавай барацьбы і ўзаемаадносіны паміж антаганістычнымі класамі; пры ацэнцы з'яў трэба выходзіць з класавага пункта погляду. Толькі выходзячы з інтарэсаў пролетарыята, можна даць аб'ектыўнае асвятленне рэчаіснасці. Только дыялектычны матэрыяліст пры ацэнцы з'яў заўсёды выходзіць з інтарэсаў пролетарыята і заўсёды партыйны. Гэтыя агульныя паказанні аб аб'ектывізме і дыялектычным матэрыялізме маюць непасрэдныя адносіны да педагогікі як навукі. Пролетарская педагогіка, як і ўсякая навука ёсць навука партыйная.

Якімі спецыфічнымі задачамі займаецца педагогіка?—У сваім артыкуле „Аб змяшэнні палітыкі з педагогікай" напісаным Леніным ў 1905 г. супроць Мартава і інш. меншавікоў, якія выступалі супроць лозунга „узброенага паўстання" і сцвярджалі, што пролетарыяту нельга брацца за зброю, Ленін паміж іншым указвае на спецыфіку педагогікі і яе задачы. „У палітычнай дзейнасці соцыял-дэмакратычнай партыі заўсёды ёсць і будзе пэўны элемент педагогікі: трэба выхоўваць увесь клас наёмных рабочых к ролі змагароў за вызваленне ўсяго чалавецтва ад усякага прыгнечання, трэба пастаянна навучаць новыя і новыя слаі гэтага класа, трэба ўмець падыйсці да самых шэрых, неразвітых, найменш закранутых і нашай навукай і навукай жыцця прадстаўнікоў гэтага класа, каб здолець загава-

рыць з імі, здолець зблізіцца з імі, здолець вытрымана, церпяліва ўзняць іх да соцыял-дэмакратычнай свядомасці, не ператвараючы наша вучэнне ў сухую догму, вучачы яго не адною кніжкай, але і ўдзелам у штодзённай жыццёвай барацьбе гэтых самых шэрых і самых неразвітых слаёў пролетарыята. У гэтай штодзённай дзейнасці ёсць, паўтараем, **пэўны элемент педагогікі** (разрадка наша, Ю. Д.) Соцыял-дэмакрат, які забыў-бы аб гэтай дзейнасці, перастаў-бы быць соцыял-дэмакратам. Гэта верна. Але ў нас частка забываюць цяпер, што соцыял-дэмакрат, які задачы палітыкі стаў-бы зводзіць да педагогікі таксама—хоць з іншай прычыны—перастаў-бы быць соцыял-дэмакратам. Хто ўздумаў-бы з гэтай „педагогікі“ зрабіць асобны лозунг, **праціставляць** яе „палітыцы“, будаваць на гэтым праціставленні асобны кірунак, апеляваць да масы ў імя гэтага лозунга супроць „палітыкаў“ соцыял-дэмакратыі, той адразу немінуча апусціўся-б да дэмагогіі“ (Ленін том VII, 2-е выд. стар. 309).

У гэтай вытрымцы даецца геніяльны адказ на пытанне, якія задачы стаяць перад пролетарской педагогікай, як неабходным элементам нашай палітычнай дзейнасці. Гэтая задача паводле Леніна заключаецца ў тым, што неабходна выхоўваць з усіх рабочых барацьбітоў за пролетарскую рэволюцыю і вызваленне ўсяго працоўнага чалавецтва з пад буржуазнага прыгнёта. Трэба вучыць рабочы клас так, каб падняць яго свядомасць да комуністычнай свядомасці, звязаць навучанне з паўсядзённай класавай барацьбой пролетарыята супроць буржуазіі,—вось задачы пролетарскай педагогікі ў перыяд дыктатуры буржуазіі.

Пролетарская педагогіка ёсць такім чынам форма класавай барацьбы, састаўная частка палітыкі рабочага класа, накіраваная на выхаванне комуністычнай свядомасці, на сувязь навучання з паўсядзённай барацьбой пролетарыята супроць буржуазіі пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, як авангарда пролетарыята.

Гэтая ленінская ўстаноўка накіравана супроць меншавікоў, якія падпарадкоўвалі палітыку пролетарыята выключна педагагічным мэтам, злівалі палітыку з педагогікай і тым самым зншчалі як палітыку пролетарыята, так і пролетарскую педагогіку як навуку, ператвараючы яе ў універсальную агульна-арганізацыйную навуку. (Гэтая меншавіцка-мартаўская контррэволюцыйная ўстаноўка, пасля Окцябрскай рэволюцыі была падхоплена Шульгіным і яго школай).

Ленінская ўстаноўка аб ўзаемаадносінах паміж педагогікай і палітыкай накіравана таксама супроць усіх тых буржуазных тэарэтыкаў, якія хочуць разарваць палітыку з педагогікай, процівапаставіць педагогіку палітыцы, сцвярджаючы, што педагогіка ёсць „чыстая“, „аб'ектыўная“ аўтаномная, апалітычная навука. Гэтая буржуазная тэорыя пасля Окцябра знайшла сваіх

апалагетаў у асобе Калашнікава, Галаўкоўскага і інш. у РСФСР і контррэволюцыйных нацдэмаў Байкова, Абіра, Баліцкага, Ігнатоўскага, Меламэда ў БССР.

Педагогіка ёсць соцыяльна-гістарычная, партыйная навука і ў кожнай паасобнай грамадска-эканамічнай фармацыі педагогіка з'яўляецца педагогікай пануючага класа.

## Ленін аб класавым характары буржуазнай і саслоўнай школы і частковых патрабаваннях пролетарыята ў вобласці народнай асветы

У 90-х гадах мінулага стагоддзя, выступаючы, як правадыр сусветнага пролетарыята, Ленін у сваёй барацьбе супроць народнікаў выкрывае рэакцыйныя ўстаноўкі народнікаў у галіне народнай асветы. Адзін з віднейшых рэакцыянераў народнікаў Южакоў, выпускае ў 1894 годзе спецыяльны праект аб „гімназійных гаспадарках". Ленін з усёй рэзкасцю ўскрывае рэакцыйную сутнасць т. званага плана „усеагульнай абавязковай сярэдняй адукацыі для народа". Южакоў праектуе арганізаваць у кожнай воласці гімназію, якая ахапіла-б усё насельніцтва школьнага ўзросту ад 8 да 25 год. Такія гімназіі сабой прадстаўляюць вытворчыя асацыяцыі, займаюцца сельскай гаспадаркай і ўтрымліваюць за свой кошт усё дзіцячае насельніцтва. Такіх гімназій асобна для дзяўчат і хлопчыкаў ён для ўсёй Расіі меркаваў арганізаць 40.000.

Ленін ўскрывае класавую сутнасць гэтага рэакцыйнага плана. Асноўная думка Южакова заключаецца ў наступным: летам гімназія зусім не займаецца і вучні працуюць на сельска-гаспадарчых работах. Кончыўшыя гімназію вучні застаўляюцца пры ёй на тры гады для атработкі за бясплатнае навучанне. Па плану Южакова ўсе вучні, якія навучаюцца ў гімназіі, фактычна ператвараліся ў бясплатных рабоў прыгонніцкай гімназіі.

У „Перлах народніцкага пражэкцёрства" Ленін, вядучы барацьбу супроць народнікаў у асобе Южакова, намячае асноўчыя шляхі пабудовы пролетарскай школы. Ленін піша: „Аўтар зусім справядліва гаворыць, што формула: „школа павінна рыхтаваць чалавека для жыцця" зусім беззместоўна, што пытанне аб тым, што патрэбна для жыцця і „каму патрэбна сярэдняя адукацыя гэта значыць: у чыіх інтарэсах, дзеля чыйго дабра і карысці даецца адукацыя выхаванцам сярэдняй школы". Добрая пастаноўка пытання і мы-б ад душы віталі аўтара калі-б усе гэтыя прэлюдыі не аказаліся ў далейшым ізлажэнні пустымі фразамі" (Ленін, том II, стар. 280).

Южакоў сцвярджае, што яго сістэма асветы мае на ўвазе інтарэсы дабра і карысці дзяржавы, нацыі, таго ці другога грамадскага класа, самаго адукоўваемага індывіда. Ленін высмейвае гэты адказ Южакова і гаворыць: „пачынаецца блытаніна: прыходзіцца заключыць, што грамадства расчлененае на

класы сумяшчальна з някласавай дзяржавай, някласавай нацыяй, са стаячымі па за класамі індывідамі. Зараз убачым, што гэта зусім не абмолвка п. Южакова, што ён іменна такой абсурднай думкі і трымаецца. „Калі пры выпрацоўцы школьнай праграмы маюцца на ўвазе класавыя інтарэсы, то не можа быць, значыцца, і гутаркі аб адным агульным тыпе дзяржаўнай сярэдняй школы. Навучальныя ўстановы ў такім выпадку па неабходнасці з'яўляюцца саслоўнымі і пры тым не толькі адукацыйнымі, але і выхаваўчымі таму, што яны павінны даць не толькі адукацыю прыстасаваную да спецыяльных інтарэсаў і задач саслоўя, але і саслоўныя навыкі і саслоўны карпарацыйны дух". Першы вывад з гэтай тырады той, што пан Южакоў не разумее розніцы паміж саслоўямі і класамі і таму—бязбожна змешвае гэтыя зусім розныя паняцці". (Ленін, т. II, стар. 280)

Ленін укрывае, што класавая буржуазная школа больш прагрэсіўная за саслоўную і недаступна для працоўных не таму, што яна замкнута, а таму, што яна толькі фармальна і юрыдычна даступна для ўсіх, а фактычна для тых, хто мае грошы і можа плаціць за навучанне. Змяніць гэта можна толькі на аснове звяржэння дыктатуры буржуазіі і ўстанаўлення дыктатуры пролетарыята. Сапраўднае ажыццяўленне ўсеагульнага абавязковага навучання магчыма толькі ў часы пролетарскай рэволюцыі і дыктатуры пролетарыята. Таму Ленін высмейвае праект п. Южакова, які па сутнасці з'яўляецца адной з форм захавання буржуазна-феадальнай школы.

Ленін у гэтым-жа артыкуле ўскрывае класава-метадалагічныя асновы плана Южакова і дае падрабязную характарыстыку дробна-буржуазных тэорый у вобласці педагогікі. Ён яшчэ ў 90-х гадох дае разгорнутую праграму пабудовы школы пры соцыялізме. Ленін піша: „Прынцып, з якога выходзіць пан Южакоў, састаіць у тым, што гімназія павінна быць разам з тым і земляробчай гаспадаркай, павінна летняй працай сваіх вучняў забяспечыць уласнае існаванне. Такава асноўная мысль яго плана. У тым, што гэтая мысль правільная, сумнявацца наўрад ці можна—мяркуе п. Южакоў. І мы згодны з ім, што тут ёсць сапраўды правільная мысль, якую нельга толькі прыблытваць ні абавязкова да „гімназіі", ні да магчымасці „акупіць" гімназіі працай вучняў. Гэта правільная мысль заключаецца ў тым, што нельга сабе ўявіць ідэала будучага грамадства, без злучэння навучання з прадукцыйнай працай маладога пакалення: ні навучанне і адукацыя без прадукцыйнай працы, ні прадукцыйная праца без паралельнага навучання і адукацыі не маглі-б быць пастаўлены на тую вышыню, якая патрабуецца сучасным узроўнем тэхнікі і станам навуковых ведаў. Гэту мысль выказалі яшчэ старыя вялікія утапісты; яе цалкам падзяляюць і „вучні", якія іменна з гэтай прычыны, паміж іншым, не паўстаюць прынцыпова супроць прамысловай працы жанчын і падлеткаў, лічаць рэакцыйнымі спробы забараніць зусім гэтую

працу і настойваюць толькі на пастаноўцы яе ва ўмовы ўпаўне гігіенічныя" (Ленін, т. II, стар. 288).

У гэтай цытаце Ленін адкрывае адзін з асноўных прынцыпаў на якім павінен будавацца педагагічны працэс у соцыялістычнай школе ў эпоху дыктатуры пролетарыята. Ні навучанне і адукацыя без прадукцыйнай працы, ні прадукцыйная праца без паралельнага навучання і адукацыі, а толькі іх злучэнне можа вырашыць праблему выхавання ўсебакова развітага чалавека, які валодае тэхнікай і асновамі навук.

Гэта ўказанне пазней распрацаванае Леніным у цэлую сістэму комвыхавання нам важна і таму, што яно накіравана як супроць правых апартуністаў, якія не хочуць дапусціць прадукцыйнай работы дзяцей, ператвараюць навучанне ў схаластыку, сухую догму, адарваную ад класавай барацьбы і соцыялістычнага будаўніцтва, так і супроць „левых", якія па сутнасці знішчаюць навучанне і падпарадкоўваюць яго прадукцыйнай працы вучняў. Ні правыя, ні левыя не могуць вырашыць асноўнай задачы школы—даць вучням сістэму асноў навук, політэхнічную адукацыю, звязваючы тэорыю з практыкай. Такая арганізацыя навучання ў школе ажыццёвіма толькі пры дыктатуры пролетарыята.

Ленін цалкам ускрыў дробна-буржуазную сутнасць Южакоўскага плана, яго буржуазную метадалогію і рэакцыйныя ўстаноўкі. Гэтая ленінская крытыка і цяпер мае актуальнае значэнне ў барацьбе супроць левых і правых у педагогіцы.

Ленінская барацьба супроць Южакова мае коласальнае значэнне і для пролетарскай педагогікі ў буржуазных краінах, у яе барацьбе супроць соцыял-фашыстаў, фашыстаў і контррэволюцыйных трацкістаў, якія імкнуцца абгрунтаваць магчымасць арганізацыі адукацыі працоўных у „інтарэсах працоўных" у класава-буржуазнай школе, імкнуцца даказаць, што народныя школы ў буржуазных краінах з'яўляюцца надкласавымі, апалітычнымі (Баўэр, Наторп, Эстэрэйх і друг.).

Ленін распрацаваў тыя канкрэтныя патрабаванні, у галіне народнай асветы, якія пролетарыят павінен высоўваць у буржуазных краінах. Гэтыя часовыя патрабаванні, якія павінны быць падпарадкаваны агульным задачам класавай барацьбы пролетарыята супроць буржуазіі, сфармуляваны Леніным у праекце праграмы РСДРП, састаўленай у 1902 годзе. Прыпомнім пункт 10 гэтай праграмы аб „аддзяленні царквы ад дзяржавы і школы ад царквы"; 11 пункт патрабуе „усеагульнай дармовай і абавязковай да 16 год адукацыі, снабжэння бедных дзяцей харчамі, адзежай і навучальнымі дапаможнікамі за кошт дзяржавы" г. д. (Ленін, том V, стар. 14).

Гэтыя частковыя патрабаванні дапамагалі працоўным масам распазнаваць рэакцыйны характар царскай школы і палітыкі царскай улады, накіраванай на недапушчэнне 9/10 працоўнага насельніцтва да адукацыі. Нават гэтыя мінімальныя патрабаванні не

маглі і не могуць быць ажыццёўлены поўнасцю не толькі ў царскай Расіі, але і ў прагрэсіўных капіталістычных краінах.

З 1895 г. Ленін побач са сваімі маючымі сусветна гістарычнае значэнне агульна-палітычнымі і тэарэтычнымі работамі прадаўжае распрацоўку асноў пролетарскай педагогікі. Ленін ускрывае класавую сутнасць палітыкі царскага ўрада ў вобласці народнай асветы, вядзе жорсткую барацьбу з буржуазнымі рэакцыйнымі ўстаноўкамі Бунда, меншавікоў, трудавікоў, кадэтаў і інш. у гэтым пытанні. У гэты перыяд Ленін распрацаваў праблему сувязі паміж педагогікай і палітыкай, сувязі паміж тэорыяй і практыкай у навучанні.

У сваёй барацьбе супроць розных буржуазна-ліберальных партый у вобласці народнай асветы, Ленін паказвае шляхі і сродкі барацьбы за ўздзеянне на падрастаючае пакаленне, каб уцягнуць яго ў барацьбу супроць існуючага буржуазнага лада. Ленін паказвае, што палітыка царскага ўрада ў адносінах школы арганічна звязана з палітыкай класа буйных памешчыкаў. Формы барацьбы супроць рэволюцыйна-настроеных вучняў,— арышты, вобыскі, пранікненне паліцэйскіх у школу, звязаны з палітыкай існуючага феадальна-памешчыцкага лада і вызваліцца ад гэтага можна толькі шляхам звяржэння гэтага лада. Леніным высоўваецца частковае патрабаванне падпарадкаванае задачам звяржэння гэтага лада. Гэта частковае патрабаванне заключаецца ў неабходнасці і законнасці палітычных заняткаў, шляхам гурткоў і гутарак ў школе. Гэтае патрабаванне важна па наступных меркаваннях:

1) Заняткі ў буржуазнай школе палітыкай ў гутарках і гуртках пашыраюць кругавід вучня, ускрываюць перад ім класава-буржуазную сутнасць выкладання ў буржуазнай школе.

2) Заняткі палітыкай у школе ёсць сродак уплыву пролетарыята на дзяцей працоўных, знаходзячыхся ў буржуазнай школе ў мэтах уцягнення іх у барацьбу рабочага класа супроць буржуазіі.

Гэтае патрабаванне пролетарыята, указанае Леніным накіравана супроць буржуазных, меншавіцкіх, трацкісцкіх, бундаўскіх установак аб тым, што ўцягненне дзяцей у палітыку шкодна. Ленін указвае, што ўцягненне дзяцей у палітыку законамерна і неабходна, вызначае формы гэтага ўцягнення. Гэтае частковае патрабаванне так, як і іншыя, падпарадкавана асноўнай задачы пролетарыята—звяржэнню панавання буржуазіі і ўстанаўленню дыктатуры пролетарыята.

Вельмі характэрным з'яўляецца артыкул Леніна „К пытанню палітыкі міністэрства народнай асветы“, напісаны, як праект выступлення Бадаева ў Дзяржаўнай думе ў сувязі са справаздачай аб бюджэце міністэрства народнай асветы. Ленін ускрывае хлусню і фанабэрыю пана міністра аб тым, што ў царскай

Расіі нібы растуць быстрымі тэмпамі выдаткі на асвету ад 46 мільёнаў у 1907 годзе да 137 мільёнаў у 1913 г. Ленін па гэтаму поваду піша: „Дарма толькі нашы казённыя хваліцелі паліцэйскіх „парадкаў“ або **беспарадкаў** у Расіі забываюць, што да смешнага маленькія цыфры ў процантным вылічэнні іх узрастання растуць заўсёды з **„аграмаднай“** быстрынёй. Калі жабраку, маючаму тры капейкі, вы дасцё пятачок, павелічэнне яго „маёмасці“ зразу будзе „аграмаднае“ на цэлых 167 проц. Ці не належыла міністэрству, калі-б яно не праследвала мэты **зацямнення** народнага сазнання і **хавання** жабрацкага палажэння народнай асветы ў Расіі, прывесці **іншыя даныя?** Іменна, ці не належыла прывесці даныя зраўніваючыя не сёнешні наш пятачок з учорашнім нашым алтыным, а даныя зраўніваючыя тое, што мы маем з тым, што **неабходна** цывілізаванай дзяржаве? Усякі, хто не хоча абманваць сябе і абманваць народ павінен прызнаць, што такія даныя міністэрства абавязана было прывесці, што не прыводзячы **такіх** даных, міністэрства не выпаўніла свайго доўга. Замест **растлумачэння** народу і народным прадстаўнікам нашых дзяржаўных патрэб міністэрства **зацямняе** гэтыя патрэбы, займаючыся глупай казённай гульнёй у цыфіркі, казённым пераражоўваннем старых нічога не раз'ясняючых цыфр“ (Ленін, том 16, 2-е выд., стар. 409).

Палітыцы міністэрства накіраванай на зацямненне сазнання працоўных, шляхам аперавання казённымі аптымістычнымі лічбамі Ленін праціпастаўляе сапраўдныя лічбы, характарызуючыя стан народнай асветы ў царскай Расіі. Так, у царскай Расіі навучалася на 1000 чал. насельніцтва 46 вучняў, а ў Амерыцы ў той час на 1000 жыхароў навучаліся 192 вучні, у чатыры разы больш. Ленін даказвае, што 4/5 дзіцячага насельніцтва не дапушчаны да народнай асветы ў Расіі, дзе выдаткі на аднаго чалавека не перавышаюць 80 кап. у год, у той час, як у буржуазнай Амерыцы выдаткі даходзяць да 9 руб. 24 кап. на чалавека. У гэтым-жа артыкуле Ленін паказвае грабежніцкую палітыку прыгонніцкай улады царскай Расіі ў адносінах народных настаўнікаў, якім плоцяць малыя грошы, вымушаюць іх галадаць і мерзнуць у непаленых кватэрах і г. д. „Рускія народныя настаўнікі загнаны, як зайцы! Дзевяці дзесятым насельніцтва Расіі ўрад загараджвае шлях к адукацыі. Да, наша міністэрства народнай асветы ёсць міністэрства паліцэйскага сыска, глумлення над моладдзю, надругацельства над народным імкненнем к ведам. Але рускія сяляне і асабліва рускія рабочыя, гаспада члены IV думы, не ўсе, далёка не ўсе падобны на **зайцаў**. Рабочы клас сумеў гэта даказаць ў пятым годзе і ён сумее даказаць яшчэ раз і даказаць больш пераканаўча, больш унушыцельна, больш сур'ёзна, сваю здольнасць да рэволюцыйнай барацьбы за сапраўдную свабоду і за **сапраўдную** не касоўскую і не дваранскую **народную** асвету“ (Ленін, т. XVII, 2-е выд., стар. 416).

У гэтым артыкуле яскрава паказана сувязь народнай асветы царскай Расіі з усёй палітыкай царскай прыгонніцкай паліцэйскай улады, задача якой састаіць у тым, каб не дапусціць 9/10 народа да асветы. Ленін паказвае махінацыі гаспод міністраўпаліцыянтаў, якія шляхам фальсіфікацыі сапраўднага бюджэта хацелі абдурыць працоўныя масы ў мэтах умацавання эксплаатацыі. Ленін паказвае, што сапраўдную асвету для сябе рабочы клас заваюе на аснове пролетарскай рэволюцыі.

Неабходнай часткай барацьбы пролетарыята супроць буржуазіі ў вобласці народнай асветы з'яўляецца барацьба за **пролетарскае інтэрнацыянальнае выхаванне.** Напярэдадні імперыялістычнай вайны агенты буржуазіі сярод рабочага класа— бундаўцы, ППС, меншавікі, беларуская соцыялістычная грамада і іншыя дробна-буржуазныя і буржуазныя партыі па заданню сваёй нацыянальнай буржуазіі вялі работу па прывіццю нацыянал-шавіністычных тэорый падрастаючаму пакаленню пад выглядам тэорыі нацыяналізацыі школы і нацыянальна-культурнай аўтаноміі. У цэлым радзе сваіх артыкулаў Ленін даказвае буржуазнасць гэтых тэорый і проціпастаўляе ім ідэю пролетарыята, ідэю пролетарскага інтэрнацыяналізма.

Сутнасць нацыяналізацыі школы ў разуменні чорнасоценцаў састаіць у тым, што царскі ўрад жадаў арганізаваць школы на дзяржаўнай рускай мове, асобныя для нацыяналаў, для таго, каб распаліць нацыянальную варожасць паміж працоўнымі і гэтым адцягнуць іх ад рэволюцыйнай барацьбы. Тэорыя нацыянальна-культурнай аўтаноміі па сутнасці з'яўляецца працягам той-жа рэакцыйнай—чорнасоценнай тэорыі нацыяналізацыі школы. Ленін ускрывае класава-метадалагічныя корні гэтай тэорыі.

„Пакуль розныя нацыі жывуць у адной дзяржаве, іх звязваюць мільёны і мільярды ніцей эканамічнага, прававога і бытавога характару. Як-жа можна вырваць школьную справу з гэтых сувязяй? Можна і яе „із'яць з ведзення" дзяржавы, як гласіць класычная, па рэльефнаму падкрэсленню бяссэнсіцы, бундаўская фармулёўка? Калі эканоміка згуртоўвае жывучыя ў адной дзяржаве нацыі, то спроба раздзяліць іх раз на заўсёды для вобласці „культурных" і ў асаблівасці школьных пытанняў недарэчна і рэакцыйна. Напроціў, трэба дабівацца **злучэння** нацый у школьнай справе, каб у школе падрыхтоўвалася тое, што ў жыцці ажыццяўляецца. У даны час мы наглядаем нероўнапраўе нацый і неаднолькавасць іх узроўня развіцця; пры такіх умовах раздзяленне школьнай справы па нацыянальнасцях, **фактычна**, немінуема будзе **пагаршэннем** для больш адсталых нацый. У Амерыцы ў паўднёвых, быўшых рабаўласніцкіх, штатах да гэтых пор выдзяляюць дзяцей неграў у асобныя школы, тады як на Поўначы белыя і негры вучацца разам. У Расіі ўзнік нядаўна праект „нацыяналізацыі яўрэйскай школы", г. зн. аддзяленне яўрэйскіх дзяцей ад дзяцей другіх нацыянальнасцей у асобных школах. Няма чаго і казаць, што ўзнік гэты праект у

самых рэакцыйных, пурышкевіцкіх кругах. Не можна быць дэмакратам, адстойваючы прынцып раздзялення школьнай справы па нацыянальнасцях. Заўважце: мы рассуждаем, пакуль што, з агульна-дэмакратычнага, г. зн. буржуазна-дэмакратычнага пункта гледжання. Непамерна больш рашуча прыходзіцца выступаць супроць раздзялення школьнай справы па нацыянальнасцях, з пункта гледжання пролетарскай класавай барацьбы. Хто-ж не ведае, што капіталісты ўсіх нацый данай дзяржавы зліваюцца самым цесным, неразрыўным чынам у акцыянерных прадпрыемствах, у картэлях і трэстах, у саюзах прамыслоўцаў і т. п., **супроць** рабочых якой угодна нацыянальнасці?..

„Культурна-нацыянальная аўтаномія“, г. зн. абсалютнае чыстае і паслядоўнае раздзяленне школьнай справы па нацыянальнасцях выдумана не капіталістамі (яны **пакуль** пагрубей прыёмы ўжываюць для раздзялення рабочых), а апартуністычнай, мяшчанскай інтэлігенцыяй Аўстрыі. Ні ў адной з Заходня-Еўропейскіх дэмакратычных краін са стракатым нацыянальным складам гэтай геніяльна-мяшчанскай і геніяльна-нацыяналістычнай ідэі **няма ў паміне**. Толькі на ўсходзе Еўропы, у адсталай феадальнай, клерыкальнай чыноўніцкай Аўстрыі, дзе **ўсякае** грамадскае і палітычнае жыццё застапорана мізэрна дробнай дракай (нават горш: сваркай і патасоўкай) з-за моў узнікла гэта ідэя адчаяўшагася дробнага буржуа. Хоць разгарадзіць-бы раз на заўсёды ўсе нацыі з абсалютнай чыстатой і паслядоўнасцю на „нацыянальныя курыі“ у школьнай справе калі нельга памірыць кошку з сабакай!—вось псіхалогія, парадзіўшая глупенькую „культурна-нацыянальную аўтаномію“. Пролетарыят, які сазнае і цэніць свой інтэрнацыяналізм, не пойдзе ніколі на гэта глупства ўтанчонага нацыяналізма.

Не выпадкова, што ў Расіі прынялі „культурна-нацыянальную аўтаномію“ **толькі ўсе** буржуазныя партыі яўрэйства, затым (у 1907 г.) канферэнцыя **дробна-буржуазных**, леванародніцкіх партый розных нацый, і ўрэшце мяшчанскія апартуністычныя элементы калямарксісцкіх груп, г. зн. бундаўцы і ліквідатары (апошнія пабаяліся нават зрабіць гэта прама адкрыта, упаўне апрадзялёна). Не выпадкова, што з трыбуны дзяржаўнай Думы толькі нацыяналістычна заражоны поўліквідатар Чхенкелі ды дробны буржуа Керанскі гаварылі аб „культурна-нацыянальнай аўтаноміі“.

Смешна наогул чытаць ліквідатарскія і бундаўскія спасылкі на Аўстрыю па гэтаму пытанню. Папершае, чаму для ўзора трэба браць самую адсталую з нацыянальна-стракатых краін? Чаму не самую перадавую? Бо гэта-ж прыём падобны на прыём дрэнных рускіх лібералаў, г. зн. кадэтаў, якія ўзораў для канстытуцыі шукаюць больш усяго ў адсталых краінах Прусіі, Аўстрыі, а не ў перадавых, не ў Францыі, Швейцарыі, Амерыцы“. (Ленін, том XVII, ст. 93).

Мы прывялі гэтую вялікую цытату з Леніна таму, што рэакцыйную сутнасць нацыянальна-культурнай аўтаноміі неабходна рашуча ўскрываць і цяпер пасля Окцябрскай рэволюцыі.

На пункце погляда нацыянальна-культурнай аўтаноміі стаялі і стаяць усе дробна-буржуазныя рэакцыйныя партыі—Бунд, ППС, БСГ і інш. Нацыянальна-культурная аўтаномія ім неабходна для таго, каб працягнуць контррэволюцыйную тэорыю „самабытнасці“ прыгнечаных нацый, тэорыю аб тым, што сярод яўрэяў або беларусаў няма класавай барацьбы, што даны народ з'яўляецца маналітна адзіным, бяскласавым, у якога інтарэсы нацыянальныя вышэй класавых. Гэтыя дробна буржуазныя партыі проціпастаўлялі ленінскаму пролетарскаму інтэрнацыяналізму свой буржуазны контррэволюцыйны нацыянал-шавінізм ў мэтах падпарадкавання пролетарыята інтарэсам буржуазіі данай нацыі і адрыва працоўных гэтай нацыі ад агульнай барацьбы пролетарыята супроць капітала.

Ленін выкрыў контррэволюцыйную сутнасць тэорыі нацыянальна-культурнай аўтаноміі. Гэтыя выкрыцці былі, зразумела, не па духу гаспадам бундаўцам, пепеэсаўцам і БСГ. Адзіным фронтам гэтыя агенты буржуазіі апалчаюцца супроць Леніна, абвінавачваючы яго ў тым, што ён нібы выступае супроць прынцыпа роднай мовы.

Ленін у цэлым радзе сваіх артыкулаў абвяргае гэтая пошлае, фальшывае абвінавачванне. Ён даказвае, што большэвікі заўсёды стаялі за прынцып роднай мовы, які з'яўляецца сродкам уцягнення дзяцей розных нацый у агульную класавую барацьбу пролетарыята.

Родная мова не ёсць самамэта для большэвікоў. У той-жа час для ідэолага нацыянальна-культурнай аўтаноміі і падзела школ па нацыянальнасцях, прынцып роднай мовы з'яўляецца абсалютнай самамэтай, бо ён раз'ядноўвае паміж сабой дзяцей працоўных розных нацыянальнасцей.

Ленінскі падыход і выкрыццё тэорыі нацыяналізацыі школы, тэорыі нацыянальна-культурнай аўтаноміі, падыход Ільіча к растлумачэнню прынцыпа роднай мовы—мае актуальнейшае значэнне як для нас у будаўніцтве совецкай політэхнічнай школы, так і для палітыкі пролетарыята ў галіне народнай асветы ў капіталістычных краінах. Гэтая ленінская ўстаноўка дае нам моцную зброю ў барацьбе з рознымі спробамі нацыянал-шавіністаў, контррэволюцыйных нацдэмаў, кантрабандным шляхам працягнуць на розных участках нашага нацыянальна-культурнага будаўніцтва контррэволюцыйную тэорыю нацыяналізацыі школ і тэорыю нацыянальна-культурнай аўтаноміі, знашоўшую адлюстраванне ў прымусовай яўрэізацыі і беларусізацыі школ, механічным прыёме дзяцей у школы, незалежна ад іх роднай мовы і жадання бацькоў. Гэтая тэорыя знайшла свае выражэнне і ў імкненні нацдэмаў зачыніць рускія школы, выцясніць рускую мову з беларускіх і нацменаўскіх школ. Гэтая тэорыя

накіравана на адрыў Беларусі ад Совецкага Саюза, наператварэнне БССР ў калонію польскага і нямецкага фашызма.

Мы ў нашых школах захоўваем прынцып роднай мовы не як самамэту, а як сродак збліжэння дзяцей розных нацыянальнасцей у барацьбе за соцыялізм, у барацьбе за лепшую якасць засваення асноў навук і політэхнічнай адукацыі, у барацьбе за падрыхтоўку актыўнага будаўніка бяскласавага соцыялістычнага грамадства.

Ленін высоўвае лозунг барацьбы з нацыяналістычнымі школамі, за неабходнасць навучання дзяцей на роднай мове за кошт дзяржавы. Ленін падкрэслівае неабходнасць змагання за адзіныя школы, вольныя ад рэлігіі і нацыянал-шавінізма, неабходнасць барацьбы з палітыкай буржуазіі ў вобласці народнай асветы, накіраванай на недапушчэнне дзяцей працоўных розных нацый к адукацыі, на ўстанаўленне процантнай нормы для дзяцей працоўных нацменшасцей [1]).

Мы бачым, такім чынам, што частковыя патрабаванні высоўваемыя Леніным ва ўмовах капіталізма падпарадкаваны агульнай задачы пролетарыята ў буржуазных краінах,—звяржэнню дыктатуры буржуазіі і ўстанаўленню пролетарскай дыктатуры пад кіраўніцтвам компартыі. Ленінскія ўстаноўкі і тэарэтычныя палажэнні ў гэтым пытанні з'яўляюцца ўзорам барацьбы супроць меншавікоў, бундаўцаў і ліквідатараў з аднаго боку і супроць народнікаў, БСГ, кадэтаў і іншых буржуазных партый з другога.

Ленін да лютаўскай рэволюцыі, вядучы барацьбу за ажыццяўленне інтарэсаў пролетарыята ў галіне народнай асветы канстатуе, што:

1. Школа ва ўмовах буржуазнай або феадальна-прыгонніцкай дзяржавы з'яўляецца класавай, або класава-саслоўнай, задача якой,—зацямненне сазнання працоўных і падрыхтоўка паслухмяных рабоў для капітала.

2. Народніцкая ідэя прымусовай адукацыі праз адработку з'яўляецца рэакцыйнай, буржуазна-прыгонніцкай ідэяй у мэтах прадастаўлення бясплатнай рабочай сілы для памешчыцкай сельскай гаспадаркі.

3. Класавая школа юрыдычна даступна для ўсіх, а фактычна толькі для тых, хто можа плаціць за навучанне і значыцца, не даступна для працоўных.

4. Пролетарыят можа забяспечыць сваім дзецям і дзецям усіх працоўных сапраўдную адукацыю толькі тады, калі канчаткова звергне гнёт капітала і ўстановіць сваю дыктатуру.

5. У буржуазных краінах пролетарыят павінен высоўваць частковыя патрабаванні ў вобласці народнай асветы, падпарадкаваныя агульнай задачы пролетарыята, у яго барацьбе з буржуазіяй. Вось гэтыя частковыя патрабаванні:

[1]) Аб тым, як Ленін ставіў пытанне развіцця нацшкол па прынцыпу роднай мовы пасля Окцябра—скажам у наступным артыкуле.

а) Агульнае абавязковае бясплатнае навучанне дзяцей да 16 гадоў, забеспячэнне ўсіх дзяцей працоўных харчаваннем, адзежай, абуткам і навучальнымі прыладамі за кошт дзяржавы.

б) Аддзяленне царквы ад дзяржавы і дзяржавы ад царквы, адмена выкладання рэлігіі ў школе, выгнанне адтуль выкладчыкаў закона божага.

в) Павелічэнне заробка настаўніцтву народных школ.

г) Дазволіць дзецям працоўных займацца палітыкай у школе, у гуртках, шляхам спецыяльных гутарак па пытаннях паўсядзённай барацьбы пролетарыята з буржуазіяй.

д) Арганізаваць адзіныя школы для дзяцей працоўных розных нацыянальнасцей, забяспечыўшы ў іх выкладанне на роднай мове за кошт дзяржавы.

е) Весці барацьбу супроць усякіх нацыянал-шавіністаў як справа, так і злева, якія імкнуцца раздзяліць школы па нацыянальнасцях.

ж) Высоўваць як асноўныя прынцыпы выхавання дзяцей працоўных—злучэнне навучання з грамадска-вытворчай працай на аснове інтэрнацыяльна-класавага выхавання, як важнейшага фактара выхавання барацьбітоў за справу рабочага класа супроць буржуазіі. Поўнае ажыццяўленне патрабаванняў пролетарыята магчыма толькі тады, калі ён пераможа буржуазію і ўстановіць сваю дыктатуру.

## Ленін аб барацьбе пролетарыята ў вобласці народнай асветы пасля звяржэння буржуазіі

Владзімір Ільіч распрацаваў сістэму комуністычнага выхавання ў эпоху дыктатуры пролетарыята. Напярэдадні Окцябрскай рэволюцыі ў маі 1917 г., Ленін ў праекце праграмы партыі па народнай асвеце намеціў пункты, падпарадкаваныя асноўнай задачы пролетарыята гэтага перыяда—звяржэнню буржуазнага часовага ўрада. Гэтыя пункты наступныя:

„...8 Права насельніцтва атрымаць асвету на роднай мове, забяспечанае стварэннем за кошт дзяржавы і органаў самакіравання неабходных для гэтага школ; права кожнага грамадзяніна аб'ясняцца на роднай мове на сходах; увядзенне роднай мовы побач з дзяржаўнымі ва ўсіх мясцовых грамадскіх і дзяржаўных установах, адмена абавязковай дзяржаўнай мовы,

...13. Аддзяленне царквы ад дзяржавы і школы ад царквы; поўная свецкасць школы.

14. Бясплатнае і абавязковае агульнае і політэхнічнае (знаёмячае ў тэорыі і на практыцы з усімі галоўнымі галінамі вытворчасці) навучанне для ўсіх дзяцей абоега пола да 16 год цесная сувязь навучання з дзіцячай грамадска-вытворчай працай:

15. Снабжэнне ўсіх вучняў харчамі, адзежай і вучэбнымі дапаможнікамі за кошт дзяржавы.

16. Перадача справы народнай асветы ў рукі дэмакратычных органаў мясцовага самакіравання, устараненне цэнтральнай

улады ад усякага ўмяшання ва ўстанаўленне школьных праграм і падбор настаўніцкага персанала, выбарнасць настаўнікаў непасрэдна самім насельніцтвам і права насельніцтва адзываць непажаданых настаўнікаў" (Ленін, том XX, стр. 304-305).

Гэтыя патрабаванні з'яўляюцца ўзорам таго, як Ленін змагаўся за рэвалюцыянізаванне школы. Гэтыя патрабаванні накіраваны на вызваленне школы ад розных контррэвалюцыйных элементаў, імкнуўшыхся захаваць дух нацыянал-шавінізма і рэлігійнасці, захаваць старыя рэакцыйныя праграмы. Ленін недарма ставіць на гэтым этапе патрабаванне аб вызваленні школы ад апекі буржуазнай дзяржавы і прадастаўленні магчымасці рэвалюцыйна-дэмакратычным элементам на месцах змагацца за свецкасць школы, за новыя рэволюцыйныя праграмы і настаўніка, які ўмее і хоча ажыццяўляць гэтыя праграмы. Некаторыя апартуністы, не разумеючы дыялектыкі ў пастаноўцы гэтых ленінскіх патрабаванняў напярэдадні Окцябра, дамагаліся ўнясення гэтага пункта ў праграму партыі і пасля звяржэння буржуазіі. Яны „не зразумелі", што пры дыктатуры пролетарыята не можа быць і гутаркі аб адхіленні партыі пролетарскай дзяржавы ад кіраўніцтва школай.

Пры дыктатуры пролетарыята школьная праграма павінна быць дзяржаўна абавязковай у мэтах прывіцця дзецям пролетарскай ідэалогіі і барацьбы з агентурай класавага ворага, які імкнецца ўнедрыць у школу элементы антыпролетарскай ідэалогіі. Усе астатнія пункты праграмы могуць быць ажыццёўлены толькі пры дыктатуры пролетарыята і таму цалкам увайшлі ў праграму нашай комуністычнай партыі, прынятую на VIII з'ездзе ВКП(б).

У далейшых сваіх работах Ленін развівае і ўдасканальвае прынцыпы совецкай політэхнічнай школы ва ўмовах дыктатуры пролетарыята. На першым Усерасійскім з'ездзе па народнай асвеце 28-га жніўня 1918 года Ленін намячае асноўныя задачы ў вобласці народнай асветы і ў плане сваёй прамовы піша наступнае:

„6. Мы змагаемся не толькі за перамогу соцыялізма ў Расіі, але і ва ўсім свеце.

7. І ў гэтай барацьбе важнейшае значэнне мае народная асвета... як частка гэтай барацьбы.

9. Асвета народа ў капіталістычным грамадстве: прылічнага слугу, растаропнага халопа, услужлівага прыказчыка.

10. Пры соцыялізме... каб тыя, каго капіталізм адкідаў у рады найбольш прыдаўленых, забітых, цёмных, каб яны самі кіравалі ўсёй прамысловасцю, усёй вытворчасцю". (Ленінскі зборнік № 21, ст. 212).

Гэтыя пункты маюць велізарнае значэнне для разумення ролі народнай асветы ў справе соцыялістычнага будаўніцтва. У гэтай прамове (1918) Ленін ўказвае, што народная асвета

ёсць адна з састаўных частак барацьбы пролетарыята за соцыялістычнае будаўніцтва ў СССР, за сусветную рэволюцыю.

Ленін указвае на класавы характар школы ў буржуазным грамадстве, якая з дзяцей працоўных рыхтуе прылічных слуг, растаропных халопаў і г. д. Задача-жа савецкай школы выхаваць чалавека здольнага кіраваць соцыялістычнай вытворчасцю, чалавека, які аўладаў-бы асновамі навук, неабходнымі для барацьбы пролетарыята і пабудовы соцыялізма. Ленін гаворыць, што наша школа з'яўляецца класавай, маючай на ўвазе выключна інтарэсы працоўных.

Ленін гаворыць, што школа павінна выхоўваць дзяцей у духу пролетарскага інтэрнацыяналізма, дзяцей адданых справе соцыялістычнага будаўніцтва ў нас, справе барацьбы пролетарыята ва ўсім свеце за ўстанаўленне яго дыктатуры, выхоўваць нянавісць да ворагаў пролетарыята. У далейшых сваіх работах Ленін намячае шляхі і формы ажыццяўлення гэтых прынцыпаў у савецкай політэхнічнай школе пры дыктатуры пролетарыята.

На 2-м Усерасійскім з'ездзе настаўнікаў інтэрнацыяналістаў Ленін звяртаецца к мыслі аб прынцыпах школы ў перыяд дыктатуры пролетарыята. Ён піша: „Адным з такіх буржуазных ліцамер'яў з'яўляецца пераканание ў тым, што школа можа быць па-за палітыкай. Вы добра ведаеце наколькі ілжыва гэтае пераканание. І буржуазія, высоўваючая такое палажэнне, сама ў главу вугла школьнай справы ставіла сваю буржуазную палітыку і старалася школьную справу звесці к таму, каб натаскаць для буржуазіі пакорных і растаропных прыслужнікаў, старалася знізу да верху нават усеагульнае навучанне звесці к таму, каб натаскаць для буржуазіі пакорных і растаропных слуг, выканаўцаў волі і рабоў капітала, ніколі не клапацілася аб тым, каб школу зрабіць аруддзем чалавечай асобы па-за класам. І цяпер ясна для ўсіх, што гэта можа зрабіць толькі школа соцыялістычная, стаячая ў неразрыўнай сувязі з усімі працоўнымі і эксплаатуемымі, стаячая не за страх, а за сумленне на савецкай платформе“ (Ленін, том 23, 2-е выд., ст. 474).

Тут Ленін дабаўляе цэлы рад момантаў, неабходных для савецкай політэхнічнай школы. Ён ўказвае, што савецкая школа з'яўляецца адзінай ва ўсім свеце, якая дзякуючы сваёй пролетарска-класавай накіраванасці падрыхтоўвае людзей, здольных ўстанавіць комунізм. Наша савецкая школа выхоўвае дзяцей не ў духу ўвекавечання класавага падзела і прымірэння класаў. Трэба, каб дзеці зразумелі, што адзіным шляхам знішчэння класаў з'яўляецца канчатковая перамога пролетарыята над буржуазіяй, што шлях да пабудовы соцыялістычнага грамадства ляжыць праз абвострануую класавую барацьбу і дыктатуру пролетарыята пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі.

Усе свае мыслі ў вобласці народнай асветы Ленін канцэнтравана сфармуляваў у праекце праграмы РКП(б), напісанай ім у 1919 годзе к VIII з'езду партыі. У гэтым праекце дан адказ

на ўсе асноўныя пытанні пабудовы совецкай політэхнічнай школы. Мы тут падаем першы варыянт праекта пункта праграмы аб народнай асвеце, які з некаторымі ўдакладненнямі цалкам увайшоў у праграму нашай партыі.

„У вобласці народнай асветы РКП ставіць сваёй задачай давесці да канца пачатую з Окцябрскай рэволюцыі 1917 года, справуператварэння школы з аруддзя класавага панавання буржуазіі ў аруддзе знішчэння гэтага панавання як роўна і поўнага зніштажэння дзялення грамадства на класы. Школа павінна стаць аруддзем дыктатуры пролетарыята, г. зн. не толькі праваднікам прынцыпаў комунізма наогул, але і праваднікам ідэёвага, арганізацыйнага, выхаваўчага ўплыва пролетарыята на поўпролетарскія і непролетарскія слаі працоўных мас, у інтарэсах поўнага падаўлення супраціўлення эксплаататараў і ажыццяўлення комуністычнага лада. Бліжэйшымі задачамі на гэтым шляху ў цяперашні час з'яўляюцца:

1. Далейшае развіццё самадзейнасці рабочых і працоўных сялян у вобласці асветы пры ўсебаковай дапамозе совецкай улады;

2. Канчатковае аўладанне не толькі часткай, або большасцю настаўніцкага персанала як цяпер, а ўсім персаналам, у сэнсе адсячэння непапраўна буржуазных контррэволюцыйных элементаў і забеспячэння добрасумленнага правядзення комуністычных прынцыпаў (палітыкі);

3. Правядзенне бясплатнага і абавязковага агульнага і політэхнічнага (знаёмячага ў тэорыі і на практыцы з усімі галоўнымі галінамі вытворчасці) навучання для ўсіх дзяцей да 16 год;

4. Ажыццяўленне цеснай сувязі навучання з дзіцячай грамадска-вытворчай працай;

5. Снабжэнне ўсіх вучняў харчамі, адзежай і навучальнымі прыладамі за кошт дзяржавы;

6. Прыцягненне працоўнага насельніцтва к актыўнаму ўдзелу ў справе народнай асветы (развіццё советаў народнай асветы, мабілізацыя граматных і т. д.);

7. Цесная сувязь настаўніцкага персанала з агітацыйна-прапагандысцкім апаратам РКП". (Ленінскі зборнік № 13, ст. 63).

У гэтай намётцы Леніным даны асноўныя задачы совецкай школы ў эпоху дыктатуры пролетарыята. Ленін разглядае школу, як аружжа дыктатуры пролетарыята, як сродак правядзення прынцыпаў комунізма наогул, правядзення ідэёвага арганізацыйнага выхаваўчага ўплыву пролетарыята на працоўныя масы ў мэтах падаўлення супраціўлення эксплаататараў, у мэтах пабудовы комуністычнага грамадства.

Для ажыццяўлення гэтай асноўнай задачы Ленін распрацаваў цэлую сістэму комуністычнага выхавання, састаўнымі часткамі якой з'яўляюцца: агульная і політэхнічная адукацыя, выхаванне комуністычна-накіраванага чалавека, ваяўнічага атэіста, про-

летарскага інтэрнацыяналіста, фізічна здаровага, актыўнага будаўніка соцыялістычнага грамадства. Ленін вызначыў роль, месца і задачы настаўніка совецкай школы, як цэнтральнай фігуры педагагічнага працэса. Ленін распрацаваў прынцыпы падручніка ў совецкай політэхнічнай школе, даў асноўныя ўказанні аб формах і метадах школьнай работы.

На ўсіх гэтых праблемах мы застановімся ў наступным артыкуле.

*(Працяг будзе)*

---

*А. Левін, В. Зайцаў*

# За пролетарскі інтэрнацыяналізм у школьным будаўніцтве

Беларуская Совецкая Соцыялістычная Рэспубліка 15-ю гадавіну свайго існавання адзначыла велізарнейшымі поспехамі на ўсіх франтах соцыялістычнага будаўніцтва. Канчатковая ліквідацыя былога каланіяльнага становішча Беларусі, ліквідацыя бескультур'я, цемры і непісьменнасці, гіганцкі гаспадарчы і культурны ўздым рэспублікі—ўсё гэта з'яўляецца рэзультатам правільнага правядзення ленінскай нацыянальнай палітыкі, рэзультатам сістэматычнай дапамогі з боку рабочага класа ўсяго Совецкага Саюза.

Беларусь у мінулым мела выключна слаба развітую, саматужную прамысловасць, якая ў пераважнасці складалася з бровар-ных і вінакураных заводаў. Зараз, ажыццяўляючы гістарычныя рашэнні XIV з'езда ВКП(б), Беларуская ССР ператварылася ў індустрыяльна-аграрную краіну. У нас пабудованы прадпрыемствы, якія з'яўляюцца гігантамі не толькі ў Беларусі, але і ў маштабе Совецкага Саюза. Напрыклад, Гомельскі завод сельгасмашын з праектнай магутнасцю ў 27 млн. руб., Бабруйскі лесакамбінат з гадавой прадукцыяй у 20 млн. руб., швейная фабрыка „Сцяг індустрыялізацыі", Магілеўская фабрыка штучнага валакна, Крычаўскі цэментны завод, БелДРЭС і т. д. Былыя саматужныя майстэрні рэканструяваны ў вялікія прадпрыемствы, узброеныя перадавой тэхнікай.

Тэмпы роста прамысловасці БССР перавышаюць тэмпы роста прамысловасці Совецкага Саюза. Так, у 1931 годзе прырост валавой прадукцыі прамысловасці Беларусі ў параўнанні з папярэднім годам складаў 61 проц. у той час, як па ўсяму Саюзу ССР—28 проц. Выпуск валавой прадукцыі ў параўнанні з даваенным часам у БССР павялічыўся больш чым у 10 раз.

Бурны, небывалы ў гісторыі рост прамысловасці ўцягнуў у вытворчасць дзесяткі тысяч рабочых з карэннага насельніцтва Совецкай Беларусі (калі ў даваенны час у Беларусі налічвалася 23.000 рабочых, дык зараз іх звыш 114.000 чалавек), што значна

змяніла нацыянальны склад пролетарыята. Удзельная вага беларусаў у складзе рабочых прамысловасці толькі за гады першай пяцігодкі павялічылася з 21 да 62 проц.

Рост прамысловасці Совецкага Саюза і БССР стварыў базу для социялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі. У сучасны момант 52 проц. бядняцка-серадняцкіх гаспадарак ужо аб'яднаны ў калгасы, якія прымяняюць перадавую машынную тэхніку. На баве суцэльнай калектывізацыі ліквідавана кулацтва, як клас, і выкарчоўваюцца апошнія рэшткі капіталістычных элементаў у вёсцы. Пад кіраўніцтвам КП(б)Б, ажыццяўляючы ўказанні свайго настаўніка—тав. Сталіна—калгаснікі пры дапамозе створаных партыяй палітаддзелаў МТС, дасягнулі вялікіх поспехаў на шляху ператварэння калгасаў у большэвіцкія, а калгаснікаў у заможныя.

На базе гістарычных перамог у социялістычнай эканоміцы, паспяховай індустрыялізацыі краіны і калектывізацыі сельскай гаспадаркі, на базе магутнага роста ўсёй гаспадаркі БССР дасягнут велізарнейшы росквіт нацыянальнай культуры социялістычнай па зместу. З кожным годам няўхільна павышаецца добрабыт працоўных, растуць іх культурныя запатрабаванні, а разам з тым павялічваецца іх задаваленне.

Беларусь з краіны цемры і непісьменнасці стала рэспублікай суцэльнай пісьменнасці, паспяхова ажыццяўляецца ўсенавуч за сямігодку, маем дзесяткі ВНУ, ВТНУ і тэхнікумаў, навукова-даследчыя інстытуты, сваю Акадэмію Навук, тэатры, кіно, сотні клубаў, тысячы чырвоных куткоў і дамоў соцкультуры.

Ці ўсё гэта не з'яўляецца яркім доказам правільнасці слоў правадыра міжнароднага пролетарыята тав. **Сталіна** аб тым, што **„перыяд дыктатуры пролетарыята і будаўніцтва социялізма ў СССР ёсць перыяд росквіта нацыянальных культур, социялістычных па зместу і нацыянальных па форме“.**

Рабочы клас Совецкай Беларусі пад кіраўніцтвам КП(б)Б паспяхова будуе адзіную працоўную політэхнічную школу. Будаўніцтва політэхнічнай школы адбывалася і праходзіць ва ўмовах самай абвостранай класавай барацьбы. Беларускія нацдэмы, сядзеўшыя доўгі час у Наркамасвеце і ўмела расстаўляўшыя свае кадры на месцах, імкнуліся выкарыстаць нашу совецкую школу ў сваіх контррэволюцыйных мэтах. Яны не толькі прабавалі і прабуюць прывіць дзецям шавіністычную антыпролетарскую ідэалогію, але прымалі меры да затрымання тэмпаў роста сеткі школ. Яны так „планавалі“ увядзенне ўсеагульнага першапачатковага навучання, што апошняе магло-б ажыццявіцца толькі ў 1934-35 навучальным годзе.

Пад сваю шкодніцкую дзейнасць нацдэмы падводзілі і сваю „тэорыю“. Былы нарком асветы—нацдэм Баліцкі пісаў:

> „Эканамічнае становішча рабочых яшчэ настолькі цяжкае, што яны не ў сілах пратрымаць сваіх дзяцей у агульнаадукацыйнай школе нават на працягу 7 год...,а таму маса-

вай школай на бліжэйшы перыяд часу, асабліва ў сельскіх мясцовасцях будзе чатырохгодка".

Беларускія нацдэмы прабавалі рэвізаваць праграму нашай партыі па пытанню навучання дзяцей на роднай мове. Вось якую ўстаноўку адносна вызначэння роднай мовы даваў былы нарком асветы, нацдэм, аказаўшыйся правакатарам і агентам польскага і нямецкага фашызма—**Ігнатоўскі**:

„Гэтым тлумачыцца, што пад роднай мовай трэба разумець мову, на якой гаворыць большасць насельніцтва данай мясцовасці; пад няроднай мовай трэба разумець тую мову, якая існуе ў Беларусі апрача беларускай (напрыклад, руская, яўрэйская, польская)".

Беларускія нацдэмы таксама не мала шкодзілі і ў галіне мовы, тэрміналогіі і граматыкі. Успомнім з якім шаленствам Ластоўскія, Некрашэвічы, Лёсікі і іх паслядоўцы імкнуліся выгнаць з беларускай мовы ўсякае рэвалюцыйнае слова. Напрыклад, слова „пролетарыят" перакладалася імі на слова „убоства", „барыкада"—„загарадка", „дыялектыка"—„балбатня", „бядняк"—„злыдзень" і т. д. Стварыць бар'ер паміж беларускай мовай і мовай працоўных братэрскіх рэспублік Саюза ССР і раней усяго расійскай мовай, паставіць мову на службу інтэрвенцыі і буржуазнага нацыяналізма—вось куды мецілі контррэволюцыйныя нацдэмы.

У святле гэтых контррэволюцыйных імкненняў беларускіх нацдэмаў будзе зусім зразумелым агіднае становішча выкладання рускай мовы ў масавых беларускіх школах. У беларускай політэхнічнай школе руская мова вывучалася і вывучаецца як прадмет з трэцяга года навучання. Але трэба проста сказаць, што вывучэнне рускай мовы ігнаравалася ў масавых школах Беларусі. Ні Наркамасветы, ні работнікі АНА, ні профсаюзныя арганізацыі работнікаў асветы ніколькі не клапаціла тое, што **вучні пасля скончэння семігодкі не ведалі рускай мовы**, што яны ў поўным сэнсе гэтага слова былі непісьменнымі па гэтаму прадмету. Па прыкладу шумскістаў-хвілевістаў на Украіне, беларускія нацдэмы прытрымліваліся ў адносінах да рускай мовы тэорыі,—„чым горш, тым лепш". Буржуазныя нацыяналісты ў сваіх імкненнях на рэстаўрацыю капіталізма, арыентыруючыся на буржуазны Захад, праводзілі сваю контррэволюцыйную палітыку на адрыў працоўных Беларусі ад пролетарскай Масквы. Чым горш па іх „вучэнню" вучань уладаў рускай мовай, тым менш для яго была небяспека папасці пад уплыў рускай пролетарскай культуры.

У Беларусі не было такіх педагагічных навучальных устаноў, якія-б рыхтавалі выкладчыкаў рускай мовы для беларускіх школ, не рыхтаваліся яны і для рускіх школ БССР. Мы не можам прывесці ні аднаго факта калі-б старое кіраўніцтва Наркамасветы склікала выкладчыкаў рускай мовы і літаратуры на курсы па павышэнню кваліфікацыі. І гэта ў той час, калі выкладанне

гэтых прадметаў у школах сямігодках у большасці даручалася весці зусім некваліфікаваным у гэтай галіне настаўнікам. Руская мова і літаратура ў большасці выпадкаў давалася ў школах як дагрузка ўсім тым, у каго было мала лекцый, яе выкладалі хто папала,—матэматыкі, прыродаведы і нават фізкультурнікі, як дадатак да сваёй асноўнай работы. У большасці-ж выкладанне рускай мовы і літаратуры вёў настаўнік-беларусавед.

Беларускія нацыянал-дэмакраты ў свой час многа ўвагі звярталі на падрыхтоўку сваіх кадраў праз так званыя вышэйшыя курсы беларусазнаўства. Гэтыя настаўніцкія курсы яны імкнуліся цалкам зрабіць сваёй нацдэмаўскай школай. Праз лідэраў-нацыянал-дэмакратызма, сядзеўшых у Наркамасвеце і Інбелкульце (а пазней Бел. Акадэміі Навук), яны прасейвалі гэтыя курсы такім чынам, каб на іх трапілі людзі з нацдэмаўскай закваскай. У якасці метада „праверкі" настаўніцтва, якое ішло на гэтыя курсы для перакваліфікацыі, нацдэмы давалі пісьмовыя работы на тэму „Як я ўсвядоміў сябе беларусам". Па адказах на гэту тэму яны і вызначалі настаўнікаў—„свядомы" або „несвядомы" ён беларус. „Свядомымі" нацдэмы называлі таго, хто цалкам стаяў на пазіцыях нацыянал-дэмакратызма. На курсах беларусазнаўства праводзілася пэўнае нацдэмаўскае „павышэнне кваліфікацыі" і заканчваліся гэтыя курсы ўрачыстым выпускам, на якіх лідэры нацдэмаў рабілі генеральную нацыянал-дэмакратычную „накачку", шляхам выступленняў з урачыстымі прамовамі.

Вось, што, напрыклад, гаварыў вядомы нацдэм Лёсік на адным з выпускаў гэтых курсаў:

> „Калі вы параўнаеце сябе з тым, чым вы былі раней і цяпер, то адразу будзеце адчуваць сябе людзьмі новымі, духоўна перарадзіўшыміся. Вы ўжо не тыя, чым былі раней, бо папрабавалі плёны з таго дрэва, якое называецца „беларускай справай, беларускім адраджэннем". Вы былі ўведзены ў святое святых баларускай справы і раскрыліся вам вочы вашы і даведаліся вы аб тайне васкрасення бацькаўшчыны нашай маткі Беларусі. Вашы свечкі запалены і вы робіцеся апосталамі „беларускай справы"... Уважліва сачыце за сабой і не забывайцеся паліваць масла ў свяцільнікі вашы, каб было з чым сустрэць яе Белую Русь, калі яна прыдзе судзіць нас ва ўсёй славе сваёй".

Адзін стыль чаго варты, проста з евангелля. Якую Белую Русь нацдэмы збіраліся сустракаць, гэта працоўным Совецкай Беларусі добра вядома.

І вось гэтым-то кадрам, заканчваючым курсы беларусазнаўства, даручалася „выкладаць" і рускую мову.

Разгромленае, але недабітае нацдэмаўскае ахвосце, карыстаючыся стратай большэвіцкай пільнасці з боку органаў Наркамасветы і профарганізацыі работнікаў асветы ў сваёй звярынай нянавісці да рускай пролетарскай культуры, дашло да таго, што ўхітрылася ў радзе месц зусім выкідваць з вучэбных планаў

сямігодак выкладанне рускай мовы. Гэта-ж факт, што яшчэ ў мінулым 1932-33 навучальным годзе ў Мокшанскай ШКМ, Віцебскага раёна, за ўвесь год не было дана ні аднаго ўрока рускай мовы. У Прыбыткоўскай ШКМ Гомельскага раёна ў першым поўгоддзі таксама не было ўведзена выкладанне рускай мовы і літаратуры. У ШКМ імя „Совецкай Беларусі" Касцюковіцкага раёна руская мова не выкладалася да сакавіка месяца. Можна прывесці фактаў поўнага ігнаравання вывучэння рускай мовы яшчэ больш, але і прыведзеных дастаткова для таго, каб паказаць, як буржуазныя нацыялістычныя элементы, якія залезлі ў школы, зусім адкрыта праводзілі сваю лінію.

Старае кіраўніцтва Наркамасветы і ДВС для вучняў пачынаючых вывучэнне рускай мовы ў беларускіх (3 група) і нацменаўскіх школах (4 група) прапанавала праграмы і падручнікі рускіх школ РСФСР гэтых-жа груп, не лічачыся з тым, што дзеці рускую мову пачынаюць вывучаць упершыню. Ясна, што такая палітыка грала на руку беларускім нацдэмам, бо дзіця не можа асвоіць пры такіх умовах цвёрда ведаў па рускай мове, што ў канчатковым выніку адрывала падрастаючае пакаленне ад рускай пролетарскай культуры. Падамо факты.

У пачатку навучальнага года школьным упраўленнем НКА была абследвана пастаноўка выкладання рускай мовы ў Менскіх школах. Былі абследваны дзве беларускія школы—25 узорная ФЗС і 36 ФЗС, 12 яўрэйская ФЗС, 33 польская і 4 руская ФЗС. У сёмых групах гэтых школ была дана аднолькавая дыктоўка прыблізна каля 100 слоў у тэксце. Рэзультаты абследвання самыя агідныя і, як гэта не дзіўна, на апошнім месцы аказалася 25 узорная ФЗС. Вучнямі гэтай школы ў дыктоўцы было зроблена ў сярэднім па 32 памылкі і максімальная колькасць памылак...99. У 36 беларускай ФЗС сярэдняя колькасць памылак 29, пры максімальнай—88, у 33 польскай сярэдняя таксама 29, максімальная—55, у 12 яўрэйскай сярэдняя—20 і максімальная—49, у 4-й рускай ФЗС, дзе руская мова з'яўляецца роднай, мы маем у сярэднім 8 памылак на вучня, а максімальную колькасць памылак—30.

Як вядома, у Беларусі мы мелі факты грубага скажэння ленінскай нацыянальнай палітыкі партыі на асобных участках фронта культурнага будаўніцтва. Буржуазныя нацыяналістычныя кулацкія элементы абвяшчалі паход супроць сумленных совецкіх настаўнікаў і студэнтаў, іх цкавалі, абвяшчаючы вялікадзяржаўнымі шавіністамі з усімі выцякаючымі адсюль вынікамі толькі за тое, што яны ў прыватным быту карысталіся рускай мовай. Беларусізацыя ў радзе выпадкаў праводзілася шляхам голаг адміністравання, без уліку канкрэтных асаблівасцей кожнаг раёна.

У гэтай галіне беларускія нацдэмы асабліва моцна праявілі сябе на фронце школьнага будаўніцтва. У сваёй звярынай нянаві- вісці да рускай пролетарскай культуры, рускай мовы, беларуск

нацдэмы даходзілі да таго, што проста вялі курс на ліквідацыю рускіх школ для дзяцей рускага працоўнага насельніцтва Беларусі.

Прасочым за нацдэмаўскім планаваннем сеткі рускіх школ. У 1927-28 навучальным годзе ў БССР налічвалася 151 руская школа, у якіх навучалася 24452 вучняў рускай нацыянальнасці; у 1928-29 г.—136 школ з 14710 вучнямі, у 1929-30 г.—106 школ, у 1930-31 г.—83 школы з 15277 вучнямі рускай нацыянальнасці, у 1931-32 г. было 84 школы, у якіх навучалася 13996 дзяцей, у той час калі на 1 студзеня 1932 г. у БССР налічвалася 63413 дзяцей школьнага ўзросту рускай нацыянальнасці.

У мінулым навучальным годзе ў 70 рускіх пачатковых школах і ў І-м канцэнтры рускіх школ сямігодак навучаліся 15434 вучні ў той час, калі па даных УНГВ БССР на 1 студзеня 1933 г. рускіх дзяцей данага ўзросту мелася 43321. Такім чынам усенавучам за пачатковую школу на роднай мове было ахоплена толькі 35,6 проц. дзяцей рускай нацыянальнасці. Беларускія нацдэмы так „спланавалі" пашырэнне сеткі рускіх школ на другую пяцігодку, што мы мелі-б прырост толькі ў 35 кампляктаў.

Махровы беларускі контррэвалюцыйны нацыянал-дэмакратызм знайшоў сваё выражэнне і ў механічным кампляктаванні школ: дзяцей беларусаў накіроўвалі ў беларускія школы, яўрэеў—у яўрэйскія і т. д. Зусім не ўлічвалася веданне дзяцьмі мовы і жаданне бацькоў. Фактычна ў радзе месц і ў бягучым навучальным годзе праводзілася тая-ж палітыка механічнага кампляктавання школ дзяцьмі. Асабліва яркі прыклад гэтага паказаў **Чавускі раён**, дзе ў беларускую ШКМ прымаліся дзеці яўрэяў толькі з запіскай загадчыка яўрэйскай школы, што дзіця не ведае яўрэйскай мовы, а польскую школу ўмудрыліся кампляктаваць па адзнацы... рэлігійнасці: дзіця наведала касцёл, значыць, наперакор жаданню бацькоў,—ідзі ў польскую школу.

Скарыстоўваючы прытупленне і страту класавай пільнасці работнікаў асобных звенняў органаў Наркамасветы і асветніцкіх прафсаюзных арганізацый, нацдэмаўскае ахвосце, пралезшы ў рады настаўнікаў, імкнулася і імкнецца скарыстаць нашу савецкую політэхнічную школу ў сваіх контррэвалюцыйных мэтах. У **Вярхоўскай ШКМ** Бешанковіцкага раёна нацдэмаўская зграя праводзіла шкодніцкую работу: заняткі вяліся па нацдэмаўскіх падручніках, замест комуністычнага выхавання вучням прывівалася ідэалогія беларускіх нацдэмаў. Школьная бібліятэка была засмечана нацдэмаўскім хламам.

У **Нахаўскай ШКМ** Рэчыцкага раёна „настаўнік" нацдэм Кажэмякін выкладанне рускай мовы праводзіў выключна па-беларуску, катэгарычна забараняючы дзецям на лекцыях рускай мовы не толькі адказваць на гэтай мове, але і весці запісы ў сшытках на „маскоўскай мове".

Пад носам у Менскага ГарАНА у **21 беларускай ФЗС** доўгі час беспакарана арудвалі нацыяналістычныя элементы. Гэтая школа ў часы Баліцкіх, Ігнатоўскіх і Лёсікаў лічылася цэнтраль-

най дыследчай школай і фактычна была нацдэмаўскім гняздом. Кіраўнікі Менскага ГарАНА, і парт'ячэйкі асветнікаў, куды, як гэта выявіла чыстка, пралезла нямала варожых элементаў, пасвойму „аздараўлялі“ 21 ФЗС.

Школай загадваў сын кулака **Грамыка**, загадчыкам вучэбнай часткай была дачка папа **Смірнова**. На „дапамогу“ гэтым кіраўнікам школы ГарАНА паслала настаўніцу **Дзегілевіч**—дачку высланага кулака, **Зарэцкую** і іншых выхадцаў з класава-варожых элементаў. Калі паглядзець на ўвесь гэты букет, дык будзе зразумелым, каму ў 21 школе было даверана выхаванне падрастаючага пакалення. Невыпадкова ў гэтай школе хавалася і папулярызавалася сярод дзяцей нацдэмаўская літаратура, невыпадкова ў якасці асноўнага вучэбнага дапаможніка „настаўнікі“ карысталіся нацдэмаўскай геаграфічнай картай Беларусі Смоліча і Азбукіна. Пры дапамозе гэтага контррэволюцыйнага выдання дзецям у галаву ўбівалася, што Заходняя вобласць з'яўляецца таксама Беларуссю і што межы яе цягнуцца аж да Масквы.

На пасяджэнні школьнага совета на чале з Грамыка нацдэмаўскія справы не толькі не былі ўзняты на належную палітычную вышыню, але пад націскам загадчыка школы, яны былі змазаны: заслухалі інфармацыю і гэтым абмежаваліся.

Характэрна, што апартуністычнае кіраўніцтва Менскага ГарАНА нават у гэтым навучальным годзе прэміравала Грамыку, як лепшага загадчыка школы і гэта адбылося ў той час, калі ніхто работу 21 школы не правяраў і не кантраляваў яе дзейнасць.

Нацдэмаўскае ахвосце, прабраўшыся ў рады асветнікаў, усякімі спосабамі і хітрыкамі „ціхай сапай“, а часам і зусім адкрыта імкнулася і імкнецца прывіць вучням шавіністычную ідэалогію. За фактамі далёка не трэба хадзіць.

Настаўнік **Шапелеўскай ШКМ** Бялыніцкага раёна **Пчалкоў** у замаскаваным відзе працягваў класава-варожыя погляды на лекцыях літаратуры. „Настаўнік“ Пчэлкоў у якасці прыкладаў для тэарэтычных вывадаў у пытаннях паэтыкі не знашоў нічога іншага, як рэакцыйныя вершы Багдановіча: „Шмат у жыцці ёсць дарог, а вядуць яны ўсе да магілы“. „Гора нам бедным, гора загнаным, мучаць нас чорныя долі...“ і г. д.

**У Быхаўскай** першай сямігодцы пад рэдакцыяй настаўніцы **Клебанавай** пры патуранні загадчыка школы „комуніста“ **Малініцкага** быў выпушчан літаратурны зборнік, у якім знаходзім такі перл нацдэмаўскага пяра, як верш „Мой край“. У вершы чытаем:

„Беларусь край балот, курганаў,
Хмызнякоў і палёў,
Край гаротных сялян мужыкоў,
Край знядужаных працай...“ і т. д.

**У Лагойскай ШКМ** група настаўнікаў нацдэмаў працягвала контррэволюцыйныя ўплывы на вучняў. З гэтай мэтай у выкла

данні свядома выпустошвалася палітычна-класавая сутнасць прадмета. Выкладчык літаратуры **Лугаўцоў** ідэалізуючы нацдэмаўскіх пісьменнікаў, дашоў нават да простай фальсіфікацыі Леніна. У дыктоўцы гэтага „педагога" знаходзім такі сказ: „Ленін змагаўся і вучыў нас змагацца з ужываннем замежных моваў".

Загадчык-жа гэтай школы **Сухадолец**, падтрымліваючы свайго прыяцеля і аднадумца Лугаўцова, выступіў з такой „тэорыяй": „Настаўнікі тут непрычым, бо мы знаходзімся ў акружэнні дробна-буржуазнага асяродзішча". Нацдэм Сухадолец паслядоўны сваёй ідэалогіі. Ён даводзіць сваю шкодніцкую агітацыю да канца: „У нас усе вучні з вёскі, а ў вёсцы дрэнна жывецца (?!), дык усё гэта калі не-калі выяўляецца ў выглядзе нездаваленне вучняў",—і сваю антысовецкую прамову заканчвае словамі: „Быццё вызначае свядомасць".

Шкодніцкая дзейнасць нацдэмаў на фронце школьнага будаўніцтва ў Слуцкім раёне ўжо добра знаёма пролетарскай і асветніцкай грамадскасці БССР. Не гледзячы на гэта настаўніцкі калектыў Слуцкага раёна не здолеў да апошняга часу зрабіць адпаведныя вывады і урокі з усяго таго, што на працягу шмат год тварылі ворагі пролетарыята—заядлыя нацдэмы на чале з Іваніцкім, Карачуном, Каленчыцам, Доўбікам і іншымі. Нават сёння нацдэмаўскі дух яшчэ вее над асобнымі школамі і настаўнікамі Слуцка. Так настаўніца 2-й ФЗС **Заброцкая** давала нацдэмаўскія заданні вучням. Яна не спынялася нават перад тым, каб арганізоўваць збор сродкаў на дапамогу арыштаванаму нацдэму. Настаўнік **Курылін** распаўсюджваў нацдэмаўскую літаратуру не толькі сярод вучняў сваёй школы, але сярод вучняў іншых школ раёна.

Пастанову ўрада аб спрашчэнні правапісу, Слуцкія нацдэмы, як і іншыя беларускія нацыяналісты сустрэлі ў штыкі. Настаўніца 1-й ФЗС **Леванові**ч, робячы даклад аб новым правапісе ні аднаго слова не сказала аб класавай барацьбе на мовазнаўчым фронце і аб тым, як ашалелі заходня-беларускія нацыянал-фашысты Луцкевічы, Астроўскія і К°, пачуўшыя аб новым правапісе!

Чыстка партыйных ячэек асветнікаў Менска, Гомеля, Слуцка і іншых раёнаў БССР дапамагла ўскрыць дзейнічанне класавага ворага, які прабраўся ў рады настаўнікаў. Навакол школы ідзе абвостраная класавая барацьба. Можна прывесці дзесяткі фактаў, калі ў рэзультаце ўплыва класава-варожых элементаў у школах сярод дзяцей наглядаліся шавіністычныя вылазкі. Натхніцелямі гэтых вылазак былі класава-варожыя элементы, прабраўшыяся ў рады настаўніцтва. Інтэрнацыянальна-класавае выхаванне ў нашых школах не пастаўлена яшчэ на тую вышыню, на якой яно павінна стаяць. Можна мець добрыя, палітычна правільныя праграмы, добрыя падручнікі, але гэтага яшчэ мала для таго, каб школа выхоўвала свядомых будаўнікоў соцыялізма. Патрэбен яшчэ настаўнік, узброены марксізмам-ленінізмам і адданы справе пролетарыята, адданы партыі большэвікоў.

Комуністычная партыя большэвікоў Беларусі разграміла і выкрыла шкодніцкія планы і „тэорыі“ беларускіх контррэволюцыйных нацдэмаў і прывяла рабочы клас і працоўных Совецкай Беларусі да нябачаных у гісторыі чалавецтва перамог на ўсіх фронтах соцыялістычнага будаўніцтва, у тым ліку і на фронце будаўніцтва совецкай політэхнічнай школы. У бягучым навучальным годзе вядзецца рашучая барацьба за правільнае ажыццяўленне ленінскай нацыянальнай палітыкі ў школьным будаўніцтве. Сетка рускіх школ толькі ў гэтым годзе павялічылася на 69 груп, значна пашырана і ўмацавана сетка іншых нацменаўскіх школ, дан рашучы адпор нацдэмаўскім тэндэцыям скажаць прынцып камплектавання школ.

Вядзецца барацьба па ачышчэнню школ ад контррэволюцыйных нацдэмаўскіх і іншых класава-варожых элементаў, але класавы вораг не здаецца. Маскіруючыся, „ціхай сапай“ ён працягвае сваю шкодніцкую дзейнасць, накіраваную на зрыў нашага соцыялістычнага будаўніцтва, на падрыхтоўку глебы для імперыялістычнай інтэрвенцыі. Беларускія нацдэмы на ўсіх этапах сваёй барацьбы супроць Совецкай улады, супроць Совецкай Беларусі ставілі стаўку на інтэрвенцыю, на адрыў БССР ад вялікага Саюза ССР, на ператварэнне Беларусі ў калонію капіталістычных дзяржаў. Вось чаму зусім правільна снежаньскі пленум ЦК КП(б)Б таксама, як і пленум ЦК КП(б)У прыняў пастанову, у якой падкрэсліваецца, што **„вялікадзяржаўны рускі шавінізм з'яўляецца галоўнай небяспекай у маштабе ўсяго Совецкага Саюза і ўсёй ВКП(б). Але гэта ні ў якай меры не пярэчыць таму, што ў даны момант у Беларусі галоўную небяспеку прадстаўляе мясцовы беларускі нацыяналізм, які змыкаецца з імперыялістычнымі інтэрвентамі, Неабходна асабліва мець на ўвазе новую тактыку рускіх вялікадзяржаўных шавіністаў і беларускіх нацыяналістаў, падтрымліваемых усёй контррэволюцыяй, у тым ліку і трацкістамі, якія на даным этапе блакіруюцца паміж сабой на агульным плацдарме адрыву БССР ад СССР для аслаблення пазіцыі СССР і ўмацавання пазіцыі капіталізма“.**

Перад настаўніцтвам, органамі нарасветы і профарганізацыямі асветнікаў стаіць задача—павышаючы класавую пільнасць, весці самую бязлітасную барацьбу супроць беларускага буржуазнага нацыяналізма—галоўнай небяспекі на даным этапе ва ўмовах БССР, супроць вялікадзяржаўных і другіх класава-варожых элементаў, весці рашучую барацьбу за пролетарскі інтэрнацыяналізм, ачысціць свае рады ад кулацкіх, нацыяналістычных і іншых класава-варожых элементаў.

Адначасова трэба весці бязупынную барацьбу за сістэматычнае павышэнне якасці вучобы, за ліквідацыю „карэннага недахопа“, за комуністычнае выхаванне падрастаючага пакалення, за павышэнне сваёй марксісцка-ленінскай і педагагічнай узброенасці, за ўмацаванне ў школе свядомай дысцыпліны.

Пад ленінскім сцягам і пад кіраўніцтвам ЦК ВКП(б) і **т. Сталіна** комуністычная партыя большэвікоў Беларусі на чале з **т. Гікало** прывяла рабочы клас, калгаснае сялянства і працоўных Совецкай Беларусі да нябачаных гістарычных перамог. Чырвонасцяжнае настаўніцтва, узброіўшыся тэорыяй Маркса-Леніна-Сталіна, паклаўшы ў аснову рашэнні XVII з'езда ВКП(б) і XV з'езда КП(б)Б, кіруючыся ўказаннямі геніяльнага правадыра комуністычнай партыі і ўсяго міжнароднага пролетарыята т. Сталіна, пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі пойдзе да далейшых перамог у будаўніцтве совецкай політэхнічнай школы, у барацьбе за выхаванне пакалення здольнага канчаткова ўстанавіць комунізм.

---

*Д. Баршчэўская, М Лозбень.*

# Методыка прапрацоўкі ў політэхнічнай школе справаздачнага даклада т. Сталіна XVII з'езду партыі аб рабоце ЦК ВКП(б)

Гістарычны даклад т. Сталіна на XVII з'ездзе Комуністычнай партыі падводзіць ітогі трохгадовай барацьбы за соцыялізм, барацьбы за пабудову фундамента соцыялістычнага грамадства, на аснове генеральнай лініі партыі.

Даклад т. Сталіна падводзіць вынікі цэлай эпохі, у якую адбыліся буйнейшыя зрухі ў эканоміцы і класавай пабудове нашай краіны, у якую, на падставе велізарнейшых перамог соцыялізма, вырашаны карэнныя задачы пролетарскай рэволюцыі.

Даклад т. Сталіна бліскуча паказвае, што самы складаны перыяд дыктатуры пролетарыята—вырашэнне ленінскага пытання „хто каго“, пабудова фундамента соцыялістычнай эканомікі з поспехам пройдзен. Вырашана самая цяжкая задача будаўніцтва соцыялізма—задача соцыялістычнай перабудовы вёскі, адбыўся рашучы паварот шматмільённых сялянскіх працоўных гаспадарак на шлях соцыялістычнай перабудовы іх,—на шлях калектывізацыі, разгромлены і ліквідаваны ў асноўным капіталістычныя класы. Гэтыя задачы ажыццёўлены ва ўмовах жорсткай класавай барацьбы на аснове згуртавання навакол генеральнай лініі партыі рабочых і працоўных мас ў авангардзе з Комуністычнай партыяй, пад кіраўніцтвам Цэнтральнага Камітэта ленінскай партыі на чале з лепшым ленінцам—геніяльным правадыром сусветнага пролетарыята і працоўных мас т. Сталіным.

Даклад т. Сталіна ёсць не толькі падагульненне найбольш труднага і складанага перыяда соцыялістычнага будаўніцтва, ён ёсць разгорнутая большэвіцкая праграма далейшага этапа соцыялістычнага будаўніцтва, праграма другой пяцігодкі, у якую на падставе ўзмацнення дыктатуры пролетарыята, будуць поўнасцю ліквідаваны капіталістычныя элементы і класы наогул, будуць ліквідаваны перажыткі капіталізма ў эканоміцы і свядомасці мас, у рэзультаце якой з'явіцца бяскласавае соцыя-

лістычнае грамадства. Гэта праграма ўдарнай брыгады сусветнага пролетарыята.

Даклад т. Сталіна з усёй сілай сведчыць, што XVII з'езд прайшоў пад знакам поўнай перамогі ленінізма.

Велізарнейшым трыумфам правільнасці генеральнай лініі партыі, непахіснасці кіраўніцтва т. Сталіна, пераможнасці соцыялізма—з'яўляецца адзінства партыі вакол ЦК, вакол правадыра партыі і ўсяго пролетарыята т. Сталіна. Адзінства пролетарскіх рэволюцыянераў, „поўнае, дзейнічаючае, ідэйнае, арганізацыйнае, большэвіцкае адзінства партыі". Гэта сапраўды ленінскае адзінства.

Даклад т. Сталіна паказвае, што палітыка партыі правяралася на вопыце мільёнаў працоўных, палітыка партыі ясна шырачэйшым працоўным масам, уздымае масы на барацьбу пад кіраўніцтвам партыі за лінію партыі, яе чыстату, яе непахіснасць. **У гэтым яе сіла.** Соцыялізм будуецца масамі.

Даклад т. Сталіна з'яўляецца новым укладам у марксісцка-ленінскую тэорыю. З'езд партыі дае доказ таго, якой магутнай сілай з'яўляецца, развітая і абгрунтаваная т. Сталінам, ленінская тэорыя пабудовы соцыялізма ў адной краіне. На XVII з'ездзе партыі т. Сталін паказаў законы, высветліў працэсы і перспектывы пераможнага развіцця соцыялізма. Даклад т. Сталіна вызначае тэарэтычныя падставы новага ўздыму на яшчэ больш высокую ступень соцыялістычнага будаўніцтва і разгортвання сусветнай пролетарскай рэволюцыі.

З усёй рашучасцю і завостранасцю т. Сталін у дакладзе ставіць пытанне аб разгортванні арганізацыйнай работы, аб уздыме яе да ўзроўня палітычных задач кіраўніцтва.

Ідэі соцыялізма, як гэта падкрэслена Марксам, з'яўляюцца магутнай сілай, калі яны становяцца дасягненнем мас. Разгорнуты энтузіазм шырокіх пролетарскіх і працоўных мас, авалодаўшых ідэямі Маркса, Леніна, Ст ліна аб соцыялізме і яго будаўніцтве, патрабуе зараз высокай арганізацыі, — сапраўды большэвіцкай, ленінскай, сталінскай; патрабуе разгортвання соцыялістычнага перавыхавання працоўных мас. Арганізацыя мас і іх перавыхаванне—важнейшы бок дыктатуры пролетарыята—уздымаюцца зараз на новую вышыню.

Даклад т. Сталіна дае рэволюцыйныя ідэі, палітычныя дырэктывы, практычныя паказанні. Даклад т. Сталіна дае вялікую ўпэўненасць, выклікае пачуццё радасці, гордасці ўсведамленнем вялікіх перамог, падымае на вышэйшую ступень энтузіазм працоўных мас, узбагачае іх вопыт і свядомасць, павышае ідэйную ўзброенасць, класавую пільнасць, пролетарскую дысцыплінаванасць кожнага комуніста, кожнага працоўнага, уздымае іх настрой, напружвае іх волю, іх упорнасць на далейшую барацьбу за канчатковую перамогу соцыялізма.

**Даклад т. Сталіна—арганізатара, тварца, правадыра, велізарнейшай соцыялістычнай перамогі—партыйны закон.**

Вось чаму абавязак кожнага працоўнага, кожнага вучня політэхнічнай школы грунтоўна і глыбока праправацаваць даклад т. Сталіна, каб узброіцца па сталінску на выкананне асноўнай задачы, якая пастаўлена партыяй перад школай,—падрыхтаваць пакаленне „здольнае канчаткова ажыццявіць комунізм".

## Што дзеці павінны атрымаць ад праправацоўкі даклада

Захоўваючы ўсе неабходныя нормы педагагічнага падыхода да кожнай групы, ускладняючы матэрыял, у залежнасці ад узростных асаблівасцяў вучняў адпаведных груп, настаўнік павінен у выніку праправацоўкі даклада тав. Сталіна дабіцца ад вучняў І-га канцэнтра засваення наступнага аб'ёма ведаў:

1. Які з'езд Усесаюзнай Комуністычнай партыі адбыўся ў лютым г. г. і які з'езд партыі Беларусі адбыўся ў студзені г. г.

2. У капіталістычных краінах зараз закрываюцца фабрыкі і заводы, разараецца сельская гаспадарка. У капіталістычных краінах мільёны беспрацоўных. Гэтыя беспрацоўныя галадаюць і не атрымліваюць ніякай дапамогі па беспрацоўю. Ва ўсім капіталістычным свеце зараз ёсць каля 50 мільёнаў беспрацоўных. У народных масах капіталістычных краін усё больш расце ўсведамленне таго, што адзіным выхадам з'яўляецца пролетарская рэволюцыя, усё мацней згуртоўваюцца народныя масы вакол комуністычных партый, для таго каб нанесці руйнуючы ўдар капіталізму. Шпаркімі крокамі набліжаецца пролетарская рэволюцыя.

3. У нас, у СССР і БССР растуць фабрыкі і заводы, магутна развіваецца наша сельская гаспадарка. У нас зусім няма беспрацоўных. Колькасць рабочых на нашых фабрыках і заводах расце.

4. Капіталісты шалёна рыхтуюцца да вайны. Японія напала на Кітай, захапляе яго землі, растрэльвае насельніцтва, знішчае гаспадарку, павялічвае голад—нужду працоўных. Яна імкнецца напасці на нас і захапіць совецкія землі. Да вайны рыхтуецца і фашысцкая Германія, вайны жадае Англія. Усе яны хочуць напасці на наш Саюз, каб сарваць будаўніцтва соцыялізма, вярнуць на шыю рабочых і сялян капіталістаў, памешчыкаў. Але-ж калі яны нападуць на нас, то „не далічацца некаторых блізкіх ім урадаў".

5. Нашай задачай з'яўляецца ўзмацняць абарону нашай краіны, трымаць цесную сувязь з Чырвонай арміяй, памагаць ёй, узмацняць работу Асоавіяхіма, „каб не павадна было ім (капіталістам, Б. Л.) саваць сваё свіное рыла ў наш Совецкі "гарод".

6. Рыхтуючыся да вайны, капіталісты распальваюць нацыянальную варожасць, яны хочуць нацкаваць германскага рабочага на францускага, японскага—на кітайскага і г. д. Яны прабуюць скарыстаць сабе на дапамогу астаткі капіталістычных класаў у нас, у Совецкім саюзе. Выконваючы волю сусветнага

капіталізма, астаткі кулацтва, буржуазныя прыхвасні, нацыянал-дэмакраты і іншыя ворагі соцыялістычнага будаўніцтва спрабуюць арганізавацца для таго, каб пашкодзіць соцыялістычнаму будаўніцтву і падрыхтаваць глебу для нападу капіталістаў на нас.

Наша задача заключаецца ў тым, каб выхоўвацца ў духу пролетарскага інтэрнацыяналізма. Мы павінны паказаць адзінства рабочых і працоўных усяго света, усіх краін, мы павінны разумець, што нашымі ворагамі з'яўляюцца ўсе капіталісты, кулакі і ўсе тыя, хто ім дапамагае.

7. Царская Расія была краінай адсталай сельскай гаспадаркі, у ёй было мала фабрык і заводаў, зямля апрацоўвалася сахой, лепшая зямля была захоплена памешчыкамі і капіталістамі.

За гады першай пяцігодкі СССР ператварыўся з краіны аграрнай у індустрыяльную. Гэта значыць, што прамысловасць займае першае месца ва ўсей народнай гаспадарцы, што яна вядзе за сабой сельскую гаспадарку, забяспечвае сельскую гаспадарку трактарамі і іншымі патрэбнымі ей сельска-гаспадарчымі машынамі.

8. Таварыш Сталін даў наказ: звярнуць увагу на выпуск большай колькасці чыгуна, сталі, машын, трактароў, аўтамабіляў, камбайнаў, паравозаў, на ўзмацненне дабычы каменнага вугалю, торфу, на пабудову электрастанцый.

Тав. Сталін даў наказ: выпусціць як мага больш тавараў— адзежы, абутку, мыла і інш., каб задаволіць запатрабаванні працоўных, а для гэтага неабходна будаваць новыя фабрыкі і заводы. Гэтыя заводы і фабрыкі ў другой пяцігодцы будуць будавацца ў значна большай колькасці, чым у першай пяцігодцы, калі ўсю ўвагу Совецкі саюз павінен быў накіраваць на будаўніцтва цяжкай прамысловасці, без чаго нельга было разгортваць лёгкай прамысловасці.

Тав. Сталін сказаў, што разам з будаўніцтвам новых заводаў і фабрык, важнейшай справай зараз з'яўляецца ўзняцце якасці прадукцыі нашай прамысловасці. Самай важнай справай з'яўляецца неабходнасць дабіцца таго, каб нашы машыны, наша сталь, чыгун былі найлепшай якасці. Таксама павінны мець высокую якасць адзежа, абутак, мыла і інш. тавары.

Тав. Сталін сказаў, што для таго, каб дабіцца высокай якасці прадукцыі нашай прамысловасці, першачарговай і важнейшай справай з'яўляецца асваенне новай тэхнікі, каб кожны рабочы, тэхнік, інжынер, кожны працоўны добра ўмеў выконваць сваю работу, добра ведаў сваю машыну, добра ўмеў на ёй працаваць, каб кожны рабочы ўзняў прадукцыйнасць сваёй працы.

9. Тав. Сталін сказаў, што трэба палепшыць тавараабарот, совецкі гандаль, каб тавары доўга не ляжалі на складах і хутка дастаўляліся да працоўных. Трэба палепшыць працу ўсіх нашых крам і павялічыць іх колькасць.

Для таго, каб развіваўся совецкі гандаль, трэба палепшыць работу нашага транспарта—чыгуначнага, воднага і аўтамабільнага. Наш транспарт зараз працуе яшчэ дрэнна. Палепшанне работы транспарта ёсць важнейшая задача, без вырашэння якой мы не можам рухацца ўперад. Добрая работа транспарта неабходна не толькі для развіцця совецкага гандля, але таксама для далейшага разгортвання прамысловасці, сельскай гаспадаркі, для ўзмацнення абароназдольнасці нашай краіны.

10. На аснове ўздыма прамысловасці ў нас уздымаецца сельская гаспадарка. У нас выраслі калгасы і соўгасы. Па СССР з кожных 100 сялянскіх гаспадарак 65 знаходзяцца ў калгасах, па БССР з кожных 100 гаспадарак 52 знаходзяцца ў калгасах. Нашы калгасы маюць машыны, трактары, камбайны, малатарні, жняяркі і г. д. Гэтыя машыны зрабілі рабочыя для сялян.

Наша партыя для наладжвання лепшай работы калгасаў і соўгасаў, арганізавала палітаддзелы, паслала у вёску лепшых большэвікоў. Яны працуюць у палітаддзелах МТС і соўгасаў і вядуць там вялікую работу—за адзін год пры іх дапамозе значна палепшылася праца ў калгасах.

Наша партыя на аснове суцэльнай калектывізацыі ліквідавала кулацтва як клас. Тав. Сталін сказаў на з'ездзе, што са знішчэннем кулацкай кабалы знікла галеча вёскі. Нашы калгасы, як сказаў т. Сталін, робяцца большэвіцкімі, а калгаснікі заможнымі. Трэба яшчэ многа зрабіць у галіне сельскай гаспадаркі, каб яна паднялася па прадукцыйнасці працы да заводаў. Усе калгаснікі і работнікі сельскай гаспадаркі будуць весці барацьбу за яшчэ больш высокі ўраджай.

Асабліва трэба звярнуць увагу на паляпшэнне жывёлагадоўлі. Тав. Сталін на з'ездзе сказаў: „Справу жывёлагадоўлі павінны ўзяць у свае рукі ўся партыя, усе нашы работнікі, партыйныя і беспартыйныя“, усе совецкія людзі.

11. У нашай краіне няма беспрацоўя, няма больш жабрацтва ў вёсцы. Тое, за што вядуць барацьбу мільёны працоўных у капіталістычных краінах, у нас ужо зроблена ў асноўным. Мы будуем радаснае жыццё.

Тав. Сталін сказаў: „Змянілася аблічча нашых буйных гарадоў і прамысловых цэнтраў. Немінучым прызнакам буйных гарадоў буржуазных краін з'яўляюцца трушчобы, так званыя рабочыя кварталы на акраінах горада, прадстаўляючыя груду цёмных, сырых, большай часткаю падвальных поўразбураных памяшканняў, дзе звычайна туліцца немаемны люд, капошачыся ў гразі і праклінаючы лёс. Рэволюцыя ў СССР прывяла да таго, што гэтыя трушчобы зніклі ў нас. Яны заменены новаадбудаванымі, светлымі рабочымі кварталамі, прычым у многіх выпадках рабочыя кварталы выглядаюць у нас лепш, чым цэнтры горада“.

Тав. Сталін сказаў: „Старая вёска з яе царквою на самым відным месцы, з яе лепшымі дамамі ўрадніка, папа, кулака на першым плане, з яе поўразваленымі хатамі сялян на заднім

плане,—пачынае знікаць. На яе месцы выступае новая вёска з яе грамадска-гаспадарчымі пабудовамі, з яе клубамі, радыё, кіно, школамі, бібліятэкамі і яслямі, з яе трактарамі, камбайнамі, малатарнямі, аўтамабілямі. Зніклі старыя знатныя фігуры кулака-эксплаататара, растаўшчыка-крывасмока, купца-спекулянта, бацюшкі-урадніка. Зараз знатнымі людзьмі з'яўляюцца дзеячы калгасаў і соўгасаў, школ і клубаў, старшыя трактарысты ды камбайнеры, брыгадзіры па паляводству і жывёлагадоўлі, лепшыя ўдарнікі і ўдарніцы калгасных палёў".

12. Мы ўвялі ўсеагульнае абавязковае навучанне, ліквідавалі непісьменнасць сярод дарослага насельніцтва.

У 1930 г. з кожных 100 чалавек у СССР пісьменных было 67, а зараз іх 90, а ў БССР зараз 98, у той час, як да рэволюцыі ў Беларусі было ўсяго пісьменных на сто чалавек толькі 25, а астатнія былі зусім непісьменнымі. У нас таксама многа ясляў, дзіцячых садоў, ачагоў.

Расце і ўзмацняецца пролетарская па зместу, нацыянальная па форме культура, якой ахопліваюцца шырачайшыя масы працоўных.

13. Наша комуністычная партыя зараз адзіна і згуртавана, як ніколі і пад яе кіраўніцтвам, пад сцягам Леніна—Сталіна мільёны працоўных будуюць соцыялізм. Партыя разбіла ўсіх тых, хто ўхіляўся і бароўся супроць ленінскай генеральнай лініі, хто тым самым памагаў ворагам соцыялістычнага будаўніцтва. Партыя правяла чыстку сваіх радоў ад чуждых, класава-варожых элементаў, ад прымазаўшыхся да партыі, ад разлажыўшыхся. Партыя правяла чыстку совецкіх устаноў ад бюракратаў і неўмеючых па большэвіцку працаваць.

14. Але барацьба яшчэ не скончана. Трэба ўпорна працаваць, весці барацьбу з класавымі ворагамі, пільна захоўваць нашу соцыялістычную ўласнасць, супроць якой ворагі працоўных вядуць барацьбу. Трэба, каб усе партыйцы ўпарта працавалі над павышэннем свайго палітычнага ўзроўня, ведалі добра, чаму вучыць Маркс, Ленін, Сталін. Трэба змагацца за тое, каб працоўныя выхоўваліся ў духу ленінскага інтэрнацыяналізма, трэба знішчаць у працоўных шляхам іх перавыхавання астаткі рэлігійных настрояў, астаткі нацыянальнай варожасці, трэба змагацца з дробна-уласніцкімі настроямі, тым самым павышаць іх комуністычную свядомасць.

15. Перад нашай краінай стаяць надзвычайна вялікія задачы пабудовы бяскласавага грамадства. Яны патрабуюць, каб усе працавалі чотка, даводзілі пачатую справу да канца, не балбаталі ў пустую, а працавалі па сапраўднаму, па ўдарнаму, па большэвіцку. Тав. Сталін на з'езде патрабаваў пастаяннай праверкі выканання дырэктыў партыі і ўрада. Трэба весці барацьбу за тое, каб кожная пачатая справа была даведзена да канца. Трэба разгарнуць самакрытыку, ускрываць недахопы ў нашай рабоце, мабілізаваць масы на барацьбу з труднасцямі, на барацьбу

за ажыццяўленне пастаноў партыі і ўрада, за далейшае разгортванне соцспаборніцтва і ўдарніцтва.

16. У барацьбе за пабудову бяскласавага грамадства вучні павінны прыняць актыўны ўдзел.

Школа павінна вырасціць комуністаў, актыўных будаўнікоў соцыялізма, людзей з вытрыманым комуністычным светапоглядам. Кожны вучань павінен усімі сіламі імкнуцца выпрацаваць з сябе большэвіка-комуніста. Для гэтага кожны вучань павінен стаць усебакова адукаваным, пісьменным чалавекам. Ён павінен добра вучыцца, грунтоўна і свядома засвоіць тыя веды, якія даюцца ў школе. Гэта неабходна таму, што для соцыялізма патрэбны ўзброеныя навукай і тэхнікай людзі.

Кожны вучань павінен, каб стаць ленінцам, сталінцам, упорна бароцца за комуністычную свядомасць, знішчаць у сябе ўласніцкія настроі, знішчаць астаткі рэлігійных настрояў. Кожны вучань павінен адчуваць сябе членам сусветнай рабочай пролетарскай сям'і, весці барацьбу за свядомую дысцыпліну ў школе, піонератрадзе, быць дысцыплінаваным, упорным у барацьбе за пастаўленыя перад ім задачы, весці сябе на кожным кроку, як комуніст, мець комуністычныя паводзіны. Кожны вучань павінен на першае месца ставіць інтарэсы калектыва, і яму, калектыву, падпарадкаваць свае ўласныя інтарэсы.

Кожны вучань павінен удзельнічаць у грамадскім жыцці, праводзіць грамадска-карысную работу, помнячы словы Леніна аб тым, што кніжныя веды без работы, без барацьбы нікуды не варты. Кожны вучань павінен пераносіць свае веды і навыкі ў акружаючае асяроддзе, добрасумленна выконваць свае грамадскія абавязкі, сачыць і ахоўваць соцыялістычную маемасць, праяўляць пільнасць да класавага ворага.

К канцу другой пяцігодкі, праз 4 гады, мы ажыццявім пабудову бяскласавага соцыялістычнага грамадства. Трэба так вучыцца і выхоўвацца, каб быць дастойным членам соцыялістычнага грамадства.

17. Тав. Сталін заклікае ўсю партыю не захапляцца дасягнутымі поспехамі, не гаварыць, што ўжо ўсё зроблена, і не зазнавацца.

Мы маем такія велізарныя поспехі таму, што працавалі і змагаліся так, як вучылі Маркс, Энгельс, Ленін. Сталін патрабаваў: „Быць вернымі да канца вялікаму сцягу Маркса-Энгельса-Леніна".

18. „Рабочы клас СССР сільны не толькі тым, што ў яго ёсць выпрабаваная ў баях ленінская партыя. Ён сільны далей, не толькі тым, што мае падтрыманне мільёнаў мас працоўных сялян. Ён сільны яшчэ тым, што яго падпірае і яму памагае сусветны пролетарыят. Рабочы клас СССР ёсць частка сусветнага пролетарыята, яго перадавы атрад, а наша рэспубліка— дзецішча сусветнага пролетарыята"... „Гэта значыць, што сусветны пролетарыят гатоў і ў далейшым падтрымліваць рабочы

клас СССР па меры сіл і магчымасцей. Але гэта накладае на нас сур'ёзныя абавязкі. Гэта значыць, што мы павінны апраўдаць сваёй работай пачэснае званне ўдарнай брыгады пралетарыяў усіх краін. Гэта абавязвае нас к таму, каб працаваць лепш і бароцца лепш за канчатковую перамогу соцыялізма ў нашай краіне, за перамогу соцыялізма ва ўсіх краінах", „быць вернымі да канца справе пролетарскага інтэрнацыяналізма, справе брацкага саюза пролетарыяў усіх краін".

19. Наша перамога ў справе соцыялістычнага будаўніцтва забяспечана таму, што рабочым класам кіруе выпрабаваная ў баях маналітная пролетарская партыя, таму, што на чале яе стаіць лепшы вучань Леніна, непахісны правадыр сусветнага пролетарыята, лепшы ленінец тав. Сталін.

Вызначаны матэрыял узогуле разлічан на I канцэнтр політэхнічнай школы. Зразумела, што кожны настаўнік павінен удасканаліць гэты матэрыял, прымяняючы яго да сваёй групы. Цікавасць і яснасць у прыпаднясенні матэрыяла маюць вялікае значэнне для ўсіх груп, але-ж асабліва важна прадумаць, як зрабіць гэты матэрыял ясным, цікавым, зразумелым для першай і другой груп. Гэта справа методыкі прыпаднясення матэрыяла, педагагічнага майстэрства настаўніка.

Для вучняў 5—9 груп матэрыял павінен быць дан у аб'ёме ўсяго даклада т. Сталіна, распрацоўка яго павінна апірацца на план, які ніжэй даецца. Зразумела, што варыяцыі ў прыпаднясенні матэрыяла, глыбіня праработкі ў розных групах павінны адпавядаць таксама палітычнаму і агульнаму развіццю вучняў.

Галоўнае патрабаванне заключаецца ў тым, каб ва ўсіх асноўных пытаннях даклада т. Сталіна, вызначаных як для першага, так і для другога канцэнтра, вучні **добра і свядома разбіраліся і атрымалі грунтоўныя веды**. Свядомая распрацоўка і грунтоўнае засваенне асноўных пунктаў даклада тав. Сталіна павінна мець адну мэтанакіраванасць,—дабіцца таго, каб даклад стаў для ўсіх вучняў **кіраўніцтвам да дзеяння**, каб у выніку распрацоўкі даклада тав. Сталіна ў вучняў засталася не простая сума ведаў. Трэба каб гэтыя веды ўвайшлі як арганічная частка ў светапогляд вучняў, узмацнілі іх класавую свядомасць, мабілізавалі і арганізавалі волю дзяцей на барацьбу за соцыялізм. Прапрацоўка даклада павінна даць вучням эмацыянальную зарадку, узняць настрой, закаліць іх на барацьбу за лепшае выкананне стаячых перад школаю задач.

Гэтыя задачы павінны быць пакладзены ў аснову работы кожнага настаўніка; толькі пры гэтай умове ён выканае належным чынам задачу прапрацоўкі гістарычнага даклада тав. Сталіна.

## Як арганізаваць праправоўку даклада т. Сталіна

Уся праправоўка даклада тав. Сталіна праводзіцца ў вучэбны час.

На праправоўку яго адводзіцца: у I і II групах па 3 гадзіны, у III і IV групах па 5 гадзін,—за кошт гадзін грамадазнаўства (2 гадзіны), роднай мовы—(2 гадзіны) і геаграфіі (1 гадзіна); у V—IX групах па 9 гадзін, прычым у V, VI групах усе гадзіны ідуць за кошт грамадазнаўства, у VII, VIII, IX групах гадзіны вылучаюцца з прадметаў навучальнага плана па рашэнню самой школы з улікам канкрэтных умоў выканання навучальнага плана ў кожнай групе паасобку.

## Метады праправоўкі даклада т. Сталіна

У I і II групах асноўным метадам праработкі з'яўляецца расказ настаўніка. Першыя дзве гадзіны настаўнік расказвае змест даклада, разбіўшы даклад на 2 самастойныя часткі. Фактычна расказ настаўніка павінен займаць на кожным уроку 25 мінут, астатнія 20 мінут скарыстоўваюцца на праправоўку расказанага, шляхам гутаркі. 3-ці ўрок ідзе на паўтарэнне матэрыяла метадам гутаркі, запіса некаторых важнейшых і больш лёгкіх для дзяцей мыслей т. Сталіна, папярэдне падабраных настаўнікам.

У III і IV групах расказ настаўніка аб'ядноўваецца з чытаннем вучнямі раздзелаў з даклада т. Сталіна. Раіцца прачытаць наступныя адрыўкі:

Для III груп: 1) З раздзела даклада „Адносіны паміж СССР і капіталістычнымі дзяржавамі" пачынаючы ад слоў: „Наша знешняя палітыка ясна" да канца раздзела; 2) З раздзела „Прадаўжаючыйся ўздым народнай гаспадаркі і ўнутранае становішча СССР" ад слоў: „Пабудаваны і пушчаны ў ход за гэты перыяд тысячы новых упаўне сучасных прамысловых прадпрыемстваў", канчаючы абзацам: „Зразумела, што ўсе гэтыя дасягненні ўвесь гэты ўздым павінны былі прывесці і сапраўды прывялі к далейшаму ўмацаванню ўнутранага становішча СССР"; 3) З раздзела „Уздым прамысловасці" ад слоў: „Але з усіх дасягненняў прамысловасці", канчаючы словамі „трэба прызнаць, што наша прамысловасць пачынае сур'ёзна авалодваць гэтай праблемай"; 4) з раздзела „Пытанні арганізацыйнага кіраўніцтва" 4-ы абзац ад слоў: „На самай справе перамога была здабыта і заваявана"... канчаючы словамі: „...падбора лепшых, здольных павесці барацьбу з труднасцямі".

Для IV груп тыя-ж адрыўкі, што для III груп і ў дадатак: 1) з раздзела „Уздым прамысловасці" у самым канцы „Чарговыя задачы..." і да канца раздзела; 2) з раздзела „Уздым сельскай гаспадаркі" пасля 5-й таблічкі ад слоў: „Значыцца, далейшы працэс калектывізацыі..." канчаючы словамі „Трэба прызнаць, што

працоўнае сялянства, наша совецкае сялянства канчаткова і беспаваротна стала пад чырвоны сцяг соцыялізма"; 3) з раздзела „Уздым матэрыяльнага становішча і культуры працоўных" ад слоў—„ліквідацыя паразітных класаў..." ,канчаючы абзацам—„Такавы асноўныя дасягненні працоўных у галіне паляпшэння іх матэрыяльнага становішча, быта, культуры"; 4) з таго-ж раздзела аб росце актыўнасці жанчыны-калгасніцы ад слоў—„трэба адзначыць, як прыемны факт..." да канца абзаца; 5) з раздзела „Уздым тавараабарота і транспарта" з пачатку і канчаючы словамі „як рэзультат вывіха разума ў адной часткі комуністаў па пытаннях аб неабходнасці і значэнні совецкага гандлю"; 6) з таго-ж раздзела ад слоў „у рэзультаце гэтых мерапрыемстваў мы маем за справаздачны перыяд..." да канца раздзела; 7) з раздзела „Пытанні арганізацыйнага кіраўніцтва" ад слоў—„каб перамагчы гэтыя цяжкасці і дабіцца поспехаў, трэба было арганізаваць барацьбу..." і канчаючы словамі „Балтунам не месца на аперацыйнай рабоце"; 8) з заключнай часткі ад слоў,—„Цяпер ужо ўсе прызнаюць, што нашы поспехі вялікі і незвычайны", канчаючы славамі: „адсюль першы вывад: не захапляцца дасягнутымі поспехамі і не зазнавацца"; 9) у той-жа частцы ад слоў „адсюль другі вывад"... і да канца раздзела.

Раіцца размеркаваць час наступным чынам: настаўнік расказвае змест кожнага раздзела, потым чытаюцца адпаведныя адрыўкі, калі яны вызначаны, потым шляхам пытанняў і адказаў паўтараецца змест адрыўка. Галоўныя думкі т. Сталіна вучнямі запісваюцца ў сшыткі. Так работа праводзіцца на працягу 4-х гадзін, пятая гадзіна адводзіцца выключна на паўтарэнне і замацаванне даклада.

У V—IX групах работа пачынаецца з уступнага слова выкладчыка грамадазнаўства аб значэнні XVII з'езда ВКП(б) і XV з'езда КП(б)Б і ў галоўных рысах даецца змест даклада т. Сталіна, на гэта адводзіцца адзін урок. 6 гадзін адводзіцца на чытанне ўсяго даклада т. Сталіна, разбор яго па раздзелах, запіс асноўных мысляй кожнага раздзела (складанне канспекта); апошнія дзве гадзіны адводзяцца на паўтарэнне, грунтоўнае паглыбленне і замацаванне прапрацаванага матэрыяла.

Ва ўсіх групах грунтоўна высвятляецца значэнне і роля ў перамогах соцыялізма ў нашай краіне, правадыра сусветнага пролетарыята і ўсіх працоўных, тав. Сталіна.

Надзвычайную ўвагу неабходна звярнуць на мову самаго настаўніка: яна павінна быць максімальна жывой, выразнай, эмацыянальнай, натхняючай.

Пры распрацоўцы даклада ў кожнай групе, пачынаючы з III-яй, у класе павінна абавязкова вісець карта, якой вучні карыстаюцца пры распрацоўцы адпаведных месц даклада. Павінны быць паказаны і ўсвядомлены, калі вучні іх яшчэ нядобра ведаюць, граніцы Совецкага саюза і БССР, капіталістычныя краіны, аб якіх тав. Сталін гаворыць у дакладзе, новыя гарады

СССР, месцы новых буйных прадпрыемстваў, чыгунак, водных шляхоў зносін, разведак і г. д. Карта дапаможа замацаванню матэрыяла і больш чоткаму ўяўленню вучнямі асобных частак даклада.

Асаблівую ўвагу настаўнік павінен звярнуць на прыцягненне ў час распрацоўкі даклада мясцовага матэрыяла. У першую чаргу павінен быць скарыстан для высвятлення становішча адпаведных галін работы КП(б)Б матэрыял з даклада т. Гікало на XV з'ездзе КП(б)Б, каб вучні чотка ведалі дасягненні і наогул становішча соцыялістычнага будаўніцтва па ўсяму Совецкаму саюзу і па БССР. Таксама важнае значэнне мае прыцягненне раённага матэрыяла, даных свайго завода, соўгаса, калгаса. Трэба мясцовы матэрыял ацаніць з таго боку, наколькі ўказанні тав. Сталіна ажыццёўлены **на даным** прадпрыемстве, соўгасе, калгасе. Такі падыход не толькі павышае веды вучня, але і вучыць яго крытычна падыходзіць да акружаючага жыцця, якое вучань будзе ацэньваць з пункту гледжання даклада тав. Сталіна; зусім пановаму выявяцца перад ім станоўчыя і адмоўныя бакі мясцовага жыцця,—гэта запаліць вучня на барацьбу з недахопамі, на барацьбу за выкананне дырэктыў т. Сталіна.

У максімальна магчымай ступені трэба скарыстаць ілюстрацыйны матэрыял, — упрыгожыць партрэты Маркса, Энгельса, Леніна, Сталіна і іншых правадыроў рэволюцыі, абавязкова здабыць для школы здымкі кіраўнікоў КП(б)Б і ўрада БССР— т. т. Гікало, Шаранговіча, Галадзеда, Чэрвякова, скарыстаць газетныя і журнальныя малюнкі, ілюстрацыі, у якіх паказваюцца дасягненні соцыялістычнага будаўніцтва і культуры, скарыстаць карыкатуры, якія змяшчаюцца ў газетах і часопісах і г. д. Вельмі каштоўна будзе, каб вучань у II і III канцэнтры сам зрабіў картаграмы СССР і БССР з вызначэннем найбольш буйных прадпрыемстваў, разведак, шляхоў зносін, новых гарадоў і г. д. Трэба зрабіць картаграму свайго раёна з вызначэннем усіх соўгасаў і калгасаў.

Неабходна падрыхтаваць у пазашкольны час і скарыстаць дыяграмы. У прыватнасці патрэбны наступныя дыяграмы:

1) аб'ём прамысловай прадукцыі СССР у 1933 г. у параўнанні з 1929 г. і даваенным узроўнем; 2) удзельная вага прамысловасці і сельскай гаспадаркі ў СССР 1933 г. у параўнанні з 1929 і 1913 г.; 3) пасеўныя плошчы ў СССР; 4) валавая прадукцыя зернавых і тэхнічных культур; 5) рост калектывізацыі і суадносіны калектыўнага сектара ў СССР; 6) рост трактарнага парка; 7) паказчыкі па асобных галінах матэрыяльнага становішча і культуры працоўных (асабліва падкрэсліць: выдаткі на асвету на аднаго чалавека ў 1913 г.,—1 р. 73 к., у 1932 г.,—38 р. 64 к.); 8) табліцы роста актыўнасці жанчыны калгасніцы; 9) табліцы роста тавараабарота.

Лічбовыя даныя для вызначаных тут дыяграм прыведзены ў дакладзе тав. Сталіна. Адначасова даем лічбовыя даныя па асобных пытаннях гаспадаркі і культуры БССР, якія мэтазгодна скарыстаць для дыяграм.

1) Валавая прадукцыя прамысловасці БССР: у 1932 г.— 979,5 мільёнаў руб., у 1927/28 241 м. р., а на тэрыторыі Беларусі ў 1913 г. 100 м. руб.

2) Электрыфікацыя: да Окцябрскай рэволюцыі магутнасць электрастанцый 5000 тыс. кілават, у 27/28—14,4 т. кілават, у 1933—70 т. кілават.

3) Колькасць рабочых: 1932 г.—114 тыс. чал., у 1913 г.,— 13.000 ч.

4) Калектывізацыя ў БССР: „У 1929 г.,—калгасаў 1012 з ахопам 10644 гаспадаркі, у 1933—калгасаў—9545 з ахопам 383.200 гаспадарак.

5) Трактараў: у 1928 г.—102, у 1932—2822.

6) Рост тэхнічных культур у БССР: у 1928 г.—3450 тыс. га, 932 г.—3983 тыс. га.

7) Рост зернавых культур: у 1928 г.—2589,5 тыс. га, у 1932 г.— 2627 тыс. га.

8) Удзельная вага прамысловасці і сельскай гаспадаркі: у 1927/28 г.—прамысловасць—41,3 проц., сельская гаспадарка— 58,7 проц.; у 1932 г.—прамысловасць—67 проц., сельская гаспадарка 33 проц.

9) Рост шляхоў з каменным пакрыццем: у 1913 г.—1013 клм.; у 1928 г.—1455 клм., у 1932 г.—2691 клм.

10) Тавараабарот: у 1927/28—соцыялістычны сектар (дзяржгандаль і кааперацыя) 70,4 проц., прыватны—29,6 проц.; у 1932 г. соцыялістычны сектар—100 проц.

11) Сярэдне-гадавая зарплата рабочага: у 1927/28 г.—536 р. у 1932 г. 1281 р.

12) Пісьменнасць да рэволюцыі: у 1891 г.—14,2 проц. пісьменных, 85,8 проц. непісьменных; перад рэволюцыяй — 25 проц. пісьменных, 75 проц. непісьменных; у 1926 г. 57,1 проц. пісьменных, 42,9 проц. непісьменных; у 1933 г. 98 проц. пісьменных і 2 проц. непісьменных.

13) Колькасць школьнікаў: у 1927/28 г.,—478,2 тыс. чал.; у 1932—853,3 тыс. чал.; у 1933/34 навуч. годзе ў трох канцэнтрах політэхнічнай школы налічваецца—863.453 чалавек.

Для параўнання цікава прывесці некаторыя даныя аб вытворчасці і матэрыяльным становішчы рабочых у Заходняй Беларусі:

1) Занятых рабочых у 29 г.—26000 чал.
„ „ „ 32 г.—16000 „

2) Прамысловасць: калі прамысловасць 1928 г. лічыць за 100 проц., то ў 1932 г. прамысловасць складае толькі 38 проц.

3) Заработная плата: калі зарплату 1928 г. лічыць за 100 проц., то ў 1932 зарплата рабочых 40 проц., а сельгасрабочых толькі—35 проц. (памяншэнне амаль у 3 разы).

Зразумела, што не абавязкова ўсе гэтыя дыяграмы і табліцы павінны быць поўнасцю выкананы, але ніводная школа не можа без іх абыйсціся. Таксама магчымы і патрэбны дыяграмы свайго раёна, прадпрыемства, калгаса, соўгаса.

Вельмі карысна будзе чотка, ясна, прыгожа выпісаць і павесіць у школе на сцяне з даклада т. Сталіна некаторыя важнейшыя мыслі. Мэтазгодна ў II і III канцэнтрах прыгатаваць плакаты, выпісаўшы задачы прамысловасці, сельскай гаспадаркі, матэрыяльна-культурнага становішча працоўных, тавараабарота, ідэйна-палітычныя і партыйна-арганізацыйныя задачы, якія паставіў т. Сталін ў сваім дакладзе.

Вялікую карысць дасць прыцягненне ў дадатак да распрацоўкі даклада т. Сталіна, мастацкага матэрыяла, які змешчан у газетах, асабліва ў „Комсомольской правде", „Чырвонай змене".

У заключэнне распрацоўкі даклада можна зрабіць экскурсію, напрыклад, на завод, у соўгас, калгас,—праверыць там на месцы, як выкананы дырэктывы т. Сталіна, правесці сумесную гутарку з рабочымі, калгаснікамі, зрабіць экскурсію ў рабочы пасёлак у горадзе ці на новае буйнае прадпрыемства і ў тыя часткі горада, дзе захаваліся старыя будынкі, для параўнання.

Мэтазгодна пасля прапрацоўкі даклада т. Сталіна наладзіць сумесна з бацькамі вечар, на якім заслухаць даклад аб XVII з'ездзе ВКП(б) і XV з'ездзе КП(б)Б і арганізаваць мастацкую частку сіламі вучняў.

Прапрацоўка даклада т. Сталіна павінна абавязкова завяршыцца канкрэтнымі справамі. Вучні павінны, у рэзультаце прапрацоўкі даклада, мабілізавацца на паляпшэнне якасці вучобы, на лепшую арганізацыю свядомай дысцыпліны, за ўзмацненне барацьбы за пролетарскі інтэрнацыяналізм, за паляпшэнне культуры, быта і гігіены, як сваёй асабістай, так і дома ў сям'і, узяць на сябе абавязак,—правесці адпаведную растлумачальную і пасільную арганізацыйную работу сярод дарослых,—усё гэта будзе ўзмацненне комуністычнага выхавання, як рэзультат разумення даклада т. Сталіна, канкрэтны адказ на задачы, якія высунуў т. Сталін.

**Свядома і моцна засвоіць даклад т. Сталіна, узняць новую хвалю социялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва—асноўныя задачы прапрацоўкі даклада т. Сталіна.**

Для таго, каб пастаўленыя перад школай задачы ў справе прапрацоўкі даклада т. Сталіна былі выкананы добраякасна, неабходны—чоткая арганізацыя ўсей работы, дасканалы план праработкі **і добрая падрыхтоўка самога настаўніка.**

Нярэдка бывае, што прапрацоўка палітычных дакладаў праводзіцца без падрыхтоўкі, без грунтоўнай прадуманай методыкі;

адзін вучань чытае, астатнія амаль не слухаюць, настаўнік ставіць выпадковыя пытанні, сам часта непадрыхтаваны. Трэба дабіцца, каб не было ні аднаго такога выпадка ў час прапрацоўкі даклада т. Сталіна. Кожны настаўнік павінен перш за ўсё сам добра прапрацаваць даклад, для гэтага можна скарыстаць план змешчаны ў гэтай метадычнай запісцы. Настаўнікам першага канцэнтра раім скарыстаць артыкул, змешчаны ў „Пионерской правде" ад 30/I-34 г. № 13 „Слушай, Уоэллес, о том, что говорит товарищ Сталин". Гэты артыкул добра было-б прачытаць у 3 і 4 групах.

Трэба, каб настаўнік меў точны план сваей работы, вёў уважліва, з захапленнем, як важнейшую палітычную справу, гэтую прапрацоўку, і толькі тады атрымаюцца належныя рэзультаты. Трэба разгарнуць соцспаборніцтва паміж выкладчыкамі на лепшую прапрацоўку даклада т. Сталіна.

Трэба памятаць, што прапрацоўка даклада т. Сталіна ёсць важнейшы момант комуністычнага выхавання ў школе.

## План прапрацоўкі даклада тав. Сталіна XVII з'езду партыі аб рабоце ЦК УсеКП(б).

### I.

### Прадаўжаючыйся крызіс сусветнага капіталізма і знешняе становішча Совецкага саюза

Уводзіны. Чым характарызуецца агульнае, эканамічнае і палітычнае становішча капіталістычнага света, з аднаго боку, і становішча Совецкага саюза з другога?

#### I. Рух эканамічнага крызіса ў капіталістычных краінах.

А. Характэрныя асаблівасці сучаснага крызіса ў капіталістычных краінах.

1) Чым адрозніваецца сучасны эканамічны крызіс у капіталістычных краінах ад усіх ранейшых крызісаў?

2) Чым тлумачыцца небывала зацяжны характар сучаснага эканамічнага крызіса?

3) Як адбіўся крызіс па экономіцы капіталістычных краін?

4) Як адбіўся сучасны эканамічны крызіс на суадносінах паміж паасобнымі краінамі і паміж соцыяльнымі групамі ў капіталістычных краінах?

Б. Фактычнае становішча прамысловасці ў СССР і капіталістычных краінах.

1) На колькі аб'ём прамысловай прадукцыі узняўся ў СССР у 1933 годзе ў параўнанні з 1929 г. і даваенным узроўнем?

2) Як падала прамысловасць капіталістычных краін за 1930-32 год і ў чым асаблівасць яе становішча ў 1933 г.?

3) Чым тлумачыцца тое, што прамысловасць асноўных капіталістычных краін у 1933 г. у некаторой ступені ўзнялася ў параўнанні з 1932 г.?

4) Чаму некаторае павышэнне прадукцыі капіталістычнай прамысловасці не азначае канца крызіса?

5) Як-жа ў вогуле характарызуе тав. Сталін сучаснае становішча прамысловасці капіталістычных краін?

**2. Абвастрэнне палітычнага становішча ў капіталістычных краінах.**

А. Уплыў эканамічнага крызіса на суадносіны паміж капіталістычнымі краінамі.

1) Як адбіўся зацяжны эканамічны крызіс на палітычным становішчы капіталістычных краін?

2) У чым выяўляецца крайні нацыяналізм у эканамічнай палітыцы капіталістычных краін?

3) Як гэты крайні нацыяналізм уплывае на суадносіны паміж краінамі?

Б. Уплыў зацяжнага эканамічнага крызіса на ўнутранае становішча капіталістычных краін.

1) Як зацяжны эканамічны крызіс адбіўся на стане рабочага класа?

2) Як крызіс адбіўся на стане сялянства?

3) Як адбіўся крызіс на свядомасці працоўных мас?

4) Якія факты сведчаць аб росце рэвалюцыйных настрояў народных мас у капіталістычных краінах?

5) Чаму капіталісты пераходзяць ад парламентарызма і буржуазнага дэмакратызма да адкрытых тэрарыстычных метадаў захавання сваёй дыктатуры?

В. Фашызм і вайна, як капіталістычныя спосабы развязання зацяжнога эканамічнага крызіса.

1) Чаму шавінізм і падрыхтоўка вайны, абвузданне рабочага класа і тэрор з'яўляюцца асновамі знешняй і ўнутранай палітыкі капіталістычных краін?

2) Як трэба ацэньваць перамогу фашызма ў Германіі?

3) Чым тлумачыцца тое, што капіталізм шукае выхада ў вайне?

Г. Планы арганізацыі вайны, якія складаюцца буржуазнымі палітыкамі.

1) Якія чатыры планы арганізацыі вайны маюцца ў капіталістычных краінах?

2) Якія вынікі ў адносінах Германіі дала першая імперыялістычная вайна?

3) Што павінна атрымацца ад вайны супроць Кітая?

4) У чым сутнасць тэорыі нямецкага фашызма аб „высшых“ і „нізшых“ расах?

5) Якія вынікі можа даць вайна „высшай“ расы супроць „нізшай“ расы?

6) Чаму вайна супроць СССР з'явіцца самай небяспечнай для капіталізма?

Д. Шлях рабочага класа да выхада з крызіса.

1) Што паскарае рэволюцыйны крызіс?

2) Чаму патрэбна моцная рэволюцыйная пролетарская партыя для паспяховасці рэволюцыі?

3) Што гаварыў Ленін аб рэволюцыйным крызісе на 2-м кангрэсе Комінтэрна?

**3. Адносіны паміж СССР і капіталістычнымі дзяржавамі.**

1) На што разлічвае СССР у сваёй труднай і складанай барацьбе за мір?

2) З якімі краінамі СССР заключыў пакт аб ненападзенні і аб вызначэнні нападаючага боку (агрэсара)?

3) З якімі краінамі за апошнія гады СССР палепшыў свае адносіны?

4) Чым тлумачыцца змены ў адносінах да СССР з боку Францыі і Польшчы?

5) З якімі краінамі СССР мае нездавальняючыя адносіны і чым гэта тлумачыцца?

## II.

## Прадаўжаючыйся ўздым народнай гаспадаркі і ўнутранае становішча СССР.

**Уводзіны.**

1) У чым асноўная характэрная рыса разгортваючагася ўздыма народнай гаспадаркі і культуры СССР?

2) Якія створаныя новыя галіны вытворчасці?

3) Якія новыя найбольш буйныя прамысловыя прадпрыемствы пушчаны ў ход у СССР і БССР?

4) Колькі соўгасаў і калгасаў маецца ў СССР і БССР?

5) Колькі сродкаў затрачана на капітальныя ўкладанні і як павялічыўся народны даход у СССР і БССР?

6) Што сталася з 5 грамадска-эканамічнымі ўкладамі ў выніку роста соцыялістычнага будаўніцтва?

**I. Уздым прамысловасці.**

1) Як павялічылася ўдзельная вага прамысловасці ў валавой прадукцыі народнай гаспадаркі?

2) Як павялічылася ўдзельная вага вытворчасці прылад і сродкаў вытворчасці?

3) Як расло машынабудаўніцтва ў параўнанні з іншымі галінамі прамысловасці?

4) Якое значэнне для ўсёй народнай гаспадаркі мае павелічэнне ўдзельнай вагі прамысловасці наогул, вытворчасці прылад і сродкаў вытворчасці і машынабудаўніцтва?

5) Як развівалася прамысловасць па социяльных сектарах?

6) Якое дасягненне мае прамысловасць у важнейшай справе падрыхтоўкі кадраў?

7) Якія недахопы маюцца ў прамысловасці?

8) Якія задачы ў галіне прамысловасці з'яўляюцца чарговымі?

### II. Уздым сельскай гаспадаркі.

1) Якія асноўныя этапы развіцця сельскай гаспадаркі і калектывізацыі працоўных сялянскіх гаспадарак мелі месца з года вялікага пералома—1929 г. па 1933 год.

2) Якое значэнне мае МТС у справе социялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі?

3) Якія маюцца асноўныя паказчыкі аб пасеўных плошчах?

4) У якім становішчы знаходзіцца жывёлагадоўля?

5) Якое значэнне мае паляпшэнне жывёлагадоўлі?

6) Што далі калгасы дзяржаве?

7) Як расце механізацыя калгасаў і соўгасаў?

8) Якія недахопы маюцца ў скарыстанні трактарнага парка?

9) Якое значэнне для рэарганізацыі сельскай гаспадаркі маюць палітаддзелы?

10) Колькі за справаздачны перыяд партыя дала сельскай гаспадарцы большэвікоў—арганізатараў і специялістаў?

11) Якое значэнне маюць поспехі калектывізацыі для канчатковага пераходу працоўнага сялянства на шлях социялізма?

12) Чаму не зусім добра скарыстаны прадстаўленыя партыяй магчымасці для социялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі?

13) Якія чарговыя задачы стаяць перад сельскай гаспадаркай?

14) Якая задача ў адносінах аднаасобных гаспадарак з'я - ляецца асноўнай?

15) У чым асноўнае значэнне соўгасаў?

16) Якія мерапрыемствы патрэбны, каб узняць соўгасы?

17) Чаму ранейшы падзел на прамысловыя і аграрныя вобласці ужо ўстарэў?

18) Чаму падзел на вытворчыя і спажыўныя вобласці пачынае траціць сваё значэнне?

19) Якая асноўная задача стаіць ў раёнах спажыўчай паласы і ў прыватнасці ў БССР?

20) Што дасць разгортванне барацьбы з засухай на Заволж'і.

### 3. Уздым матэрыяльнага становішча і культуры працоўных.

### А. Асноўныя дасягненні

1) Якія агульныя вынікі развіцця прамысловасці і сельскай гаспадаркі мы маем?

2) Як адбілася гістарычныя перамогі над эксплаататарам матэрыяльным становішчы і быту працоўных?

3) Куды скарыстоўваюцца даходы, якія раней забіраў клас эксплаататараў?

4) Як адбілася знішчажэнне кулацкай кабалы на знішчажэнні галечы вёскі?

5) Як змяніўся твар нашых гарадоў?

6) Як змяніўся твар вёскі?

7) Як вынікі соцыялістычнага будаўніцтва ўплываюць на знішчэнне процілегласці паміж горадам і вёскай?

### Б. Фактычныя даныя палепшання матэрыяльнага становішча працоўных.

1) Як вырас народны даход і куды ён ідзе?

2) Як вырасла насельніцтва Совецкага саюза?

3) Як вырасла колькасць рабочых і служачых у СССР і БССР?

4) Як вырас фонд і сярэднегадавы памер заработнай платы?

5) Як вырас фонд соцыяльнага страхавання?

6) Як змяніўся працоўны дзень?

7) Якая дапамога ад дзяржавы дана сялянам для арганізацыі МТС?

8. Якія льготы і ссуды даны сялянам дзяржаваю?

### В. Фактычныя даныя роста культуры.

1) Якія агульныя дасягненні па асноўных галінах Нарасветы маюцца ў СССР і БССР?

2) Чым характарызуецца рост актыўнасці і свядомасці працоўнай жанчыны-калгасніцы.

3) Якія адмоўныя моманты ў культурным будаўніцтве адзначае тав. Сталін?

### Уздым тавараабарота і транспарт.

1) Якое значэнне мае разгортванне тавараабарота і Совецкага гандля для задавальнення роста патрэбнасці працоўных мас горада і вёскі?

2) Якія перашкоды маюцца ў разгортванні совецкага гандля?

3) Як ставіць пытанне тав. Сталін аб тых комуністах, якія нядбайна адносяцца да гандля?

4) Як ставіць пытанне тав. Сталін аб лявацкай балбатні аб тым, што замест гандля зараз ужо патрэбен просты прадуктаабмен?

5) Чаму немагчым зараз просты прадуктаабмен?
6) Чаму ў нас застануцца грошы да поўнага завяршэння першай стадыі комунізма?
7) Як партыя змагалася супроць механічнага размеркавання тавараў?
8) Што зроблена ў справе палепшання рабочага харчавання?
9) Якія колькасныя паказчыкі вынікаў ужытых мерапрыемстваў па гандлю мы маем?
10) Якія далейшыя задачы ў справе уздыма совецкага гандля?

Транспарт.

1) Якое значэнне мае транспарт для тавараабарота?
2) Якія маюцца дасягненні ў разгортвання транспарта?
3) Што перашкаджае паляпшэнню работы транспарта?

## III. Партыя.

Уводзіны.

1) Партыя прышла к XVII партыйнаму з'езду згуртаванай як ніколі.
2) Якія антыленінскія групоўкі і ўхілы разбіты і рассеяны?

### I. Пытанні ідэйна-палітычнага кіраўніцтва.

1) Ці азначаюць поспехі соцыялістычнага будаўніцтва, што барацьба ўжо скончана і што ніякіх ухілаў у далейшым у партыі быць не можа?
2) У чым глеба для астаткаў варожых ідэалагічных настрояў?
3) У чым няправільнасць разумення некаторымі членамі партыі лозунга XVII партыйнай конферэнцыі аб пабудове бясклассавага грамадства і ў сувязі з гэтым аб працэсе адмірання дзяржавы?
4) Чаму с|г арцель з'яўляецца адзіна-правільнай формай калгаснага руху пры сучасных умовах?
5) Чаму с|г комуны не мелі ў апошнія гады шырокага распаўсюджання?
6) Калі і пры якіх умовах будзе пераход ад арцелі к комуне?
7) Што марксізм-ленінізм разумее пад роўнасцю?
8) У чым адрозненне марксісцка-ленінскага разумення роўнасці ад дробна-буржуазнай ураўнілаўкі?
9) Якое грамадства называецца соцыялістычным?
10) Якое грамадства называецца комуністычным?
11) Як скажаўся некаторымі членамі партыі лозунг тав. Сталіна „зрабіць усіх калгаснікаў заможнымі"?
12) У чым сутнасць розніцы паміж гэтым лозунгам і права-ухілісцкім лозунгам „узбагачайцеся"?
13) Чаму перажыткі капіталізма ў нацыянальным пытанні больш жывучы чым у другіх вобласцях?

14) У чым сутнасць ухіла к нацыяналізму?
15) У чым крыніца ухілаў у нацыянальным пытанні?
16) Як вызначае тав. Сталін галоўную небяспеку ў нацпытанні?
17) Чаму партыя павінна весці барацьбу на два фронты?
18) У чым шкоднасць недаацэнкі „левага" ухіла?
19) Якія задачы вызначае тав. Сталін у справе ідэйна-палітычнай работы?

### 2. Пытанні арганізацыйнага кіраўніцтва.

1) Як была дасягнута перамога лініі партыі?
2) Якія недахопы арганізацыйнай работы адзначае тав. Сталін у сваім дакладзе?
3) Якія сродкі вызначыла партыя, каб узняць узровень арганізацыйнай работы да ўзроўня палітычнага кіраўніцтва?
4) Якое значэнне мае падбор людзей і праверка выканання?
5) Якія адмоўныя тыпы работнікаў дае тав. Сталін у сваім дакладзе і ў чым іх адмоўнасць?
6) Чым выклікаецца рэарганізацыя НКРСІ-ЦКК і як яна будзе рэарганізавана?
7) Якія задачы вызначае тав. Сталін у галіне арганізацыйнай работы?
8) У чым небяспека ап'янення ад поспехаў і зазнайства?
9) Якое значэнне ў справе соцыялістычнага будаўніцтва мае падтрымка нас сусветным пролетарыятам?
10) Якія тры канчатковыя вывады дае тав. Сталін у сваім дакладзе?

# Ударнымі тэмпамі рэалізуем пастановы партыі аб школе

*А. Чарнушэвіч.*

## Ударнік настаўнік—барацьбіт за школу Маркса-Леніна-Сталіна

Пад кіраўніцтвам ЦК ВКП(б) і пад непасрэдным кіраўніцтвам ЦК КП(б)Б, пры брацкай дапамозе пролетарыята СССР,—БССРператварылася з раней прыгнечанай царскай калоніі ў індустрыяльна-аграрную краіну: з краіны цёмнай, непісьменнай—у краіну суцэльнай пісьменнасці, дзе ўведзена ўсеагульнае абавязковае навучанне на базе 7-годкі, адчынена шмат сярэдніх і вышэйшых навучальных устаноў. Наша краіна, у якой да Окцябрскай рэволюцыі не было ні аднэй навукова-даследчай установы, пакрылася сеткай навукова-даследчых устаноў па сельскай гаспадарцы, прамысловасці, медыцыне, педагогіцы і інш. на чале з Беларускай акадэміяй навук.

Гэтыя поспехі і дасягненні ёсць рэзультат правільнага правядзення ленінскай нацыянальнай палітыкі, рэзультат барацьбы за пролетарскі інтэрнацыяналізм супроць контррэволюцыйнага нацдэмакратызма, які імкнуўся адарваць БССР ад Саюза Совецкіх Рэспублік і ператварыць яе ў калонію, супроць вялікадзяржаўнага шавінізма і шавінізмаў іншых колераў. Школа, як важнейшае звяно культурнай рэволюцыі ператварылася са славеснай і схаластычнай ў школу, якая дае вучням сістэматызаваныя агульна-адукацыйныя веды, звязвае навучанне з вытворча-грамадскай працай і выхоўвае пакаленне, здольнае канчаткова ўстанавіць комунізм.

Наша школа набліжаецца да ажыццяўлення дырэктыў партыі і ўрада аб ліквідацыі карэннага недахопа і павышэння якасці выхаваўчай работы. Поўнае ажыццяўленне дырэктыў партыі і ўрада залежыць ад работы настаўніка, які з'яўляецца цэнтральнай фігурай педагагічнага працэса.

Ленін надаваў велізарнае значэнне настаўніку. Аб ролі педагога і лектара ў школе, Ленін ў сваім „пісьме вучням Капрыйскай школы“ пісаў:

> „Ва ўсякай школе самае важнае,—ідэйна-палітычны напрамак лекцыі. Чым вызначаецца гэты напрамак?—цалкам і выключна складам лектароў... Усякі „кантроль“, уся-

кае „кіраўніцтва", усякія „праграмы", „уставы" і інш.,—усё гэта пусты гук у адносінах к складу лектароў. Ніякі кантроль, ніякія праграмы і г. д. абсалютна не могуць змяніць таго напрамку заняткаў, які вызначаецца складам лектароў... Паўтараю: сапраўдны характар і напрамак школы вызначаецца не добрымі пажаданнямі мясцовых арганізацый, не рашэннямі „совета вучняў", не праграмамі і г. д., а складам лектароў" (Ленін, собр. соч. т. XIV, ст. 118—120).

У гэтым указанні Ленін з усёй яскравасцю характарызуе роль настаўніка, як галоўнейшай фігуры педпрацэса. У праекце праграмы партыі, напісанай у 1918 годзе, Ленін намячае шляхі выхавання нашага совецкага, прасякнутага ідэямі комунізма настаўніка. Ён піша: „Канчатковае аўладанне не толькі часткай ці большасцю настаўніцкага персанала, як цяпер, а ўсім персаналам у сэнсе адсячэння непапраўна буржуазных контррэволюцыйных элементаў і забеспячэння добрасумленнага правядзення комуністычных прынцыпаў (палітыкі)"—(Ленінскі зборнік 13, ст. 64.)

Ленін неаднаразова, ва ўсіх сваіх выступленнях па пытаннях народнай асветы, падкрэсліваў роль настаўніка, як праведніка ідэй пролетарыята ў справе выхавання пакалення актыўных, ініцыятыўных будаўнікоў соцыялізма. Але такога настаўніка трэба выхоўваць, а гэта магчыма, калі маса настаўніцтва будзе выхавана ў комуністычным духу. Ленін падкрэсліваў, што ў нас народны настаўнік павінен стаяць на такой вышыні, на якой ён ніколі не стаяў, не стаіць і не можа стаяць у капіталістычных краінах.

Партыя і Совецкая ўлада змагаюцца за тое, каб паставіць нашага настаўніка на вышыню, якой патрабаваў Ленін. Мы з'яўляемся адзінай краінай, дзе сапраўды настаўнік з'яўляецца ўдзельнікам соцыялістычнага будаўніцтва, яго інтарэсы забяспечаны так, як ні ў аднэй капіталістычнай краіне. Арганізавана сетка ўстаноў па павышэнні кваліфікацыі настаўніцтва. Настаўніку давяраецца ганаровая справа выхавання падрастаючага пакалення як актыўных будаўнікоў соцыялізма. Настаўнік з'яўляецца праваднікам ідэй комунізма сярод працоўных мас, актыўным удзельнікам соцыялістычнай будоўлі. З кожным годам совецкая ўлада паляпшае матэрыяльна-бытавыя ўмовы настаўніцтва. Вось некаторыя характэрныя даныя.

У БССР на народную асвету было выдаткавана ў 1929-30 г. 59.149.594 р., у 1932 г.—120.000 000 мільёнаў, а ў 1933 г. каля 150.000.000 р.

Сярэдняя месячная стаўка настаўніка пачатковай школы складала ў 1923-24 г. 24,5 р., а ўжо ў 1932-33 г.—88,5 р., больш, чым у тры разы; для настаўніка 2-га канцэнтра ў 1923-24 г.—26 р., а ў 1932-33 г.—129 р., амаль у 5 разоў больш.

У сувязі з агульным ростам матэрыяльна-бытавога забеспячэння працоўных расце і паляпшаецца матэрыяльна-бытавое становішча настаўнікаў і ўсіх асветнікаў.

Паляпшэнне матэрыяльна-бытавога становішча настаўніцтва ў нашай краіне набывае асаблівае значэнне пры азнаямленні са становішчам настаўнікаў у капіталістычных краінах. Настаўнік у капіталістычных краінах не мае ніякай перспектывы, абрачон на голад, жабрацтва і беспрацоўе, не ўпэўнен у заўтрашнім дні. Дзесяткамі тысяч народныя настаўнікі вымушаны дэкваліфікавацца і шукаць сабе працы ў якасці чорнарабочых. Так у фашысцкай Германіі, у адным Берліне, у 1931 годзе скарочана 192, а ў 1932 г. скарочана 813 настаўнікаў. Такім чынам у Берліне на працягу 1930—32 г. г. скарочана 1005 настаўнікаў. Па ўсёй Прусіі скарочана 14.730 настаўнікаў. Адначасова ідзе і скарачэнне зарплаты: так па Берліну зарплата настаўнікам зменшана на 25 проц. на працягу 1930—32 г. г.

Матэрыяльнае становішча настаўнікаў у Польшчы таксама пагаршаецца з кожным годам. З 1929-30 па 1931-32 г. зарплата скарочана на 25 проц. Побач з гэтым скарачаюцца выдаткі на народную асвету. Дзесяткі і сотні тысяч дзяцей працоўных застаюцца паза школай.

Для параўнання выдаткаў на народную асвету ў нас і ў іх цікава прывесці наступныя лічбы: на 1 душу насельніцтва ў царскай Расіі расходвалася на народную асвету—81 кап.

| | | | |
|---|---|---|---|
| У Польшчы расходвалася ў 1931-32 г. | 11 злотых | (прыкладна | 2,5 р.) |
| У Германіі „ „ | 14 марак, або | | 6,5 р. |
| У Амерыцы „ „ | 4,5 далар, або | | 9 р. |
| У БССР „ „ | 22,5 р. | | |

Гэтыя лічбы не патрабуюць каментарыяў.

На фоне крызіса культуры ў капіталістычных краінах рост культуры ў Совецкім Саюзе і яго неад'емнай частцы БССР, сведчыць аб тым, што толькі совецкая сістэма можа сапраўды забяспечыць запатрабаванні працоўных мас, што толькі дыктатура пролетарыята можа сапраўды паставіць народнага настаўніка на тую вышыню, на якой ён не можа стаяць у капіталістычным грамадстве.

За апошнія гады сярод настаўніцтва вырас новы тып настаўніка—ударніка, для якога педагагічная работа ёсць—„справа гонара, славы, адвагі і геройства".

Настаўнік-ударнік—гэта цэнтральная фігура сярод мас асветнікаў, якая пад кіраўніцтвам партыі аддае ўсе свае сілы на ажыццяўленне дырэктыў партыі і ўрада па пабудове школы Маркса-Леніна-Сталіна. Ганаровая годнасць ударніка абавязвае. Настаўнік-ударнік, на тым участку дзе ён працуе, павінен паказаць узоры работы па арганізацыі педпрацэса і правядзенню ўрока, паказаць узоры работы па комуністычнаму выхаванню падрастаючага пакалення, праводзіць ва ўсёй сваёй рабоце прынцыпы пролетарскага інтэрнацыяналізма, прынцыпы антырэлі-

гійнага выхавання, змагацца з адхіленнямі ад генеральнай лініі партыі, за прывіццё дзецям пролетарскай ідэалогіі.

Настаўнік-ударнік павінен удзельнічаць у грамадскай рабоце, звязваць сваю работу з соцыялістычным будаўніцтвам. Тав. Крупская ў сваёй прамове на XVII з'ездзе ВКП(б) прыводзіць такі факт: „Мне папалася,—кажа яна, запіска контррэволюцыянера Шумскага да тав. Кагановіча, дзе ён пісаў аб тым, што неабходна настаўніка разгрузіць ад грамадскай работы“. Не толькі контррэволюцыянер Шумскі, але і контррэволюцыйныя нацдэмы імкнуліся адарваць настаўніка і школу ад грамадскай работы і соцбудаўніцтва.

Настаўнік-ударнік павінен змагацца не толькі за тое, каб ён сам быў звязан з соцбудаўніцтвам, але каб і школа і вучні ўдзельнічалі ў соцбудаўніцтве, шляхам сувязі навучання з грамадска-вытворчай работай. Грамадска-вытворчая работа дзяцей павінна быць пабудавана на аснове яе падпарадкавання навучальным і выхаваўчым мэтам школы.

Настаўнік-ударнік павінен аўладаць ленінска-сталінскім стылем работы, быць прыкладам акуратнасці, чоткасці, дзелавітасці, ідэёвай узброенасці ва ўсякай рабоце.

Толькі аўладаўшы тэорыяй Маркса-Леніна-Сталіна і асвоіўшы тэхніку педпрацэса,—ударнік настаўнік зможа сапраўды забяспечыць выкананне дырэктыў партыі аб школе. Толькі змагаючыся за генеральную лінію партыі супроць розных адхіленняў ад яе, ён зможа забяспечыць ва ўсёй сваёй рабоце сапраўды большэвіцкія тэмпы і якасць.

---

*І. Ф—н*

# Узняць якасць школьнай работы

У студзені 1934 г. амаль ва ўсіх раёнах БССР былі праведзены канферэнцыі загадчыкаў школ па падвядзенню вынікаў работы за першае поўгоддзе. НДІ Комвыхавання накіраваў на месцы рад навуковых працаўнікоў, якія побач з удзелам у гэтых канферэнцыях знаёміліся непасрэдна з работай школ. Сабран даволі багаты матэрыял, частку якога мы змяшчаем у гэтым нумары.

Аб чым кажуць матэрыялы гэтых канферэнцый?

—У большасці школ навучальны год пачаўся своечасова і першае поўгоддзе праходзіла ў значна лепшых умовах чым у мінулым годзе.

Лепшыя школы БССР маюць ужо сур'ёзныя паспехі ў справе падняцця якасці вучэбна-выхаваўчай работы. У радзе школ нанесен даволі моцны ўдар на карэннаму недахопу. У радзе школ узмацнілася свядомая дысцыпліна, палепшыўся школьны парадак, устаноўлен цвёрды рэжым і расклад, значна ажывілася работа піонерарганізацыі і ДСК. Многія школы значна палепшылі сваю матэрыяльную і політэхнічную базу, пры іх абсталяваны не дрэнныя фізічныя габінэты, політэхнічныя майстэрні і г. д.

Гэтыя поспехі маюць месца там, дзе з боку загадчыкаў школ і асабліва райАНА наладжана канкрэтнае аперацыйнае кіраўніцтва, ўстаноўлена адзінаначалле, існуе поўная адказнасць кожнага работніка за выконваемую работу, сістэматычны кантроль і праверка работы кожнага школьнага работніка. Абавязковымі ўмовамі гэтых поспехаў з'яўляюцца: **шчыльная арганічная сувязь інструктара са школамі і метадычная дапамога ім**, разгортванне соцспаборніцтва і ўдарніцтва як сярод настаўніцтва, так і вучняў, цесная сувязь з пролетарска-калгаснай грамадскасцю і бацькамі, дапамога ў рабоце піонер-арганізацыі і ДСК з боку загадчыкаў школ і прымацаваных настаўнікаў, **большэвіцкая барацьба за цвёрды унутраны распарадак, за свядомую дысцыпліну, за якасць урока як асноўнай формы педпрацэса і сур'ёзную падрыхтоўку да яго.** У цэнтры ўвагі райАНА і школы павінны стаяць сістэматычная работа па **марксісцка-ленін-**

**скаму выхаванню настаўніцтва**, і паляпшэнне яго матэрыяльна-бытавога становішча, забеспячэння ва ўсёй вучэбна-выхаваўчай рабоце **класавай пролетарскай пільнасці і рашучая барацьба з усякімі класава-варожымі вылазкамі** і праявамі на фронце школьнага будаўніцтва.

У тых школах, дзе гэтыя ўчасткі работы аслаблены, дзе замест рашучай сістэматычнай барацьбы за якасць вучэбнай-выхаваўчай работы пануе славесная дэкларацыйнасць, самацёк, адсутнасць аперацыйнага і канкрэтнага кіраўніцтва з боку райАНА, дзе дрэнна пастаўлена палітыка-выхаваўчая работа сярод настаўніцтва і вучняў, дзе соцспаборніцтва і ўдарніцтва носяць фармальны характар,—мы яшчэ да гэтага часу маем рад буйных прарываў і недахопаў. Галоўнымі з іх з'яўляюцца:

1) Слабая эфектыўнасць у барацьбе з карэнным недахопам, асабліва па вуснай і пісьмовай мове, грамадазнаўству, гісторыі і вытворчаму навучанню.

2) Зусім слабае разгортванне барацьбы за аўладанне тэхнікай педагагічнага працэса, асабліва сярод педмаладняка і нездавальняючая пастаноўка метадычнага кіраўніцтва к боку райАНА і загадчыкаў школ.

3) Дрэннае планаванне школьнай работы, нездавальняючая пастаноўка уліка паспяховасці і падрыхтоўкі настаўніка да лекцый, недастатковая сувязь з пролетарскай і калгаснай грамадскасцю і бацькамі вучняў.

4) Слаба выканана дырэктыва ЦК аб ужыванні рознастайных метадаў выкладання, якія садзейнічаюць выхаванню ініцыятыўных і дзейных будаўнікоў соцыялізма. Рэдка практыкуюцца экскурсіі, мала выкарыстоўваюцца наглядныя дапаможнікі, недастаткова ўдзяляецца ўвагі лабараторным і калектыўным формам заняткаў.

5. Слабая работа піонерарганізацыі і ДСК, адсутнасць пазашкольнай работы, недастатковая ўвага да комуністычнага выхавання дзяцей, да павышэння ідэйна-палітычнага ўзроўня настаўніцтва да барацьбы з усякімі класава-варожымі вылазкамі і праявамі, асабліва на фронце інтэрнацыянальнага выхавання.

Другое поўгоддзе павінна даць больш значныя зрухі, больш эфектыўныя рэзультаты ў справе выканання пастаноў ЦК партыі аб школе. Трэба памятаць, што выкананне планаў 2-й пяцігодкі і ажыццяўленне ўсеагульнага абавязковага політэхнічнага навучання ў аб'ёме сямігодкі, з асаблівай вастратой ставіць пытанне аб якасці вучэбна- выхаваўчай работы ў школе. Кожная школа і настаўнік на грунце глыбока-прадуманага і дасканала распрацаванага плана ў цэнтр сваёй увагі павінна паставіць асноўныя рашучыя пытанні барацьбы за якасць вучобы. Сюды перш за ўсё адносіцца барацьба за пісьменнасць, за высокія веды па грамадазнаўству, гісторыі, за правільную пастаноўку працоўнага навучання, за сувязь тэорыі з практыкай.

Безумоўна, што вучні нашай школы сталі больш граматна будаваць сваю вусную і пісьмовую мову, гэта асабліва ярка адчуваецца ў перадавых узорных школах, але ва многіх месцах сшыткі вучняў яшчэ досыць брудныя, з многімі памылкамі, дрэнным почаркам і г. д. Адзіны фронт барацьбы за пісьменнасць яшчэ не ажыццяўляецца; часта выкладчыкі грамадазнаўства і іншых дысцыплін не правяраюць вучнёўскія сшыткі з пункту гледжання пісьменнасці. Другое поўгоддзе павінна даць ў гэтых адносінах рашучы перапом і к праверачным іспытам забяспечыць рэзкае павышэнне пісьменнасці.

Карэннаму недахопу школы нанесен безумоўна моцны ўдар, але выкладанне такіх важнейшых дысцыплін, як грамадазнаўства і гісторыя ў радзе месц яшчэ не стаіць на належнай вышыні. У многіх выкладчыкаў гэтых дысцыплін назіраецца агітацыйна-прымітыўны падыход да выкладання. Трэба адзначыць нездавальняючую ў рядзе месц пастаноўку выкладання грамадскіх дысцыплін. Рад грамадаведаў яшчэ не ўмеюць добраякасна ярка і цікава прыпаднесці вучню матэрыял, знайсці і скарыстаць неабходныя ілюстрацыі, арганізаваць цікавую экскурсію і г. д.

Нельга мірыцца з такім становішчам. Вядучыя ў фармаванні комуністычнага сазнання падрастаючай змены дысцыпліны—грамадазнаўства і гісторыя на працягу другога поўгоддзя павінны быць пастаўлены на тую вышыню, якую патрабуе пастанова ЦК партыі аб школе.

У першым поўгоддзі многія школы не выканалі вучэбнага плана па працоўнаму навучанню не толькі ў сельскіх мясцовасцях, але і ў горадзе. Маючаеся абсталяванне не было цалкам скарыстана, часта работа ў майстэрнях ні ў якой ступені не звязана з усёй астатняй навучальнай работай.

Школьныя зямельныя ўчасткі, як правіла яшчэ не з'яўляюцца праваднікамі перадавой тэхнікі соцыялістычнага земляробства, не з'яўляюцца дастатковай вучэбнай базай, а гэта іх задача. Гэтая задача павінна быць выканана ў час надыходзячай большэвіцкай вясны.

Кожны настаўнік павінен з усёй большэвіцкай упартасцю працаваць над асваеннем методыкі ўрока, прымяненнем ў рабоце рознастайных метадычных прыёмаў і павышэннем якасці на працягу ўсяго другога поўгоддзя.

Школы ў гэтым годзе атрымалі стабільныя падручнікі, але ркарысталі іх у цэлым радзе выпадкаў нездавальняюча. Не пэдкі выпадкі калі настаўнік абмяжоўваецца выключна адным садручнікам, забывае скарыстаць газету, часопіс, кніжку, экскурсію і г. д. З другога боку, наглядаюцца выпадкі ігнаравання і недаацэнкі стабільнага падручніка. Абое гэтыя скажэнні павінны быць выкарчаваны і падручнік павінен заняць ў педагагічным працэсе тое месца, якое вызначана пастановай ЦК партыі ад 13 лютага 1933 года.

Другое поўгоддзе бягучага навучальнага года асабліва адказнае. На яго працягу совецкая політэхнічная школа павінна падцягнуць адстаючыя ўчасткі і рэзка падняць якасць ўсёй выхаваўчай вучэбнай работы. Партыя і ўрад патрабуюць ад настаўнікаў і ў **першую чаргу ад органаў нарасветы**, перабудовы сваёй работы на грунце пастаноў XVII парт. з'езда, глыбокага ведання справы, умення кіраваць не наогул, а канкрэтна аперацыйна.

Зараз як ніколі з ўсёй вастратой пастаўлена пытанне аб такіх ударных першачарговых участках барацьбы за якасць,—як **узорная школа, школьны інструктар, заг. школай.** Без узмацнення гэтых звенняў, усякія размовы аб далейшым прасоўванні наперад застануцца пустым гукам і на гэтых іменна ўчастках, забяспечваючых высокую якасць вучобы і вытрыманае комуністычнае выхаванне, павінна быць сканцэнтравана ўвага гародскіх і раённых аддзелаў народнай асветы. Ад аперацыйнага кіраўніцтва райАНА і школьных інструктароў, іх практычнай дапамогі школе, ад несупыннай і адданай работы кожнага настаўніка—залежыць поспех другога поўгоддзя і ўсяго бягучага навучальнага года.

---

*С. Равін*

# Па школах Мазыршчыны

Велізарныя зрухі маем мы на Мазыршчыне пасля Окцябрскай рэволюцыі, асабліва за апошнія 10 год. У жорсткай барацьбе з класавым ворагам і спадчынай цемры і некультурнасці, працоўныя пад кіраўніцтвам партыйных арганізацый—зрабілі Мазыршчыну непазнаваемай. У асноўным ліквідавана непісьменнасць, завяршаецца ўсеагульнае навучанне на базе сямігодкі. Густая сетка школ пакрыла раён. У 140 школах Мазыршчыны—беларускіх, расійскіх, яўрэйскіх, польскіх і іншых—вучацца і атрымліваюць комуністычнае выхаванне амаль усе дзеці школьнага ўзросту.

Гэтыя велізарныя дасягненні на школьным фронце з'яўляюцца аднак недастатковымі ў параўнанні з патрабаваннямі, якія партыя і ўрад ставяць перад школай у другой пяцігодцы.

На культурным фронце Мазыршчыны мы маем самую абвостраную класавую барацьбу. Класавы вораг, які раней адкрыта выступаў супроць дыктатуры пролетарыята, зараз „ціхай сапай" спрабуе сарваць культурнае будаўніцтва, асабліва комуністычнае выхаванне падрастаючага пакалення. У гэтых мэтах класавы вораг выкарыстоўвае і рэшткі старай дарэволюцыйнай цемры і адсталасці. У некаторых выпадках бацькі не хочуць пасылаць сваіх дзяцей у школы. Ёсць яшчэ нямала дарослых, якія не хочуць ліквідаваць сваю непісьменнасць.

У гэтых умовах школы Мазыршчыны павінны асабліва чотка і добра працаваць. Для ліквідацыі старай спадчыны, для перамагання класавага ворага,—школы Мазыршчыны яшчэ больш павінны дабіцца высокаякасных паказчыкаў у рабоце—як па лініі ліквідацыі карэннага недахопа, так і па пастаноўцы выхавання дзетвары ў комуністычным духу, у духу класава-пролетарскага інтэрнацыяналізма.

Настаўніцтва Мазыршчыны з гэтай задачай недастаткова спраўляецца.

Прарыў па лініі ўсенавуча заключаецца галоўным чынам у зусім нездавальняючым наведванні школы вучнямі. Мы лічым ўсенавуч выкананым тады, калі ўсе дзеці школьнага ўзросту не

толькі ўзяты на ўчот, але калі яны акуратна і бесперабойна наведваюць школу. У праціўным выпадку атрымліваецца фактычны прарыў у ажыццяўленні ўсенавуча, замаскіраваны афіцыйнымі весткамі па ахопе ўсіх дзяцей школай.. Прывядзем некаторыя факты работы школ за першае поўгоддзе.

| Назва школы | Прапушчана вуч. дзён | З іх па хваробе |
|---|---|---|
| Мала-Аўцюкевіцкая ШКМ | 1681 | 393 |
| Насавіцкая ШКМ | 2734 | 547 |
| Зеляноцкая 4-хкамплект. школа | 868 | 148 |
| Гарочыцкая ШКМ | 3580 | 1971 |
| Слабодская ШКМ | 4564 | 2552 |
| Перадзелкаўская 2-хкамплект. школа | 1516 | 135 і т. д. |

Адсюль мы бачым, што вучнямі ўказаных школ без уважлівых прычын прапушчаны тысячы дзён, у сярэднім кожны дзень першага поўгоддзя адсутнічае 15—20 проц. усіх вучняў. Гэта азначае, што частка вучняў не праходзіць ўсёй праграмы—пераходзіць у кандыдаты на другагодніцтва. Чым тлумачацца такія масавыя прагулы вучняў? Аказваецца, у раёне яшчэ жыве старая традыцыя, што на вучобу пасылаюць дзяцей толькі ўзімку. Увосень і ўвесну дзеці пасвяць жывёлу. З гэтым школы змагаюцца зусім недастаткова. Шмат школ нават не склікалі ніводнага бацькоўскага схода.

Ліквідацыя карэннага недахопа ідзе зусім недастатковымі тэмпамі. Мы павінны ў бягучым навучальным годзе ліквідаваць карэнны недахоп школы, але пры цяперашнім становішчы няма гарантыі, што школы Мазыршчыны даб'юцца рашучага зруху ў гэтым напрамку. Процант паспяховасці школ занадта нізкі. Агульны процант паспяховасці не адбівае сапраўднага стану ведаў.

Так у Навасёлкаўскай ШКМ, дзе агульны процант

| | |
|---|---|
| паспяховасці | 88,7 проц. |
| паспяховасць па расейскай мове толькі | 70,7 „ |
| па белмове | 79,4 „ |
| па матэматыцы | 83,8 „ |

Такіх прыкладаў мы налічваем дзесяткамі, што сведчыць аб вельмі слабым засваенні некаторых асноў навук. Асабліва слаба стаіць справа з граматнасцю пісьма.

Пры развязванні, напрыклад, задач, настаўнікі аказваецца не лічаць сваім абавязкам звяртаць увагу на граматнасць вучняў. Гэта шкоднейшая праява функцыяналкі ў школьнай рабоце. Пара нарэшце зразумець, што поўная граматнасць вучняў дасягаецца не толькі работай на ўроках мовы, але **адзіным фронтам усіх** настаўнікаў, якія сочаць за граматнасцю вучняў, усюды, у сшыт-

ках матэматыкі, геаграфіі, насценгазеце, у тэксце розных пратаколаў і аб'яў, пісаных вучнямі.

Зусім дрэнна стаіць справа з політэхнічным навучаннем. У пачатковых школах амаль нідзе няма рабочых пакояў. У II-м канцэнтры ШКМ майстэрні ёсць, але недастатковае абсталяванне. У выніку гэтага, некаторыя школы, як яны пішуць у сваіх справаздачах, праводзяць па політэхнізацыі толькі „тэарэтычныя заняткі", што з'яўляецца „славесным політэхнізмам", а некаторыя і зусім не займаюцца гэтым прадметам (Шніцкая ШКМ, Зелянавіцкая ШКМ і інш.).

Такое становішча нельга тлумачыць „аб'ектыўнымі прычынамі".

РайАНА адпусціў усім школам сродкі на закупку інструмантаў, але не правяраў на працягу поўгоддзя, ці набываюцца яны, ці арганізоўваюцца рабочыя пакоі і майстэрні.

У радзе школ ёсць антысовецкія, шавіністычныя нацдэмаўскія выступленні, з якімі не вядзецца дастатковай барацьбы. Некаторыя школы вядуць пазашкольную і палітасветную работу (чытка газет для дарослых, шэфства над хатай калгасніка, культмасавая работа сярод вучняў і насельніцтва і г. д.), але РайАНА не арганізаваў абмена вопытам гэтых школ, каб распаўсюдзіць яго. Такім чынам добрыя пачынанні некаторых школ застаюцца невядомымі ўсёй масе настаўніцтва.

У большасці вясковых школ вельмі слаба пастаўлена піонерработа, ДСК і добраахвотных арганізацый (МОПР і інш.).

Вельмі дрэнна пастаўлена работа з бацькамі. У радзе школ не было ніводнага бацькоўскага схода. Аб тым, да чаго даходзіць фармалізм у гэтай справе сведчыць наступны характэрны дакумант, прысланы афіцыйна ў РайАНА:

*А К Т*

*Я, загадчык Кацураўскай школы (прозвішча імя і па бацьку складаю гэты акт у тым, што 31|XII-33 г. мною скліканы сход бацькоў, на які ніхто не з'явіўся і гэтым была сарвана работа школы, таму, што нельга склікаць школьны совет, у чым я падпісваюся*

*Загадчык школы (подпіс).*

З такім „вядзеннем" работы сярод бацькоў РайАНА занадта мала змагаецца.

У некаторых школах Мазыршчыны—механічныя і фармальныя адносіны да комуністычнага выхавання дзяцей прывялі да рада грубых скажэнняў нашай школьнай палітыкі. Так, мы сустракаемся з фактам выключэння вучняў з 3-й групы са школы „за антысеміцкія вылазкі". Асабліва яскравы факт быў у Міхнавіцкай ШКМ. Вучні 3 і 1-й груп арганізавалі гульню: адзін хлопчык па неасцярожнасці кінуў школьны сьцяг на пол, прычым ударыў двух дзяцей 3-й групы, з іх аднаго яўрэя. Гэты факт быў рас-

цэнен школай, як бузацёрства з праявамі „антысемітызма" і данага вучня са школы выключылі. Па словах загадчыка, такі факт здарыўся з даным вучнем першы раз.

Падобныя факты выключэння з 3-й групы былі і ў іншых школах (Беразняцкая ШКМ). Гэта сведчыць аб тым, што школы ідуць па лініі найменшага супраціўлення; замест узмоцненай работы па комуністычнаму выхаванню дзяцей і барацьбы з сапраўднымі вылазкамі класавага ворага,—ужываюць метады голага адміністравання, штампуюць вучня 3-й групы контррэволюцыянерам, выкідваюць яго са школы.

Прычыны вялікай колькасці прарываў у школах Мазыршчыны караняцца ў першую чаргу ў слабым кіраўніцтве школ з боку РайАНА. РайАНА не ведае сваіх школ. Інструктары-метадысты яшчэ сядзяць у апараце і не бываюць у школах. Мы маем такі факт, што за ўсё поўгоддзе абследвана па раёну ўсяго 12 школ са 140 (у РайАНА апрача загадчыка, ёсць тры інспектары). Аб школе пачынаюць гаварыць у РайАНА толькі тады, калі там здарыцца якое-небудзь класава-варожае выступленне.

У раёне ёсць шмат добрых пачынанняў у радзе школ, але РайАНА нават аб іх не ведае і не распаўсюджвае вопыт лепшых сярод іншых школ. Таксама слабое кіраўніцтва раёна з боку НКА, асабліва па метадычнай рабоце. Інструктары-метадысты скардзяцца, што за ўсё поўгоддзе не было ніводнага ўказання аб тым, як ім працаваць. І сапраўды, няма з боку НКА чоткай установкі па раду пытанняў, напрыклад, аб тым, як настаўнікі павінны планаваць сваю работу, як складаць план-канспект кожнага ўрока і інш.

У раёне зусім не разгорнута работа Сельметадбюро. На паседжаннях Сельметадбюро ўсё яшчэ займаюцца агульнымі пытаннямі, гэтым самым не даюць канкрэтнай дапамогі школам, асабліва маладым настаўнікам. Сельметбюро павінны ў штодзённай сваёй рабоце арганізаваць наведванне ўрокаў па асобных прадметах і потым падрабязна аналізаваць іх на сваіх сходах, выяўляючы важнейшыя недахопы і дадатныя бакі. Сельметбюро павінна распрацаваць план такіх абследванняў і разбораў на паседжаннях, каб ахапіць важнейшыя прадметы ўсіх школ свайго сельсовета. Гэтым самым Сельметбюро зможа даваць канкрэтныя ўказанні школам і настаўнікам і найлепшы вопыт распаўсюджваць па ўсяму сельсовету.

Інструктары-метадысты ў сваю чаргу павінны арганізаваць гэтую работу, заслухоўваць сістэматычна даклады Сельметбюро, каб лепшы вопыт перанесці на іншыя. Фактычна-ж кожнае Сельметбюро працуе па свойму, займаецца агульнымі пытаннямі, а часам бяздзейнічае.

*Л. Шашкоў*

# Школы Бягомльскага раёна на агляд грамадскасці

Заняткі ў школах Бягомльскага раёна распачаліся своечасова і бесперабойна цягнуліся на працягу ўсяго 1-га семестра 1933-1934 нав. года. У Бягомльскім раёне, як прымежным, ажыццёўлена ўсеагульнае абавязковае навучанне не толькі за пачатковую, але і за сямігадовую школу. У кожным сельсовеце маецца сямігадовая школа.

Вынікі агляда школ Бягомльскага раёна паказваюць, што пасля пастаноў ЦК ВКП(б) і ЦК КП(б)Б аб школе палепшылася працоўная дысцыпліна як сярод вучняў, так і настаўнікаў.

Маюцца дасягненні ў вобласці аўладання вучнямі асновамі навук. Трэба адзначыць, што ў цэлым радзе сельсоветаў (Мсціжскі, Бягомльскі, Бярэзкаўскі ды інш.) добра налажана работа сельскіх метадычных настаўніцкіх аб'яднанняў. У гэтых сельсоветах метадычныя аб'яднанні сістэматычна збіраюцца і разглядаюць вельмі актуальныя пытанні. Так напрыклад, на адным з сваіх паседжанняў сельскае метадычнае аб'яднанне Мсціжскага с-с. абгаварвала меры педагагічнага ўплыва і арганізацыю соцспаборніцтва ў школе.

Ёсць зразумела і шмат недахопаў у рабоце школ Бягомльскага раёна. Абсалютная большасць сямігодак маюць яўна нездавальняючую матэрыяльную базу, асабліва Іканская, Домжырыцкая і Асаўская ШКМ. У гэтых школах групы размешчаны у некалькіх цесных, цёмных будынках, зусім адсутнічаюць габінеты па фізыцы, хіміі і прыродазнаўстве. Гэтыя і іншыя школы маюць зусім недастатковую колькасць наглядных дапаможнікаў—карт, прыбораў, картаграм і г. д. У Домжырыцкай ШКМ настаўнікі нават карысталіся дарэволюцыйнай картай поўшар'яў, якая вісела ў класе.

У вышэйназваных ШКМ, а таксама ва ўсіх пачатковах школах, дзе праводзілася абследванне, політэхнічнае абсталяванне зводзіцца да некалькіх заржавелых пілак і малаткоў, пры чым і гэта нават ляжыць па шафах і школамі зусім не выкарыстоўваецца. Вельмі дрэнна абстаіць справа з настаўніцкімі кад-

рамі. У раёне налічваецца да 180 настаўнікаў, сярод іх асоб з вышэйшай адукацыяй маецца ўсяго 5 чалавек, 25 скончылі педагагічныя тэхнікумы і 140 скончылі каротка-тэрміновыя пед-курсы. Маецца цэлы рад ШКМ (Іканская, Домжырыцкая, Вольберацкая, Небыленская), дзе няма ніводнага настаўніка з вышэйшай адукацыяй.

Не лепш абстаіць справа з нацпедкадрамі. Мсціжская яўрэйская пачатковая школа зусім зачынена 2—3 месяцы назад з прычыны адсутнасці настаўніка. Вучні гэтай школы ўліты ў Бел. школу. У Пядынскай польскай двухкамплектовай школе працуе настаўнік беларус, які не ведае польскай мовы. Адказнасць за ўсё гэта кладзецца ў першую чаргу на НКА. Апошні відаць „забыўся", што Бягомльскі раён з'яўляецца прымежным, далёка адстаіць ад чыгункі і патрабуе асаблівай увагі ў справе кам-плектавання школ настаўнікамі.

Характэрна, што ў Бягомльскім раёне на сёнешні дзень ёсць да 30 проц. настаўнікаў, якія яшчэ не з'яўляюцца членамі саюза. На месцы ў раёне нічога не робіцца для таго, каб гэтую колькасць маладых настаўнікаў уцягнуць у саюз працаўнікоў асветы. Настаўніцкія кадры часткова засмечаны па свайму са-цыяльнаму складу. Так напрыклад у Іканскай ШКМ працуе сын кулака, нехта Славецкі, які зусім фармальна адносіцца да сваіх абавязкаў, не выпраўляе вучнёўскіх сшыткаў з прычыны, нібы, „фізічнай немагчымасці іх выправіць". У выніку такіх адносін Славецкага да працы, вучні не ведаюць ні беларускай, ні рускай мовы.

У Бярэзінскай ШКМ працуе настаўніца Лукашонак—дачка папа. З'яўляючыся загадчыцай школьнай бібліятэкі, яна зусім свядома распаўсюджвае сярод вучняў нацдэмаўскую контррэ-валюцыйную літаратуру. Загадчык гэтай-жа школы Рылёнак, (да рэчы муж Лукашонак), замест барацьбы з распаўсюджваннем шкоднай літаратуры, сам патураў гэтаму, адкрыта выяўляў свае спачуванне контррэволюцыянерам-нацдэмам Лёсіку, Ластоўскаму і г. д.

У Вілейскай ШКМ настаўнікі Ратыз і Бляхман займаліся трацкісцкімі паклёпамі на т. Сталіна. У аднэй 2-х камплектовай школе ў шафе для сшыткаў і падручнікаў знойдзены контррэ-волюцыйныя нацдэмаўскія вершы, напісаныя настаўнікам. Зразумела, што зараз, калі ўсе гэтыя факты выкрыты, прыняты адпаведныя меры па замене класава-варожых нам настаўнікаў, совецкімі кадрамі.

Прамым рэзультатам слабай агульнай падрыхтаванасці значнай часткі настаўніцтва Бягомльскага раёна і нізкай метадычнай падрыхтоўкі ў прыватнасці, з'яўляецца вялікая колькасць недахопаў, якія маюць месца ў справе арганізацыі педпрацэса у школах, ахопленых абследваннем. У частцы школ (Домжырыцкая, Іскрынская ды інш.) адсутнічае планаванне работы. У гэтых і некаторых іншых школах не аказалася ні агульна-школь-

нага гадавога вытворчага плана, ні вытворчых планаў паасобных дысцыплін, ні рабочых планаў, якія-б сведчылі аб падрыхтоўцы настаўнікаў да заняткаў. У цэлым радзе школ пры планаванні работ выпалі асобыя звенні, так напрыклад, у Іканскай і Мсціжскай ШКМ зусім выпушчаны тэматычныя планы, а па некаторых прадметах (грамадазнаўства, гісторыя) у Мсціжскай узорнай ШКМ не аказалася нават і рабочых планаў).

Не трэба даказваць, што як адсутнасць планавання, так і выпадзенне ў планах асобных звенняў, з'яўляецца недапушчальным і сведчыць аб тым, што настаўнікі не рыхтуюцца да урокаў, не прадумваюць належным парадкам змест урока і метады яго правядзення. Гэта з усёй выразнасцю выяўляецца пры правядзенні самых урокаў. Амаль на ўсіх уроках, якія нам прышлося назіраць адсутнічаў цэлы рад надзвычай важных момантаў,—складаных частак урока.

Так напрыклад, пераважная большасць урокаў не пачыналася з мінулага матэрыяла, што з'яўляецца неабходным у мэтах замацавання ведаў вучняў і падвядзення іх да лепшага разумення новага. На ўсіх уроках адсутнічаў надзвычай важны момант,—стварэнне інтарэса вучняў. Высветлілася, што настаўнікі зусім не знаёмы з методыкай стварэння і падтрымання інтарэса на працягу ўрока.

У справе тлумачэння новага праграмнага матэрыяла настаўнікі не заўсёды скарыстоўваюць поўную суму метадаў. Так напрыклад загадчык Іканскай ШКМ, расказваючы вучням 5-ай групы пра біяграфію В. І. Леніна і яго бацькоў не паказаў вучням на карце мясцовасці, дзе нарадзіўся і жыў Ільіч, не паказаў месца яго ссылкі і г. д. Такія дысцыпліны як фізіка, хімія і прыродазнаўства з прычыны поўнай адсутнасці адпаведнага абсталявання ў Іканскай, Домжырыцкай і Асаўскай ШКМ, выкладаюцца схематычна, без пастаноўкі доследаў.

Абследваннем устаноўлена, што амаль ва ўсіх школах і па ўсіх прадметах мае месца папярэдняе чытанне матэрыяла па стабільнаму падручніку з паследуючымі тлумачэннямі і разборам настаўніка. Гэта яўна супярэчыць пастанове ЦК ВКП(б) аб школе, дзе гаворыцца, што настаўнік перш за ўсе сістэматычна і паслядоўна ізлагае праграмны матэрыял, а потым ужо арганізуе яго прапрацоўку пад сваім кіраўніцтвам.

Усе назіраемыя намі ўрокі не канчаліся падагульненнямі. Некаторыя настаўнікі (Домжырыцкая ШКМ) не ўкладваліся ў свой час і скарыстоўвалі па некалькі хвілін перапынку, што сведчыць аб адсутнасці дазіроўкі матэрыяла ў часе.

Адказы вучняў, якія мелі месца на назіраемых намі ўроках паказваюць, што стан ведаў па цэламу раду прадметаў яшчэ не стаіць на належнай вышыні. Асабліва на нізкім узроўні знаходзяцца веды ў вучняў II канцэнтра Домжырыцкай ШКМ. Амаль ва ўсіх школах вучні вельмі слаба ведаюць грамадазнаўства і гісторыю. Наогул трэба сказаць, што ва ўсіх абслед-

ваных школах горш за ўсё пастаўлена выкладанне грамадазнаўства і гісторыі. Самы вялікі процант папярэдняга чытання матэрыяла па падручніку якраз прыпадае на ўрокі выкладчыкаў гэтых дысцыплін.

Такое, з дазвалення сказаць, „выкладанне" можна было бачыць у Мсціжскай, Домжырыцкай, Іканскай і Асаўскай ШКМ. У Віленскай ШКМ вучні не маглі адказаць, хто такі т. Молатаў, у Замастоцкай школе вучні не ведалі, што т. Сталін з'яўляецца генеральным сакратаром ЦК ВКП(б). Вучні 2-хкамплектовай Атрубской школы не змаглі адказаць на пытанне, чаму кулак з'яўляецца нашым класавым ворагам. У гэтай-жа школе вучні не ведалі, кім з'яўляецца т. Калінін.

У тых-жа школах, дзе настаўнікі грамадаведы рыхтуюцца да сваіх заняткаў і маюць рабочыя планы, веды вучняў па грамадазнаўству і гісторыі знаходзяцца на належнай вышыні. Узорам таго, як трэба выкладаць гісторыю і грамадазнаўства можа служыць настаўнік Бягомльскай ШКМ т. Кецко, які прадумвае кожны свой крок, кожны метадычны прыём. І як вынік сур'ёзных удумлівых адносін настаўніка да работы, вучні т. Кецко маюць добрыя веды, даюць добрыя, асмысленыя адказы на ўсе тыя запытанні, якія ставіліся настаўнікам.

Цэлы рад школ Бягомльскага раёна мае прарывы ў справе пастаноўкі інтэрнацыянальна-класавага і антырэлігійнага выхавання. Незаўсёды, там дзе гэта мажліва, з выкладаннем паасобных прадметаў увязваюцца моманты антырэлігійнага і інтэрнацыянальна-класавага выхавання. Так, напрыклад настаўнік 4-й групы Мсціжскай ШКМ, гаворачы аб мерах павышэння ўраджайнасці не ўскрыў папоўскай хлусні аб тым, што быццам ураджай залежыць ад ласкі боскай. Амаль ва ўсіх абследваных школах адсутнічаюць гурткі ваяўнічых бязбожнікаў, не арганізаваны ячэйкі МОПР і АЗЭТ. Аб слабай рабоце па інтэрнацыянальна-класаваму выхаванню ў школах сведчаць праявы антысемітызма, якія мелі месца сярод вучняў Бярэзінскай, Іканскай і Мсціжскай школах.

У вялікай колькасці абследваных школ (Іканская, Домжырыцкая, Асоўская, Замастоцкая, Красніцкая) зусім не разгорнута вытворчае навучанне, адсутнічаюць працоўныя пакоі і школьныя політэхнічныя майстэрні. Зусім недастаткова скарыстоўваюцца соўгасы, калгасы і мясцовыя прадпрыёмствы ў справе арганізацыі і правядзення вытворчага навучання. У радзе школ вытворчае навучанне зводзіцца да чытання лекцый па сельскай гаспадарцы, тэхналогіі дрэва і метала, у сувязі з чым політэхнізацыя набывае выключна славесны характар.

Абследваннем устаноўлена ў абсалютнай большасці ШКМ слабая работа дзіцячых арганізацый (Домжырыцкая, Іканская і інш. ШКМ), дзе вучкомы выявілі сваю бездапаможнасць і няўменне арганізаваць выхаваўчую работу сярод вучняў.

У Вілейскай, Іканскай і іншых школах адсутнічаюць планы

работы вучкома і піонерарганізацыі і не размеркаваны абавязкі сярод членаў самакіравання. У Домжырыцкай ды іншых школах не разгорнута індывідуальнае соцспаборніцтва і ўдарніцтва сярод вучняў і паміж асобнымі групамі. Вучком і піонерарганізацыя ў школе слаба змагаюцца за ўздым якасці вучобы і працоўнай дысцыпліны.

Піонеры не заўсёды яшчэ з'яўляюцца застрэльшчыкамі барацьбы за высокую якасць вучобы. У Іканскай, Вілейскай і радзе іншых ШКМ зусім адсутнічаюць піонератрады.

Такое становішча з вучнёўскім і піонерскім арганізацыямі ў школе стварылася ў выніку слабага кіраўніцтва піонэр-работай з боку мясцовых комсамольскіх ячэек, бяздзейнасці настаўнікаў і адсутнасці райбюро ДКА.

У мэтах ліквідацыі ўсіх маючыхся недахопаў у рабоце школ Бягомльскага раёна неабходна перш за усе зрабіць ачыстку настаўніцкіх радоў ад кулацка-нацдэмаўскіх, троцкісцкіх антысовецкіх элементаў, папоўнішы настаўніцкі склад нашымі, совецкімі, ідэалагічна-вытрыманымі работнікамі.

Саюзным арганізацыям неабходна больш шырока разгарнуць палітыка-асветную масавую работу сярод настаўнікаў раёна, дабіўшыся 100 проц. уцягнення маладых асветнікаў у саюз працаўнікоў асветы.

НКА БССР павінен пры размеркаванні настаўніцкіх кадраў накіраваць у Бягомльскі, як прымежны, раён лепшыя сілы. НКА павінен неадкладна ўжыць рашучыя меры ў напрамку ўкамплектавання адпаведным настаўніцкім складам нацшкол Бягомльскага раёна і аднавіць работу Мсціжскай яўрэйскай школы.

Улічваючы тое, што ў Бягомльскім раёне маецца да 70 проц. маладых настаўнікаў, якія не так даўно скончылі каротка-тэрміновыя курсы і маюць слабую тэарэтычную і метадычную падрыхтоўку,—НКА і мясцовыя арганізацыі павінны ўдзяліць вельмі сур'ёзную ўвагу павышэнню агульнага і палітычнага ўзроўня і кваліфікацыі настаўнікаў. Неабходна дабіцца чоткай, сістэматычнай работы райметадбюро, якое, да рэчы, у першым семестры зусім не разгарнула свае работы. Перад узорнымі школамі раёна трэба паставіць як чарговую і баявую задачу пашырыць свой уплыў на масавую школу, дзяліцца сваім вопытам не толькі з настаўнікамі тых с-советаў, дзе гэтыя школы знаходзяцца, але і настаўнікамі ўсяго раёна.

Гэтую апошнюю задачу магчыма ажыццявіць праз мясцовы друк і спецыяльныя выезды настаўнікаў узорных школ у масавыя школы і наадварот. Каб забяспечыць магчымасць узаеманаведвання настаўнікамі ўзорных школ, масавыя школы, і наадварот, неабходна зрабіць у сябе розныя выходныя дні.

Інструктарам метадыстам НКА трэба як мага часцей заглядваць у прымежныя раёны, у прыватнасці ў такія далёкія ад чыгункі як Бягомльскі, з мэтай агляду школ і аказання канкрэтнай дапамогі ў іх практычнай, паўсядзённай рабоце.

*Ц. Бародзіч.*

# Політэхнізацыя ў загоне

Бягучы 1933-34 навучальны год павінен з'явіцца годам канчатковай ліквідацыі карэннага недахопа і асваення педагагічнай тэхнікі. Гэтаму значна спрыяе выпуск стабільных праграм і падручнікаў. Разам з гэтым, мабілізацыя шырокай грамадскасці вакол усенавуча асабліва ў час падрыхтоўкі да новага навучальнага года, значна павысіла аўтарытэт школы, што прывяло аднначасова да лепшага ўмацавання яе гаспадарчага стану (забеспячэнне апалам, арганізацыя гарачых снеданняў, пісьмовымі прыладамі і г. д.).

Але не гледзячы на ўсё гэта ў Старобінскім раёне мы маем вялікі прарыў у справе політэхнізацыі школ, якое чамусці лічаць другараднай справай. Майстэрні Старобінскай узорнай беларускай і яўрэйскай ШКМ маюць самае прымітыўнае і саматужнае абсталяванне.

У Старобінскай беларускай ШКМ (загадчык Гаварушка) для майстэрні адведзена самае горшае памяшканне з выключна сталярным абсталяваннем. Майстэрня мае выгляд нейкага бруднага і цёмнага склада, а не вучэбна-школьнага пакоя.

У майстэрні Старобінскай яўрэйскай ШКМ (загадчык Хазановіч) абсталяванне зусім дрэннае. Па металу—ёсць толькі адны ціскі невучэбнага характара. Нават абсталяванне, якое ёсць, кіраўнікі не змаглі прыстасаваць да вучнёўскага ўзроўня.

Інструктары працоўнага навучання не маюць ніякай педагагічнай адукацыі. Работа іх носіць вузка рамесніцкі саматужніцкі характар. Пастаноўка політэхнізацыі ў вясковых школах яшчэ горшая. Агранамізацыя, як неад'емная частка політэхнізацыі адсутнічае. Нават узорная школа (Старобін) не мае зямельнага ўчастка.

Інтэрнацыянальна-класавае выхаванне носіць ў асноўным кампанійскі характар і праводзіцца ад выпадка да выпадка. Як вынік такой „работы" мы мелі па раёну цэлы рад класава-варожых вылазак, як з боку настаўнікаў, так і вучняў.

У Старобінскай узорнай школе адзін з вучняў 5-й групы пад уплывам класавага ворага дыскрэдытаваў правадыроў пар-

тыі, аб чым загадчык школы Гаварушка даведаўся толькі праз два тыдні і нават тады не прыняў належных мер. Вакол гэтай справы не была мабілізавана грамадская думка. Антысеміцкія і шавіністычная вылазкі ў Язавінскай і Доўгаўскай школах не сталі прадметам шырокага абгаварэння на вучнёўскіх сходах іншых школ і не атрымалі належнай палітычнай ацэнкі.

Былі нацыянал-дэмакратычныя вылазкі і з боку настаўнікаў. Выкладчык Пагосцкай узорнай школы Турбан прапагандуе нацдэмаўскую думку аб тым, што „загляне сонца і ў наша ваконца" і сцвярджае, што „рабочым не дрэнна жывецца ў капіталістычных краінах". Падобныя факты не абгаварваюцца на настаўніцкіх калектывах і даны настаўнік атрымаў толькі заўвагу загадчыка і то ў прыватным парадку.

Выкладчыца Фэдэр Д. выявіла свае шавіністычныя погляды, заявіўшы на школьным совеце: „мне даюць выкладаць усякую брыдоту і дрэнь—нямецкую мову".

Калі ў м. Старобіне праводзілася падпіска аб перадачы царквы і сінагогі пад культмасавыя ўстановы,—настаўнік ШКМ Хоміч Н. К. катэгарычна адмовіўся падпісацца. Акрамя таго, ён на лекцыях у III групе, якую вядзе, баіцца назваць кулака сваёй назвай, і абыходзіць моманты класавай барацьбы.

Не гледзячы на цэлы рад недахопаў, многія школы Старобіншчыны маюць значныя дасягненні ў галіне паспяховасці. Так, напрыклад, Астроўская школа дабілася паспяховасці за першае поўгоддзе 93 проц., не гледзячы на недахоп апала для заняткаў. Такіх школ нямала.

Выкладанне і паспяховасць на рускай мове з'яўляецца найбольш слабым месцам на Старобіншчыне. Паводле выказванняў загадчыкаў, слабая паспяховасць па рускай мове тлумачыцца непадрыхтаванасцю настаўнікаў. Скончыўшыя педтэхнікумы і педкурсы, адмаўляюцца выкладаць рускую мову матывуючы тым, што не ўладаюць ёй.

Дрэнна абстаіць справа і з арфаграфічнай пісьменнасцю. Вучні слаба засвойваюць новы правапіс. Метадычнае кіраўніцтва па раёну слабое. Інструктары-метадысты не маюць педагагічнай практыкі, не ўладаюць самі тэхнікай педпрацэса і належным вопытам.

---

*В. Зайцаў, Д. Баршчэўская*

# Узор ударнай работы

Той факт, што ў Совецкай Беларусі школьнае будаўніцтва паднята на небывалую вышыню, не патрабуе даказаў, яго не могуць аспрэчваць нават нашы ворагі. Тры з паловай гады аддзяляюць нас ад таго перыяда, калі мудрэйшы правадыр—лепшы ленінец тав. Сталін з трыбуны XVI партз'езда паставіў задачай—увядзенне ўсеагульнага абавязковага навучання за пачатковую школу. Гэтая задача ў БССР вырашана яшчэ два гады назад, а зараз—і ўсенавуч за сямігодку становіцца фактам.

За фактамі далёка не трэба хадзіць. Варта толькі пабываць ў раённым цэнтры Крупскага раёна,—у мястэчку Крупкі. 5—6 год назад тут у старым доміку ў невялікіх пакойчыках змяшчалася 4-хкамплектная школа з сотняй дзяцей і трымя настаўнікамі. А зараз...два новыя, вялізныя ва ўмовах Крупак, школьныя будынкі. На прыкладзе Крупскай ШКМ мы пераконваемся, што 7-мігадовы ўсенавуч не пражэкцёрства, а факт, што пад гэты факт падводзіцца ў нас і моцная матэрыяльная база.

У Крупках пачатковая школа за гэтыя гады вырасла ўжо ў поўную сямігодку. Але гэтага мала, яна разгортваецца ў 10-гадовую політэхнічную школу і ўжо мае 8-ю групу. Не 4 групы з трымя настаўнікамі, а ўжо 13 груп і калектыў у 14 педагогаў і 437 вучняў налічвае яна. А там, дзе раней тулілася школа, цяпер размясціліся і растуць політэхнічныя майстэрні для дзяцей 2-га канцэнтра. Ёсць і рабочы пакой для малышоў, але ўжо ў будынку першага канцэнтра.

У новых класных пакоях шмат паветра і святла, дзецям ужо не прыходзіцца сядзець па 4 на аднэй парце. У адным з новых будынкаў ёсць нядрэнны школьны клуб (на які нажаль часта прабуюць прэтэндаваць мясцовыя арганізацыі). Не дрэнныя вучэбныя габінеты, бібліятэка з вялікай колькасцю літаратуры, кіно-апарат, радыё,—усё гэта замест компаса і пары абшарпаных геаграфічных карт у недалёкім мінулым. Малюнак роста матэрыяльнай базы школы будзе няпоўным, калі не дадаць, што ўсе 437 вучняў і настаўнікі штодзённа забяспечваюцца зусім

здавальняючымі гарачымі снеданнямі, што ў школе гарацъ лампачкі Ільіча. Так вырасла школа і яе база за некалькі апошніх год.

Крупская ШКМ не простая сямігодка,—яна ўзорная раённая ШКМ. Што вас асабліва захапляе, калі вы трапляеце ў школу—гэта адданасць справе і энтузіязм маладых педагогаў. Маладых таму, што ўвесь калектыў школы ў асноўным складаецца з моладзі, скончыўшай нашы педтэхнікумы. Вядучая роля безумоўна належыць настаўнікам-комсамольцам. Вось яны: **Соскін**—групавод 4-й групы і сакратар школьнай комсамольскай ячэйкі, **Хадасевіч**—энтузіяст ператварэння школы ў сапраўды політэхнічную. Гэта ён, пачаўшы справу ледзь не з аднаго малатка, арганізаваў ня дрэнныя політэхнічныя майстэрні і ставіць задачай ў бліжэйшыя тыдні іх механізаваць—маторы і некаторыя станкі ўжо ёсць. Настаўніцы комсамолкі Рохкінд, Ляндрэс, выкладчык беларускай літаратуры Хацкевіч—усе яны энтузіясты школьнай справы.

Кожны з настаўнікаў, пачынаючы навучальны год, абвясціў сябе ўдарнікам з канкрэтнымі абавязацельствамі: добраякасна выканаць праграму, павысіць да пэўнага максімума паспяховасць, арганізаваць дапамогу адстаючым, дабіцца чыстага і пісьменнага сшытка, змагацца за свядомую дысцыпліну вучняў. Свае абавязацельствы настаўніцкі калектыў выконвае па ўдарнаму. Свежаму чалавеку асабліва кідаецца ў вочы свядомая дысцыпліна не толькі ў час урока, але і на перапынках і да пачатка вучэбнага дня.

Мы трапілі ў будынак першага канцэнтра за поўгадзіны да пачатка ўрока. У залі было каля поўсотні дзяцей. Адны, у адсутнасці настаўнікаў дзеці арганізавалі гульні, спевы і танцы. Дзяжурнай настаўніцы не прышлося зрабіць дзецям ніводнай заўвагі,—яны так захапіліся гульнёй і песнямі, што мы разам з імі не заўважылі, як прайшло поўгадзіны, пазваніў званок і дзеці разышліся адразу па сваіх групах.

Праходзячы па калідоры міма 5-й групы, мы разам з загадчыкам школы тав. Стрэльчанка ў палове ўрока пачулі сярод поўнай цішыні звонкі голас аднага з вучняў, які нешта чытаў з вялікім пад'ёмам. Аказваецца, адзін з педагогаў захварэў, замяніць яго не было кім і група пад кіраўніцтвам старшыні класкома рыхтавала заданне па грамадазнаўству к наступнаму ўроку.

Добра арганізаван перапынак. У час апошняга дзеці заняты рухомымі гульнямі, шашкамі, шахматамі, чытаннем газет, радыё, слуханнем зацейнікаў. Мы былі ў школе не адзін дзень, і парушэння дысцыпліны ні на ўроках, ні ў час перапынка так і не было. Сакрэт высокай свядомай дысцыпліны заключаецца ў правільна арганізаваным педагагічным працэсе, у добрай рабоце піонерарганізацыі і ДСК, у барацьбе школьнага насценнага друку за свядомую дысцыпліну.

У школе сапраўды змагаюцца за свядомую дысцыпліну і высокую якасць вучобы. Для гэтага шырока выкарыстоўваюцца ўсе галіны масавай работы. Нядаўна закончыўся ўнутрышкольны конкурс на пісьменны і чысты сшытак. К 15-годдзю ЛКСМБ школа заняла першае месца ў раённым конкурсе на лепшы піонератрад, комсамольскую ячэйку і настаўніка. Крупскай ШКМ ўрачыста быў ўручан пераходны сцяг райкома комсамола і РайАНА, які трапіў у рукі піонерзвяна 7-й групы,—звяна суцэльнай паспяховасці. Ударнікі вучобы—Сухачэўская, Гарадзінскі, Бобрык, Паўлаў і інш.—усе 12 піонераў гэтага звяна паспяваюць па ўсіх дысцыплінах, іх сшыткі—адны з лепшых у школе па пісьменнасці і чыстаце.

Лепшая ўдарніца школы настаўніца Роза Сімонаўна **Соскінд**, малады педагог. 2-3 гады назад яна скончыла Барысаўскі педтэхнікум і мае безумоўныя поспехі ў арганізацыі педагагічнага працэса. У яе групе 46 вучняў і толькі ў 5 стан сшыткаў па чыстаце і пісьменнасці нельга прызнаць здавальняючым. Сшыткі астатніх дзяцей не толькі па роднай мове, але і матэматыцы здзіўляюць сваёй чыстатой, ахайнасцю і пісьменнасцю. У апошніх дыктантах найбольшы лік памылак разам з сінтаксічнымі 5—6, палова класа—дыктоўкі і самастойныя работы піша зусім без памылак. І класныя і хатнія работы дзецьмі пішуцца толькі чарніламі, кожны сшытак абгорнут дзецьмі ў газету, і, што асабліва важна падкрэсліць,—ніводны сшытак не застаецца не правераным, не выпраўленым настаўніцай.

Нават такія „сухія“ урокі, як урокі граматыкі, у Розы Сімонаўны праходзяць жыва і цікавах. Новае граматычнае правіла прыпадносіцца вучням не дагматычна, а на канкрэтным, жывым матэрыяле, пасля чаго настаўніца ўпорна і з поспехам дабіваецца чоткай фармуліроўкі правіла дзецьмі. Новы матэрыял у класе і дома замацоўваецца практыкаваннямі. Дзеці бегла і свядома чытаюць. Прачытанае даволі звязана і параўнаўча лагічна перадаецца дзецьмі.

Тав. Соскінд на сваіх уроках шырока скарыстоўвае розныя прыёмы работы (гутарка, жывое апавяданне, апытанне дзяцей, ілюстрацыйны матэрыял, экскурсіі і г. д.). Асабліва цэнным у рабоце Розы Сімонаўны з'яўляецца рацыянальная арганізацыя педпрацэса і максімальнае скарыстанне вучэбнага часу. Дысцыпліна на яе ўроках вельмі добрая—званок на перапынак ні на хвіліну не адцягвае ўвагі дзяцей ад сканчэння ўрока. Сваім прыкладам тав. Соскінд заражае астатніх педагогаў першага канцэнтра—сшыткі вучняў іншых груп таксама чыстыя і параўнаўча пісьменныя.

Родную мову ў старэйшых групах выкладае настаўнік-ударнік Рыгор Нікітавіч Хацкевіч, таксама скончыўшы педтэхнікум. Любы сшытак па роднай мове вучняў другога канцэнтра можна смела па чыстаце і акуратнасці адпраўляць на выстаўку. Гэта—вынік конкурса і ўпорнай барацьбы настаўніка разам з піонер-

арганізацыяй і комсамольскай ячэйкай за лепшы сшытак. Аб пісьменнасці дзяцей на роднай мове ў другім канцэнтры яскрава гавораць вынікі першага поўгоддзя— на 117 вучняў толькі 7 „нудаў". Пры высокіх патрабаваннях першага поўгоддзя 94 проц. паспяваючых—вынік высокай якасці работы.

Хто лепш вядзе урок—тав. Соскінд або тав. Хацкевіч—цяжка сказаць. Як першая, так і другі вельмі старанна рыхтуюцца да ўрокаў, метадычна правільна і рацыянальна арганізуюць пед-працэс, захоўваюць дыдактычныя правілы ўрока, пачынаючы з паўтарэння мінулага, з праверкі хатніх работ вучняў, у жывой і цікавай форме падаюць новы матэрыял.

Тав. Хацкевіч на кожным уроку пры распрацоўцы новага матэрыяла і паўтарэнні старога, дабіваецца ад вучняў чоткіх і поўных фармуліровак, цвёрдага ведання і разумення прапрацоўваемага матэрыяла. Ён у старшым канцэнтры выкладае беларускую літаратуру, праз якую як вядома, нацдэмы спрабавалі прывіць дзецям антыпролетарскую шавіністычную ідэалогію. У выкладанні беларускай літаратуры ад настаўніка патрабуецца не толькі веданне самога прадмета, уменне з марксісцка-ленінскіх пазіцый ускрыць той ці іншы твор, але і вялікая палітычная завостранасць.

Ці адпавядаюць гэтым умовам урокі беларускай літаратуры тав. Хацкевіча?

—Вось паказ аднаго з урокаў. У 7-й групе разбіраецца з дзецьмі ўрывак з драмы беларускага пролетарскага пісьменніка Р. Кобеца „Гута". Рыгор Нікітавіч пачынае з указання на тое, што гэтая драма ў свой час вызвала цэлую рэволюцыю ў беларускай драматургіі. Да 1929 года ў Беларусі ў тэатрах была засмечанасць п'есамі з нацдэмаўскім зместам, у якіх нацдэмы ў сваіх мэтах фальсіфікавалі гісторыю рэволюцыі на Беларусі. Паводле нацдэмаў (Грамыка,—„Каля тэрасы") выходзіла, што рэволюцыяй кіравала не комуністычная партыя, а інтэлігенты і вынадцы з памешчыцкіх сем'яў.

Выкладчык расказаў вучням, што Кобец, сам рабочы і рабкор большэвіцкага друку, у драме „Гута" паказаў сапраўдную барацьбу рабочых Беларусі за пабудову соцыялізма. Далей тав. Хацкевіч падрабязна збмаляваў і ўскрыў перад вучнямі змест драмы, падкрэсліў, што Кобец з'яўляецца піонерам у беларускай драматургіі, у стварэнні п'ес, якія паказваюць барацьбу пролетарыята за соцыялістычнае будаўніцтва.

Вось чаму нацдэмы ўпарта не хацелі пусціць гэтую драму на сцэну. Тав. Хацкевіч прыводзіць словы нацдэмаў:—„Што за цікавасць беларускаму рабочаму глядзець, як ён сам працуе на заводзе". На ўроку, выкладчыкам была падкрэслена нянавісць нацдэмаў да ўсяго рускага, да інтэрнацыянальных слоў, якія сустракаюцца ў гэтай драме. Вучні даведаліся на ўроку, што нацдэмы шалёна супраціўляліся таму, каб гэтая драма была па-

казана рабочаму гледачу і толькі дзякуючы нашай партыі і советскай грамадскасці п'еса трапіла на сцэну.

Дзеці гэтую п'есу чыталі з вялікім захапленнем, і з няменшай цікавасцю слухалі апавяданне настаўніка. На ўроку літаратуры яны атрымалі моцную эмацыянальна-класавую зарадку, аб якой сведчыць наступнае запытанне рабят: „Як нацдэмы маглі так адкрыта выступаць, мы-ж ведаем, што яны дзейнічаюць „ціхай сапай"?

Настаўнік і тут даў вучням ясны і палітычна правільны аналіз таго, як змянялася тактыка класавага ворага. Ён расказаў дзецям аб тэатральнай дыскусіі ў Менску, калі нацдэмы адкрыта выступалі супроць пастаноўкі на беларускай сцэне такіх пролетарскіх рускіх п'ес, як „Бронепоезд", „Разлом" і інш. Дзеці даведаліся, што з пераменай абстаноўкі мяняецца і тактыка класавага ворага.

Заключная частка ўрока выкладчыкам была скарыстана для літаратурнага і соцыялагічнага разбора самой п'есы. Урок быў палітычна насычан, прашоў жыва і цікава, даў дзецям моцную зарадку і падняў іх класавую пільнасць.

Не менш цікава і палітычна насычана праходзяць урокі беларускай літаратуры і ў іншых групах школы. Тав. Хацкевіч ва ўсіх групах удзяляе вялікую ўвагу не толькі соцыялагічнаму разбору твора, але і яго літаратурнай спецыфіцы. Ён не толькі дае дзецям неабходную суму ведаў па беларускай літаратуры, але выхоўвае любоў і цікавасць да яе. Вось чаму невыпадкова ў школе ёсць літаратурны гурток, які выдае нават свой журнал „Уздым". У гэтым журнале ў літаратурных творах дзяцей адлюстроўваецца жыццё школы, барацьба за вучобу і дысцыпліну, жыццё падшэфнага калгаса і г. д.

Крупская ШКМ апраўдвае сваю назву узорнай. Яна не дрэнна наладзіла работу і свой вопыт пачынае пераносіць на акружаючыя школы. Гэта трэба рабіць больш смелымі і рашучымі крокамі. Сваімі поспехамі школа абавязана не толькі моцнаму маладзёжнаму актыву энтузіастаў-педагогаў, не толькі ўмеламу кіраўніцтву загадчыка школы тав. Стрэльчанка, але і ў значнай меры, сістэматычнаму кіраўніцтву і дапамозе з боку сакратара Крупскага райкома партыі тав. Штэйнгарта.

Школьны калектыў на раённы злёт ударнікаў-настаўнікаў паслаў сваіх лепшых ударнікаў тав. Соскінд, Хацкевіча і Хадасевіча. Вопыт гэтых ударнікаў-энтузіастаў павінен стаць здабыткам шырокіх мас настаўніцтва не толькі Крупскага раёна, але і ўсёй Беларусі.

---

*Цёмкіна і Іванова*

# Тварам да асветніка-ударніка

Настаўніцтва БССР у сваей асноўнай масе адказала на гістарычныя пастановы ЦК ВКП(б) аб школе, новым уздымам творчай ініцыятывы і энергіі.

Ахапляючы на першым сваім этапе асобныя перадавыя калектывы настаўнікаў, соцыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва вылілася ў масавы рух асветнікаў, стала сцягам у барацьбе за новыя адносіны да працы, за політэхнічную школу Маркса-Леніна-Сталіна, за тэмпы і якасць соцыялістычнага будаўніцтва. З перадавікоў настаўнікаў вырасла фігура настаўніка-ударніка—які дае ўзоры новых соцыялістычных адносін да працы.

Шырокія масы асветнікаў прынялі актыўны ўдзел у вытворчым паходзе імя XVII партз'езда і імя т. Гікало. Уключэнне ў паход імя XVII з'езда ВКП(б) і XV з'езда КП(б)Б садзейнічала яшчэ больш шырокаму разгортванню соцспаборніцтва і ўдарніцтва. Настаўнікі ўдарнікі праводзілі падрыхтоўку да партз'ездаў пад лозунгам рашучай барацьбы за ліквідацыю „карэннага недахопа", за далейшы ўздым і ўмацаванне інтэрнацыянальна-класавага выхавання ў школе.

У выніку пахода,—праграмы, навучальныя планы за першае поўгоддзе выкананы поўнасцю, ва многіх школах павысілася паспяховасць, шырока разгарнулася пазашкольная работа, вырасла роль школы і настаўніка на сучасным этапе соцыялістычнага будаўніцтва.

Надзвычайна вырас ударніцкі рух. Калі яшчэ ў 1932-33 навучальным годзе па 10 раёнах (Горацкі, Расонскі, Жыткавіцкі, Чачэрскі, Касцюковіцкі, Ушацкі, Чашніцкі, Петрыкаўскі, Заслаўскі, Гомельскі) з агульнай колькасці 2233 настаўнікаў-ударнікаў налічвалася 377, што складае 16.8 проц., то ўжо за 1-ю палову 1933-34 навучальнага года па гэтых-жа 10 раёнах з лікам 3137 настаўнікаў, ударнікаў налічваецца 956, што складае звыш 30 проц.

У асобных раёнах ахоп настаўніцтва ўдарным рухам значна больш. Напрыклад у Гомелі з агульнай колькасці настаўнікаў горада 478 чал. налічваецца 379 ударнікаў, што складае звыш

77 проц. У Полацкім раёне з 542 настаўнікаў раёна налічваецца 262 ударнікі. Такіх прыкладаў можна было падаць шмат, але і гэтых даволі для таго каб характарызаваць разгортванне ўдарніцкага руху.

За апошні год у школе пашырылася новая форма работы— настаўніцкая брыгада, якая першай сваёй задачай ставіць дапамогу маладому настаўніку. Вопытны педагог узначальвае брыгаду маладняка, штодзённа дапамагаючы яму ў рабоце. Перадавы вопытны настаўнік лічыць гэта сваім канкрэтным укладам у справу барацьбы за ажыццяўленне рашэнняў ЦК ВКП(б) аб школе. Сярод гэтай групы людзей вырасла новая калона перадавікоў—настаўнікаў-ударнікаў.

Вось адна з лепшых настаўнікаў-ударнікау—брыгадзір настаўніцкай брыгады школы імя Комінтэрна гор. Гомеля—т. **Пруднікава М. М.**

Тав. Пруднікава дачка рабочага. Працуе на педагагічнай рабоце 22 гады.

Зараз з'яўляецца групаводам у 2-й групе. Яна вывучыла хатнія ўмовы вучняў; шляхам індывідуальнага падыхода да дзяцей, дабілася па першай групе 100 проц. паспяховасці, па другой групе 98,5 проц. Тав. Пруднікава яшчэ з'яўляецца брыгадзірам настаўніцкай брыгады 1 груп школы імя Комінтэрна. Добра наладзіла працу ў брыгадзе, падвышае сваю кваліфікацыю, актыўна ўдзельнічае і дапамагае групе акцябрат. Абавязкі ўзятыя к XVII партз'езду выканала поўнасцю.

**Мароз С. П.** (школа імя Калініна г. Гомель) за час сваей работы выявіла сябе здольнай настаўніцай, якая аўладала майстэрствам педпрацэса.

Група 2-ая „а", у якой яна працуе, была ў пачатку года вельмі цяжкай, але дзякуючы ўпартай і ўмелай працы групавода, група ўжо вышла на першае месца ў школе і зараз трымае пераходны сцяг. Тав. Мароз прымае актыўны ўдзел у грамадскай рабоце школы, выконваючы вельмі добрасумленна даручаную ёй працу па кіраўніцтву вучнёўскай агульна-школьнай газетай, стварыла дзеткораўскі актыў і дабілася таго, што газета стала сапраўдным арганізатарам дзяцей на барацьбу за якасць вучобы, добра арганізавала бацькоўскі актыў, уцягнула яго ў штодзённую працу школы. Увесь час т. Мароз працуе над сабой у справе падвышэння свайго палітычнага і агульна-адукацыйнага ўзроўня.

Настаўніца Ганчарэнка Л. І.—выкладчыца прыродазнаўства. Дачка рабочага, вытворчы стаж 19 год.

Тав. Ганчарэнка выкладанне сваей дысцыпліны паставіла на належную вышыню. Яна змагла зацікавіць вучняў прадметам, дзякуючы чоткасці і нагляднасці выкладання. Яна шмат дапамагае адстаючым вучням, у выніку чаго ў канцы першага поўгоддзя проц. паспяховасці павысіўся да 95,4 проц. Тав. Ганчарэнка нясе ў школе вялікую грамадскую нагрузку, з'яўляецца групар-

ганізатарам 5-х груп, дзе добра паставіла работу, сістэматычна дапамагае піонерарганізацыі.

Тав. Ганчарэнка прымацавана да ячэйкі СВБ. Дзякуючы зацікаўленасці гэтай работай і добрасумленным адносінам настаўніцы, гэтая ячэйка з'яўляецца прыкладнай у школе.

Тав. Ганчарэнка дапамагае настаўнікам 1-га канцэнтра ў іх рабоце па прыродазнаўству і з'яўляецца брыгадзірам настаўніцкай брыгады.

Вось прыклад маладой Віцебскай настаўніцы—групавода 2-й групы т. Свентахоўскай (дачка рабочага, на педрабоце з 1929 года). „З'яўляючыся,—гаворыць яна,—маладой настаўніцай, я звяртаюся за парадамі да больш вопытных настаўнікаў, якія чула адносяцца да маіх запытанняў і дапамагаюць мне. Акуратна вяду падрыхтоўку да лекцый, маю рабоча-тэматычныя планы, даволі падрабязна распрацаваныя, з пытаннямі на кожны ўрок. На падрыхтоўку да ўрокаў кожны дзень аддаю 3 гадзіны. К канцу 2-га квартала, дзякуючы сістэматычнай рабоце з адстаючымі вучнямі, а таксама вывучэнню хатніх умоў слабейшых вучняў, проц. пасняховасці павялічыўся на 9 проц.

Я атрымала даволі цяжкую і слаба падрыхтаваную групу ў мінулым годзе, дзе вельмі часта мяняліся настаўнікі (за навучальны год 5 настаўнікаў), але-ж упартай работай я дабілася пералома".

У соцыялістычных дагаварах і абавязацельствах настаўнікаў мы маем зараз рашучы паварот к школе, к задачам ажыццяўлення пастаноў ЦК ВКП(б) аб школе. Вось прыклад абавязацельстваў Віцебскіх настаўнікаў:

1) Давесці паспяховасць па групе не менш 95 проц., дабіваючыся высокай якасці работы шляхам нагляднасці *) у выкладанні, арганізацыі гурткоў дапамогі і індывідуальнага прымацавання слабейшых вучняў да больш моцных, уцягнуць у працу групавога совета ўсіх вучняў.

2. Наладзіць работу методкамісіі 1-га канцэнтра і праводзіць яе планава. Выконваць абавязкі грамадскага інструктара-метадыста.

3. Арганізаваць сталую дапамогу адстаючым вучням (2 разы ў 6-ці дзёнку).

4. Сістэматычна і своечасова выпраўляць вучнёўскія сшыткі.

5. Змагацца за чыстае граматнае пісьмо, шляхам дачы хатніх работ: па кожнай дысцыпліне звярнуць увагу вучняў на чыстае прыгожае пісьмо.

Настаўнікі Шклоўскага раёна абавязуюцца:

1. Дабіцца к канцу навучальнага года перавода вучняў у 4-ю групу на 95 проц.

*) Ад рэдакцыі: Неабходна падкрэсліць, што высокая якасць работы ў школе залежыць ад умення скарыстаць рознастайныя метады, у ліку якіх нагляднасць мае вялікае значэнне, але нельга барацьбу за якасць ажыццяўляць толькі шляхам нагляднасці.

2. Пастаянна падрыхтоўвацца да лекцый.
3. Арганізаваць гурткі для дапамогі адстаючым вучням.
4. Не пакідаць ніводнай вучнёўскай працы без праверкі.
5. Дапамагаць маладым таварышам у рабоце і складанні планаў, шляхам абмена вопытам.

Прыведзеныя абавязацельствы характарызуюць узмацненне ўвагі ўдарнікаў да школы, да палепшання якасці яе работы. Ударніцкі рух патрабуе з боку профарганізацыі арганізацыйнага замацавання яго, кіраўніцтва ім. У радзе выпадкаў профарганізацыі нездавальняюча вырашаюць гэту задачу, у выніку чаго ёсць яшчэ вялікія недахопы ў рабоце настаўніцтва і школы.

Мы маем у радзе месц агульнасць, неканкрэтнасць дагавароў і ўзятых абавязкаў. Слаба пастаўлена сістэматычная праверка выканання перанясення лепшага вопыта і паказ узораў работы лепшых ударнікаў-настаўнікаў. У выніку няўважлівых адносін профарганізацый к соцспаборніцтву і ўдарніцтву месцамі шырока расквітае ілжэўдарніцтва, з якім неабходна павесці самую рашучую барацьбу.

Мы павінны выходзіць з таго, што „ударнікам можа лічыцца толькі той хто выконвае і перавыконвае норму, змагаецца па большэвіцку за выкананне плана прадукцыйнасці працы, за поўнае асваенне тэхнікі даручанай справы, ліквідуе брак, павышае якасць прадукцыі, з'яўляецца прыкладам лепшай работы для другіх рабочых" (з рашэнняў 3-га Пленума ВЦСПС).

Характэрнымі рысамі асветніка ўдарніка павінны быць: актыўная барацьба за генеральную лінію партыі, большэвіцкая барацьба за ліквідацыю „карэннага недахопа", поўнае асваенне тэхнікі педпрацэса, ажыццяўленне прынцыпаў пролетарскага інтэрнацыяналізма, умацаванне свядомай дысцыпліны вучняў, ідэйна-палітычны рост настаўніка.

У барацьбе за ажыццяўленне пастаноў ЦК ВКП(б) аб школе выявіліся дзесяткі і сотні настаўнікаў, паказаўшых сапраўдныя ўзоры ўдарнай работы, людзі, якія штодзённай упартай работай будуюць політэхнічную школу Маркса-Леніна-Сталіна.

Трэба папулярызаваць як сярод самаго настаўніцтва, так і сярод усей совецкай грамадскасці, настаўнікаў-перадавікоў, ударнікаў, паказаць метады і вынікі іх работы.

---

І. Марголін (Арнольдзі).

# Аб метадычным кіраўніцтве школай

*(Заметкі)*

## Аб арганізацыі метадычнай работы.

Выканаць пастанову ЦК аб школе—гэта значыць у першую чаргу карэнным чынам палепшыць метады школьнай работы. Гэта значыць—даваць высокаякасныя ўрокі, не рабіць нічога такога, што на мове вытворчасці называецца ганебным імем—„брак", а на мове школы носіць усякія ліберальныя назвы, чаго яшчэ ніяк не навучыліся назваць сваім сапраўдным імем.

Пра палепшанне метадаў выкладання гавораць ясна і дакладна пастановы ЦК, шматлікія інструкцыі і ўказанні Наркамасветы. Вядомая адозва тав. Бубнова да пачатку вучэбнага года да ўсіх настаўнікаў і культурных работнікаў завастрае асаблівае пытанне аб метадах выкладання, аб неабходнасці аўладаць тэхнікай педпрацэса, без чаго немагчыма поўная і канчатковая ліквідацыя „карэннага недахопа" школы.

Важнейшай умовай падняцця тэхнікі выкладання з'яўляецца сістэматычнае метадычнае кіраўніцтва з боку РайАНА і раённых інструктароў. Са ўсёй рашучасцю мы павінны падкрэсліць, што сапраўднай барацьбы за якасць вучобы з боку значнай часткі РайАНА яшчэ няма, што РайАНА гэта пытанне яшчэ па сур'ёзнаму перад сабой не паставілі.

Як, звычайна РайАНА, нават такіх буйных цэнтраў, як Гомель, ажыццяўляе метадычнае кіраўніцтва школай?

Вось у кароткіх рысах арганізацыйныя формы яго работы. Метадком пры РайАНА з прэзідыумам на чале. За метадкомам—гарадскія аб'яднанні настаўнікаў па групах у першым канцэнтры, і па дысцыплінах у другім. У самой школе ізноў групавыя аб'яднанні, цыклавыя, а ў вялікіх школах—прадметныя камісіі.

Чым усе гэтыя органы займаюцца? Яны перш за ўсё плануюць сваю работу ў розных варыяцыях, разглядаюць і знаёмяцца з праграмамі. Радзей заслухоўваюць які-небудзь даклад, паведамленне, а яшчэ радзей гэты даклад з'ўляецца сапраўды

каштоўным, канкрэтным, дапамагаючым настаўніцтву ў яго штодзённай рабоце.

Як правіла, настаўніцтва работай метадычных аб'яднанняў незадаволена, бо яно не задаваляе іх, мала дае... На гэтых метадычных сходах настаўніку даводзіцца варыцца ва ўласным саку і нічога новага і цікавага ён на іх не атрымлівае.

Ці патрэбны яны? Патрэбны. Супроць гэтага, безумоўна, ніхто і не думае пярэчыць. Пляніраваць работу, параіцца, абмяняцца вопытам, удасканаліць метады работы неабходна. Без гэтага школьная справа будзе слаба пасоўвацца наперад.

Але ці дастаткова гэта? Ці забяспечваюць гэтыя формы і метады метадычнае кіраўніцтва вучобай у школе? Паглядзіце ў любую нашу школу, прыгледзьцеся да якасці звычайнай школьнай работы і вы ў большасці выпадкаў павінны будзеце прызнаць, што не забяспечваюць, што ў гэтым метадычным кіраўніцтве чагосці нехапае.

## Якасць выкладання

Для праверкі гэтага іду...

Куды ісці? Ці не лепш зайсці ў нашу ўзорную школу? Мяркуючы па нядаўна зробленаму рапарту, школа гэта мае што паказаць.

З'яўляюся перад урокамі. У карыдорах чыстата і ахайнасць. На сценах бадзёрыя лозунгі, вынікі соцспаборніцтва, настаўнікі і дзеці збіраюцца ў час. На сваім пасту і загадчык школы, які, трэба праўду сказаць, жыве выключна інтарэсамі школы і надзвычайна адданы сваёй справе.

Першы званок. Куды і ў якую групу ісці? Запрашае настаўніца першай групы. Ідзем. Дзяцей больш за 40. Ідзе ўрок чытання. Тэма: параўнанне жыцця хатніх і дзікіх жывёл.

Але раней праверка дзяцей, а потым збор грошай на пазыку, гэта значыць робіцца тое, што ўсімі палажэннямі і інструкцыямі рабіць на ўроку забаронена.

Потым пачынаецца сам урок. Спачатку настаўніца задае пытанні, каму жывецца лепш: хатнім ці дзікім жывёлам, затым дзеці чытаюць, пераказваюць, услед адно за другім расказваюць верш.

Аналізую і раблю наступныя вывады:

1. Пытанні настаўніцы непрадуманы, не б'юць у адзін пункт, не высвятляюць галоўнай думкі.
2. Чытанне дзяцей механічнае, чытанне на распеў, без малейшага лагічнага аналіза прачытанага.
3. Пераказаць прачытанае ўдалося толькі адзінкам.
4. Вывад: метадычна ўрок быў пабудаваны дрэнна, дзеці не зацікавіліся і мала атрымалі.

Сяджу і думаю. Добра, настаўніца, як відаць, нявопытная, робіць памылкі па няведанню. Але хто навучыць яе працаваць

лепш, хто паправіць ёй гэтыя памылкі, хто ёй пакажа лепшыя метады работы?

На наступны ўрок іду да настаўніцы ўжо вопытнай, якая вядзе чацьвертую групу і з'яўляецца, калі не памыляюся, кіраўніцай метадычнага аб'яднання чацвертых груп па гораду.

Урок геаграфіі. Вывучаюцца шляхі зносін тайгі. Рэкі пройдзены ўжо на папярэднім уроку. Цяпер чарга за чыгункамі. Матэрыял, які патрабуе сугубую навочнасць, яснасць і дакладнасць яго прыпаднясення. Але на дошцы вісіць старая карта Азіяцкай СССР, а атласы, якія маюцца ў распараджэнні дзяцей і то не ва ўсіх, рознага фармата, розных выданняў. Карта да дошкі не прымацавана, без вяровачкі, часта падае на падлогу і дзесяткі дзіцячых рук дапамагаюць настаўніцы, каб уздзець карту на сваё месца. Пры такой пастаноўцы, даць больш ці менш здавальняючы ўрок, рэч даволі не лёгкая, бадай непасільная. Урок прашоў вельмі неарганізавана, дзеці шумелі, настаўніца хвалявалася, а карта не трымалася.

А вось другі ўрок, які носіць такую гучную назву,—„Інтэрнацыянальны кангрэс" у той-жа чацвертай групе. Яго сутнасць: паўпрэды,—загадзя абраныя для гэтай мэты дзеці, рыхтуючыся па газетах, расказваюць апошнія навіны з той краіны, якую яны прадстаўляюць. Форма не дрэнная і пры пэўнай падрыхтоўцы можа даць добрыя вынікі. Але бяда ў тым, што ўсё прайшло вельмі не па-дзіцячаму. Паўпрэды гаварылі занадта сур'ёзна, кідаліся лічбамі аб капіталістычным крызісе і—ніякіх яркіх малюнкаў, ніякіх яркіх перажыванняў. У выніку ўся астатняя дзіцячая маса зусім маўчала, была, як ніколі, пасіўнай.

Перад „кангрэсам" былі дзецям разданы розныя газеты. Настаўніца прабавала высветліць з дзецьмі ролю прэсы, газет. Так-сяк ёй гэта ўдалося. Але нашто патрэбна было раздаваць для гэтай мэты „Праўду", „Звязду", „ЗКП" і „Труд"? І ніякай па сутнасці сувязі паміж гэтай гутаркай аб значэнні газет і кангрэса не было. Было відаць, што настаўніца як след сваю работу не прадумала, не сплаціравала. Ва ўсякім разе вышла няўдала. Няўдачы ў нашай педагагічнай справе бываюць. Але-ж асноўная бяда ў тым, што гэтай настаўніцы ніхто на яе памылкі не ўкажа, бо вопытнага вока і кіраўніцтва няма, і настаўніца ўзорнай школы таксама гэтага пазбаўлена, як і настаўнікі іншых школ.

На перапынках загадчык расказвае мне аб дасягненнях школы, больш за ўсё—аб матэрыяльных дасягненнях. І школа ў гэтай галіне на справе мае чым пахваліцца. Для работы школы створана даволі моцная матэрыяльная база. Стаю і думаю. А ў гэтай школе няма адпаведнасці паміж матэрыяльнымі ўмовамі і педагагічнай работай. Бо як заходзіш у яе, уражанне куды лепшае, чым пасля адыходу. Унутраны змест школьнай работы, якасць урока,—вось што з'яўляецца галоўным, і вось гэта галоўнае

нічым бадай не адрозніваецца тут ад усякай іншай звычайнай школы.

Усім ходам нашых гіганцкіх тэмпаў у галіне соцыялістычнага будаўніцтва як на гаспадарчым, так і культурным фронце ва ўсёй шырыні і глыбіні пастаўлена праблема якасці работы. Але пакуль у нас не будзе добра наладжаны інструктаж, пакуль настаўнік не атрымае сістэматычнай дапамогі на ўроку, пакуль у нас не будзе весціся пастаянная штодзённая барацьба з бракам, як гэта робіцца на фабрыцы, на заводзе, да тых часоў якасць работы ў нас будзе кульгаць.

Мне ўспамінаюцца розныя ўрокі як у першым, так і ў другім канцэнтры нашай гарадской школы. На жаль, прыходзіцца канстатаваць, што не заўсёды даводзіцца бачыць урок, які добра прадуман, спланіраван і праводзіцца метадычна-вытрымана, з тактам і ўменнем, дзе адчувалася-б сапраўднае тэхнічнае майстэрства. Руціна і шаблон, нуда, адсталая тэхніка і беспомачнасць настаўніка нажаль яшчэ назіраюцца ў радзе выпадкаў.

Бярэм некалькі няўдалых, дрэнных урокаў.

I. Паясняльнае чытанне ў другой групе. Дзеці за дзень да гэтага хадзілі на экскурсію на фабрыку. Чытаецца па старай комплекснай прывычцы апавяданне аб фабрыцы. Мова артыкула цяжкая, незразумелая дзецям. Няма мастацкасці, вобразнасці. Нават цяжкія словы не паясняюцца, не выпісваюцца на дошку. Чытанне праводзіцца механічна і прадаўжаецца да званка.

На ўроку дзеці сядзелі ціха, нават не шумелі. І я задаваў сабе пытанне: што гэта—такая добрая, прыкладная дысцыпліна, альбо прытупленне ўсякага рэагавання ў дзяцей, прымірэння ад нуды, ад поўнага безразлічча?

Хутчэй другое.

II. Урок нямецкай мовы ў шостай групе.

— Чым сёння будзем займацца?

І калі выкладчык ставіць такое пытанне перад класам, вы загадзя можаце быць упэўнены, што ён не толькі не падрыхтаван да гэтага ўрока, але наогул не ведае, як яму падыйсці да справы, бо гэтым сваім пытаннем ён з галавою выдае сябе перад вучнямі і адразу-ж пры ўваходзе ў клас перадае свае кіраўніцтва і ўсю ініцыятыву дзецям.

Так і было. Вучні адзін за другім пачалі даваць прапановы, чым займацца. Узняўся шум, крык. Прайшло шмат часу, пакуль заспакоіліся. А займаліся на ўроку ўсім патрошку, пераскакваючы з аднэй тэмы на другую, уносячы сумбур, неарганізаванасць. І дзеці за гадзіну работы нічога не атрымалі.

III. Урок пісання ў першай групе. Як малыя дзеці цікавяцца пісаннем і колькі прыёмаў можна ўжыць, каб зрабіць гэту работу жывой, цікавай! Можна звязаць гэта з чытаннем з кнігі, з чытаннем з дошкі, са складаннем уласных сказаў, з зарысоўкай і шмат чым іншым. Але настаўнік аб усім

гэтым не падумаў. Ён вырашыў гэта пытанне прасцей. Напісаўшы на дошцы адзін сказ, прычым зусім не характэрны, не вобразны, ён загадаў дзецям перапісаць яго, што яны і рабілі самым механічным шляхам на працягу цэлай гадзіны.

IV. Урок грамадазнаўства ў другім канцэнтры. Тэма—„Першы Інтэрнацыянал". Настаўнік малады, гарачы, забягае ў групу, не звяртаючыся да дзяцей, не арганізоўваючы класа, хутка вымае свой блакнот і пачынае, спяшаючыся, чытаць лекцыю. Пры гэтым ён увесь час ходзіць па пакоі, на вучняў не глядзіць, нікога не пытае. Званок, блакнот закрыт, і настаўнік па той бок класа.

V. А вось урок па хіміі на падрыхтоўчых курсах у ВНУ. Настаўніца сама толькі што скончыла педінстытут. І ў яе ёсьць вялікае жаданне перадаць свае веды адразу, не чакаючы ні хвіліны. Яна падае матэрыял хутка, кудысці спяшае, кідае ў прастору розныя лічбы, процанты і ўсё гэта адразу, не спыняючыся, не даючы слухачам апомніцца, нічога не запісваючы на дошцы.

Мы маглі-б падобных прыкладаў прывесці больш. Не жадаем гаварыць аб кур'ёзах, якія, на вялікі жаль, таксама яшчэ маюць месца ў нашай школе. Мы дэманстрыруем рад урокаў звычайных. І вымушаны канстатаваць—з такімі ўрокамі РайАНА і загадчыкі школ вядуць недастатковую барацьбу.

## Барацьба з бракам на швейнай фабрыцы

Побач з узорнай школай знаходзіцца швейная фабрыка. Цікава прыгледзіцца, як вядзецца барацьба з бракам тут, на нашым соцыялістычным прадпрыемстве.

Аб'ектам для назірання і вывучэння з'яўляецца самы вялікі цэх фабрыкі—суконна-пінжачны. Працуюць у цэху да двухсот чалавек і выпускаемая прадукцыя 400 адзінак у дзень.

— Як вы канкрэтна змагаецеся за якасць прадукцыі, якія меры вы прымаеце, каб знішчыць брак?

Загадчык цэха, які за сваю выдатную работу на фабрыцы атрымаў па сканчэнні першай пяцігодкі ордэн Леніна, адразу-ж ажыўляецца. Як мы вядзем барацьбу з бракам, з бракаробамі? Мы ўцягнулі ў гэтую работу ўсю грамадскасць фабрыкі, увесь рабочы актыў. Глядзіце, пераконвайцеся.

Абходжу вялікі, ярка-асветлены цэх.

У сувязі з уключэннем цэха ў вытворчы паход імя 17-га з'езда партыі, ён выглядае асабліва па-святочнаму. Каля кожнага рабочага—чырвоны сцяжок, да якога прымацаван соцдагавор рабочага. Паміж сцяжкамі каля кожнага дзесятага рабочага асобныя надпісы: „Бар'ер ад брака". Я даведваюся—тут сядзяць грамадскія кантралёры, якія вядуць барацьбу з бракам.

Але гэтага мала. У цэху маюцца і вузлавыя станцыі. Тут, на гэтых вузлавых станцыях стаяць спецыялісты-кантралёры, якія

прыглядаюцца да кожнага асобнага працэса, да кожнага шва. У выпадку выяўлення недахопа, пінжак затрымліваецца і выпраўляецца тут-жа за кошт бракароба, бо загадчыку цэха добра вядома, хто і за якім працэсам сядзіць.

Пасля ўцюжкі, перш чым трапіць на склад,—зноў праверка пінжака галоўным кантралёрам. Кожны недахоп улічваецца, папраўляецца.

Прадукцыя фабрыкі перадаецца Белшвейзбыту і апошні ў сваю чаргу не прымае ніводнага пінжака без агляду і кантроля.

Шматтыражка таксама вядзе ўпарта барацьбу за якасць. Рэдактар шматтыражкі вымае з кішэні апошні нумар газеты і паказвае шмат артыкулаў, у якіх аўтары-рабочыя бічуюць бракаробаў, дзе людзі названы поўнымі імёнамі, дзе ўказваецца, якія працэсы былі папсаваны і г. д.

**Ну, а ў нашай школьнай практыцы? Пачытайце любую нашу насценную газету. Хіба вы часта ўбачыце там разбор якога-небудзь урока з указаннем на недахопы і вартасць яго? Крытыка і самакрытыка ў нас яшчэ па большэвіцку не разгорнута ў значнай часткі школ.**

**Зразумела, што нельга механічна пераносіць метады барацьбы з бракаробам ад прадпрыемства ў школу, але-ж таксама ўпарта, сістэматычна, настойліва і арганізавана весці барацьбу з бракам, нам неабходна.**

## Аб прыватных методыках і інструктары-метадысце

Пры комплекснай сістэме настаўніцтва пачало зусім ігнараваць прыватныя методыкі, ні разу за ўсе гады сур'ёзна не задумалася над пытаннем, як выкладаць, бо ўвесь час было занята іншай справай: што выкладаць, чым, якім матэрыялам запоўніць розныя тэмы і падтэмы, розныя графы і калонкі.

Прыватныя методыкі не мелі свайго месца ў нашых педагагічных ВНУ і педтэхнікумах. „Асноўнае—гэта разумець комплексную сістэму, унутраную лагічную сувязь паміж калонкамі, а ўсё астатняе само-сабой прыкладзецца". Вывучэнне прыватных методык было ў загоне.

У выніку мы вельмі часта сустракаемся з поўным няведаннем самых элементарных метадаў выкладання, не ўмеем правесці як след урок чытання, пісання і лічэння, не ўмеем падаць літаратурны матэрыял у старэйшым канцэнтры і г. д.

Увага прыватным методыкам!

І ў гэтай галіне, як і ўсюды, мы павінны па-ленінску вырашаць пытанні спадчыны. Аб гэтым ужо выказваўся т. Бубноў. Мы, безумоўна, нямала карыснага можам узяць са старых дапаможнікаў у галіне методыкі, пры крытычным да іх падыходзе. Але гэтага мала. Нам неабходна **стварыць сваю совецкую методыку і дыдактыку** для нашай політэхнічнай школы.

Для карэннага палепшання нашай школьнай работы, для сапраўднай барацьбы з бракам, у нашай справе неабходны людзі, **неабходзен добра наладжаны метадычны інструктаж, патрэбен высока-кваліфікаваны педагог**, які-б на практычнай рабоце вучыў маладых, нявопытных, якія маюць патрэбу ў кіраўніцтве. Патрэбна ўшчыльную падыйсці да метадычных пытанняў РайАНА.

Дзе-ж узяць людзей? Праблема надзвычайна сур'ёзная. Але мы запытаем іншае. А ці добра РайАНА скарыстоўваюць сваіх людзей, ці ствараюць яны ўмовы для іх работы? Вось яркія і красамоўныя факты.

Увосень нам давялося выехаць у адзін раён БССР для ўдзелу ў настаўніцкай канферэнцыі. Сустракаем у РайАНА новага, свежага чалавека. Хто такі? Аказваецца, выпускнік Віцебскага педінстытута, па спецыяльнасці фізік-матэматык, які прыслан у РайАНА Наркамасветы ў якасці інструктара-метадыста. Але гэты чалавек яшчэ, не прыступішы да справы, думае ўцячы, лічачы, што Наркамасветы яго пакрыўдзіў. Чаму? Ды таму, што чыноўнікі РайАНА мала думаюць, мала клапоцяцца аб сваім метадысце, таму што чалавек на працягу чатырох-пяці дзён не мае дзе пераначаваць і спіць у канцылярыі на стале, таму, што яго прынялі, як незапрошанага госця. Каму-ж пасля гэтага ахвота ехаць у такі раён у якасці метадыста і ці мае права РайАНА пасля гэтага скардзіцца, што ў іх няма людзей, няма з кім працаваць.

А вось і іншы факт, не менш яркі і характэрны.

За месяц пасля пачатку заняткаў увосень гэтага года ў Гомельскі педінстытут з'яўляецца адна асоба, жадаючая паступіць на біялагічнае аддзяленне.

— Чаму так позна, дзе вы былі да гэтага часу?

— Жадаю перавесціся з Магілеўскага педінстытута.

— А згода ёсць?

— Але я інстытут ужо заставіла, работаю зараз у Ветцы ў РайАНА.

— Ну, а РайАНА вас адпусціць?

— Безумоўна адпусціць, я выконваю там не адказную работу... я інструктар-метадыст.

Мы не ведаем, ці адпусціў бы Веткаўскі РайАНА свайго метадыста або не. Справа не ў тым. Але той факт, што інструктар-метадыст РайАНА глядзіць на сваю работу, як не на адказную, якую можна кожны дзень пакінуць, з'яўляецца вельмі паказальным.

Інструктар-метадыст—асноўнае звяно ў апараце РайАНА. Ён павінен, безумоўна, адпавядаць свайму палажэнню, павінен заслужыць сабе аўтарытэт сярод настаўніцтва, але РайАНА з свайго боку павінна стварыць пэўныя ўмовы для работы метадыста.

Такім толькі парадкам мы вырашым праблему забеспячэння метадычнага інструктажа школы.

## Настаўнік патрабуе канкрэтнай дапамогі і кіраўніцтва

Работа метадычных аб'яднанняў, настаўнікаў у сваёй большасці не задавальняе. Настаўнік выходзіць адтуль з тым, з чым прышоў. Ён не знаходзіць адказу на тыя пытанні, якія яго асабліва цікавяць, хвалююць. На метадычных аб'яднаннях настаўніцтва ў большасці выпадкаў прадастаўлена самому сабе, варыцца, што называецца, ва ўласным саку. А ў кожнага настаўніка пытанняў вельмі шмат. Возьмем хоць-бы першую групу. Як лепш паставіць навучанне грамаце, як змагацца з дрэнным дзіцячым почаркам? Як расказваць і як чытаць дзецям? А на старэйшай ступені: як навучыць рабят быць пісьменнымі, як лепш выправіць дзіцячыя сшыткі? А роля і значэнне стабільнага падручніка ў нашай політэхнічнай школе; формы і метады пазашкольнай работы; роля настаўніка ў ДСК у піонерработе і г. д. і ім падобнае. Гучна і настойліва стукаюцца гэтыя пытанні ў дзверы школы, даходзяць да кожнага настаўніка ў паасобку і рэдка яму даводзіцца чуць на пастаўленае ім пытанне ясны і дакладны адказ, такі адказ, які можна было-б ужыць на практыцы.

Да мяче прыходзіць прадстаўнік першых груп.

— Зрабіце нам даклад аб метадах навучання грамаце.—Добра! Але я хачу пагаварыць з вамі аб ролі нагляднасці і аб тым, як ужо на першых часах дабіцца лагічнага і свядомага чытання.

На аб'яднанні трыццаць чалавек. Усе з сшыткамі і алоўкамі ў руках. Значыць, збіраюцца слухаць уважліва. Стараюся быць як магчыма канкрэтным, больш зразумелым, гавару і ўяўляю сабе групу дзяцей, якім патрэбна падаць жывы матэрыял. Але слухачоў мая гутарка ўсё-ж такі не задавальняе. У чым справа? З дэбатаў і паасобных рэплік мне становіцца зразумела. Не тое трэба, што я раблю. Трэба **паказаць**, а не расказаць. Гэта куды лепш, цікавей, чым адна размова.

Але добра калі можаш у той ці іншай меры задаволіць настаўніка. А бывае, што на законныя патрабаванні настаўніка аб дапамозе, адказваюць адмовай альбо зусім ім не цікавяцца усклаўшы на яго абавязкі, яўна для яго непасільныя.

Вось характэрны выпадак. У яўрэйскай школе імя Лекерта ў Гомелі настаўнік чацвертай групы карыстаецца правапісам контррэволюцыянера Лёсіка. Заднім чыслом адміністрацыя школы ўздымае шум, застрахоўвае сябе гучнай рэзалюцыяй. Але як гэта магло здарыцца? Аказваецца менш за ўсё вінават тут настаўнік. Ён скончыў яўпедтэхнікум у Смаленску, настаўнічаў у Крыму, служыў у Чырвонай арміі і пасля службы прыехаў у Гомель. Яму адразу даручаюць весці чацвертую групу, выкладаць беларускую мову, а ён гэтай мовы і сам не ведае. Пра Лёсіка ніколі не чуў і быў надзвычайна рад, што яму трапіўся яго „славуты“ правапіс.

Дык вось да чаго даводзіць пакіданне настаўніка без усякай дапамогі, калі адміністрацыя школы займаецца чым хочаце, але не канкрэтным, аперацыйным метадычным кіраўніцтзам.

Мы за мінулыя гады ў школах Гомеля мелі выпадкі, калі ў выкладанні літаратуры, грамадазнаўства і інш. былі прыпаднесены яўна нацдэмаўскія ўстаноўкі. Але інспектара РайАНА гэтыя факты рэгіструе заднім чыслом, а дзейснага, своечасовага кантроля не ажыццяўляе.

Метадычная дапамога настаўніцтву з'яўляецца, такім парадкам, надзвычайна сур'ёзнай палітычнай задачай. Адсюль Наркамасветы у цэнтры і РайАНА на мясцох неабходна гэту праблему вырашыць як мага хутчэй і грунтоўней. А гэта можна і патрэбна зрабіць перш за ўсё шляхам рашучай перабудовы работы РайАНА ў адпаведнасці з дырэктывамі партыі.

*Гейфман*

# За ўдзел настаўніцтва ў рабоце піонерарганізацыі

У сваёй гістарычнай пастанове аб рабоце піонерарганізацыі ЦК ВКП(б) адзначыў, „мільёны дзяцей пад кіраўніцтвам партыі і комсамола далучыліся праз піонеррух да новага грамадскага жыцця, пашырылі свой грамадска-палітычны кругавід і сталі ў рады актыўных і свядомых будаўнікоў соцыялізма". Гэтых поспехаў у галіне комуністычнага выхавання падрастаючага пакалення мы дасягнулі дзякуючы цвёрдаму кіраўніцтву і штодзённым клопатам нашай партыі, увазе і дапамозе пролетарскай дзяржавы і ўсёй совецкай грамадскасці.

Але побач з дасягненнямі на фронце комуністычнага выхавання дзяцей, ёсць і буйнейшыя недахопы, на якія ЦК партыі ўказвае з усёй астратой.—„Слабым месцам піонерскай работы з'яўляецца тое, што дагэтуль грамадская актыўнасць дзяцей не накіравана ў дастатковай ступені на важнейшую задачу дзеткомруху, у даны момант, якая заключаецца ў барацьбе за якасць вучобы ў школе, за ўладанне „асновамі навук", за ўмацаванне свядомай дысцыпліны сярод дзяцей у асаблівасці ў школе, без чаго нямысліма паспяховая падрыхтоўка падрастаючага пакалення будаўнікоў комуністычнага грамадства".

Гэтыя ўказанні ЦК ВКП(б) далі разгорнутую праграму дзейнасці для піонерарганізацыі, комсамола і ўсёй совецкай грамадскасці, на аснове рэалізацыі якой піонерарганізацыя дабілася ў гэтым напрамку рада поспехаў. Вынікі першага вучэбнага поўгоддзя гавораць, што ў масах дзяцей і перш за ўсё ў масах піонераў, створан пералом у адносінах да вучобы, за ўладанне „асновамі навук", за ўмацаванне свядомай дысцыпліны. Гэты паварот забяспечыў значны рост агульна-адукацыйнага і грамадска-палітычнага ўзроўня дзяцей і ў першую чаргу піонераў, шляхам правядзення акадэмбаёў, разгортвання соцспаборніцтва, дапамогі адстаючым і інш.

Але, на вялікі жаль, не ўсюды яшчэ вядзецца барацьба вакол гэтай цэнтральнай задачы. Асабліва адстае вясковая школа, дзе ёсць яшчэ не малы процант адставання.

Не трэба забывацца, што піонерарганізацыя патрабуе „максімальнага развіцця ініцыятывы і самадзейнасці саміх дзяцей, пад вопытным і чулым кіраўніцтвам важатага, на задавальненне іх здаровых грамадска-палітычных і культурных запросаў“,— гэтыя ўмовы павышаюць патрабаванні да комсамола і настаўніцтва, ад якіх па сутнасці залежыць якасць вучобы.

Цэнтральны Камітэт Ленінскага комсамола вынес пастанову аб правядзенні Ўсесаюзнага конкурса на лепшую ячэйку комсамола па кіраўніцтву піонератрадам і на лепшага важатага. Конкурс праводзіцца з 15 лістапада 1933 г. па 15 мая 1934 г. Асноўная мэта конкурса,—палепшыць кіраўніцтва комсамола работай атрадаў, зрабіць яго канкрэтным і штодзённым, узняць якасць работы кожнага атрада і звяна да ўзроўня задач другой пяцігодкі, на працягу якой наша партыяператварае ўсё працоўнае насельніцтва краіны ў свядомых і актыўных будаўнікоў бясклясавага соцыялістычнага грамадства“.

Выключна важнае значэнне мае правядзенне конкурса ў БССР, дзе піонерарганізацыя знаходзіцца ў нездавальняючым стане. У яе рабоце мы маем буйныя недахопы і палітычныя прарывы, асноўнымі з якіх з'яўляюцца—слабая работа і ў радзе месц неаформленасць піонерскіх арганізацый, надзвычай нізкая якасць школьнай выхаваўчай работы, асабліва ў вясковай арганізацыі, зусім слабая барацьба супроць спроб класава-варожых элементаў прывіць дзецям анты-пролетарскую ідэалогію.

Без прыцягнення шырокай грамадскасці да ўдзелу ў конкурсе, без яе сістэматычнай увагі і дапамогі, мы не даб'емся карэннага паляпшэння піонерскай работы.

Трэба ў атрадах разгарнуць дзіцячую ініцыятыву і самадзейнасць шляхам арганізацыі рознага роду гурткоў, тэхнічных, радыё, авіа-мадэльных і інш. Трэба наладзіць рад экскурсій, прагулак, ранішнікаў самадзейнасці і іншых мерапрыемстваў, для кіраўніцтва якімі прыцягваюцца спецыялісты, тэхнікі, кваліфікаваныя рабочыя, настаўнікі, аграномы, урачы, фізкультурнікі і інш.

Конкурс ставіць перад сабой як адну з важнейшых мэт: забеспячэнне атрадаў праверанымі важатымі, з ліку лепшых комсамольцаў-ударнікаў, павысіць іх кваліфікацыю, узброіць мінімумам агульна-адукацыйных, палітычных і педагагічных ведаў, азнаёміць іх з методыкай піонерскай работы.

Узровень свядомасці дзяцей значна павысіўся. Не можа дапамагчы рабятам авалодаць ведамі той важаты, які сам не мае гэтых ведаў. Вось чаму, важаты павінен, як мінімум, мець адукацыю ў аб'ёме сямігодкі. Мала таго, трэба, каб важаты далей вучыўся і працаваў над сабой, не чакаў пакуль яго пашлюць на курсы, умеў карыстацца кніжкамі, выслухаць і зрабіць даклад, авалодаў методыкай самаадукацыйнай работы.

Ячэйкі і камітэты комсамола павінны арганізаваць курсы,—семінары для важатых. На дапамогу ў гэтай справе павінна прысці ўся асветніцкая маса і ў першую чаргу яе лепшы атрад—ударнікі настаўнікі.

У сваёй пастанове ад 4 студзеня г. г., калегія Наркамасветы абавязала РайгорАНА ўключыцца ў конкурс і прыцягнуць да ўдзелу ў ім настаўнікаў, якія павінны дапамагчы паляпшэнню якасці работы піонерскіх атрадаў і звенняў, развіць іх творчую актыўнасць і самадзейнасць, дапамагчы важатым піонератрадаў. Намячаецца правядзенне вечароў сустрэч настаўнікаў з піонерпрацаўнікамі, прымацаванне першых да другіх у мэтах павышэння агульна-адукацыйных ведаў важатых і г. д.

Ход конкурса па БССР аднак з'яўляецца нездавальняючым. Ідэі конкурса яшчэ не дайшлі да шырокіх мас профсаюзаў, асветнікаў і грамадскіх арганізацый. Надта слаба яшчэ раскачаліся асветнікі. Зразумела, што месяцы конкурса не прайшлі бяследна для ўсіх раёнаў, у радзе месц ёсць пэўны зрух (Барысаў, Бабруйск, Орша, Парычы і інш.).

Паасобныя настаўнікі ўключыліся ў конкурс і канкрэтнымі справамі дапамагаюць комсамолу ў яго правядзенні. Так, напрыклад, настаўніцкі калектыў Хаўхоліцкай ШКМ (Барысаўскі раён) заўсёды дапамагае важатаму атрада тав. Шакаўцу ў яго рабоце.

Тав. Малевіч заг. 1-й ФЗД (Орша) абавязаўся прадаставіць памяшканне і выдзеліць сродкі для работы атрадаў і звенняў, кансультаваць правядзенне паліт. інфармацый у атрадах і дапамагаць важатаму ў арганізацыйнай рабоце. Настаўніца матэматыкі—Арцюшкова ў свае абавязацельствы ўключыла рэгулярныя метадычныя парады важатаму, правядзенне акадэмбаёў паміж звеннямі па матэматыцы, правядзенне паказальных матэматычных гульняў і шарад. Такіх прыкладаў яшчэ на жаль мала.

Абавязак настаўніцтва—дапамагчы комсамолу ў выхаванні новых людзей, глыбока адданых соцыялістычнаму ладу і заўжды гатовых змагацца за канчатковую перамогу комунізма ва ўсім свеце. Трэба памятаць указанне ЦК ВКП(б) ад 21-га красавіка 1932 г. аб тым, каб „настаўніцтва пачатковых і сярэдніх школ усё больш і больш прымала непасрэдны практычны ўдзел ў рабоце піонерарганізацыі, таму што настаўнік не толькі навучае дзяцей асновам навук, але і выхоўвае іх ў комуністычным духу, таму што і школа і піонерарганізацыя выконваюць задачы выхавання падрастаючага пакалення будаўнікоў комуністычнага грамадства".

---

З. Лосеў і М. Рэйдэр

# Клопаты аб дзецях—справа ўсяго завода

*(Вопыт правядзення рабочай канферэнцыі па комуністычнаму выхаванню дзяцей на Бабруйскім дрэваапрацоўчым камбінаце імя Гікало)*

За апошнія гады партыя і ўрад удзялілі асабліва шмат увагі пытанням выхавання дзяцей, работы школ, піонератрадаў і ўсіх арганізацый, якія ў першую чаргу заклі͏каны ажыццяўляць дырэктывы партыі аб комуністычным выхаванні маладога пакалення. У барацьбу за ажыццяўленне гэтых важнейшых дырэктыў партыі ўключаюцца ўсё больш шырокія масы працоўных; справа комвыхавання ўсё больш і больш становіцца справай не толькі педагогаў і работнікаў піонерарганізацый, але ўсёй пролетарскай грамадскасці.

Трэба памятаць, што выхаванне дзяцей—гэта важнейшы ўчастак класавай барацьбы. Разбіты, але недабіты класавы вораг, нацдэмакраты і шавіністы розных колераў, асабліва ўпарта чапляюцца за школу, асабліва актыўна імкнуліся і імкнуцца насаджаць у школу сваіх агентаў, жадаючы ўзяць пад свой уплыў падрастаючае пакаленне, выхаваць яго ў духу контррэволюцыйнага шавінізма, у духу варожасці да дыктатуры пролетарыята.

Поспехі соцбудаўніцтва, рост матэрыяльнага добрабыта і культурнага ўзроўня працоўных мас высунулі цэлы рад новых форм штодзённых клопатаў аб дзецях, аб іх большэвіцкім комуністычным выхаванні. Адной з такіх новых форм з'яўляецца рабочая канферэнцыя па пытанню комуністычнага выхавання дзяцей, якая ўпершыню ў БССР праведзена Бабруйскім дрэваапрацоўчым камбінатам імя Гікало.

Правядзенне падобных канферэнцый асабліва важна ва ўмовах БССР, дзе ўвага грамадскасці да пытання комуністычнага выхавання дзяцей да апошняга часу была недастатковай. На фронце комвыхавання дзяцей мы мелі цэлы рад велізарнейшых прарываў і класава-варожых выступленняў, аб чым з усёй яскра-

васцю сказаў снежаньскі пленум ЦК КП(б)Б у сваёй пастанове аб ажыццяўленні нацпалітыкі.

31-га красавіка 1933 г. фабрычна-заводская шматтыражка камбіната надрукавала ліст групы дзяцей наступнага зместу:

„Як толькі канчаюцца лекцыі ў школе, мы зараз-жа ідзем дадому. Але дома няма чаго рабіць. Бацькі на рабоце, дык мы ідзем на вуліцу, там збіраецца ўся наша „хеўра". На вуліцы таксама рабіць няма чаго і мы пачынаем па крыху курыць—папірос у нас шмат, у бацькоў узялі. На вуліцы навучыліся мы лаяцца.

Зразумела, што пасля гэтага ў нас прападае ахвота вучыцца. Наведваем школу з частымі прагуламі, не слухаем настаўнікаў. Мы адчуваем, што вельмі адстаем у занятках. Мы прызнаемся, што нас цягне на вуліцу.

Настаўнікі лічаць нас дзецьмі, якіх ужо нельга перавыхаваць. Гэта няправільна. Калі-б мы мелі магчымасць праводзіць наш вольны час у дзіцячым клубе, мы-б кінулі вуліцу і пайшлі-б у клуб, у піонератрад. Але гэтым ніхто не займаецца.

Мы патрабуем ад заўкома і комсамольскага калектыва камбіната, каб яны правялі такую канферэнцыю рабочых, якая была праведзена на Харкаўскім заводзе „Серп і молат", аб якой мы чыталі ў „Піонерской Правде".

*Кабарын, Маслyннікаў, Печанкін, Кісялёў, Курдакс, Савельеў, Кашура, Рагінскі, Пліс, Аграновіч, Яўхіменка, Станін*".

Гэты ліст групы „бузацёраў" яскрава сведчыць аб узрослых запатрабаваннях дзяцей, іх імкненні да арганізаванага правядзення пазашкольнага часу. Ён таксама з'яўляецца лепшым доказам таго, што большасць дзяцей, якія па думцы нават некаторых настаўнікаў з'яўляюцца „непапраўнымі", пры адпаведнай рабоце з імі пабудаванай на ўліку здаровых дзіцячых інтарэсаў і запатрабаванняў,—могуць і жадаюць стаць у шэрагі ўдарнікаў вучобы, могуць быць вырваны з-пад уплыву неарганізаванай вуліцы.

Гэты ліст асвятліў таксама з асаблівай яскравасцю, самы прарыўны, самы слабы ўчастак работы ўсёй фабрычнай грамадскасці камбіната.

Кіруючыя арганізацыі камбіната, у першую чаргу бюро парткамітэта паказалі ў даным выпадку прыклад чулых адносін да запатрабаванняў дзяцей і глыбокага разумення тых вялікіх задач і адказнасці, якую яны нясуць за стан комуністычнага выхавання дзяцей. На сумесным пасяджэнні бюро парткамітэта, заўкома і бюро комсамольскага калектыва, дзе абгаварваўся вышэйпаданы ліст, была прынята прапанова аб правядзенні агульна-камбінац-

кай канферэнцыі рабочых па пытанню комвыхавання дзяцей і вызначан цэлы рад мерапрыемстваў па падрыхтоўцы да яе.

Усю падрыхтоўчую работу да канферэнцыі было вырашана правесці праз адпаведныя секцыі, якіх было створана дзевяць: школьная, піонерработы, дашкольнага выхавання, аховы здароўя дзяцей, дзіцячага харчавання, пазашкольнай работы, санітарная, секцыя дзіцячай літаратуры і секцыя політэхнізацыі.

Кожная з гэтых секцый была прымацавана да аднаго з цэхаў камбіната. Напрыклад: школьная секцыя—да белцэха, аздараўленчая секцыя—да лесцэха № 2 і г. д. Гэты метад забяспечыў удзел шырокіх мас рабочых у рабоце секцый і палегчыў у значнай меры ўсю арганізацыйную работу па падрыхтоўцы да канферэнцыі.

Поспех канферэнцыі быў забяспечан таксама і тым, што для кіраўніцтва секцыямі і ўсёй падрыхтоўчай работай былі вылучаны адказныя партыйныя, комсамольскія, гаспадарчыя і профсаюзныя работнікі. Дырэктар камбіната т. Тарасаў кіраваў, напрыклад, работай школьнай секцыі, галоўны інжынер комбіната т. Варанцоў—секцыяй політэхнізацыі і г. д.

Кожная з гэтых 9-ці секцый на працягу часу звыш мясяца дэталёва, праз абследванні і гутаркі з дзецьмі, бацькамі і настаўнікамі вывучала становішча спраў на тым або іншым вучастку работы і намячала рад мерапрыемстваў па паляпшэнню работы з дзецьмі, па выкананню дырэктыў партыі і ўрада аб рабоце школы і піонерарганізацыі.

Рабочыя камбіната пасля правядзення масава растлумачальнай работы аб значэнні і задачах канферэнцыі актыўна ўключыліся ў гэту работу. У рабоце секцый удзельнічала 500 рабочых, якімі было ўнесена ў час падрыхтоўкі да канферэнцыі каля 350 каштоўных прапаноў, што ляглі ў аснову канкрэтных мерапрыемстваў фабрычных арганізацый, школы і піонерарганізацыі па палепшанні работы з дзецьмі. Рабочы Гольдштэйн, напрыклад, піша ў фабрычна заводскай шматтыражцы: „Выхаванне дзіцяці справа не лёгкая. Мы часта не разумеем, як лепш выхоўваць дзяцей. Часта б'ём іх, не разумеючы за што, іншы раз „усыплеш", а потым крыўдна робіцца. Мы, рабочыя, слаба разумеем як лепш падыходзіць да дзяцей. Мая прапанова, каб наш клуб арганізаваў сістэматычна лекцыі для бацькоў аб тым, як трэба выхоўваць дзяцей, каб мы маглі лепш падыйсці да іх".

Работніца Календа ўнесла прапанову—арганізаваць дзіцячую сталоўку з палепшаным харчаваннем. Стары рабочы Сакалоўскі ўнёс прапанову аб арганізацыі цырульні для дзяцей, аб выдзяленні спецыяльных дзён для дзяцей у лазні і г. д. Ні адна дробязь у справе палепшання работы з дзецьмі не прайшла міма ўвагі рабочых. Кожны рабочы ведаў, што справа ідзе аб яго дзіцяці, або дзіцяці суседа па станку, таварыша па рабоце.

Як вельмі ўдалы і цікавы прыклад падрыхтоўчай работы, патрэбна адзначыць правядзенне нарады-гутаркі з безнаглядными

дзецьмі, якія пакінулі школу. 14 безнаглядных дзяцей праз спецыяльныя запрашальныя білеты і персанальную гутарку былі сабраны ў парткалектыў для „размовы па душам“. Гутаркі праводзілі сакратар парткалектыва і іншыя адказныя працаўнікі фабрычна-заводскіх арганізацый. Спачатку дзеці сароміліся, трымалі сябе „выжыдацельна“, але потым разгаварыліся за чашкай чая, расказалі многа цікавага аб тым, як яны—дзеці рабочых камбіната, сталі дзецьмі вуліцы, расказалі аб сваіх патрабаваннях.

Вось кароткі змест расказа аднаго з іх—Зельдзіна Давіда:

„Рабята падгаварылі кінуць школу. Я і кінуў. Цяпер возімся цэлы дзень на вуліцы. Курым, балуемся. У школу пайшоў-бы, але наўрад ці прымуць. Кажуць, што бузацёр. Калі прымуць—буду наведваць акуратна і добра вучыцца“.

Аб жаданні вярнуцца назад у школу заявілі і астатнія ўдзельнікі гэтай незвычайнай і цікавай нарады. Вынікам гэтай сустрэчы з'явілася тое, што група безнаглядных рабят вярнулася назад у школу і многія з іх зараз з'яўляюцца ўдарнікамі вучобы.

Кожная секцыя пасля выяўлення і ўсебаковага вывучэння таго або іншага недахопа ў рабоце школы, піонератрада, дзіцячага сада, яслей і г. д. ставіла гэта пытанне на абгаварэнне рабочых прымацаванага цэха, сумесна з якімі вызначала мерапрыемствы па ліквідацыі недахопа і пры актыўным удзеле і дапамозе рабочых праводзіла вызначаныя мерапрыемствы ў жыццё.

Вось некаторыя прыклады таго, што зрабілі секцыі ў справе паляпшэння работы з дзецьмі ўжо на хаду падрыхтоўкі да самой канферэнцыі. Секцыя політэхнізацыі, на чале якой стаяў галоўны інжынер камбіната т. Варанцоў выявіла цэлы рад недахопаў у справе політэхнізацыі школы. Пры дапамозе інжынерна-тэхнічных працаўнікоў камбіната і рабочых электрастанцыі была механізавана майстэрня, арганізавалі ў школе рад тэхнічных гурткоў, кіраваць якімі далі сваю згоду інжынеры і тэхнікі камбіната. Па ініцыятыве і пад кіраўніцтвам гэтай-жа секцыі было задаволена і другое вялікае запатрабаванне дзяцей аб стварэнні пры камбінаце дзіцячай тэхнічнай станцыі.

Піонерсекцыя дабілася вылучэння важатых у кожны атрад, па ініцыятыве яе бюро парткома прымацавала да кожнага атрада старых партыйцаў. Гэтыя мерапрыемствы значна палепшылі якасць работы піонерарганізацыі камбіната.

Вялікую ролю ў мабілізацыі рабочых і ўсёй грамадскасці да ўзмацнення комвыхавання дзяцей адыграў заводскі друк, у першую чаргу шматтыражка камбіната, якая ў даным выпадку праявіла аператыўнасць і ўменне арганізоўваць масы вакол канкрэтнага пытання. Шматтыражка камбіната „За ўдарныя тэмпы“ акрамя змяшчэння матэрыяла аб рабоце школы і піонерарганізацыі, арганізавала таксама выданне спецыяльнага бюлетня „Зайболь шэфскую змену“, прысвечанага падрыхтоўцы да канферэнцы.

Кожны нумар гэтага бюлетня ставіў канкрэтныя патрабаванні да грамадскіх арганізацый камбіната, высоўваў рэд прапаноў па палепшанню работы з дзецьмі ў той або іншай галіне.

Бюлетэнь змясціў шмат выказванняў і патрабаванняў дзяцей. Лісты піонераў і вучняў па канкрэтнаму пытанню завастрылі ўвагу рабочых і ўсёй грамадскасці значна больш, чым красамоўныя прамовы „штатных“ аратараў на гэтую тэму.

Бюлетэнь арганізаваў таксама шырокае асвятленне работы паасобных секцый і выступленні секцый па паасобных пытаннях. Напрыклад, секцыі дзіцячай літаратуры звярнулася да рабочых з кароткай дзелавой адозвай, каб бацькі сачылі за тым, што чытаюць іх дзеці, сачылі, каб дзеці пры чытанні захоўвалі адпаведныя правілы гігіены (не чыталі лежачы, у час яды і г. д.), каб яны не псавалі кніг. Секцыя таксама звярнулася да рабочых з просьбай даць у дзіцячую бібліятэку кнігі, якія маюцца ў рабочых. І рабочыя на гэту адозву адказалі сотнямі кніг.

Пры дапамозе шматтыражкі было таксама арганізавана выданне ў цэхах спецыяльных насценгазет, прысвечаных падрыхтоўцы да канферэнцыі.

12-га студзеня, пасля доўгай падрыхтоўчай работы была склікана сама канферэнцыя, якая па сутнасці вылілася ў сустрэчу трох пакаленняў. Канферэнцыя падагуліла праведзеную падрыхтоўчую работу і вызначыла канкрэтныя шляхі далейшай работы грамадскасці камбіната ў справе палепшання становішча камвыхавання дзяцей.

Для малодшых дзяцей, прышоўшых са сваімі бацькамі на канферэнцыю былі арганізаваны дзіцячыя пакоі і падрыхтаваны невялікія падарункі. На канферэнцыі была таксама арганізавана выстаўка работы тэхнічных гурткоў і майстэрні школы, а таксама выстаўка педагагічнай літаратуры.

Пасля ўступнага слова сакратара парткома т. Крывуліна і паведамлення культпропа парткома аб выніках падрыхтоўчай работы, выступілі прадстаўнікі ЦК ЛКСМБ і Наркамасветы, завастрыўшыя ўвагу канферэнцыі на пытаннях барацьбы са спробамі класавага ворага, контррэвалюцыйных нацдэмаў і шавіністаў розных колераў, узяць пад свой уплыў выхаванне маладога пакалення. Яны падкрэслівалі неабходнасць яшчэ большага наближэння ўсяго рабочага калектыва да работы школ і піонерскіх атрадаў, неабходнасць стварэння ўмоў, пры якіх за выхаванне кожнага дзіцяці адказваў-бы ўвесь завод, уся рабочая грамадскасць і кожны рабочы паасобку. Выступленні аратараў перамяжаліся з выступленнямі дзяцей, якія былі яскравай ілюстрацыяй таго, што ў краіне Советаў пад кіраўніцтвам партыі дзеці працоўных маюць самае шчаслівае радаснае дзяцінства.

Гэта зусім выразна адзначылі і самі дэлегаты ў сваіх выступленнях на канферэнцыі. Вось, напрыклад характэрнае выступ-

ленне старага рабочага т. Каваля: „Я глядзеў на дзяцей, якія праходзілі перад намі і слёзы набягалі на вочы. Мае аднагодкі і марыць не маглі аб такім шчаслівым дзяцінстве. А паглядзіце зараз колькі расце здольнасцей, колькі талентаў сярод нашых дзяцей. Гэта прымушае нас, бацькоў, удзяляць яшчэ больш увагі, яшчэ больш клопатаў выхаванню нашых дзяцей". Тав. Каваль высунуў прапанову аб тым, каб настаўнікі часцей сустракаліся з рабочымі і іх дзецьмі, прыходзілі ў цэхі, расказвалі аб тым, як наладзіць работу па выхаванню дзяцей дома. Аб неабходнасці шырокага разгортвання педпрапаганды і педасветы сярод рабочых, гаварылі і ўсе астатнія рабочыя—дэлегаты канферэнцыі, якія выступалі ў спрэчках.

Усе прапановы рабочых, настаўнікаў, піонерработнікаў і астатніх удзельнікаў былі абагулены ў пастанове-лісце, якую канферэнцыя прыняла. Вось галоўнейшыя абавязацельствы, якія прынялі на сябе рабочыя Бабруйскага камбіната ў справе далейшай барацьбы за выкананне дырэктыў партыі аб комвыхаванні маладога пакалення:

– Пашырыць школьную плошчу з тым, каб да 1-га лютага 1934 г. школа атрымала памяшканне поўнасцю адпавядаючае яе патрабаванням.

—Да 1-га студзеня 1934 г. поўнасцю ахапіць школай усіх дзяцей, у асаблівасці цяжка выхоўваемых, адчыніць у раёне камбіната групы для цяжка выхоўваемых дзяцей.

—Палепшыць якасць і знізіць цану адпускаемых ЗРК для дзяцей абедаў. Павялічыць кантынгент сталоўнікаў дзіцячай дыэтсталоўкі для 80 дзяцей. Да 15-га снежня адчыніць спецыяльную дзіцячую краму на камбінаце, забяспечыўшы яе дзіцячай вопраткай, абуткам і школьнымі прыладамі. Да 1-га студзеня 1934 г. выявіць маючыхся ў раёне камбіната дзяцей дашкольнага ўзросту, ахапіць іх усіх садамі і яслямі. Адначасова канферэнцыя паставіла перад ГорАНА пытанне аб адчыненні дзіцячага сада ў рабочым раёне (Крывы Круг), дзе жыве вялікая частка рабочых камбіната.

—На працягу 1934 г. прапусціць праз санаторыі не менш 25 вучняў—дзяцей рабочых. Адчыніць пры школе спецыяльны зубаўрачэбны габінет для абслугоўвання вучняў. Зараз-жа распачаць падрыхтоўку да лагернай і аздараўленчай кампаніі, прапусціць праз лагеры не менш 500 дзяцей.

—Адзін раз у дэкаду арганізоўваць спецыяльныя кіносеансы для дзяцей, забяспечыўшы іх дзіцячымі кінофільмамі. Для канчатковага абсталявання дзіцячага клуба, які быў арганізаваны ў час падрыхтоўкі да канферэнцыі, адпусціць 1000 руб.

—Пры кожнай групе ў школе арганізаваць спецыяльныя гурткі па педпрапагандзе сярод бацькоў. Пры клубе арганізаваць лыжную станцыю, каток, дзіцячую тэхнічную станцыю, фізкультурныя гурткі, да якіх прымацаваць 10 фізкультурнікаў маючых значок ГПА, арганізаваць 5 ваенных гурткоў. Адчыніць цырульні

для дзяцей, пры клубе арганізанаць санітарны пакой, 5 разоў у месяц праводзіць калектыўны паход дзяцей у лазню.

Канферэнцыя пастанавіла выслаць спецыяльную брыгаду рабочых ў падшэфны сельсовет і калгасы з мэтай склікання такой-жа канферэнцыі калгаснікаў. Удзельнікі канферэнцыі звярнуліся да ўсіх рабочых БССР з заклікам паследваць іх прыкладу, арганізаваць такія-ж канферэнцыі ў сябе на прадпрыемствах, уключацца ў барацьбу за комуністычнае выхаванне маладога пакалення.

Падкрэсліваючы вялікае палітычнае і практычнае значэнне канферэнцыі ў справе мабілізацыі ўвагі грамадскасці вакол комуністычнага выхавання дзяцей, нельга абыйсці рад недахопаў, якія былі дапушчаны як у падрыхтоўчай рабоце, так і пры правядзенні самай канферэнцыі.

Самым буйным недахопам падрыхтоўчай работы і самай канферэнцыі з'яўляецца зусім недастатковы ўдзел настаўніцтва. Нават настаўнікі прымацаванай да камбіната школы зусім слаба ўдзельнічалі ў падрыхтоўчай рабоце і самой канферэнцыі. Замест таго, каб высунуць перад грамадскасцю цэлы рад важнейшых пытанняў работы з дзецьмі, і скарыстаць гэту канферэнцыю для яшчэ большага набліжэння рабочых да школы і ўзмацнення педпрапаганды сярод рабочых, настаўнікі стаялі ў баку ад падрыхтоўчай работы і нават на самой канферэнцыі прымалі слабы ўдзел у абгаварэнні пытанняў. Настаўніцкі калектыў у даным выпадку не зразумеў усёй важнасці гэтай справы, не дааценіў усяго таго новага, што ўносіць гэтая канферэнцыя ў справу комвыхавання дзяцей. У сваю чаргу грамадскія арганізацыі не праявілі дастатковай большэвіцкай упартасці ў прыцягненні настаўнікаў да гэтай работы.

У выніку ўсяго гэтага адна з важнейшых задач канферэнцыі— наладжанне сістэматычнай педпрапаганды сярод рабочых бацькоў не была выканана. Гэты недахоп тым больш недапушчальны, што самі рабочыя—удзельнікі работы секцый і канферэнцыі праявілі вялікае імкненне да атрымання педагагічных ведаў,

Слабы ўдзел настаўніцтва ў падрыхтоўцы і правядзенні канферэнцыі не мог не прывесці да другога буйнага недахопа,— некаторай павярхоўнасці ў абгаварэнні і вырашэнні рада пытанняў работы школ. У сутнасць работы школы, у змест і формы іх работы рабочыя не ўнiклі, пытаннямі барацьбы за выкананне вучэбных праграм, за паспяховасць, за высокую якасць навучання,—ні секцыі, ні канферэнцыя глыбока не займаліся.

У правядзенні самой канферэнцыі была таксама дапушчана буйная памылка. Канферэнцыя павінна была арганізацыйна замацаваць вынікі ўсёй падрыхтоўчай работы, стварыць з удзельнікаў канферэнцыі групу моцнага рабочага актыва, які-б адчуваў штодзённую адказнасць за рэалізацыю прынятых пастаноў і актыўна ўдзельнічаў ва ўсёй рабоце школы, піонерарганізацыі г. д. Значэнне канферэнцыі знізілася тым, што замест выбараў

дэлегатаў кожным цэхам і дачы ім канкрэтных наказаў у большасці цэхі пайшлі па шляху фармальнай раздачы мандатаў для ўдзелу на канферэнцыі. Гэта мела свой адбітак і на самім складзе ўдзельнікаў. Многія актывісты падрыхтоўчай работы—у рабоце канферэнцыі не прынялі ўдзела.

Пры ўсіх гэтых сваіх недахопах канферэнцыя ўсё-ж з'явілася зусім новай формай праяўлення пролетарскіх клопатаў аб дзецях, новым велізарнага значэння фактам на фронце комвыхавання дзяцей. Пачын рабачых Бабруйскага камбіната імя Гікало—аднаго з буйнейшых прадпрыемстваў БССР, які ва ўмовах нашай рэспублікі першым рэалізаваў каштоўны вопыт Харкаўскага завода „Серп і молот“, павінен стаць здабыткам усіх прадпрыемстваў, МТС і соўгасаў нашай рэспублікі.

Педагагічная грамадскасць, закліканая партыяй выконваць пачэсную задачу комвыхавання падрастаючага пакалення павінна падхапіць і распрацаваць гэты каштоўнейшы вопыт. Настаўніцтва павінна самым актыўным чынам змагацца за тое, каб давесці да сазнання шырокіх мас працоўных словы т. Постышава аб тым, што „работа сярод дзяцей павінна стаць нашым пярвейшым большэвіцкім абавязкам“. Рабочыя канферэнцыі па пытанню комвыхавання і з'яўляюцца такой формай, якая ўцягвае шырокія масы ў барацьбу за выкананне гэтага большэвіцкага абавязка

---

*І. Масюкевіч*

5-я Менская ФЗД

# Да пытання аб бягучым уліку паспяховасці ў пачатковай і сярэдняй школе

Наладзіць вычарпальны ўлік ведаў вучняў—адна з важнейшых задач нашай школы, кожнага групавода, кожнага выкладчыка.

Яшчэ 25 жніўня 1932 г. ЦК ВКП(б) у сваёй гістарычнай пастанове аб школе даў дырэктыву: „У аснову ўліка школьнай работы павінен быць пакладзен бягучы індывідуальны, сістэматычна-правадзімы ўлік ведаў вучняў. Выкладчык павінен ў працэсе сваёй работы старанна вывучаць кожнага вучня. На аснове гэтага вывучэння выкладчык абавязан у канцы чверці складаць характарыстыку паспяховасці кожнага вучня папрадметна".

Улік ведаў вучняў правадзімы на аснове дырэктывы ЦК,—гэта праверка таго, што робіцца ў школе па выкананню вучэбнага плана. Такі ўлік з'яўляецца важнейшым сродкам барацьбы за аўладанне „асновамі навук", за ліквідацыю „карэннага недахопа", за якасць усёй вучэбна-выхаваўчай работы.

Правільная пастаноўка бягучага ўліка вучэбнай і выхаваўчай работы ў школе мае на ўвазе абавязковае скарыстанне настаўнікам уліковых даных для таго, каб своечасова аказаць канкрэтную дапамогу вучню, ліквідаваць яго адставанне па засваенню навучальнай праграмы.

Гэтага можна будзе дасягнуць калі ў працэсе вучобы настаўнік будзе сістэматычна назіраць за кожным вучнем, выяўляць і ўстараняць прычыны, перашкаджаючыя апошняму ў рабоце. Настаўнік абавязан ведаць асаблівасці паводзін вучня не толькі ў школе, але і па-за ёй, хатнія ўмовы яго жыцця, стан здароўя. Арганізацыя работы па вывучэнню бытавых хатніх умоў вучня кладзецца на настаўніка-групавода, або прымацаванага класнага кіраўніка.

Кожны настаўнік у працэсе заняткаў павінен улічваць не толькі веды вучняў, але і адносіны да вучобы і работы, агульнае і фізічнае развіццё і політэхнічныя навыкі.

Па вучэбных прадметах належыць улічваць аб'ём прапрацаванага матэрыяла, трываласць засваення і сістэматычнасць ведаў і навыкаў. Настаўнік павінен ведаць, накалькі вучань можа самастойна працаваць ў школе і дома (карыстацца кнігай, падручнікам, прыборам або інструментам), яго ўменне прымяніць атрыманыя навыкі і веды практычна ў вытворчай або грамадскакарыснай рабоце, нарэшце зацікаўленасць і дысцыплінаванасць дзяцей, удзел у соцспаборніцтве і ўдарніцтве.

Бягучы ўлік ведаў і навыкаў трэба праводзіць дыферэнцыявана, выходзячы з асаблівасцей кожнай выкладаемай дысцыпліны і асобных раздзелаў праграмы.

Што належыць скарыстаць настаўніку для бягучага ўліка паспяховасці?—Трэба прыцягваць для гэтай мэты хатнія і класныя сшыткі вучняў, вынікі вусных адказаў, самастойныя і кантрольна-праверачныя работы, прадметы і прыборы, зробленыя вучнем у майстэрні, або рабочым пакой, наогул усё тое, што можа быць паказчыкам адносін вучня да работы і яе прадукцыйнасці.

Настаўніку трэба:

а) весці назіранні за ходам і вынікамі работы кожнага вучня;

б) своечасова правяраць і даваць ацэнку вучнёўскай рабоце. У пісьмовых работах па ўсіх дысцыплінах належыць абавязкова выпраўляць граматычныя і стылістычныя памылкі, выхоўваць у вучняў акуратнасць, стараннасць, чыстату і добрасумленнасць у выкананні работы;

в) збіраць найбольш тыповыя работы і захоўваць іх на працягу ўсяго навучальнага года з мэтай параўнаўчай ацэнкі паспяховасці вучня і паказа вынікаў яго работы за чверць, поўгоддзе ці за год;

г) абавязкова праводзіць з вучнямі самастойныя кантрольна-праверачныя работы на вызначаныя тэмы ў сувязі з паўтарэннем курса або падагульненнем асобных раздзелаў праграмы;

д) сістэматычна прывучаць вучняў да індывідуальнай і калектыўнай праверкі сваіх работ.

Лягчэй падцягнуць і дапамагчы вучню, калі ведаеш яго слабыя бакі, што дасягаецца правільнай пастаноўкай бягучага ўліка на кожным паасобным уроку, і з'яўляецца аднэй з важнейшых задач педагога.

Кожны настаўнік у працэсе падрыхтоўкі да ўрока павінен прадугледзіць ўсе моманты прадстаячага ўліка. Належыць прадумаць формы апошняга ў залежнасці ад прадмета і метада работы (экскурсія, гутарка, прапрацоўка матэрыяла ў лабараторыі і г. д.), вызначыць групу вучняў, якіх трэба апытаць і характар задаваемых пытанняў, індывідуалізаваць падыход да кожнага вучня з боку зместа і формы, намеціць парадак праверкі хатніх і класных работ на лекцыі і г. д.

Адным з відаў бягучага ўліка з'яўляюцца кантрольна-праверачныя работы. Гэтыя работы належыць уводзіць пасля прапрацоўкі тэмы, ці закончанага раздзела праграмы. Яны праводзяцца з мэтай праверкі засваення ведаў і навыкаў па таму або іншаму раздзелу праграмы. Іх можна праводзіць у самых рознастайных формах (пастаноўка доследа, дыктоўка, самастойныя пісьмовыя работы і г. д.). Тэматыка кантрольна-праверачных работ устанаўляецца самім настаўнікам, але санкцыянуецца загадчыкам навучальнай часткі ці загадчыкам школы.

Кантрольна-праверачныя работы не павінны насіць выпадковага характара, а абавязкова праводзяцца планава, на працягу ўсяго навучальнага года. Іх ні ў якім разе не трэба адкладваць на канец навучальнага года або чверці, каб гэтым самым не стварыць нервуючай абстаноўкі для вучняў. Занадта захапляцца гэтымі работамі аднак не трэба, нельга таксама канцэнтраваць іх на невялікім адрэзку часу па цэламу раду дысцыплін.

Асаблівую ўвагу трэба звярнуць на ліквідацыю непаспяховасці адстаючых вучняў. Патрэбна вывучыць прычыны непаспяховасці, у выпадку патрэбы скарыстаць урача, а дзе ёсць і педолага, і ўжыць усе меры для знішчэння перашкод. Настаўнік, безумоўна, павінен апытваць адстаючых больш часта, чым тых вучняў, якія нармальна займаюцца.

У барацьбе за ўздым якасных паказчыкаў вучобы, настаўнік, пры дапамозе ДСК і піонерарганізацыі, абавязан правільна паставіць соцспаборніцтва і ўдарніцтва сярод вучняў. Настаўнік павінен старанна прадумаць формы ўдзела дзяцей у соцспаборніцтве і ўдарніцтве з тым, каб яны былі жывымі, цікавымі, даступнымі для ўзросту і развіцця кожнага вучня і групы.

Патрэбна, каб кожная закончаная самастойная работа вучня— пісьмовая, графічная, зробленая ў майстэрні ці падрыхтаваная дома, не заставалася без ацэнкі настаўніка. Пры ацэнцы абавязкова павінен мець месца індывідуальны падыход, пры якім улічваюцца веды і агульнае развіццё вучня.

Пры ацэнцы паспяховасці кожнага вучня трэба выходзіць з таго, ці прапрацаван вучнем той або іншы матэрыял і наколькі поўна і глыбока. Трэба высветліць, што з'явілася перашкодай у прапрацоўцы матэрыяла, намеціць меры да знішчэння гэтай перашкоды, дабіцца таго каб вучань узяўся за работу як след.

Прапрацаваўшым праграму мы будзем лічыць таго вучня, які цалкам засвоіў праграмны матэрыял, аўладаў патрэбнымі ведамі і навыкамі, што вымагаюцца праграмай НКА.

У характарыстыцы работы вучня павінна быць адзначана ўсё станоўчае і адмоўнае ў яго рабоце і меры да падняцця паспяховасці. Даецца агульная ацэнка работы вучня: **„нездавальняюча“**, **„здавальняюча“**, **„добра“**, **„вельмі добра“**.

Фіксацыя паспяховасці вучня праводзіцца настаўнікам рэгулярна ў класным журнале. Разам з ёй заносіцца ацэнка хатніх работ і розныя педагагічныя заўвагі настаўніка, звязаныя з на-

зіраннем над работай вучня (адзнакі аб дысцыплінаванасці, выкананні пазашкольнай і грамадска-карыснай работы). Групаводу або прымацаванаму да групы настаўніку трэба дабіцца таго, каб усе запісы ў журнале былі канкрэтнымі, адлюстроўвалі асаблівасці данага прадмета і работу кожнага вучня.

Па другому і трэцяму канцэнтрах, дзе да груп прымацоўваюцца ў якасці кіраўнікоў асобныя настаўнікі, апошнія правяраюць запісы кожнага выкладчыка і папаўняюць іх уласнымі, каб, такім чынам, да справаздачы мець поўную характарыстыку аб паспяховасці кожнага вучня ў цэлым і па асобных дысцыплінах.

У канцы кожнай чверці і навучальнага года на падставе даных сістэматычнага ўліка складаецца характарыстыка як аб кожным вучню, так і аб групе цалкам. У характарыстыку патрэбна ўнесці дыферэнцыяваную ацэнку поспехаў па кожнай вучэбнай дысцыпліне з указаннем ступені засваення прапрацаванага курса, удзелу вучня і групы ў грамадска-карыснай рабоце, соцспаборніцтве, ударніцтве і г. д.

Навучальная частка і адміністрацыя школы кантралююць паспяховасць вучняў праз наведванне лекцый і праверку запісаў ўліка кожнага настаўніка. Загадчык навучальнай часткі павінен наладзіць інструктаж кожнага настаўніка аб тым, як патрэбна праводзіць урок і самы ўлік.

Улік усёй работы ў школе за чверць павінен паказаць,—ці засвоена і ў якой меры ў прапрацаваным аб'ёме кожная паасобная дысцыпліна усей групай або вучнем. Пры правядзенні ўліка патрэбна карыстацца карткай, якая ўведзена загадам НКА БССР ад 2-га жніўня 1933 года і павінна быць складзена на кожнага вучня.

Асабовая картка вучня вядзецца групаводам. Звесткі аб нараджэнні ўпісваюцца на аснове метрычнай выпісі, звесткі аб соцпаходжанні—на падставе даных ад той установы, арганізацыі і прадпрыемства, дзе працуе ці працаваў глава сям'і.

Характарыстыка вучня на другой старонцы асабовай карткі даецца на падставе запіса табеля паспяховасці за чверць года. У канцы кожнага года ўнізе карткі робіцца адзнака аб пераводзе, застаўленні на другі год, выключэнні або выпуску. Карткі загатаўляюцца з тоўстай паперы, захоўваюцца ў асобных картатэках і раскладваюцца ў альфабетным парадку. Асабовыя карткі выбыўшых са школы вучняў вымаюцца з агульнай картатэкі і захоўваюцца асобна.

Класны журнал вядзецца групаводам, прымацаваным класным кіраўніком і выкладчыкам той або іншай дысцыпліны, у адпаведнасці з паясняльнай запіскай, змешчанай у брашуры школьнага сектара і сектара статыстыкі НКА РСФСР—„Аб уліку і справаздачнасці ў сярэдняй і пачатковай школе".

5 Менская ФЗД за першы квартал 1933-34 навучальнага года ў галіне арганізацыі ўліка работы правяла наступныя мерапрыемствы:

1. Вуснае апытванне вучняў пры ўрочнай сістэме заняткаў.
2. Пісьмовыя кантрольныя работы і
3. Праверку і ацэнку практычных заданняў, выкананых дома.

Акрэсленыя адказы вучняў на чотка сфармуляваныя і правільна пастаўленыя пытанні настаўніка з'яўляліся тымі данымі, на падставе якіх выяўляюцца вучнёўскія веды па данай дысцыпліне і даецца ацэнка ведаў як асобных вучняў, так і ўсёй групы ў цэлым.

Вуснае апытванне вучняў у школе з'яўлялася неадрыўнай часткай педагагічнага працэса, шчыльна звязвалася з тлумачэннем раней незасвоенага новага матэрыяла, які выпадкова мог быць настаўнікам прапушчаны пры правядзенні ўрока. Такім чынам вуснае апытванне было самаправеркай і для вучняў і для настаўніка.

Пісьмовыя кантрольныя работы—адзін з відаў школьнага ўліка. Настаўнік правярае рабочыя сшыткі вучняў, якія павінны весціся чарніламі, а не алоўкам. У іх вы знойдзеце запіс гутаркі настаўніка на лекцыі, вывад з яе зроблены настаўнікам, а ў старшых групах другога і трэцяга канцэнтра вывад саміх вучняў на падставе матэрыяла, выкладзенага ў лекцыі. У рабочым сшытку можна да пэўнай ступені знайсці адлюстраванне штодзённай работы ў школе па мове, літаратуры, матэматыцы, грамадазнаўству, гісторыі і прыродазнаўству.

Апрача рабочага сшытка, якім павінен цікавіцца кожны настаўнік, і правяраць яго не менш як раз у дэкаду для ўліка паспяховасці вучняў, у 5 ФЗД уведзены кантрольна-праверачныя пісьмовыя працы, прадугледжаныя па ўсіх дысцыплінах па навучальнаму плану. Гэтыя працы маюць на мэце палепшыць навучальную работу ў школе ў цэлым, групы і кожнага вучня паасобку, служаць колькасным і якасным паказчыкам работы вучня і самога настаўніка.

У 5 ФЗД выкладчыца рускай мовы і літаратуры па 6—9 групах Шыркова імкнулася пазбегчы кантрольна-праверачных работ па ўсіх старэйшых групах і абыйсціся толькі дыктоўкай, спасылаючыся на тое, што літаратурную тэму па „Слове аб палку Ігараве", ці творы Шэкспіра „Гамлет" падабраць цяжка. Выкладчык нямецкай мовы Лукашэвіч дагаварыўся да таго, што вучань нават 9-й групы не ў стане сваімі словамі зрабіць пераказ на гэтай мове: ні кароткага артыкула ні апавядання. Выкладчык геаграфіі Нікіфараў імкнуўся даказаць немагчымасць па 6 і 7 групах атрымаць самастойны лагічны расказ у пісьмовай форме па пройдзенаму матэрыялу.

Такім па сутнасці хвасцісцкім настроям, з боку навучальнай часткі і метадбюро быў дан належны адпор. Пісьмовыя работы па рускай літаратуры, расійскай, беларускай і нямецкай мове, матэматыцы і геаграфіі праведзены па ўсіх групах і далі належны эфект.

Усе кантрольна-праверачныя работы па другому і трэцяму канцэнтрах нашай школы былі ўзгоднены з навучальнай часткай і прыстасаваны да закончанага раздзела праграмы.

Па першаму канцэнтру вучні давалі адказы на запытанні, запісаныя на дошцы, праз анкеты складзеныя настаўнікамі па пройдзенаму матэрыялу, або праз вобразныя адбіткі—зарысоўкі вучнямі момантаў прапрацаванага матэрыяла.

Пісьмовыя кантрольныя работы, як метад уліка паспяховасці і агульнага развіцця дзяцей, маюць вялікае значэнне. Яны даюць зафіксаваны матэрыял таго, наколькі для вучня даступна і зразумела даручаная яму работа, як глыбока засвоіў і разабраўся вучань і ўся група ў цэлым, у праграмным матэрыяле.

Дысцыпліна і паводзіны як асобных вучняў, так і ўсей групы на працягу ўсяго рабочага часа ў школе характарызуюцца запісамі настаўнікаў у спецыяльных сшытках-дзённіках на кожнай лекцыі. У майстэрнях і на вытворчасці таксама ўведзены запісы паспяховасці і паводзін кожнага вучня і ўсёй групы.

На цыклавых метадычных аб'яднаннях і метадбюро школы прыняты меры да ліквідацыі непаспяховасці на працягу другога квартала бягучага навучальнага года з такім разлікам, каб гэты год сапраўды стаў годам ліквідацыі „карэннага недахопа“ у нашай школе.

Узброенае гістарычнымі пастановамі ЦК ВКП(б) аб школе, настаўніцтва павінна па баявому змагацца за політэхнічную школу Маркса-Леніна-Сталіна і пeратварыць улік у адзін з мацнейшых вагароў аўладання вучняў „асновамі навук“.

---

# НАША КАНСУЛЬТАЦЫЯ.

## Адчыняем кансультацыю

За апошнія гады наша школа значна прасунулася наперад. Пад кіраўніцтвам партыі яна зрабіла круты паварот ва ўсёй сваёй рабоце. Гэты паварот характарызуецца значнымі зрухамі па ліквідацыі адставання школы ад запатрабаванняў, якія прад'яўляюцца ёй сучасным этапам соцбудаўніцтва.

Да першага злёта ўдарнікаў-настаўнікаў школа прышла з цэлым радам дасягненняў у сваёй рабоце. Небачанымі тэмпамі разгортваецца справа ўсенавуча ў нашай краіне. Узрасла якасць вучэбна-выхаваўчай работы і зроблены пэўныя зрухі ў справе ліквідацыі карэннага недахопу. У большасці школ узмацнілася свядомая дысцыпліна, палепшыўся парадак, даволі паспяхова разгортваецца пазашкольная работа, асабліва ў гэтым годзе (арганізаванае правядзенне канікул, спробы арганізацыі выходнага дня школьніка і г. д.), урок з ужываннем розных метадаў стаў асноўнай формай вучэбных заняткаў, што павысіла іх эфектыўнасць. Школа атрымала ў гэтым годзе па большасці прадметаў стабільныя праграмы і падручнікі.

Уведзен цвёрды расклад заняткаў, значна палепшылася работа дзіцячых арганізацый (піонеры і ДСК), якія сканцэнтравалі сваю ўвагу галоўным чынам на пытаннях свядомай дысцыпліны, якасці вучобы, узмацнення комвыхавання дзяцей. Узрасла роля настаўніка як цэнтральнай фігуры педагагічнага працэса, палепшылася матэрыяльна-бытавое становішча настаўніцтва. У кожным раёне маюцца ўзорныя школы, некаторыя з якіх паказваюць сапраўдныя ўзоры барацьбы за якасць вучэбна-выхаваўчай работы.

Усё большымі клопатамі акружае школу працоўнае насельніцтва горада і вёскі. Распрацован статут школы, які чотка вызначае асноўнае палажэнне аб ёй, абавязкі настаўнікаў і вучняў. Расце і пашыраецца соцспаборніцтва і ўдарніцтва як сярод вучняў, так і настаўнікаў, выхоўваюцца новыя социялістычныя адносіны да працы, расце новы чалавек, актыўны ўдзельнік соцыялістычнага будаўніцтва.

Мы можам смела сказаць, што к першаму злёту ўдарнікаў-настаўнікаў совецкая політэхнічная школа БССР пад кіраўніц-

твам партыі і ўрада прышла больш моцнай, значна наблізілася па свайму зместу і якаснаму ўзроўню да тых запатрабаванняў, якія прад'яўляюцца зараз партыяй. Ніколі яшчэ школа не перажывала такога аграмаднага творчага ўздыму, які яна перажывае зараз.

Але маючыся поспехі нас не могуць здаволіць у поўнай меры; школа яшчэ мае цэлы рад недахопаў і значных прарываў. Патрабуецца ўдзесяцерыць нашу энергію, значна падняць усю нашу работу, асабліва, па якасных паказчыках.

Прагледзце матэрыял іспытаў, якія праводзіліся ў мінулым годзе, а таксама даныя бягучага ўліку паспяховасці вучняў гэтага навучальнага года, і вы ўбачыце, што ў радзе школ барацьба за трывалае засваенне асноў навук ідзе яшчэ дрэнна. Мы маем яшчэ цэлы рад школ, дзе вучні 5-6 і нават 7 груп пішуць зусім непісьменна, вучні 3 і нават 4 груп цэлага рада вясковых школ вельмі дрэнна чытаюць, маюць вельмі слабыя веды па геаграфіі і асабліва дрэнна арыентуюцца па карце.

Абследванне рада школ Мазырскага, Магілеўскага, Бягомльскага і іншых раёнаў паказала, што мы маем вельмі сур'ёзныя прарывы ў вобласці выхаваўчай работы. Сярод асобных вучняў і настаўнікаў маюцца шавіністычныя настроі, антысемітызм, нацдэмаўскія праявы, ёсць факты выступленняў супроць асобных мерапрыемстваў партыі і Савецкай улады.

Аб чым кажуць гэтыя факты? Яны сведчаць. што класавы вораг не спіць, а рознымі шляхамі імкнецца прывіць дзецям нашай школы элементы антыпралетарскай ідэалогіі. Там, дзе з боку кіраўніцтва школ, настаўніцтва і дзіцячых арганізацый прытуплена класавая пільнасць і слаба разгорнута выхаваўчая работа, класаваму ворагу часткова ўдаецца яго шкодніцкая работа.

Разам з гэтым трэба адзначыць слабую пастаноўку марксісцка-ленінскага выхавання самаго настаўніцтва, дзякуючы чаму ідэйна-палітычны ўзровень !настаўнікаў цэлага рада школ зусім нізкі. Таксама з'яўляецца нізкім і агульна-адукацыйны ўзровень пэўнай часткі настаўніцтва, асабліва таго, якое прыбыла ў школу з малай педагагічнай асветай. Каля 50 проц. настаўніцтва—гэта людзі скончыўшыя каротка-тэрміновыя курсы і з іх каля 20 проц. нават не скончыла сямігадовай школы. Не глядзячы на гэта, барацьба за аўладанне тэхнікай педагагічнага працэса, за аўладанне педагагічным майстэрствам пастаўлена дрэнна. Асабліва здзіўляе бяспечнасць часткі педмаладняка, якая ў значнай меры яўна недаацэньвае значэння аўладання тэхнікай педагагічнага працэса.

Цяжка пакуль яшчэ абстаіць справа з падручнікамі. Па некаторых дысцыплінах іх не хапае, а па некаторых і зусім яшчэ няма. Бедная яшчэ наша школа і нагляднымі дапаможнікамі, незаўсёды настаўнік ведае, як карыстацца нават і тымі нагляднымі дапаможнікамі, якія ёсць. Шмат недахопаў мы яшчэ маем ў справе політэхнізацыі, зусім слаба політэхнічная падрыхтоўка

самаго настаўніка, часта надзвычай штучна ўстанаўляецца сувязь паміж навучаннем і прадукцыйнай працай, а ў радзе школ фактычна ніякай vвязкі няма. Існуючыя рабочыя пакоі і майстэрні вельмі часта дрэнна абсталяваны. Шмат энергіі прыходзіцца затрачваць настаўніку і загадчыку школы ў справе ўстанаўлення свядомай дысцыпліны. Часам прымаюцца самыя разнастайныя мерапрыемствы, а вынікі зусім нязначныя. Як дабіцца большай эфектыўнасці ў гэтай рабоце?—Не заўсёды знаходзіць настаўнік канкрэтны адказ на гэта пытанне, нават і ад інструктара райАНА.

Мы значна павялічваем нашы запатрабаванні да настаўнікаў і гэта зусім правільна, але настаўнік патрабуе штодзённай дапамогі і аперацыйнага кіраўніцтва ў яго досыць цяжкай рабоце. Такая дапамога пастаўлена яшчэ далёка недастаткова. Інструктар-метадыст гор. і райАНА мала бывае ў школе, а калі і бывае, то больш фатаграфуе становішча школы. Ёсць выпадкі, што гэтыя інструктары не адпавядаюць прызначэнню па сваёй кваліфікацыі.

Дрэнна пастаўлена вячэрняя і завочная асвета настаўніцтва. Метадычныя лісты НКА і НДІ, якія, зразумела, аказваюць вялікую дапамогу настаўніку, вельмі часта затрымліваюцца ў канцэлярыі гор. і райАНА, паступаюць у школу з вялікім спазненнем і зусім у недастатковай колькасці. Такім чынам, уся наша сістэма мерапрыемстваў па павышэнню кваліфікацыі настаўніцтва, па канкрэтнай дапамозе настаўніцтву ў яго штодзённай рабоце, мае цэлы рад буйных недахопаў. Знішчыць гэтыя недахопы, дабіцца большай эфектыўнасці ва ўсей рабоце настаўніка і ў справе аказання яму неабходнай дапамогі,—з'яўляецца баявой задачай органаў Нарасветы і Саюза працасветы.

Часопіс „Комвыхаванне", як орган НКА і ЦП Саюза працасветы, павінен удзельнічаць у гэтай рабоце. „Комвыхаванне" павінна стаць актыўным дапаможнікам у рабоце настаўніка політэхнічнай школы.

Акрамя змяшчэння матэрыялаў аб тым, як трэба працаваць і паказа ўзораў работы лепшых школ „Комвыхаванне" адчыняе на сваіх старонках **кансультацыю для масавага настаўніцтва.** Мэта гэтай кансультацыі дапамагчы настаўніку масавай політэхнічнай школы ў яго практычнай рабоце, падняць ідэйна-палітычны і педагагічны ўзровень настаўніка. Кансультацыя адбываецца ў пісьмовай форме. Пытанні трэба пісаць выразна, чарнілами на адным баку паперы і чотка фармуляваць іх.

Нельга ставіць пытанне па прыкладу настаўніка Крычаўскага раёна, які запытвае, як паставіць урок фізкультуры ў групе. Невядома,—якая група, няма педолага-педагагічнай характарыстыкі групы, невядома абстаноўка заняткаў, наяўнасць абсталявання і г. д., а без гэтых вестак нельга даць правільнага канкрэтнага адказу на пытанне.

Або другі прыклад: настаўніца Парыцкай ШКМ піша, што ў яе групе амаль палова адстаючых і запытвае, што з імі рабіць. Даць адказ на такое агульнае пытанне, зразумела, надзвычайна цяжка, не маючы характарыстыкі групы. Трэба для гэтага ведаць здольнасці вучня, яго развіццё, памяць, умовы работы, грамадскую нагрузку, характар адставання, якая частка педагагічнага працэса з'яўляецца для вучня найбольш цяжкай (самастойная работа, кантрольная работа, вусны адказ або лабараторныя заняткі і г. д.). Кожны, хто падае пытанне праз 3-4 дні атрымлівае адказ у пісьмовай форме. Найбольш цікавыя пытанні і адказы будуць змяшчацца ў часопісу. Тыя школы альбо раёны, якія ўстановяць найбольшую сувязь з нашым часопісам, будуць абслугоўвацца праз спецыяльныя выезды працаўнікоў рэдакцыі альбо НКА для кансультацыі на месцы.

Асаблівую карысць ад кансультацыі павінен атрымаць педмаладняк, якому яна будзе найбольш карыснай. Нажаль, педмаладняк стаіць некалькі ў баку і не праяўляе дастатковай напорыстасці ў справе барацьбы за ауладанне тэхнікай педагагічнага працэса. Наша кансультацыя павінна з'явіцца магутнейшым сродкам павышэння якасці ўсёй выхаваўчай работы ў школе.

Кансультацыя праводзіцца лепшымі педагагічнымі сіламі НДІ комвыхавання, пры якім арганізавана спецыяльнае кансультацыйнае бюро.

---

## Заг. райана, настаўнікам пачатковых школ, ШКМ і ФЗС, раённым метадыстам і інструктарам, метадычным і прафесійным асветніцкім аб'яднанням, старшыням гор і райбюро ДКО і важатым піонератрадаў

*Дарагія таварышы!*

Комуністычная партыя, Совецкі ўрад і пролетарская грамадскасць патрабуюць ад нашай політэхнічнай школы хутчэйшай ліквідацыі карэннага недахопа ў вобласці ведаў і навыкаў вучняў, павышэння якасці вучобы, узмацнення комуністычнага выхавання.

Адным з важнейшых шляхоў у выкананні гэтых дырэктыў партыі і ўрада з'яўляецца рацыяналізацыя педагагічнага працэса, паляпшэнне метадаў выкладання, павышэнне педагагічнага майстэрства настаўніка.

У мэтах дапамогі настаўніцтву, пры Навукова-даследчым інстытуце комвыхавання БССР арганізавана бюро кансультацыйна-масавай работы. Задача бюро—на аснове збору вопыта і навуковых дасягненняў у вобласці педагагічнай тэорыі і практыкі сістэматычна праводзіць для шырокіх колаў настаўніцтва кансультацыі спецыялістаў па ўсіх пытаннях адукацыйна-выхаваўчай работы школы. Формы гэтых кансультацый і нарад, у залежнасці ад характара пытанняў, якія будуць высоўвацца працаўнікамі політэхнічнай школы,—наступныя:

а) на запытанні, рэзвязванне якіх мае агульнае значэнне для ўсіх школ, тлумачэнні будуць давацца праз часопіс „Комуністычнае выхаванне".

б) На запытанні больш вузкага характара адказы будуць давацца ў пісьмовай форме непасрэдна адрасату.

в) Асабістыя кансультацыі ў форме непасрэднай гутаркі з прыяжджаючымі і мясцовымі настаўнікамі будуць адбывацца ў самым інстытуце і педгабінеце пры Менскім ГарАНА.

У апошнім выпадку, жадаючыя атрымаць кансультацыю павінны за 2—3 дні папярэдзіць аб гэтым бюро кансультацыйна-масавай работы, якое своечасова вызначыць адпаведнага спецыяліста-кансультанта.

Кансультацыі будуць праводзіцца па наступных раздзелах педагагічнай работы:

1. Пытанні дадактыкі і методыкі, як агульнай, так і паасобных дысцыплін.
2. Пытанні комуністычнага выхавання.
3. Пытанні па зместу выкладання асобных прадметаў у межах праграмы пачатковай і сярэдняй школы.
4. Аб падручніках і дапаможніках.
5. Аб формах і метадах вучота работы.
6. Пытанні політэхнічна-вытворчага навучання.
7. Унутраны распарадак школы і рэжым дня.
8. Пытанні дзеткомруху.
9. Пытанні дзіцячага самакіравання.
10. Аб арганізацыі пазашкольнай работы з вучнямі.
11. Канструяванне прылад і наглядных дапаможнікаў, прыёмы карыстання імі.
12. Педалагічныя пытанні.
13. Павышэнне кваліфікацыі настаўніцтва.

За парадамі звяртацца па адрасу:

гор. Менск, Універсітэцкі гарадок, прыродазнаўчы корпус, Навукова-даследчы інстытут комвыхавання, тэл. № 22-706.

*Бюро кансультацыйна-масавай работы НДІ комвыхавання.*

## Супроць фальсіфікацыі доследаў

### Пытанні т. Суханава.

а) Мы паказваем вучням, што элодэяй, пры асвятленні яе сонцам, вылучаецца кісларод. Гэты кісларод збіраем ў прабірку. Працэс ідзе вельмі павольна, і кіслароду ў прабірцы вельмі мала. Ці можна ўвесці ў гэтую прабірку, у адсутнасці вучняў, штучна дабыты кісларод, каб вынікі доследа былі больш эфектыўнымі?

б) Мы паказваем, што пры гарэнні вадарода ўтвараецца вада, для выяўлення якой над полымем вадарода трымаем шклянку з халоднай вадой. Полымя вадарода маленькае і на шклянцы не з'яўляецца капелька вады. Ці можна, незаметна для вучняў, нахіліць шклянку так, каб з яе выцекла капелька вады на дно і каб у вучняў, такім чынам, атрымалася ўражанне, што гэтая капелька ўтварылася ад гарэння вадарода?

АДКАЗ: Гэтыя два пытанні можна сфармуляваць у выглядзе аднаго: „Ці можна фальсіфікаваць доследы або асобныя іх працэсы, каб гэтыя доследы былі больш эфектыўныя?“ На такое пытанне мы павінны з усёй катэгарычнасцю даць адмоўны адказ. Ніякай фальсіфікацыі доследаў на уроках нельга дапускаць. Пастанова ЦК аб школе і метадах выкладання патрабуе, каб мы далі вучням асновы навук, якія несумяшчальны з фальсіфікацыяй доследаў. Калі дослед не дае жадаемага эфекта, трэба аб'ясніць вучням прычыны гэтага і паўтарыць дослед, калі гэта дазволяць абставіны. Пры належнай падрыхтоўцы да доследа з боку настаўніка няўдачы бываюць вельмі рэдка.

*Касмовіч.*

# Як карыстацца ілюстрацыйным матэрыялам у гутарцы з вучнямі 1-й групы

Ілюстрацыйны матэрыял, падача якога метадычна арганізавана правільна, надзвычайна палягчае і актывізуе ўспрыйманне вучнем зместа гутаркі. Ілюстрацыйны матэрыял ў значнай ступені дапамагае інтэнсіўнасці ўвагі, садзейнічае эмацыянальнай насычанасці выкладання і засваення матэрыяла. Ілюстрацыйным матэрыялам на першым годзе навучання могуць быць малюнак, фото-плакат, мадэль, рознага рода дзіцячыя работы, картаграмы, схемы і г. д.

Настаўнік можа карыстацца рознымі ілюстрацыямі, але яму патрэбна заўсёды ведаць, у які момант і ў якой меры гэтыя ілюстрацыі павінны ўжывацца.

Ілюстрацыйны матэрыял мы павінны скарыстоўваць ў двух напрамках: а) пабудова зместа гутаркі выключна на ілюстрацыйным матэрыяле; б) выпадак, калі ілюстрацыйны матэрыял толькі суправаджае паасобныя этапы зместу гутаркі. І ў тым і ў другім выпадку трэба мець на ўвазе, што тая ці іншая арганізацыя ўспрымаемага ілюстрацыйнага матэрыяла, апроч станоўчых бакоў, аб якіх гаварылася вышэй, можа мець і адмоўныя бакі, так, малюнак як зрокавы раздражальнік можа адцягнуць ад сябе увагу вучня за кошт паслаблення яе на аналізе асноўнага зместа гутаркі. У такім выпадку гутарка можа перайсці ў прымітыўнае разгляданне малюнка.

Каб пазбегчы гэтага, ў тых выпадках калі на ілюстрацыйным матэрыяле будуецца ўвесь змест гутаркі, вельмі важна правільна арганізаваць самы падбор малюнкаў, у якіх неабходна прадугледзіць сістэматычнасць патрэбнага зместа, чоткасць і вобразнасць мастацкага афармлення, паслядоўнасць ў нарастанні інтарэса. Паказваючы малюнкі ў пэўным парадку трэба даць магчымасць разглядзець іх, пагаварыць аб іх і гэтым самым задаволіць асноўнае патрабаванне псіхалогіі дзіцячых ўспрыйманняў аб максімальнай канцэнтрацыі ўспрымаемага матэрыяла.

Калі матэрыял новы для вучня, то не варта перагружаць яго дэталёвымі тлумачэннямі і аналізамі. Неабходна больш увагі ўдзяліць выгляду прадмета і яго функцыям. Надта доўгая затрымка на аналізе і дэталёвых тлумачэннях знізіць інтэнсіўнасць увагі, рассейвае і стамляе. Пры паўторным аналізе, матэрыял трэба паглыбіць, спыняючыся на ролі данага прадмета, яго значэнні, сувязі з іншымі з'явамі і г. д. Зрокавая ўстаноўка тут павінна пераважаць, і змена малюнкаў павінна рэгулявацца ступенню напружанасці дзіцячай увагі да малюнка.

У другіх выпадках, калі нам патрэбна карыстацца ілюстрацыйным матэрыялам, як суправаджаючым асобныя этапы зместа гутаркі, метады карыстання малюнкам будуць некалькі іншымі. У гэтым выпадку патрэбна ўважліва сачыць у час гутаркі за правільнасцю ўяўленняў, за напружанасцю інтарэсаў і ўвагі, уносіць ілюстрацыйны матэрыял па меры яго патрэбы. У тых выпадках, калі вучні ведаюць змест гутаркі, увядзенне малюнкаў як дапаможных стымулаў будзе толькі адцягваць ўвагу вучня на зрокавыя устаноўкі, тармазіць яго думку. Уводзіць ілюстрацыйны матэрыял патрэбна толькі тады, калі ён неабходзен для павышэння якасці і зместа гутаркі, калі малюнак вобразнасцю свайго зместа сапраўды ўдасканальвае ўяўленне вучняў і дапамагае правільнаму вырашэнню тых ці іншых пытанняў.

УВАГА: Для больш глыбокага азнаямлення з закранутым пытаннем можна прачытаць наступную літаратуру:

1. АРТЕМОВ—Детская экспериментальная психология (глава о восприятиях).
2. ФЛОРИНА—Рассказывание и его источник.

*Казлоў.*

# Як трэба выпраўляць правапісныя памылкі ў вучнёўскіх сшытках.

Перш за ўсё трэба размежаваць выпраўленне выкладчыкам мовы або групаводам сшыткаў па мове і выпраўленне выкладчыкамі іншых дысцыплін сшыткаў

па іх прадметах. Абавязак першых не толькі заўважаць і выпраўляць памылкі, але сістэматызаваць і часта зварочвацца да іх, з мэтай засваення пэўнага правапіснага правіла. Абавязак другіх,—выпраўляючы сшытак, зварочваць увагу вучняў на памылкі, абавязкова выправіць іх, давесці да ведама выкладчыка мовы характар памылак пэўнага вучня або групы.

Як-жа выпраўляць памылкі? Спынімся на сшытках па мове. У першай і другой групе, дзе правапіс успрыймаецца галоўным чынам механічна, пераважна зрокавымі і слухавымі сродкамі, настаўнік не павінен паказваць вучню зробленыя апошнім памылкі. Вучань, убачыўшы выпраўленую чырвоным алоўкам (чарнілами) памылку, рэдка запомніць, у чым яе сутнасць. У яго сазнанні аднак застануцца два вобразы напісання, паміж якімі памяць будзе блытацца. Усё-ж памылка павінна быць выпраўлена: раіцца ў такіх выпадках аднолькавым чарнілам выправіць яе так, каб вучань нават не мог заўважыць выпраўленне. Калі-ж трэба выправіць слова поўнасцю,—яно вельмі старанна затушоўваецца чарнілами (не рабіць кляксаў) і наверху надпісваецца слова правільна. Вучню затым прапануецца голасна, або пра сябе прачытаць выпраўленую работу.

Пачынаючы з трэцяй групы шырока і сістэматычна пачынаюць уводзіцца правапісныя правілы, якія вучань павінен свядома ужываць ў сваёй практыцы. Тут, безумоўна, трэба звяртаць увагу вучня на яго памылкі, не ўбачыўшы сваіх памылак, ён не будзе ведаць аб іх, не зможа крытычна да іх адносіцца.

Вось чаму тут магчыма і **лёгкае вычорКванне** чырвонымі чарнілами памылковай літары з напісаннем зверху патрэбнай, і **перачорКванне** (каб заставіць яе бачнай) з напісаннем наверху правільнай, і толькі **падчорКванне** літары—з тым, каб звярнуць увагу вучня—пры абавязковай наступнай рабоце яго над выпраўленнем памылкі (у малодшых групах пад непасрэдным кіраўніцтвам выкладчыка, а ў старэйшых нават і самастойна). Тое-ж самае адносіцца і да цэлага слова, падлягаючага выпраўленню.

Зразумела, што можна ўжываць усе гэтыя спосабы разам ўзятыя — з перавагай таго ці другога віда ў залежнасці ад характара памылкі, узросту вучня, наяўнасці ў яго звычак і ведаў па правапісу.

Калі вучань старэйшай групы робіць памылкі аднаго-двух характэрных тыпаў, можна ўжываць і такі спосаб: падчоркнуўшы пэўныя памылковыя словы (літары), накіраваць вучня да пэўнага параграфа ў кнізе для ўсведамлення з'явы і больш ўпэўненага наступнага выпраўлення вучнем яго уласных памылак. Пры гэтым выкладчык абавязан праверыць выпраўленыя вучнем сшыткі.

Ці патрэбны чарнавікі і белавікі?

Безумоўна трэба змагацца за адзін сшытак, дабіцца таго, каб вучань зразу пісаў чыста і беспамылкова. Аднак, трэба адрозніць работы практыкавальнага і творчага парадку. У першым выпадку сшытак адзін (зразумела, па прадмету), ён выпраўляецца і застаецца без перапісванняў. У другім выпадку ў вялікай меры будуць розныя правапісныя з'явы, колькасць памылак, а значыцца і выпраўленняў напэўна будзе большая, разам з правапіснымі будуць і выпраўленні стылістычнага парадка, таму тут „белавік" з'яўляецца неабходным. Акрамя правапісна-стылістычнай карысці, якую вучань атрымае пры спісванні ён застаецца больш задаволеным сваей творчай работай, а гэта будзе стымулам для яго далейшай працы. І начыстае перапісванне творчых работ не вызваляе выкладчыка ад абавязка часта заглядваць ў гэтыя сшыткі.

Безносік

---

# БІБЛІАГРАФІЯ

*Лібман А. С.*

## Не падручнік, а палітычна-шкодная блытаніна

*(Пра кнігу А. Пеўзнера „Грамадазнаўства“, выд. ДВБ 1933 г.)*

Рэцэнзуемая кніга А. Пеўзнера „Грамадазнаўства“ прызначана для вячэрніх школ і рабфакаў. Даючы прынцыпова-партыйную пастаноўку праблем, падручнік гэты павінен адрозніваცца параўнаўчай сціласцю, папулярнасцю і лёгкасцю ізлажэння.

Аднак, якасці гэтыя заменены вульгарызацыяй. У кніжцы адсутнічае партыйная бальшэвіцкая пільнасць, абыйдзены асноўныя метадалагічныя ўказанні Маркса, Леніна, Сталіна, аб падыходзе да кожнага пытання грамадскай навукі з пункта гледжання асноўнай гістарычнай сувязі; кніжка наскрозь прасякнута трацкісцкай контррэволюцыйнай фальсіфікацыяй гісторыі большэвізма, варожымі ўстаноўкамі па асноўных пытаннях нашага соцыялістычнага будаўніцтва.

І вось гэты шкодны, псеўда-папулярны, трацкісцкі падручнік, Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі ў 1933 годзе, выключна даверыўшыся „сумленню“ аўтара, прыпадносіць совецкай моладзі, студэнтам рабфакаў і дарослым слухачам вячэрніх школ, упершыню прыступаючым да вывучэння грамадазнаўства.

На старонцы 3-й з самага пачатка пішацца: „Буйнейшай заваёвай навуковага комунізма ў адрозненне ад утапічнага соцыялізма пачатка XIX стагоддзя з'яўляецца тэарэтычнае абгрунтаванне немінучасці знікнення капіталізма і замена яго новым бясккласавым грамадствам“. Ці не ясна, што такая фармуліроўка навуковага комунізма прыймальна абсалютна для ўсіх, пачынаючы ад Каўцкага, Баўэра і іншых соцыял-фашыстаў, якія агалцела змагаюцца супроць пролетарскай рэволюцыі і канчаючы контррэволюцыйным трацкізмам, перадавым атрадам контррэволюцыйнай буржуазіі.

Справа, „паважаны аўтар“, не толькі ў тэарэтычным абгрунтаванні немінучасці знікнення капіталізма і замены яго новым

бяскласавым -грамадствам. Справа ў тым, што заснавальнікі навуковага комунізма Маркс і Энгельс паказалі **той шлях, шлях пролетарскай рэволюцыі і дыктатуры пролетарыята,** які толькі і робіць знікненне капіталізма немінучым і супроць якога так дзіка апалчаюцца ўсе сілы контррэволюцыі, у тым ліку соцыялфашысты ўсякіх колераў і ўсе рэнегаты комунізма.

Мала таго, маючы перад сабой багацейшую скарбніцу навуковага комунізма ў ленінскай спадчыне, у ленінізме, як працягу і далейшым развіцці марксізма эпохі імперыялізма і пролетарскіх рэволюцый, нельга гаварыць аб навуковым комунізме, не ўлічваючы таго велічэзнага і новага, што ўнесена ў яго Леніным—Сталіным. Вось чаму навуковы комунізм—гэта глыбокае навуковае абгрунтаванне Марксам, Леніным, Сталіным тэорыі пролетарскай рэволюцыі і дыктатуры пролетарыята, як працяглага пераходнага перыяда ад капіталізма да соцыялізма, тэорыя магчымасці пабудовы соцыялізма ў аднэй краіне, пад кіраўніцтвам загартаванай у баях комуністычнай партыі. Вось у гэтым буйнейшая заваёва навуковага комунізма. Толькі гэта з'яўляецца тым асялком, на якім правяраюцца прыхільнікі альбо праціўнікі навуковага комунізма.

А як прызнае Пеўзнер усе ўказаныя намі асновы навуковага комунізма, відаць з наступных яго радкоў на той-жа старонцы: **„Пролетарская рэволюцыя, якая адбываецца ў аднэй краіне— ёсць толькі сродак для разгортвання сусветнай рэволюцыі. Сусветная пролетарская рэволюцыя знішчыць панаванне капіталізма, зломіць буржуазную дзяржаву—гэты апарат прыгнечання працоўных і створыць дыктатуру пролетарыята“.**

Значыцца, пролетарская рэволюцыя ў аднэй краіне можа толькі адбывацца, але знішчыць панаванне капіталізма, нават зламаць буржуазную машыну і стварыць дыктатуру пролетарыята зможа толькі сусветная пролетарская рэволюцыя. Ці патрэбна даказваць, што гэта—самае цынічнае паўтарэнне асноў разбітага ўшчэнт контррэволюцыйнага трацкізма, пад разарваным і зганьбаваным сцягам якога ніхто зараз адкрыта выступіць не асмельваецца.

Ітак, у навуковым комунізме Пеўзнер не прызнае „аднэй толькі“ рэчы—магчымасці пабудовы соцыялізма ў аднэй краіне, становячыся тым самым па той бок ленінскай тэорыі пролетарскай рэволюцыі і пабудовы соцыялізма.

Ці выпадкова гэта?—Далейшы разгляд „падручніка“ паказвае, што гэта зусім не выпадкова. Першы раздзел „Падручніка“ завецца — „Нераўнамернасць развіцця капіталізма і перамога соцыялізма ў аднэй краіне“. За выключэннем таго, што ў першым раздзеле толькі мімаволі адзін раз упамянут закон нераўнамернага развіцця капіталізма, імперыялізм разглядаецца зне гэтага закона, адарвана ад яго. Закон гэты разглядаецца чамусці асобна.

Але як разглядаецца гэты закон? Трэба было паказаць абвастрэнне і паглыбленне гэтай нероўнамернасці развіцця капіталізма ў перыяд імперыялізма, як указвалі Ленін і Сталін, але-ж Пеўзнер аб гэтым не гаворыць ні слова.

Тав. Сталін піша: „Не противоречит ли рост нивелировки усилению неравномерности развития при империализме? Нет. Не противоречит. Наоборот. Нивелировка есть тот фон и та база, на основе которой и возможно усиление действия неравномерности развития при империализме. Только люди, не понимающие экономической сущности империализма, вроде наших оппозиционеров, могут противопоставлять нивелировку—закону неравномерности развития при империализме. Именно потому,—прадаўжае тав. Сталін,—что отставшие страны ўскоряют свое развитие, нивелируются с передовыми странами,—именно поэтому обостряется борьба за опережение одних стран другими. Именно поэтому создается возможность для одних стран перегнать другие страны и вытеснить их из рынка, создавая тем самым предпосылки для военных столкновений, для ослабления мирового фронта капитализма, для прорыва этого фронта пролетариями различных капиталистических стран. Кто не понял этой простой вещи, тот ничего не понял в вопросе об экономической сущности монополистического капитализма" (Об оппозиции, стр. 514—515). Вось адсюль і магчымасць перамогі соцыялізма ў адной краіне.

Адмаўленне альбо замоўчванне фактаў узмацнення і абвастрэння нероўнамернасці развіцця ў перыяд імперыялізма,—вядзе да пазіцыі ўльтра-імперыялізма, да адмаўлення перамогі соцыялізма ў аднэй краіне.

Пеўзнер замоўчвае гэтае асноўнае ў законе нероўнамернага развіцця капіталізма. Ён і словам не ўпамінае аб барацьбе партыі з контррэволюцыйным трацкізмам па гэтаму пытанню, барацьбе, у аснове якой ляжала пытанне магчымасці перамогі соцыялізма ў аднэй краіне.

Такім парадкам, трацкісцкае разуменне закона нероўнамернага развіцця перыяда імперыялізма шчыльна звязана з выказаным трацкісцкім контррэволюцыйным тэзісам аб немагчымасці перамогі соцыялізма ў аднэй краіне.

Раскрыем старонку 106—107 чацвертага раздзела: „Пасля перамогі пролетарыята,—гаворыцца там,—нельга адным ударам пакончыць з капіталам, бо, як мы ўжо ведаем, астаюцца яшчэ эксплаататары, аказваючыя шалёнае супраціўленне, астаецца міжнародная буржуазія, астаецца дробная вытворчасць, параджаючая стыхійна капіталізм, астаюцца старыя буржуазныя звычкі—і супроць **усяго гэтага** павінна дыктатура пролетарыята весці барацьбу" (падкрэслена мною, А. Л.).

Значыцца, дыктатура пролетарыята павінна аднолькава весці барацьбу і з дробнай вытворчасцью, параджаючай стыхійна капіталізм, і з міжнароднай буржуазіяй, і з эксплаата-

тарамі. Адсюль, не саюз з працоўным сялянствам прапануе нам Пеўзнер, не перавод дробнага вытворцы шляхам працяглай церпялівай работы на соцыялістычныя рэйкі праз калгасы, не пераробку працоўнага селяніна пад гегемоніяй пролетарыята ў свядомага працаўніка соцыялістычнага грамадства, а толькі барацьбу з ім, тымі-ж формамі і метадамі, як і з буржуазіяй.

Чым гэта адрозніваецца ад праславутай трацкісцкай канцэпцыі аб немінучасці стаўкнавення з працоўным сялянствам, аб немагчымасці, стала быць, унутранымі сіламі, будаваць і пераможна пабудаваць соцыялізм? Як бачым, нічым.

Малады чытач, не знаёмы яшчэ з гісторыяй большэвізма, гісторыяй доўгай, упартай, непрымірымай барацьбы большэвікоў з ўсякага рода апартунізма які перарастае ў сілу жалезнай логікі класавай барацьбы ў контррэволюцыю,—можа гэта прыняць за чыстую манету. Яму яшчэ можа быць невядомай тая жорсткая барацьба, якую вытрымала партыя, на чале з тав. Сталіным, з контррэволюцыйным трацкізмам наогул, і па гэтаму пытанню ў прыватнасці. Іменна, аб гэтай барацьбе супроць Троцкага т. Сталін і пісаў на стар. 298-299 „Вопросов ленинизма" выд. 1932 года: „Крестьянское хозяйство, не есть капиталистическое хозяйство. Крестьянское хозяйство, если взять подавляющее большинство крестьянских хозяйств, есть хозяйство мелко-товарное. А что такое мелко-товарное крестьянское хозяйство?—Это есть хозяйство, стоящее на распутьи между капитализмом и социализмом. Оно может развиться и в сторону капитализма, как это происходит в капиталистических странах, и в сторону социализма, как это должно произойти у нас, в нашей стране, при диктатуре пролетариата".

Альбо вазміце старонку 207 гэтага „падручніка". Там сказана: „Расія была краінай, дзе супярэчнасці паміж развіваючыміся капіталістычнымі адносінамі і перажыткамі фаадалізма дасягалі крайніх межаў, дзе былі надзвычайна абвостраны і напружаны супярэчнасці: паміж сялянствам і памешчыкамі, паміж пролетарыятам і буржуазіяй, паміж пролетарыятам і і сялянствам, з аднаго боку і царскім самадзяржаўем з другога боку". Гэта палітычна шкодная, блытаная фраза можа быць растлумачана двояка: альбо супярэчнасці паміж пролетарыятам і сялянствам былі настолькі абвостраны і напружаны, як паміж сялянствам і памешчыкамі, як паміж пролетарыятам і буржуазіяй, што з'яўляецца дадатковым падмацаваннем неаднакрац паўтараючыхся трацкісцкіх контррэволюцыйных палажэнняў; або гэту фразу можна зразумець так, што ўсе гэтыя сілы: і сялянства, і памешчыкі, і пролетарыят, і буржуазія,—усе яны вядуць барацьбу з царскім самадзяржаўем, што зноў такі з'яўляецца нахабным паўтарэннем трацкісцкага тэзіса аб надкласавасці рускага самадзяржаўя.

Зусім невыпадкова адмаўленне магчымасці перамогі соцыялізма ў нашай краіне, Пеўзнер добрадушна называе толькі

„апартунізмам" і „блытанінай". Гэта мяккасць у адносінах да контррэволюцыйнага трацкізма выпірае ў нашага аўтара адкрыта. „Трацкізм,—пішацца на 39 старонцы,—перацэньвае сілу нашых ворганаў (мабыць, патрэбна чытаць—„ворагаў", А. Л.) ён бачыць толькі магчымасць рэстаўрацыі капіталізма і не бачыць другой магчымасці—пабудовы соцыялізма"; або на старонцы 41: „Гэтай ленінскай тэорыі перарастання буржуазна-дэмакратычнай рэволюцыі ў соцыялістычную, якая ўлічвае ўсю рэволюцыйную магчымасць сялянства пад кіраўніцтвам пролетарыята, люксембургіянства супроцьстаўляе ў 1905 годзе тэорыю перманентнай рэволюцыі (аўтарамі яе былі: Парвус і Троцкі). Прыхільнікі гэтай тэорыі,—гаворыцца далей,—прапанавалі адразу распачаць справу з улады пролетарыята, адкідваючы гэтым такую моцную сілу, як наша сялянства. Па сутнасці гэтая тэорыя недаацэньвала сілу і энергію сялянства і адмаўляла здольнасць пролетарыята павесці за сабой гэтае сялянства".

Ці досыць гэтага?—Якава сапраўдная ацэнка тэорыі перманентнай рэвалюцыі? „Перманентная революцыя есть такая недооценка крестьянского движения,—піша тав. Сталін,—которая ведет к отрицанию ленинской теории диктатуры пролетариата" („Вопросы ленинизма", стр. 106, издание 4-е). „Перманентная революция"—піша далей тав. Сталін,—есть отрицание ленинской теории пролетарской революции", и наоборот—ленинская теория пролетарскай революции есть отрицание теории„ перманентной революции. Неверие в силу и способности нашей революции, неверие в силу и способности русского пролетариата,—такова подпочва теории „перманентной революции". („Вопросы ленинизма" стр. 114).

Вось сапраўдная ацэнка гэтай тэорыі, надзіва мякка расцэньваемай Пеўзнерам. Але ў гэтай вытрымцы наогул сказваецца ігнараванне тав. Сталіна, выпрабаванага правадыра нашай партыі. Не гледзячы на прамыя ўказанні тав. Сталіна ў лісце,—„Об основных вопросах большевизма", што аўтарамі тэорыі перманентнай рэволюцыі былі Парвус і Роза Люксембург, а Троцкі падхапіў гэтую контррэволюцыйную кашу для барацьбы з Леніным у 1905 годзе, Пеўзнер аднак, упарта працягвае свае няправільныя сцвярджэнні, што нібы-та аўтарамі яе былі Парвус і Троцкі.

Або на чацвёртай старонцы пішацца аб мануфактуры: „Не хапіла толькі машыны, каб быў капіталізм". Ці можна знайсці больш непісьменнае месца? Хіба незразумела, што Марксава тэорыя называе буйнай машыннай індустрыяй толькі вышэйшую ступень капіталізма ў прамысловасці? „Крупная машинная индустрия,—піша Ленін,—является таким образом последним словом его (капитализма, Л.) отрицательных и „положительных" моментов". (Ленін, том III, стар. 353).

На старонцы 7-й аўтар піша: „так выглядае каланіяльная палітыка ў перыяд гандлёвага капітала". І гэта піша чалавек,

які, нажаль, выкладае ў ВНУ гістмат, і якому, трэба, думаць вядома пра доўгую дыскусію вакол гэтага пытання з Дуброўскім і К⁰, якому, трэба думаць, не магла быць невядомай пазіцыя нашага тэарэтычнага фронта, адмаўляючага нейкі асобны перыяд або фармацыю гандлёвага капіталізма.

Характэрна, што кажучы аб памылках Розы Люксембург, зусім не гаворыцца аб іх меншавіцкім характары (стар. 40, 41, 42). На 42 старонцы пішацца: „Памылкі Люксембургіянства могуць зрабіць ракавы ўплыў на лёс прадстаячых рэволюцый, калі не будуць зжыты гэтыя памылкі сярод рабочага класа". Выходзіць, што гэтыя люксембургіянскія памылкі ўласцівы рабочаму класу цалкам, што з'яўляецца нічым іншым, як агідным паклёпам на рабочы клас.

Адчынім старонку 46... „вось чаму,—пішацца там,—барацьба на два фронты з'яўляецца адзіна правільнай палітыкай партыі". Барацьба на два фронты прадстаўляецца як палітыка партыі, як самамэта, а не як неабходная ўмова правільнага правядзення генеральнай лініі партыі.

У раздзеле 3-м, на стар. 69—70 мы чытаем: „другой рысай, якая характарызуе агульны крызіс капіталізма, з'яўляюцца разгарнуўшыяся пасля вайны пролетарскія рэволюцыі і агульны рост ў Эўропе і ў калоніях". Нібы-та і для калоній характэрны адразу пролетарскія рэволюцыі, характэрна пераскокванне праз этап буржуазна-дэмакратычных рэволюцый, перарастаючых у соцыялістычныя,—тэорыя, якая непасрэдна змыкаецца з трацкізмам.

Колькі яшчэ вапіючых скажэнняў. Проста нудна робіцца сачыць за кожнай старонкай кнігі!

Характэрна яшчэ тое, што ва ўсім раздзеле ўсеагульнага крызіса капіталізма ні слова не гаворыцца аб трох перыядах, устаноўленых VI-м кангрэсам Комінтэрна; няма ні гука аб рашэннях XII пленума ВККІ пра канец капіталістычнай стабілізацыі і пераход да новага тура войн і рэволюцый. Усе супярэчнасці ўсеагульнага крызіса разглядаюцца абстрактна „вообче", па-за гістарычнай абстаноўкай таго ці іншага перыяда, а пры такім разглядзе гістарычных з'яў ні ў якім разе, як вядома, правільнага аналіза зрабіць нельга.

Альбо вазміце падзагаловак „Клас супроць класа" (стар. 84). Дарэмна вы будзеце шукаць у гэтым раздзеле адказа на пастаўленае пытанне. Вы яго не знойдзеце. Гаворыцца аб усім, толькі не аб тактыцы абвастрэння барацьбы брацкіх компартый з соцыял-фашызмам, як класа супроць класа.

**У** раздзеле „Сучасны сусветны эканамічны крызіс на базе ўсеагульнага крызіса капіталізма" (стар. 88—96), сусім не падкрэслена асноўнае, што гэты крызіс адбываецца **на грунце ўсеагульнага крызіса капіталізма** і г. д.

Узорам нябачанай непісьменнасці, блытаніны і палітычнай шкоднасці, з'яўляюцца старонкі 152, 153, дзе гаворыцца: „Пасля

яе (буржуазіі, Л.) звяржэння ўся гэта старая культура застаецца пролетарыяту, які павінен скарыстоўваць гэта для сваіх мэт, паставіць гэту культуру сабе на службу".

„Уся старая культура застаецца пролетарыяту" (?). Няўжо, звяржэнне буржуазіі і стварэнне дыктатуры пролетарыята—нічога, па думцы аўтара, не мяняе ў „гэтай старой культуры"? Няўжо такія факты як нацыяналізацыя пролетарскай дыктатурай зямлі, банкаў, фабрык, заводаў, транспарта і г. д. пакідае недатыкальнай старую буржуазную культуру? Няўжо-ж нарэшце, такі бясспрэчны довад, як творчае пераможнае будаўніцтва соцыялізма ў нас, не змяняе ў корані гэтай старой культуры, укладаючы ў яе зусім новы, небывалы, дасюль невядомы змест, змест соцыялістычны? Справа ў тым, што аўтар разглядае культуру адцягнена, адарвана ад таго соцыяльнага асяроддзя, з якога і ўнутры якога яна развіваецца, адарвана ад пануючых вытворчых адносін і тыпа дзяржаўнай улады, ад таго, што надае ёй класавы змест, за межамі якога не стаіць ні адна культура. Вось чаму аўтар і піша, на стар. 152, што: „**цалкам і поўнасцю** ўкараніць у наш быт буржуазную культуру (курсіў наш Л.) у тым выглядзе, у якім яе прымяняў капіталізм у час свайго панавання, гэта значыла-б, урэшце, знішчыць дыктатуру пролетарыята, ператварыць СССР у буржуазную рэспубліку".

Як быццам падлягае спрэчкам пытанне „поўнасцю альбо не поўнасцю", „цалкам альбо не цалкам" укараніць у наш быт буржуазную культуру.

Безумоўна, што пролетарыят павінен аўладаць усімі багаццямі ведаў чалавецтва ва ўсіх ступенях яго развіцця, бо „Пролетарская культура должна явиться закономерным развитием тех запасов знания, которое человечество выработало под гнетом капиталистического общества, помещичьего общества, чиновничьего общества". (Ленін, том 25 нз. ст. 3-е 387).

Але справа ў тым, што культура пры дыктатуры пролетарыята, ствараемая пролетарыятам пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, з'яўляецца па свайму зместу не старой буржуазнай культурай, а яе антыподам,—**культурай соцыялістычнай па зместу, нацыянальнай па форме**. Якраз, вось гэта галоўнае ва ўсёй праблеме культурнай рэволюцыі ў аўтара адсутнічае, гэтага ён не зразумеў. Вось чаму ва ўсім раздзеле няма ні слова аб культуры соцыялістычнай па зместу, нацыянальнай па форме.

Прагледзьце стар. 153 і вам стане зусім зразумелым поўнае скажэнне аўтарам марксісцка-ленінскага разумення партыйнасці навукі. Чаго варта хоць-бы такая мясціна гэтай старонкі: „З гэтых буржуазных навук пролетарыят бярэ толькі некаторыя месцы іх, а іменна тыя, дзе буржуазны вучоны дае фактычны матэрыял, дае пералік фактаў і пролетарыят бярэ іх пасля крытычнага аналіза, пасля таго, як ён пераканаўся наколькі гэты фактычны матэрыял добрасумленна адабран".

Ці незразумела, што мы маем тут поўнае выпустошванне партыйнасці навукі, выпустошванне, якое выгадна толькі контррэволюцыйнай буржуазіі і вядзе нашага аўтара да таго, што ў яго аб'ектыўна атрымліваецца поўная ідэалізацыя буржуазнай навукі.

Альбо ўзяць стар. 156 таго-ж раздзела: „Пабудова соцыялізма,—пішацца там,—патрабуе знішчэння перажыткаў капіталізма ў эканоміцы і сазнанні людзей. Інакш кажучы, у другім пяцігоддзі нам патрэбна будзе разгарнуць барацьбу за ліквідацыю такой спадчыны капіталізма, якая носіць назву разрыва паміж фізічнай і разумовай працай. Прадпасылкі для такой барацьбы заключаюцца ў тых зрухах, які мы маем на сёнешні дзень у галіне ўсеагульнай пісьменнасці і навучання, у галіне падрыхтоўкі тэхнічных і іншых высокакваліфікаваных кадраў.

Безумоўна, што прадпасылкі і матэрыяльныя і культурныя для барацьбы за знішчэнне супроцьлегласці паміж разумовай і фізічнай працай у нас ёсць, але фармуліроўка даная аўтарам і не суправаджаемая крытыкай тых „тэорый", якія бачаць магчымасць канчатковага вырашэння гэтай супярэчнасці ўжо ў другой пяцігодцы,—прыводзіць да таго, што можна меркаваць, нібы-та ліквідацыя разрыва паміж фізычнай і разумовай працай непасрэдна стаіць перад намі ў другой пяцігодцы. Між тым, тав. Молатаў у сваёй прамове на XVII партканферэнцыі гаворыць: „Но ставить задачу уничтожения противоположности между умственным и физическим трудом уже во второй пятилетке мы считаем преждевременной, не отвечающей об'ективным предпосылкам" (Стенаграфічная спрваздача, стар. 149). Аўтар відавочна хоча быць лявей большэвікоў, справядліва ўдарыўшых па гэтаму „леваму загібу". Але пойдзеш налева, прыдзеш направа—так і з аўтарам.

Або раскрыем старонку 204, дзе сказана наступнае: „Супроць палітыкі партыі, супроць яе генеральнай лініі выступаюць правыя і „левыя" ухілісты, адлюстроўваючы **ўхілы варожых пролетарыяту класаў** (курсіў наш. А. Л.). Значыць, варожыя пролетарыяту класы толькі „ухіляюцца" ад генральнай лініі партыі.

На старонцы 209 сцвярджаецца наступнае: „Гістарычная заслуга групы „Вызваленне працы", якая арганізавалася за граніцай у 1883 годзе, заключаецца ў тым, што гэта першая арганізацыя расійскіх марксістаў нанесла руйнуючы ўдар народніцтву". Ці патрэбна даказваць, што група „Вызваленне працы", якая сама ў цэлым радзе пытанняў ішла на ўступкі народніцтву не магла нанесці яму руйнуючага ўдара, што не яна з'яўлялася сапраўднай арганізацыяй рускіх марксістаў.

У раздзеле „Культурная рэволюцыя" няма ні слова аб пазіцыі Ваганяна па нац. пытанню, ні слова аб контррэволюцыйнай пазіцыі трацкізма па пытаннях культурнай рэволюцыі, ні слова аб тактыцы Бунда па нацыянальнаму пытанню.

Вось якой шкоднай трацкісцкай контррэволюцыйнай блытанінай спрабавала ў 1933 годзе набіваць галовы совецкай моладзі былое кіраўніцтва ДВБ, даверыўшыся сумленню А. Пеўзнера. Вінаватыя за яе выданне павінны панесці самую суровую адказнасць. Кніжка Пеўзнера зусім правільна зараз із'ята, але было-б лепш яе не выдаваць.

## На барацьбу з карэнным недахопам

**С. Равін.** *Стан ведаў па геаграфіі ў 4-й групе.* Вучпедсектар ДВБ. Менск. 1933 г.

У сваёй пастанове аб навучальных праграмах і рэжыме ў пачатковай і сярэдняй школе, ад 28|VIII мінулага года,—Цэнтральны камітэт ВКП(б) вызначыў рад канкрэтных мерапрыемстваў па ліквідацыі „карэннага недахопа", якія павінны легчы ў аснову ўсёй сістэмы вучэбна-выхаваўчай работы. Спыняючыся на выкладанні геаграфіі, ЦК прызнаў неабходным „забяспечыць веданне карты, у асаблівасці карты СССР, асноўных элементаў фізічнай, прыроднай і эканамічнай геаграфіі СССР, як у цэлым, так і кожнай з рэспублік, краёў і вобласцей паасобку", а таксама набыццё ў належным аб'ёме ведаў па геаграфіі капіталістычных краін.

У парадку праверкі рэалізацыі гэтага пункта, НДІ комвыхавання наладзіў абследванне стана ведаў па геаграфіі ў пачатковай і сярэдняй школе. На падставе матэрыяла абследвання складзена даная брашура.

Абгрунтаваны лічбамі, аналіз вучнёўскіх ведаў па чацвёртых групах паказвае, што к канцу мінулага навучальнага года школа прыкметна прасунулася наперад у галіне ліквідацыі карэннага недахопа. Але тым не менш, патрэбна далейшая, напружаная работа па палепшанню якасці засваення геаграфічных ведаў, якія ў частцы школ яшчэ далёка не знаходзяцца на належнай вышыні. Рад школ закончыў 1932-33 навучальны год з нездавальняючымі паказчыкамі ведаў па данай дысцыпліне.

Праграма 4-й групы прадугледжвае свабодную арыентыроўку па карце СССР, набыццё агульных і сістэматызаваных ведаў аб Совецкім саюзе, яго геаграфічным распалажэнні, паверхні, клімаце, асноўных прыродных багаццях, буйнейшых індустрыяльных аб'ектах і г. д. Між тым, вучні некаторых ФЗС і ШКМ у канцы 4-га года навучання выявілі значную блытаніну ў ведах, якая часам мяжуе з непісьменнасцю.

Так, напрыклад, некаторыя з іх, паводле анкетных даных, лічаць, што СССР непасрэдна граніцыць з Літвой, Амерыкай, Германіяй ды інш. Частка вучняў апроч таго блытае размяшчэнне рэк, мораў і асаблівасці прыродна-кліматычных зон нашага Саюза.

Такім чынам, у радзе месц барацьба за знішчэнне карэннага недахопа ў прыватнасці па геаграфіі яшчэ не стала ў цэнтры ўвагі настаўнікаў. Нажаль, аўтар часта не ідзе далей канстатацыі фактаў, не ўскрывае з належнай паўнатой **прычыны адставання вучняў** у абследваных школах, абмяжоўваецца агульнымі фразамі аб іх. Трэба было на жыццёвых прыкладах са школьнай практыкі паказаць, **як нельга навучаць вучняў геаграфіі, разабраць канкрэтны ўрок.**

У брашуры падаюцца весткі і аб перадавых школах, якія ў барацьбе за рэалізацыю дырэктывы ЦК дасягнулі добрых рэзультатаў. Такіх школ нямала. Натуральна было-б чакаць паказу **вопыта гэтых лепшых школ, выяўлення шляхоў і метадаў, пры дапамозе якіх выкладчыкі змаглі забяспечыць добраякаснае і трывалае асваенне вучнямі геаграфічных ведаў.** Замест гэтага аўтар лічыць магчымым абмежавацца агульнай заўвагай, што бачыце, „у перадавых школах веды добрыя таму, што настаўнікі працуюць па ўдарнаму і з'яўляюцца лепшымі ўдарнікамі". Як кажуць,—„коратка і ясна". У чым сутнасць гэтай ударнай работы—застаецца сакрэтам аўтара.

Аўтар дае ад сябе некаторыя ўказанні аб тым, як палепшыць якасць выкладання геаграфіі. Карэнні непасняховасці ён бачыць у павярхоўным механічным праходжанні матэрыяла, які прапрацоўваецца фармальна, шляхам зуброжкі, без належнага асмыслення вучнямі. Але рэкамендуючы настаўніку карыстацца самымі **рознастайнымі** прыёмамі работы, ён зусім мала спыняецца на іх.

Для выяўлення геаграфічных ведаў і збора матэрыялаў, што ляглі ў аснову брашуры, скарыстаны толькі пісьмовыя адказы вучняў, даныя імі на анкетныя пытанні. Не было, як відаць, непасрэднай гутаркі з дзяцьмі і праверкі іх ведаў ля карты, што з'яўляецца недахопам абследвання і робіць вывады няпоўнымі.

Тым не менш, сабраны аўтарам матэрыял прадстаўляе цікавасць, з'яўляецца характэрным у мінулым годзе для рада школ і ў асноўным служыць малюнкам стана ведаў па геаграфіі ў 1932-33 навучальным годзе. Шкада толькі, што ён недастаткова апрацован з метадычнага боку.

*І. Зэльцар*

**А. Кісялёў.** *Алгебра. Падручнік для сярэдняй школы,* частка першая, для 6 і 7 г. г. навучання, зацверджана Калегіяй НКА РСФСР пад рэдакцыяй А. Н. Барсукова. Выданне 10-е, пераапрацаванае. ДВБ. Вучпедсектар, Менск, 1933 г.

Алгебра Кісялёва на працягу некалькіх дзесяткаў гадоў заслужана карысталася вялікай папулярнасцю ў сярэдняй школе. Нават у гады захаплення лабараторным метадам, калі ў школах панавалі праславутыя „рабочыя кнігі па матэматыцы" і само слова „Кісялёўшчына" стала сінонімам нібы „адсталасці" і „рэакцыйнасці" выкладчыка, усё-ж і тады канстатавалася, што

гэта кніга дае метадычна падабраны, сістэматычны курс алгебры. Сур'ёзны падыход да тлумачэння асноўных паняццяў, чоткасць фармуліровак і, галоўнае, сістэматычна падабраны матэрыял з'явіліся падставай таму, што іменна гэта кніга, праўда, у значна пераапрацаваным выглядзе, была зацверджана НКА, як стабільны падручнік.

Спынімся на галоўных дадатных рысах кнігі, якія, не гледзячы на наяўнасць некаторых недахопаў, робяць яе лепшай з маючыхся ў вучэбнай літаратуры.

Бездакорна распрацаван вельмі важны аддзел „цэлыя адначленныя і многачленныя выразы і алгебрычныя дробы“. Аўтар з тонкім педагагічным майстэрствам прыводзіць вучня да яснага разумення такіх аперацый, як адыманне, множанне і дзяленне многачленаў, расклладанне на сумножнікі, формулы скарочанага множання, якія з'яўляюцца фундаментам для далейшага вывучэння прадмета. Аўтару ўдалося гэты матэрыял падаць у форме ўпаўне даступнай вучню для самастойнага чытання, што асабліва важна для грунтоўнай прапрацоўкі матэрыяла.

Аддзел чацвёрты, прысвечаны агульным уласцівасцям раўнанняў распрацаван, не гледзячы на некаторыя хібы, досыць поўна і ясна. Добра распрацавана пытанне аб няпоўнасці сістэмы раўнанняў першай ступені, калі лік раўнанняў менш, чым лік невядомых, якое амаль нідзе ў элементарных падручніках не закранута. Досыць ясна таксама распрацавана пытанне аб літарных раўнаннях. Не гледзячы на тое, што ў фізыцы мы з такога роду раўнаннямі сустракаемся часцей усяго, амаль у ва ўсёй вучэбнай літаратуры гэта пытанне было прапушчана.

Аддзел пяты належыць, безумоўна, да лепшых у кніжцы. Аўтару ўдалося даць яснае тлумачэнне тэхнікі і тэорыі здабывання квадратовага корня. Калі першая частка работы—тэхніка здабывання квадратовага корня—засвойваецца вучнем, то другая частка, важнейшая—тэорыя здабывання корня, звычайна зусім апускаецца ў падручніках і застаецца для вучня незнаёмай. Апошняя акалічнасць і вядзе звычайна да таго, што вучні, набіўшы руку па механічным здабыванні корня з некаторых лікаў, вельмі часта робяць памылкі па здабыванні корня з лікаў 0,4; 0,9; 0,3 і г. д.

Разам з тым неабходна ўказаць на асноўныя недахопы і ўпушчэнні, заўважаныя ў рэцэнзуемай кніжцы.

На стар. 4-й аўтар дае няпоўнае азначэнне паняцця формулы: „Усякая роўнасць, якая выражае пры дапамозе літар і знакаў дзеянняў якое-небудзь суадносіны паміж лікамі, называецца формулай“. Больш правільным азначэннем з'яўляецца наступнае: „Два алгебрычныя выразы, злучаныя знакам роўнасці, або няроўнасці наз. формулай“. Гэта азначэнне больш дакладнае і кароткае і ахапляе ўсе віды формул.

У раздзеле другім аўтар дае паняцце аб дзеяннях над адноснымі лікамі. Па яснасці і паўнаце ізлажэння гэты аддзел не

ўступае іншым; даючы тлумачэнне множання адносных лікаў наглядным шляхам (разглядам руху цягніка з пэўнага месца ў адным і адваротным напрамку), аўтар разам з тым не дае часта арыфметычнага „довада“ гэтага правіла шляхам памяншэння на адзінку аднаго з сумножнікаў, як гэта вельмі ўдала зроблена ў некаторых іншых падручніках алгебры.

Чыста фармальна на 35-й стар. аўтар падышоў да пытання дзялення нуля на які-небудзь лік і дзялення нуля на нуль. Між тым да гэтага пытання, якое вельмі цікавіць вучня і не так лёгка яму даецца, можна падыйсці выходзячы з рашэння задачы на ўкладанне раўнання з адным невядомым, калі з самага зместа задачы выцякае неабходнасць дзялення нуля на некаторы лік і нуля на нуль (гл. напр. „Матэматыка“ ч. II, Бауманава і др. пад рэдакцыяй Л. М. Ліўшыца, выд. Універсітэта імя Свярдлова).

На стар. 94 аўтар, даючы формулу развязвання сістэмы раўнанняў з двумя нявядомымі з літарнымі коэфіцыентамі, не зазначае, што гэтыя развязанні маюць месца толькі тады, калі назоўнікі іх не роўны нулю. У гэтым-жа аддзеле няпрыемнае ўражанне робіць няўдалы падбор задач. На стар. 86 з 4-х прыведзеных задач на ўкладанне раўнання з адным невядомым першыя 2 маюць зусім абстрактны характар, а апошнія зусім надуманы змест. Зразумела, нам патрэбны задачы і абстрактнага зместа, рэцэнзуемы падручнік не прэтэндуе на ролю задачніка алгебры, тым не менш трэба было звярнуць увагу на падбор задач з тэорыі і практыкі соцыялістычнага будаўніцтва.

Кніга мае ў канцы некаторых аддзелаў кароткі гістарычны нарыс, які павінен быў даць неабходныя звесткі аб паходжанні, развіцці асноўных паняццяў матэматыкі, разглядаемых у падручніку. Нажаль, гістарычныя экскурсы пабудаваны не на дыялектыка-матэрыялістычнай базе. Не вызначаны эканамічны стан, стан вытворчых сіл, які садзейнічаў, або нават непасрэдна выклікаў з'яўленне тэй ці іншай аперацыі алгебры. Кожнаму з нас відавочна, наколькі неабходна ў выкладанні алгебры дыялектыка-матэрыялістычная ўстаноўка. Тым большая адказнасць кладзецца на гістарычныя экскурсы, якія павінны былі дапамагчы чытачу асазнаць матэрыялістычны сэнс прыпадносімых паняццяў і дыялектычнае развіццё гэтых паняццяў, як адлюстраванне ўсё больш ускладняючыхся з'яў рэчаіснасці.

Прымаючы пад увагу недастатковае метадалагічнае развіццё выкладчыкаў, трэба лічыць правільны падбор і складанне гістарычных нарысаў да матэрыяла справай вельмі актуальнай і гэтыя гістарычныя дадаткі ў наступным выданні неабходна грунтоўна перапрацаваць. Між іншым, у падручніку зусім няма тлумачэння аб тым, што сабой прадстаўляе алгебра, як дысцыпліна, у чым яе спецыфічнасць у параўнанні з іншымі раздзеламі матэматыкі. На гэтыя ўпушчэнні трэба звярнуць ўвагу выкладчыкаў і вучпедсектара ДВБ, каб у наступных выданнях можна было асобныя хібы выправіць.

*А. Гельфанд*

**Е. С. Беразанская.** *Зборнік задач, практыкаванняў па арытмэтыцы для сярэдняй школы* ДВБ Вучпедсектар-1933 г.

Кніга з'яўляецца перакладам з рускага выдання, зацверджанага калегіяй Наркамасветы РСФСР і прызначаецца для пятага года навучання. Яна напісана ў поўнай адпаведнасці з праграмай арыфметыкі для пятага года навучання, дае сістэматычна падабраны і ў асноўным правільна з метадычнага боку ўкладзены зборнік задач і практыкаванняў.

Апроч значнага ліку задач на вытворчыя тэмы, ёсць цэлы рад іншых задач як арыгінальных, так і запазычаных з лепшых задачнікаў, якія вышлі раней. Размеркаванне задач па аддзелах зроблена, выходзячы з прынцыпа паступова павялічваючайся труднасці на грунце свежага матэрыяла, сярод якога досыць многа цікавых задач.

Мы хочам спыніцца на некаторых недахопах кнігі, якія трэба ўлічыць як пры практычным карыстанні кніжкай, так і пры яе наступным выданні.

Прыклады і задачы, узятыя з практыкі соцыялістычнага буданіцтва сустракаюцца толькі на першых старонках кнігі, дзе даецца паўтарэнне раздзела цэлых лікаў. У асноўных раздзелах (дробы, аднашэнні, прапорцыі) лік задач, узятых з нашага будаўніцтва, вельмі нязначны і няўдала падобран. Зусім няма задач, якія адлюстроўваюць прынцыпы работы соўгасаў, калгасаў, фабрык і заводаў, якія могуць даць вельмі цікавы матэрыял па практыкаванні ў дробах, процантах, прапорцыях.

Вось некалькі ўзораў задач, прыведзеных у кнізе, якія „увязаны" з сучаснасцю:

1. „У соўгасе $4/9$ усёй зямлі занята лугам, $3/4$ астачы—ворывам і астатняя—лесам. Знайсці плошчу ўсёй зямлі і плошчу лесу, калі вядома, што плошча лугу больш за плошчу ворыўнай на 216 $2/3$ га" (№ 263, стар. 53).

На ўвесь раздзел дробаў, які налічвае некалькі сот задач, нават такіх сучасных задач, маецца не больш дзесятка.

У далейшых раздзелах не лепш. Вось задача, якая адбівае размеркаванне заробка па працаднёх.

„Тры брыгады зарабілі разам 6300 руб. Па колькі рублёў павінна атрымаць кожная брыгада, калі першая арцель выпрацавала 36 працадзён, другая—42 працадні, а трэцяя—28 працадзён (стар. 51 № 49).

Як убачым з адказу, аплата працадня роўна 60 руб. А на наступнай старонцы відаць, для „кантраста" змешчана такая задача:

„Чатыры калгасніцы купілі сумесна аблігацыю пазыкі індустрыялізацыі. Першая ўнесла 2 р. 50 к., другая 1 р. 75 к., трэцяя—2 р. 75 к. і чацвёртая—3 р. На аблігацыю паў выйгрыш ў

200 р. Як ім падзяліць паміж сабой гэты выйгрыш" (стар. 83 № 81).

Няма чаго сказаць,—„удалае" параўнанне: з аднаго боку аплата працадня роўна 60 р., а з другога—4 калгасніцы сумесна падпісваюцца на заём ў размеры 10 руб.

Ёсць і метадычныя недахопы. Зусім дарэмна выдзелен раздзел знахаджэння часткі ліку і ліку па данай яго частцы ад множання і дзялення дробаў. Гэтага рабіць не трэба было, бо уся сутнасць аперацый знаходжання часткі ліку заключаецца ў тым, каб паказаць мэтазгоднасць іх замены множаннем.

На практыцы множанне дробаў у яго непасрэдным выглядзе ужываецца амаль толькі пры вылічэнні плошчаў зямлі. І фактычна раздзел множання дробаў ўсёроўна больш чым на 75 проц. складаецца з задач па знаходжанню часткі ліку.

Знаходжанне часткі ліку не павінна выражацца ў выглядзе: знайсці $^3/_5$ ад 15, як гэта зроблена на стар. 32 і інш. Ужо вельмі даўно ў лепшых метадычных падручніках зусім правільна зазначана, што форма: „знайсці некалькі частак ад чаго-небудзь" ужываемая без патрэбы, дае блытаніну па лініі змяшэння знаходжання часткі цэлага з дзеяннем адымання. Між тым (як аб гэтым вельмі добра ўказана ў падручніку: „Методика арифметики дробей Соловьева) можна зусім проста пазбегчы блытаніны, калі адкінуць прыстаўку „ад", пісаць „знайсці $^3/_5$ 15". Апошні выраз перасцерагае ад змяшэння множання з адыманнем. Трэба, праўда, адзначыць, што аўтар кнігі часта ўжывае абое формы выраза, але ад гэтага справа не паляпшаецца.

Адзначым яшчэ некаторыя больш дробныя недахопы, якія, відаць, адносяцца да пераклада: на стар. 29 зад. 19 напісана: „не прыводзячы дробаў да АДНАГО назоўніка"... (замест агульнага—А. Г.).

Дапушчана арфаграфічная неахайнасць перакладчыкам: „Павялічыць у тры разы кожны з дробаў",—чытаем на стар. 29, а радком ніжэй няправільна запісана: „Зменшыць у два разы кожную з дробаў".

Кніга Е. С. БЕРАЗАНСКАЙ, не гледзячы на адзначаныя недахопы, з'яўляецца карысным падручнікам, у асноўным адпавядаючым пастановам ЦК аб пачатковай і сярэдняй школе. У 2-м выданні яна патрабуе пэўнай перапрацоўкі, асабліва па лініі папаўнення задачамі, узятымі з соцыялістычнага будаўніцтва.

*А. Гельфанд.*

---

№1-2, 1934

# ЗМЕСТ

*Стар.*



---